***90–ГОДДЗЮ***

***БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ЎНІВЕРСІТЭТА***

***І ЎСІМ ФАЛЬКЛАРЫСТАМ,***

***ЯКІЯ ПРАЦАВАЛІ НА ФІЛАЛАГІЧНЫМ ФАКУЛЬТЭЦЕ,***

***ПРЫСВЯЧАЕЦЦА***



У розны час на філалагічным факультэце БДУ выкладалі лекцыйны курс вуснай народнай творчасці, праводзілі практычныя заняткі, кіравалі фальклорнай практыкай студэнтаў, працавалі ў навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору, займаліся збіральніцкай дзейнасцю, выдавалі фальклорныя зборнікі, навуковыя і метадычныя працы

**БАГРОВА Дзіяна Пятроўна**
**БАРАГ Леў Рыгоравіч**
**ГІЛЕВІЧ Ніл Сымонавіч**
**ГРЫНБЛАТ Маісей Якаўлевіч**
**ГУТАРАЎ Іван Васільевіч**
**ЗАХАРАВА Вера Анісімаўна**
**КАЛАДЗІНСКІ Вячаслаў Васільевіч**
**КУТЫРОВА Галіна Рыгораўна**
**ЛАРЧАНКА Міхась Рыгоравіч**
**ЛІЦЬВІНКА Васіль Дзмітрыевіч**
**НІКОЛЕНКА Святлана Мацвееўна**
**РАГОВІЧ Уладзімір Іосіфавіч**
**САЛАМЕВІЧ Іван Уладзіміравіч**
**ТАРАСЮК Любоў Канстанцінаўна**
**ФЯДОСІК Анатоль Сямёнавіч**
**ЦІТОВІЧ Генадзь Іванавіч**
**ЯРАСЛАЎЦАВА Раіса Іванаўна**

# ВУЛЕЙ І ПЧОЛЫ

## ВЕКТАРЫ СУЧАСНАЙ ФАЛЬКЛАРЫСТЫЧНАЙ ШКОЛЫ БДУ

### ЗБОРНІК НАВУКОВЫХ АРТЫКУЛАЎ

Пад навуковай рэдакцыяй
Р. М. Кавалёвай

Мінск
«Права і эканоміка»
2011

УДК 398
ББК 63.582
В88

Р э к а м е н д а в а н а
кафедрай тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта
(пратакол № 8 ад 12 красавіка 2011 г.)

Р э ц э н з е н т ы :
доктар філалагічных навук, прафесар Г. А. Барташэвіч
доктар філасофскіх навук, прафесар Э. К. Дарашэвіч

Н а в у к о в ы р э д а к т а р :
кандыдат філалагічных навук, дацэнт Р. М. Кавалёва

У к л а д а л ь н і к :
кандыдат філалагічных навук, дацэнт В. В. Прыемка

В88 **Вулей і пчолы.** Вектары сучаснай фалькларыстычнай школы БДУ : зб. навук. арт. / пад навук. рэд. Р.М. Кавалёвай; уклад. В.В. Прыемка; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. – Мінск : Права і эканоміка, 2011. – 291 с.
ISBN 978-985-442-975-5.

У зборнік навуковых артыкулаў, падрыхтаваны фалькларыстамі кафедры тэорыі літаратуры і вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, увайшлі артыкулы, прысвечаныя тым актуальным праблемам фалькларыстыкі, якія ў апошняе дзесяцігоддзе распрацоўваюцца прадстаўнікамі фалькларыстычнай школы БДУ.

Адрасуецца спецыялістам ў галіне фалькларыстыкі, этналогіі, літаратуразнаўства, псіхалогіі, міфалогіі, методыкі выкладання, педагогікі, культуралогіі, студэнтам і магістрантам, а таксама тым, каго цікавяць пошукі сучаснай навукі.

**УДК 82(072.8)**
**ББК 82**

**ISBN 978-985-442-975-5**

# АД УКЛАДАЛЬНІКА

З радасцю і адказнасцю зрабіла даручаную мне пачэсную справу – скласці і падрыхтаваць да друку зборнік навуковых артыкулаў, аўтарамі якіх з’яўляюцца мае настаўнікі, калегі, вучні. Гэта кніга – прэзентацыя не толькі нашых інтэлектуальных намаганняў, але і таго навуковага ўнёску, які зрабіла ўніверсітэцкая школа фалькларыстыкі ў беларускі культурны і выхаваўчы дыскурс. За 90 год існавання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (70 год – філалагічнага факультэта) фалькларыстамі-выкладчыкамі было зроблена шмат. Галоўнае дасягненне – запачаткаванне і ўмацаванне традыцый фалькларыстычнай школы БДУ, прадстаўленай імёнамі І. В. Гутарава, Л. Р. Барага, М. Я. Грынблата, Н. С. Гілевіча, В. А. Захаравай, М. Р. Ларчанкі, Г. І. Цітовіча, У. І. Раговіча і іншых навукоўцаў, якія развівалі розныя напрамкі беларускай фалькларыстыкі.

Нашы папярэднікі былі не толькі адукаванымі людзьмі, шчыра захопленымі прыгажосцю традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў, але і таленавітымі метадыстамі-выкладчыкамі, якія заклалі падмурак для тэарэтычных і практычных пошукаў, акрэслілі шляхі і вектары навуковых даследаванняў. Асноўныя з іх прадстаўлены ў гэтым выданні. Мы свядома прытрымліваемся традыцыйнага падзелу на раздзелы, што дазваляе больш адэкватна структураваць інфармацыйны матэрыял.

Першы раздзел «Гісторыя – сучаснасць – перспектывы» не выпадковы. У ім расказваецца аб фалькларыстычнай школе БДУ і яе сучасным стане, акцэнтуецца ўвага на патэнцыях развіцця навукі аб вуснай народнай творчасці, у прыватнасці на магчымасцях этнапсіхафалькларыстыкі.

Наяўнасць другога раздзела – «Класічная фалькларыстыка» – абумоўлена прыхільнасцю да традыцыйных метадаў даследавання фальклору як мастацтва слова, якія захоўваюць свае пазіцыі ў сучасным свеце.

У трэцім раздзеле «Параўнальная фалькларыстыка» аўтары паказваюць важнасць факталагічнага кантэксту для разумення адметнасці нацыянальнага фальклору беларусаў.

Даследаванне міфалагічнага як часткі семантыкі і паэтыкі фальклорнага твора стала для нас традыцыйным, таму заканамерным з’явілася вылучэнне раздзела «Міфафалькларыстыка».

Пяты і шосты раздзелы – «Этнафалькларыстыка» і «Сацыяфалькларыстыка» – заслугоўваюць асобнай гаворкі. Ідэйным натхняльнікам развіцця гэтых напрамкаў нашай дзейнасці стала лідар фалькларыстычнай навуковай школы БДУ Р. М. Кавалёва. На яе думку, сацыяфалькларыстыка і этнафалькларыстыка маюць уласны аб’ект і прадмет даследавання з шырокім колам праблемных пытанняў. Мяркуем, што іх легалізацыя, спачатку хаця б на ўзроўні тэрмінаў, актывізуе даследчыцкую думку, скаардынуе намаганні фалькларыстаў па асэнсаванні заканамернасцей жывога фальклорнага працэсу ў яго адносінах да традыцыйнай народнай

культуры. Мы ўпэўнены, што соцыяфалькларыстыка і этнафалькларыстыка зацікавяць маладых даследчыкаў, аспірантаў і студэнтаў (і не толькі з ліку філолагаў).

Гендарныя штудыі, як вядома, адносяцца да ліку міждысцыплінарных. Яны распачаліся параўнальна нядаўна, іх тэарэтычная і метадалагічная база ў філалагічнай навуцы яшчэ знаходіцца ў стадыі станаўлення. Пэўны зрух назіраецца ў гендарным вывучэнні літаратурных твораў. Што тычыцца фальклору, то тут, можна сказаць, пануе зацішша. Тым не менш, фалькларысты БДУ маюць, хоць і невялікі, але паказальны, вопыт гендарнага аналізу вусна-паэтычных твораў. Менавіта таму нам падалося магчымым вылучыць сёмы раздзел «Гендарная фалькларыстыка», прысвечаны як раз разгляду ўласна фалькларыстычных праблем у гендарным аспекце.

На сённяшні дзень адкрытым застаецца пытанне, якім чынам вусная народная творчасць сумяшчае традыцыйнасць і здольнасць да развіцця. Адказ на яго, магчыма, дапаможа знайсці распрацаваная прадстаўнікамі фалькларыстычнай школы БДУ канцэпцыя інтэграцыйных працэсаў, асноўныя палажэнні якой, як і некаторыя вынікі, змешчаны ў восьмым раздзеле «Інтэграцыйная фалькларыстыка».

У дзевятым раздзеле «Методыка выкладання фалькларыстыкі» аўтары дзеляцца сваім выкладчыцкім і метадычным вопытам. Спадзяемся, што ён будзе карысным для маладых выкладчыкаў.

Цалкам традыцыйным атрымаўся дзясяты раздзел «Фалькларыстыка і літаратуразнаўства».

Зразумела, у зборніку прадстаўлена толькі частка навуковых даследаванняў прадстаўнікоў фалькларыстычнай школы БДУ. Мы разлічваем на далучэнне аднадумцаў, разам з якімі будзе цікава шукаць арыгінальныя падыходы да асэнсавання фальклорных з’яў, раскрываць магчымасці традыцыйных і новых метадаў, распрацоўваць інтэграцыйныя навуковыя вектары, пашыраць інтэлектуальныя каардынаты філалагічнай фалькларыстыкі, што, безумоўна, паспрыяе ўмацаванню аўтарытэту айчыннай фалькларыстычнай школы.

***Вольга Прыемка***

З вялікай удзячнасцю і глыбокай павагай да нашых настаўнікаў мы імкнемся разам з нашымі вучнямі, як тыя руплівыя «пчолы», папаўняць «вулей» фалькларыстыкі, узбагачаць яго новымі здабыткамі, каб годна перадаць наступнаму пакаленню фалькларыстаў-выкладчыкаў інтэлектуальны скарб фалькларыстычнай школы БДУ.

***В. П.***

# Раздзел 1

# ГІСТОРЫЯ – СУЧАСНАСЦЬ – ПЕРСПЕКТЫВЫ

*Таццяна Марозава*
*Вольга Прыемка*

## ФАЛЬКЛАРЫСТЫЧНАЯ ШКОЛА Ў БДУ

### Перадгісторыя

З 1918 года адным з актыўных стваральнікаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта да яго адкрыцця ў 1921 годзе быў вядомы фальклярыст з Палесся, збіральнік беларускіх народных песень з напевамі, прафесар Маскоўскага ўніверсітэта Мікалай Янчук. Ён першым, яшчэ ў другой палове XIX ст., на навуковай аснове запісваў з мелодыямі і даследаваў песенны фальклор беларусаў, а ў 1889 годзе апублікаваў 158 лепшых узораў. Працай над беларускім меласам ён яшчэ напрыканцы XIX ст. зацікавіў рускіх кампазітараў М. Рымскага-Корсакава, С. Танеева, М. Пятніцкага, А. Грачанінава, з якімі працаваў у Таварыстве аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. У 1921 годзе М. Янчук стаў прафесарам кафедры беларускай літаратуры і этнаграфіі БДУ і перадаў яму сваю багацейшую бібліятэку, у тым ліку і фальклорныя запісы.

У 20-я гады XX ст. па ініцыятыве фальклорнай камісіі Інстытута беларускай культуры, якую ўзначальваў Якуб Колас, студэнты БДУ ўсіх спецыяльнасцяў падчас летніх канікул збіралі фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Са стварэннем у 1939 годзе філалагічнага факультэта гэтая праца стала больш планамернай і арганізаванай. На жаль, усе сабраныя матэрыялы, якія былі перададзены ў архіў Акадэміі навук, былі знішчаны ў час Вялікай Айчыннай вайны.

У пасляваенныя гады на філалагічным факультэце лекцыі па вуснай народнай творчасці чыталі і стварылі адпаведныя вучэбныя дапаможнікі сумесна з фалькларыстамі ІМЭФ прафесары Іван Гутараў і Міхась Ларчанка. Першы з іх, былы партызан, даследаваў творчасць перыяду вайны з фашызмам, вынікам чаго стала выданне зборніка «Барацьба і творчасць народных мсціўцаў», а пад кіраўніцтвам заснавальніка літаратуразнаўчай галіны беларускай навукі М.Ларчанкі быў створаны падручнік «Беларуская вусна-паэтычная творчасць» (1966) [* 1].

**Уласна гісторыя**

Напачатку 60-х гадоў, калі на філалагічным факультэце БДУ намаганнямі кандыдатаў навук, дацэнтаў Веры Захаравай і Ніла Гілевіча была ўведзена абавязковая двухтыднёвая палявая вучэбная практыка па фальклору, фалькларыстыка на філфаку БДУ была пастаўлена на навуковую аснову, стала планамернай і мэтанакіраванай. Яны зацікавілі зборам фальклору шырокае кола выкладчыкаў кафедраў беларускай і рускай літаратур, прадбачліва вызначылі плённы рэгіянальны напрамак фалькларыстычных даследаванняў, распачалі выданне сабраных матэрыялаў. У розныя гады фальклорныя запісы склалі выдадзеныя Нілам Гілевічам фундаментальныя зборнікі «Песні сямі вёсак» (1973), «Песні народных свят і абрадаў» (1974), «Лірычныя песні» (1976), «Лірыка беларускага вяселля» (1979), «Замовы», «Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі» (1983). Унікальныя запісы на Палессі, якое, па словах акадэміка Мікіты Талстога, можна назваць «своеасаблівым запаведнікам старaславянскай культуры», склалі заснаваную Верай Захаравай серыю «Беларускі фальклор у сучасных запісах», у якой калектывам аўтараў выдадзена тры зборнікі традыцыйнага фальклору Брэсцкай (1973), Гомельскай (1989) і Мінскай (1995) абласцей, а таксама адзінаасобна Верай Захаравай – «Палескае вяселле» (1984).

Прафесар Ніл Гілевіч і дацэнт Вера Захарава чыталі лекцыі адпаведна па беларускай і рускай вуснай народнай творчасці. Былі выдадзены цікавыя вучэбныя дапаможнікі, у прыватнасці Нілам Гілевічам «Паэтыка беларускай народнай лірыкі» (1975), «Наша родная песня» (1968), «З клопатам пра песні народа» (1970), «Паэтыка беларускіх загадак» (1976). У наступны перыяд лекцыі і заняткі па вуснай народнай творчасці вялі Анатоль Фядосік, Янка Саламевіч, Алесь Лозка, Раіса Яраслаўцава. З 1994 г. заняткі па фальклору праводзяць кандыдаты філалагічных навук, дацэнты Рыма Кавалёва, Вольга Прыемка і Таццяна Марозава, выкладчыкі Святлана Крылова і Славяна Шамякіна, якія ўтварылі на кафедры тэорыі літаратуры адпаведную вучэбна-метадычную секцыю. Імі пад рэдакцыяй Рымы Кавалёвай з 1999 года выдадзены дзевяць выпускаў «Метадычных указанняў і ілюстрацыйных матэрыялаў да правядзення фальклорнай практыкі студэнтаў 1-х курсаў філалагічных факультэтаў», зборнікі артыкулаў «Восточнославянский фольклор» (2000), «Свет славянскага фальклору» (2001), «На хвалях філалогіі» (2002), восем выпускаў зборніка навуковых артыкулаў «Фалькларыстычныя даследаванні: кантэкст, тыпалогія, сувязі» (2003–2011). Пачынаючы з 1999 года кафедра тэорыі літаратуры і лабараторыя беларускага фальклору ладзяць навуковыя рэспубліканскія Шырмаўскія чытанні, у якіх прымаюць удзел студэнты, магістранты, аспіранты і выкладчыкі спачатку філалагічнага факультэта БДУ, з 2005 года – іншых ВНУ рэспублікі, а з 2008 года – і іншых краін (Чэхія, Карлаў універсітэт; Балгарыя, Універсітэт імя Неафіта Рыльскага; Нарвегія; Украіна, ІМФЭ імя М. Рыльскага).

Фалькларыстычная праца на моўных і літаратурных кафедрах філалагічнага факультэта падрыхтавала адкрыццё на філфаку БДУ ў студзені 1981 года Міністэрствам адукацыі Беларусі спачатку сектара беларускага

фальклору і дыялекталогіі ў межах праблемнай НДЛ сацыялагічных даследаванняў філалагічнага факультэта БДУ, а ў 1985 годзе – уласна навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору як каардынацыйнага цэнтра па збіранні, вывучэнні і даследаванні фальклору ў ВНУ Беларусі. Асновай яе працы сталі створаныя на аснове кафедральных архіваў філфака БДУ, а пазней і архіваў філфакаў большасці іншых універсітэтаў і інстытутаў пяці фальклорных архіваў НДЛ: рэгіянальнага, жанравага, аўдыё- і відэаматэрыялаў, архіва іншых народаў свету.

Ініцыятарамі стварэння НДЛ, якія вызначылі не толькі асноўныя напрамкі даследавання, але і формы сучаснай мастацкай інтэрпрэтацыі музычнага фальклору, былі выдатныя беларускія фальклёрысты XX ст. Рыгор Шырма і Генадзь Цітовіч (апошнія два гады свайго жыцця ён працаваў у лабараторыі на стадыі яе станаўлення). У 90-я гады у працы лабараторыі ўдзельнічаў пераемнік Р. Шырмы як мастацкага кіраўніка Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы, што пазней атрымала імя яе заснавальніка, Уладзімір Раговіч. На аснове запісаў НДЛ і сваіх уласных ён стварыў трохтомную фундаментальную працу «Песенны фальклор Палесся» (2001–2002); расшыфравалі запісы музыказнаўца Галіна Кутырова і вучань Г. Цітовіча, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Сірата.

Напачатку 1990-х гадоў лабараторыя афіцыйна была пераведзена пад узначаленне кафедры беларусазнаўства, на якой тады працавалі выкладчыкі фальклору. А з 1994 года і па сённяшні лабараторыя функцыянуе пры кафедры тэорыі літаратуры, якая забяспечвае выкладанне фальклору на філалагічным факультэце.

**1 красавіка 2003 года** вучоным саветам Навукова-даследчай часткі БДУ было прынята Палажэнне, у якім афіцыйна замацоўвалася новая назва лабараторыі як лабараторыя беларускага фальклору. Скасаванне ў назве «і дыялекталогіі» было абгрунтавана тым, што з 1996 года навуковыя даследаванні этналінгвістычнага характару ў лабараторыі не распрацоўваліся, а матэрыялы дыялекталагічных практык пачалі канцэнтравацца ў архіве новастворанай на філалагічным факультэце кафедры гісторыі беларускай мовы, якая з 1997 года пачала самастойна ажыццяўляць дыялекталагічную практыку.

У розныя гады ў лабараторыі працавалі: Васіль Ліцьвінка, Галіна Кутырова, Вера Астрэйка, Мікалай Антропаў, Анатоль Літвіновіч, Ларыса Сяргун, Людміла Марушкевіч, Мікола Котаў, Уладзімір Раговіч, Марына Харчанка, Людміла Дарашэнка, Валянціна Трайкоўская, Ігар Запрудскі, Рыма Кавалёва, Алена Шырына, Ірына Мячыкава, Мікалай Сірата, Юрый Выдронак, Віктар Каратай. Іх пачэсная праца знайшла сваё выражэнне ў збіральніцкай і выдавецкай дзейнасці, сярод якой нельга не згадаць асноўныя зборнікі фальклорных твораў і метадычныя рэкамендацыі па збіранні фальклору:

Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры / уклад. В. А. Захарава. – Мінск, 1973.

Песні сямі вёсак: Традыцыйная народная лірыка Міншчыны / уклад. Н. С.Гілевіч. – Мінск, 1973.

Песні народных свят і абрадаў / уклад. Н. С. Гілевіч. – Мінск, 1974.

Лірычныя песні / уклад. Н. С. Гілевіч. – Мінск, 1978.

Лірыка беларускага вяселля / уклад. Н. С. Гілевіч. – Мінск, 1979.

Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі / уклад. Н. С. Гілевіч. – Мінск, 1983.

Палескае вяселле / уклад. В.А.Захарава. – Мінск, 1984.

Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць / уклад. В. А. Захарава, Р. М. Кавалёва, В. Д. Ліцвінка, У. І. Раговіч. – Мінск, 1989.

Беларускі фальклор у сучасных запісах. Традыцыйныя жанры. Мінская вобласць / уклад. В. Д. Ліцьвінка, Г. Р. Кутырова. – Мінск, 1995.

Замовы / уклад. Н. С. Гілевіч. – Мінск, 2000.

Метадычныя ўказанні і ілюстрацыйны матэрыял да правядзення фальклорна-краязнаўчай практыкі студэнтаў 1 курса філалагічнага факультэта. Выпуск 1. Каляндарная абраднасць Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці (серыя «Беларускі фальклор у запісах выкладчыкаў і студэнтаў»). Мн., 1997; Выпуск 2. Каляндарна-абрадавая паэзія. – Мінск, 1997; . Выпуск 3. Беларуская вясельная абраднасць. – Мінск, 1998; Выпуск 4. Валачобныя песні. – Мінск, 1998; Выпуск 5. Купальская абраднасць.– Мінск, 1999.

**1 красавіка 2005 года** загадам па БДУ НДЛ беларускага фальклору была рэарганізавана ў вучэбна-навуковую лабараторыю (ВНЛ) беларускага фальклору на бюджэтнай аснове фінансавання (упершыню ў гісторыі) у складзе вучэбнай (загадчыка лабараторыі, кандыдата філалагічных навук, двух метадыстаў, адзін з іх кандыдат філалагічных навук, і лабаранта 1 кваліфікацыйнай катэгорыі) і навуковай (старшага навуковага супрацоўніка, навуковага супрацоўніка і малодшага навуковага супрацоўніка) частак.

Разам з літаратурнымі кафедрамі лабараторыя стала падмуркам станаўлення і развіцця фальклярыстычнай навуковай школы, якая адлічвае пачатак з 1970 года. У розныя гады ў НДЛ беларускага фальклору і дыялекталогіі распрацоўваліся ўсе асноўныя напрамкі школы: лакальна-рэгіянальнае вывучэнне нацыянальнага фальклору (тэарэтычную аснову заклалі кандыдаты філалагічных навук, дацэнты Вера Захарава, Рыма Кавалёва, Васіль Ліцьвінка); адукацыйна-культуралагічная інтэрпрэтацыя фальклору як асновы этнічнай і традыцыйнай культуры народа (актыўна распрацоўваў кандыдат філалагічных навук Васіль Ліцьвінка); этналінгвістыка (тэарэтычны падмурак закладзены кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам Мікалаем Антропавым); соцыяфальклярыстыка (тэарэтычную аснову распрацавалі кандыдаты філалагічных навук, дацэнты Р. М. Кавалёва і Т. А. Марозава ў 2000-я гг.); сучасны гарадскі фальклор (распрацоўваецца з 2006 г., тэарэтычны падмурак заклалі к.ф.н., дацэнты В. В. Прыемка, Т. А. Марозава, к. ф. н. Т. В. Лук'янава).

Асноўны напрамак навуковай дзейнасці лабараторыі ва ўсе часы – праблематыка лакальна-рэгіянальнага вывучэння нацыянальнага фальклору, што і зразумела. Усебаковае ўяўленне аб дынаміцы агульнанацыянальнай фальклорнай спадчыны, якая, згодна са сваім паходжаннем і асаблівасцямі функцыянавання, заўсёды з'яўляецца рэгіянальна-лакальнай, можа быць сфарміравана толькі на аснове непасрэдных назіранняў над станамі тых ці іншых фальклорных з'яў у канкрэтных адміністрацыйных адзінках (вёсках, раёнах, абласцях). Сярод іх – глабальныя дзяржаўныя пяцігадовыя тэмы, якія вызначалі навуковае развіццё лабараторыі 15 гадоў запар:

1) «Исследование современных процессов в белорусском фольклоре, его места в духовной жизни народа и его роли в создании художественной

культуры общества эпохи развитого социализма» (1981–1985 гг.; навуковыя кіраўнікі – Вера Захарава і Ніл Гілевіч);

2) «Фольклорное наследие и его значение для современности» (1986–1990 гг., навуковы кіраўнік Васіль Ліцьвінка);

3) «Региональная специфика белорусского фольклора и его место в современной культуре» (1991–1996 гг., навуковы кіраўнік Васіль Ліцьвінка).

Пасля 1995 г. у лабараторыі распрацоўваліся адна-, двух- і трохгадовыя навуковыя праекты, якія закраналі пытанні рэгіянальнай спецыфікі беларускага фальклору:

1) «Жанрава-рэгіянальнае адрозненне беларускага фальклору і яго месца ў сучасным адукацыйным і культурным працэсе» (1996–1998 гг., навуковы кіраўнік Васіль Ліцьвінка);

2) «Фальклор як сродак вучэбна-выхаваўчага працэсу» (1997 г.; навуковы кіраўнік Валянціна Трайкоўская);

3) «Фальклор запаведных і памежных з Расіяй, Польшчай і Літвой рэгіёнаў» (2000–2002 гг., навуковы кіраўнік Васіль Ліцьвінка);

4) «Даследаванне і рэканструкцыя фальклору і этнакультуры Чарнобыльскага рэгіёна» (2003–2005 гг., навуковы кіраўнік Васіль Ліцьвінка).

Як бачым, да 2005 г. уключна гэта быў самы перспектыўны вектар навуковых даследаванняў у лабараторыі.

Другі напрамак навуковай дзейнасці – адукацыйна-культуралагічная інтэрпрэтацыя фальклору як асновы этнічнай і традыцыйнай культуры народа, вызначэнне яе самабытнасці сярод славянскіх і індаеўрапейскіх народаў – уключае наступныя аспекты:

– даследаванне ўзроўняў інтэрпрэтацыі фальклору ў адукацыі і культуры; аналіз форм і метадаў выкарыстання фальклору ў разнастайных узроставых, вясковых і гарадскіх, рознанацыянальных фальклорных калектывах;

– даследаванне дзейнасці рокфолькгуртоў; аналіз форм і мастацкіх узроўняў інтэрпрэтацыі фальклору ў друку, перыядычных выданнях, на радыё і тэлебачанні.

Напрамак распрацоўваўся на працягу 1981–2005 гг. у практычным ключы – праз стварэнне методыкі перанясення на сцэну песеннага, інструментальнага і харэаграфічнага фальклору; выкарыстанне фальклору пры правядзенні свят і абрадаў, рэгіянальных і агульнанацыянальных фестываляў і знамянальных падзей, непасрэдным арганізатарам і удзельнікам якіх з’яўляўся загадчык лабараторыі на працягу 20 гадоў Васіль Ліцьвінка.

Этналінгвістычны напрамак навуковых даследаванняў распрацоўваўся ў лабараторыі на працягу 1986–1992 гг. падчас выканання навуковай тэмы «Этнолингвистическое исследование Белорусского Полесья», калі ў лабараторыі быў створаны навуковы калектыў пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук, дацэнта Мікалая Антропава. Тэма ўваходзіла ў дзяржаўную дзесяцігадовую праграму Акадэміі Навук СССР па стварэнні Палескага этналінгвістычнага атласа. Пасля распаду СССР праект быў звернуты, а адсутнасць фінансавання не дазволіла ў складаных умовах сярэдзіны 90-х гадоў працягнуць развіццё этналінгвістычнага напрамку ў НДЛ

беларускага фальклору і дыялекталогіі: члены навуковага калектыва, этналінгвісты, перайшлі на працу ў Акадэмію навук Беларусі.

На сённяшні дзень у лабараторыі сфарміраваны пяць архіваў:

1) рэгіянальны архіў змяшчае фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы з усіх абласцей Беларусі. Вядзецца работа па сістэматызацыі і інвентарызацыі фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, стварэнні тапаграфічнага каталога праведзеных экспедыцый, каталога інфармантаў і выканаўцаў фальклорных твораў. З мэтай паляпшэння зручнасці карыстання матэрыяламі ўдакладняюцца складзеныя да 2005 года рэестры рэгіянальных архіваў усіх абласцей.

2) жанравы архіў змяшчае тэксты фальклорных твораў пэўных відаў і жанраў. Тут вядзецца работа па навуковай унутрыжанравай класіфікацыі фальклорных адзінак, па стварэнні камп'ютарнай базы дадзеных архіва з мэтай азнаямлення ўсіх жадаючых з архіўнымі фондамі лабараторыі ў сетцы Internet.

3) аўдыё- і 4) відэаархівы ўключаюць фона- і відэаматэрыялы: бабінны фонаархіў з запісамі 60–80-х гг. мінулага стагоддзя, відэакасеты, аналагавыя аўдыёкасеты. Вядзецца работа па расшыфроўцы твораў, іх пашпартызацыі, сістэматызацыі, спісанні няякасных запісаў, перазапісу бабінных фонаматэрыялаў на сучасныя носьбіты інфармацыі з мэтай іх захавання ад разбурэння і далейшага актыўнага выкарыстання. У тэхнічных адносінах гэта патрабуе не толькі часу і фінансавых сродкаў, але і правядзення рэстаўрацыйных работ, для якіх патрабуецца спецыяліст-этнамузыказнавец. На сённяшні дзень такога спецыяліста лабараторыя не мае.

5) фальклорны архіў іншых народаў свету змяшчае фальклорна-этнаграфічныя запісы амаль з усіх рэспублік былога СССР і Усходняй Еўропы, а таксама з Кітая, Карэі, Індыі, Ірана. Праведзена работа па сістэматызацыі матэрыялаў і плануецца пачаць працу па іх класіфікацыі з падключэннем студэнтаў 1 курса, якія набываюць адпаведную спецыялізацыю або родам з названых краін. Стварэнне рэестра названага архіва – перспектыўны план лабараторыі.

Лабараторыя чатыры разы выступіла самастойным арганізатарам правядзення міжнародных навуковых фальклорна-этналінгвістычных канферэнцый: у 2004 г. – «Праблемы ўсходнеславянскай этналінгвістыкі», прысвечаная 80-годдзю Мікіты Талстога; у 2005 г. – «Комплекснае даследаванне фальклору і этнакультуры Палесся», прысвечаная 220-годдзю Зарыяна Деленгі-Хадакоўскага, у 2006 годзе – «Фальклор і этнакультура Палесся ў індаеўрапейскім кантэксце», прысвечаная 80-годдзю Анатоля Фядосіка, у 2007 годзе – «Фальклорная спадчына Р. Шырмы і Г. Цітовіча: вопыт збіральніцкай, навуковай і папулярызатарскай дзейнасці ў кантэсце праблем адраджэння традыцыйнай культуры вёскі», прысвечаная 115-годдзю Рыгора Шырмы.

У 2006–2008 гг. у лабараторыі распрацоўвалася навуковая тэма «Фальклор у сучаснай культуры беларускай моладзі» (нумар дзяржрэгістрацыі 20063629), у 2008–2010 гг. – «Сучасны гарадскі фальклор Беларусі» (нумар дзяржрэгістрацыі 20081460), а з красавіка 2010 г. – «Фенаменалагічныя фактары жанраў беларускай фальклорнай няказкавай прозы». Усе гэтыя тэмы атрымалі перамогу ў конкурсе грантаў БРФФД «Навука2006-М», «Навука2008-

М» і «Навука2010-М». Акрамя таго, у 2011 г. упершыню ў сваёй гісторыі супрацоўнікі новастворанай вучэбна-навуковай лабараторыі атрымалі перамогу ў конкурсе навуковых тэм пяцігадовых дзяржаўных праграм з праектам «Захаванне і папулярызацыя архіваў фальклорнай творчасці: канцэптуальныя асновы і метадычнае забеспячэнне». Усе названыя тэмы не ўкладваюцца ў тыя вядомыя напрамкі навуковай дзейнасці лабараторыі, аб якіх размова ішла вышэй. Новы час дае жыццё новым навуковым арыенцірам. Здзяйсняць іх – задача маладога пакалення супрацоўнікаў лабараторыі, якое вырасла на трывалым падмурку мінулых дасягненняў. Ад іх залежыць, ці з'явяцца ў слаўным летапісе лабараторыі новыя старонкі.

На сакавік 2011 г. штат лабараторыі складаюць супрацоўнікі вучэбнай часткі: Марозава Таццяна – загадчык, к.ф.н., дацэнт; Каратай Віктар – метадыст, Дзянісенка Вера – лабарант 1 кваліфікацыйнай катэгорыі, Карпаў Ян – лабарант 1 кваліфікацыйнай катэгорыі, С'янаў Дзмітрый – лабарант 1 кваліфікацыйнай катэгорыі.

Навуковую частку прадстаўляюць: Лук'янава Таццяна – к.ф.н., навуковы супрацоўнік, Палукошка Вольга – малодшы навуковы супрацоўнік.

**Вучэбная, навукова-метадычная, ідэйна-выхаваўчая праца фалькларыстаў кафедры тэорыі літаратуры**

Вучэбна-метадычная, навуковая і грамадска-выхаваўчая работа актывізавалася ў 1994 годзе пасля аб'яднання ўсіх фалькларыстаў пад дахам кафедры тэорыі літаратуры, загадчыкам якой стаў доктар філалагічных навук, прафесар В. П. Рагойша. Асноўныя курсы па вуснай народнай творчасці, а потым па дысцыплінах «Беларускі фальклор», «Рускі фальклор», «Славянскі фальклор» чыталі кандыдат філалагічных навук, дацэнт Р. М. Кавалёва і кандыдат філалагічных навук В. В. Прыемка. У розныя гады студэнтам філалагічнага факультэта выкладаліся спецкурсы «Художественный мир волшебно-фантастической сказки», «Литература и фольклор», «Эпічная вторчасць славянскіх народаў», «Мастацкі свет беларускага фальклору: гендэрны аспект», «Художественный мир фольклорного произведения», прапаноўваліся спецсемінары «Формы художественного завершения в фольклоре и литературе», «Славянский фольклор в контексте мировой культуры», «Традыцыйныя формы штодзённасці: семіётыка фальклору, міфалогіі, літаратуры». Для забеспячэння вучэбнага працэсу фалькларыстамі былі выдадзены: вучэбна-метадычны комплекс для студэнтаў «Беларуская вусна-паэтычная творчасць» (аўтар – Р. М. Кавалёва. Мінск, БДУ, 2005), тыпавая праграма «Беларускі фальклор» (аўтар – Р. М. Кавалёва. Мінск, БДУ, 2008), рабочая праграма «Фольклор славянских народов» (аўтар – В. В. Прыемка. Мінск, БДУ, 2008). Калі згодна з новым агульнаадукацыйным стандартам і тыпавым вучэбным планам падрыхтоўкі філолагаў па спецыяльнасцях «Беларуская філалогія», «Руская філалогія», «Славянская філалогія» месца ранейшых дысцыплін «Беларускі фальклор», «Рускі фальклор», «Фальклор славянскіх народаў» заняла новая – «Фалькларыстыка», дацэнты Р. М. Кавалёва і В. В. Прыемка, абапіраючыся на агульны выкладчыцкі вопыт фалькларыстаў

кафедры тэорыі літаратуры, распрацавалі і выдалі метадычны дапаможнік «Фалькларыстыка» для выкладчыкаў дысцыпліны «Фалькларыстыка» ў вышэйшых навучальных установах (Мінск, РІВШ, 2009). Улічваючы, што мова навукі не стаіць на месцы, яны падрыхтавалі «Кароткі слоўнік фальклорна-этнаграфічных тэрмінаў» (Мінск, РІВШ, 2009), да якога звяртаюцца як студэнты, так і выкладчыкі. У апошняе дзесяцігоддзе заняткі па фальклору праводзяць кандыдаты філалагічных навук, дацэнты Р. М. Кавалёва, В. В. Прыемка і Т. А. Марозава, выкладчыкі С. І. Крылова і С. В. Шамякіна, якія ўтварылі на кафедры тэорыі літаратуры вучэбна-метадычную секцыю па фальклору, штотыднёвыя паседжанні якой дазваляюць каардынаваць работу фалькларыстаў кафедры і вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору, зрабіць яе больш плённай. У выніку з'явіліся вучэбна-метадычныя дапаможнікі і метадычныя рэкамендацыі для студэнтаў філалагічнага факультэта:

*Кавалёва, Р. М.* Беларуская вусна-паэтычная творчасць: вучэб.-метад. комплекс для студэнтаў філал. фак. спец. 1-21 05 01 "Беларуская філалогія" / *Р. М. Кавалёва*. – Мінск, 2005. – 151 с.

*Кавалёва, Р. М.* Фальклорная практыка: метадычныя рэкамендацыі і праграма-апытальнік / *Р. М. Кавалёва, В. В. Прыемка, Т. А. Марозава*. – Мінск, 2008. – 152 с.

Масленічныя песні: метадычныя ўказанні і ілюстрацыйны матэрыял да правядзення фальклорнай практыкі студэнтаў 1 курса філалагічнага факультэта / *аўтары: Р. М. Кавалёва, В. В. Прыемка, Т. А. Марозава, А. Ф. Літвіновіч.* – Мінск, 2008. – 34 с.

*Кавалёва, Р. М.* Лакальна-рэгіянальныя парадыгмы беларускага фальклору: вучэб.-метад. дап. для для студэнтаў І курса філал. фак. па спец. 1-21 05 01 "Беларуская філалогія". У 3 ч. Ч. 1. Заходнепалескія куставыя песні / *Р. М. Кавалёва*. – Мінск, 2008. – 151 с.

*Кавалёва, Р. М.* Фалькларыстыка: метад. дап. для выкладчыкаў дысцыпліны «Фалькларыфстыка» ў выш. навуч. устновах па спецыяльнасцях 1-21 05 01 "Беларуская філалогія", 1-21 05 02 "Руская філалогія", 1-21 05 04 "Славянская філалогія" / *Р. М. Кавалёва, В. В. Прыемка*. – Мінск, 2009. – 72 с.

*Кавалёва, Р. М.* Фальклорная практыка: метадычныя рэкамендацыі і праграма-апытальнік для студэнтаў І курса філал. фак. па спец. 1-21 05 01 "Беларуская філалогія", 1-21 05 02 "Руская філалогія", 1-21 05 04 "Славянская філалогія" / *Р. М. Кавалёва, В. В. Прыемка, Т. А. Марозава.* – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мінск, 2009. – 176 с.

Карагодныя песні (карагоды): метадычныя ўказанні і ілюстрацыйны матэрыял да правядзення фальклорнай практыкі студэнтаў 1 курса філалагічнага факультэта / аўтары: *Р. М. Кавалёва, Т. В. Лук'янава*. – Мінск, 2009. – 87 с.

*Прыемка, В. В.* Лакальна-рэгіянальныя парадыгмы беларускага фальклору: вучэб.-метад. дап. для студэнтаў І курса філал. фак. спец. 1-21 05 01 "Беларуская філалогія". У 3 ч. Ч. 2. Вясельныя песні Піншчыны / В. В. Прыемка. – Мінск, 2009. – 95 с.

Фальклорная практыка: вучэб. праграма для студэнтаў І курса філал. фак. па спец. 1-21 05 01 "Беларуская філалогія", 1-21 05 02 "Руская філалогія", 1-21 05 04 "Славянская філалогія" / аўт.-склад. *Р. М. Кавалёва, С. І. Крылова, Т. А. Марозава, В. В. Прыемка*; пад рэд. Р. М. Кавалёвай. – Мінск, 2009. – 39 с.

Пазаабрадавыя песні: метадычныя ўказанні і ілюстрацыйны матэрыял да правядзення фальклорнай практыкі студэнтаў 1 курса філалагічнага факультэта / аўтары: *В. В. Прыемка, Т. А. Марозава, Т. В. Лук'янава, В. К. Каратай*; пад рэд. Т. А. Марозавай. – Мінск, 2010. – 115 с.

Баладныя песні (балады): метадычныя ўказанні і ілюстрацыйны матэрыял да правядзення фальклорнай практыкі студэнтаў 1 курса філалагічнага факультэта / *Р. М. Кавалёва, Т. В. Лук'янава*, *Г. А. Жэгала, В.К. Каратай*. – Мінск, 2010. – 150 с.

Навуковая дзейнасць фалькларыстычнай школы БДУ за гэтыя гады значна пашырылася. Не адмаўляючыся ад традыцыйных падыходаў, разглядаючы фальклорную спадчыну ў класічным, параўнальным аспектах, фалькларысты БДУ звяртаюцца да метадалагічных набыткаў у галіне розных навук, скіроўваюцца на выхады ў іншыя дысцыпліны — перш за ўсё ў культуралогію, лінгвістыку, гісторыю культуры, псіхалогію. Вектары фалькларыстычных даследаванняў самыя розныя, што дазволіла працаваць у рэчышчы псіхфалькларыстыкі, соцыяфалькларыстыкі, гендарнай фалькларыстыкі, інтэграцыйнай фалькларыстыкі, міфафалькларыстыкі, этнафалькларыстыкі. Вынікі даследаванняў увасобіліся ў наступных манаграфіях і навуковых зборніках:

Івахненка Т. А. Паэтыка беларускіх абрадавых песень перыядаў каляндарных пераходаў: Семантыка. Вобразны лад. Кампазіцыя. – Мінск, 2002.

Трыфаненкава М. А. Матыў змеяборства ва ўсходнеславянскай фальклорнай традыцыі: Генезіс. Семантыка. – Мінск, 2003.

Кавалёва Р. М. Абрысы рытуальна-магічнай сферы беларускага фальклору: зб. навук. арт. – Мінск, 2005.

Фалькларыстычныя даследаванні: кантэкст, тыпалогія, сувязі: зб. навук. арт. Вып. 1 – Мінск, 2004; Вып. 2 – Мінск, 2005; вып. 3 – Мінск, 2006; Вып. 4 – Мінск, 2007; Вып. 5 – Мінск, 2008; Вып. 6 – Мінск, 2009; Вып. 7 – Мінск, 2010; Вып. 8 – Мінск, 2011.

Кавалёва Р. М. Фалькларыстычны калейдаскоп: зб. навук. арт. – Мінск, 2009.

Прыемка В. В. Лакальна-рэгіянальныя асаблівасці беларускіх вясельных песень: Піншчына. – Мінск, 2010.

Фалькларысты прымалі ўдзел у кафедральных навукова-даследчых тэмах «Тэарэтычныя праблемы развіцця беларускага пісьменства і культуры (1995 – 2000), «Тыпалогія сродкаў мастацкага выяўлення ў мастацкай літаратуры і фальклоры» (2001 – 2005). У 2006 г. яны перамаглі ў конкурсе навуковых тэм пяцігадовых дзяржаўных праграм і самастойна распрацавалі тэму «Локально-региональные парадигмы белорусского обрядового фольклора: западнополесские кустовые и свадебные песни» (2006–2010; № дзяржрэгістрацыі 20061692). У выніку распрацоўкі тэмы былі абазначаны ўмовы фарміравання лакальных фальклорна-этнаграфічных зон і сфармуляваны прынцыпы іх вывучэння; распрацавана методыка аналізу гістарычна рознастадыяльных каляндарна-абрадавых куставых і сямейна-абрадавых вясельных песень, якія адносяцца да аднаго мікрарэгіёну; выдвінута і абгрунтавана гіпотэза рытуальнага паходжання вобразнага паралелізму і яго міфалагічнай матрыманіяльнай асновы; прапанавана рытуальная канцэпцыя запачаткавання і фарміравання вобразнасці абрадавых песень. Вынікі працы

апрабіраваны на 32 міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях, знайшлі ўвасабленне ў 60 артыкулах, адной манаграфіі, у зацверджанай Міністэрствам адукацыі РБ тыпавой праграме па беларускаму фальклору, у 6 вучэбна-метадычных дапаможніках. Яны выкарыстоўваюцца ў навучальным працэсе ў Белдзяржуніверсітэце, іншых ВНУ, ліцэях і сярэдніх школах.

У 2011 годзе фалькларысты зноў атрымалі перамогу ў конкурсе навуковых тэм пяцігадовых дзяржаўных праграм і пачалі распрацоўку новай тэмы «Комплексное изучение интегративных процессов в белорусском народном творчестве: типология, динамика, современное состояние», разлічанай на 2011 – 2015 гг. У выніку выканання праекта плануецца распрацаваць тыпалогію інтэграцыйных працэсаў, якія забяспечваюць развіццё народнай творчасці і яе актуальнасць для сучаснасці; стварыць навуковую канцэпцыю агульных заканамернасцей фарміравання традыцый нематэрыяльнай народнай культуры беларусаў (фальклорных традыцый).

Фальклярысты БДУ падтрымліваюць і пашыраюць навуковыя і творчыя сувязі з прадстаўнікамі іншых ВНУ як краіны, так і замежжа. Менавіта прадстаўнікі ўніверсітэцкай фальклярыстычнай школы, імкнучыся аб'яднасць выкладчыцкі вопыт калег, арганізавалі і сталі штогод, пачынаючы з 2008 года, праводзіць Рэспубліканскі навукова-метадычны семінар «Праблемы выкладання фальклору, міфалогіі і этналогіі ў ВНУ і іншых навучальных установах». Да ўдзелу ў рабоце семінара ўжо далучыліся не толькі фальклярысты НАН РБ, БДУКіМ, ГДУ, ГрДУ, БДПУ, БрДУ, Акадэміі музыкі, Акадэміі мастацтваў, але і гісторыкі, моваведы, этнолагі, літаратары, мастацтвазнаўцы, музыказнаўцы, філосафы, культуролагі, псіхолагі. Матэрыялы семінараў, якіх ужо было чатыры, змяшчаюцца ў чарговых выпусках зборніка навуковых артыкулаў «Фальклярыстычныя даследаванні: кантэкст, тыпалогія, сувязі».

Фальклярысты БДУ таксама сталі ініцыятарамі і арганізатарамі Рэспубліканскага міжуніверсітэцкага дыскусійна-аналітычнага клуба «Coqito», да ўдзелу ў якім запрасілі прадстаўнікоў самых розных навук і проста зацікаўленых. Стварэнню клуба, праца якога пачалася з 2010 года, спрыяла імкненне дайсці да сутнасці разнастайных праблем традыцыйнай духоўнай культуры, якія ў наш час застаюцца асабліва важнымі і, як паказалі праведзеныя пасяджэнні, актуальнымі.

Амаль 15 год таму пачала працаваць, а ў 2001 годзе артымала афіцыйны статус студэнцкая навукова-даследчая лабараторыя «Фальклярыстыка» (кіраўнік – к.ф.н., дацэнт Р. М. Кавалёва, з 2011 – к.ф.н., дацэнт В. В. Прыемка). З 1999 года яе выхаванцы пачалі ўдзельнічаць у конкурсе грантаў для студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў БДУ, і 12 разоў іх навуковыя праекты перамагалі.

Канцэптуальныя асновы праектаў распрацоўваліся разам з іх навуковымі куратарамі – к. ф. н. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка, Т. А. Марозавай, Т. В. Лук'янавай. Яны свядома насілі пошукавы характар, былі скіраваны на выхады ў іншыя навукі, зыходзячы з таго, што мастацкі тэкст – шматгранная «другая рэальнасць», у якой праз пасрэдніцтва фальклорнага мыслення

акумулююцца менталітэт нацыі, псіхалогія звышасобы (фальклорнага аўтара), бытавыя рэаліі, філасофія жыцця і г. д. Вынікам калектыўнай працы маладых даследчыкаў сталі тры кнігі, аснову якіх склала праца над навуковымі тэмамі: «Усходнеславянскі фальклор: пошукі новых падыходаў», «Жанравыя сістэмы сербскага і беларускага фальклору: агульнасць, паралелізм, лакунарнасць», «Фальклор як сродак узбагачэння сучаснай культуры», «Новыя формы арганізацыі сучаснага беларускага верша»:

Восточнославянский фольклор: Поиски новых подходов: сб. науч. ст. – Минск, 2000.

Свет славянскага фальклору: зб. навук. арт. – Мінск, 2001.

На хвалях філалогіі: зб. навук. арт. – Мінск, 2002.

Заўважым, што маладыя даследчыкі разам са старэйшымі вучонымі першымі ў беларускай фалькларыстыцы сталі распрацоўваць гендарную праблематыку, займацца даследаваннем гарадскога фальклору. Артыкулы, якія сталі вынікам працы над праектамі «Беларускі фальклор у гендарным аспекце» і «Гарадскі фальклор: генезіс, структура, тыпалогія» (як і наступныя), з 2004 года пачалі друкавацца ў эксклюзіўным выданні нашай навуковай школы «Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі».

Даўно сталі кандыдатамі навук першыя студэнты-супрацоўнікі СНДЛ, на сённяшні дзень некаторыя з іх працуюць выкладчыкамі, займаюцца навуковай, літаратурнай, перакладчыцкай дзейнасцю, становяцца магістрантамі і аспірантамі. Працягваючы традыцыю пераемнасці пакаленняў, фалькларысты кафедры тэорыі літаратуры падтрымліваюць творчыя сувязі са сваімі выхаванцамі, і менавіта таму ў чарговых выпусках «Фалькларыстычных даследаванняў» можна знайсці іх новыя навуковыя працы.

У 2011 годзе СНДЛ «Фалькларыстыка» заняла першае месца ў агульнаўніверсітэцкім конкурсе студэнцкіх лабараторый у намінацыі «Вклад СНИЛ в совершенствование учебного процесса». Пяць студэнтаў за актыўны ўдзел у працы СНДЛ «Фалькларыстыка» ўзнагароджаны Граматамі рэктарата БДУ.

Значную работу прадстаўнікі ўніверсітэцкай фалькларыстычнай школы праводзяць таксама ў галіне грамадска-выхаваўчай дзейнасці. Штогод разам са студэнтамі ладзяцца наступныя вучэбна-выхаваўчыя мерапрыемствы: «Фальклорны фэст», круглы стол «Беларускі фальклор у прасторы і часе нацыянальнай культуры», віртуальная вандроўка «Сцяжынкамі роднай зямлі», штотыднёвы прагляд фальклорных відэафільмаў у «Фальклорным кіналекторыі», традыцыйныя сяброўскія сустрэчы са студэнтамі-стажорамі са славянскіх краін, студэнтамі з усходніх краін (як, напрыклад, у верасні 2010 года адбылася імпрэза «Беларускі фальклор і ўсходняя мудрасць»), прэзентацыі новых выданняў фалькларыстаў БДУ і г. д.

Каб зрабіць працэс далучэння студэнцкай аўдыторыі да культурных і грамадскіх традыцый больш плённым, фалькларысты ажыццявілі праект, аналагаў якому няма на беларускай філалагічнай прасторы. Разам са студэнтамі быў падрыхтаваны электронны фальклорна-этнаграфічны і літаратурна-мастацкі альманах «Дзьмухавец» (сайт *www.almanah-dzmuhavec.narod.ru*),

першы нумар якога пабачыў свет у верасні 2010 года. Выданне арыентуе студэнтаў на паглыбленне ведаў па фальклоры праз падрыхтоўку да напісання розных відаў навукова-творчых работ (эсэ, партфоліа, водгукі і інш), прэзентуе матэрыялы фальклорнай практыкі (у рэтраспектыве і апошніх гадоў), знаёміць з цікавымі асобамі. На старонках альманаха друкуюцца маладыя паэты і паэткі. Эксклюзіўныя рубрыкі наступных нумароў – «Вусная гісторыя БДУ», «Традыцыйная культура і мы: праблема быцькоў і дзяцей», «Практычная педагогіка», «Байкі старога філфака», «Філалагічныя гульні» і іншыя, таксама вельмі цікавыя.

У верасні 2010 года быў праведзены комплекс вучэбна-выхаваўчых мерапрыемстваў пад незвычайнай назвай «Тры дэкады беларускага фальклору і фалькларыстыкі», ажыццяўленне якога ініцыявалі к. ф. н., дацэнты Р. М. Кавалева, В. В. Прыемка, Т. А. Марозава. За гэты час фалькларысты – выкладчыкі кафедры тэорыі літаратуры і супрацоўнікі вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору ажыццявілі восемь рознапланавых акцый, кожная з якіх была скіравана на патрыятычнае і культурнае выхаванне студэнтаў-філолагаў.

На заканчэнне адзначым наступнае: так склалася, што філалагічны факультэт БДУ з яго фалькларыстычнай школай і ўнікальным выданнем «Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі» стаў пляцоўкай умацавання сувязей паміж фалькларыстамі іншых ВНУ г. Мінска і рэспублікі, фалькларыстамі і этнолагамі, фалькларыстамі і этнакультуролагамі, этнамузыказнаўцамі і г. д.

## ЗАЎВАГІ

* 1. Матэрыял з раздела «Перадгісторыя» быў падрыхтаваны ў 2002 г. В.Ліцьвінкам.

***Римма Ковалева***

# ЛОКАЛЬНО-РЕГИОНАЛЬНЫЕ ПАРАДИГМЫ БЕЛОРУССКОГО ФОЛЬКЛОРА: ПРИНЦИПЫ И ПЕРСПЕКТИВЫ ИЗУЧЕНИЯ

(в сокращении)

Фольклор – феномен духовной жизни народа, тесно спаянный с повседневным, праздничным, обрядовым бытом. Он содержит универсалии, но облекается в национальные формы, системен, но состоит из неустойчивых, неуправляемых, непредсказуемых процессов на уровне бытования конкретных текстов. Вместе с тем, какой бы уровень фольклора мы ни рассматривали, он сплошь состоит из неких в достаточной мере устойчивых образцов, которые поддаются вычленению в качестве возможного объекта исследования. Иными словами фольклор насквозь парадигматичен.

Парадигмы мирового фольклора – национальный фольклор, фольклор малых народов и нецивилизованных племен. На уровне национального фольклора (а это макроуровень мирового) начинают действовать свои законы самоорганизации материала. Фольклорное мышление, имея опору в параметрах фольклорного сознания, возобновляет и продуцирует национальные образцы, поэтому мы всегда имеем дело как со ставшей и со становящейся фольклорной реальностью, с устойчивыми смысловыми структурами, имеющими определенные формы закрепления, так и с подвижными смысловыми, прикрывающимися традиционной оболочкой.

Парадигматический подход к фольклору не нов в том смысле, что практически используется давно. Другое дело, что он не осознается и не рефлексируется, а следовательно, принципы парадигматического анализа фольклора в целом и отдельных его парадигм – тот вопрос, который нуждается хотя бы в предварительном освещении и практическом подкреплении.

Одна из главных проблем парадигматического подхода – определение условий выделения самих конкретных парадигм. Чтобы рассматривать нечто как парадигму, необходимо иметь в виду, что каждая парадигма опирается на только ей присущее основание. Отсюда – разные принципы описания и, соответственно, изучения. Каждая парадигма создает свою матрицу видения макрообъекта. Переход от одной фольклорной парадигмы к другой можно сравнить с очередным поворотом «фольклорного шара», открывающим новый эшелон однотипных парадигм, объединяемых понятием «класс». Классификация фольклорных парадигм находится в аморфном состоянии: одни парадигмы осмыслены достаточно полно, другие частично, третьи, как мы подозреваем, и вовсе не выделены. Уже одно это вселяет надежду, что парадигматический подход имеет перспективы развития – как в отношении структурирования объекта исследования, так и в отношении разработки концептуального научного языка.

Пожалуй, редкий фольклорист станет возражать против того факта, что одной из основополагающих фольклорных парадигм является жанровая. Даже межжанровые образования допустимо представлять как отдельную парадигму – свидетельство динамических процессов в фольклорном творчестве на уровне манипулирования жанровыми формами, их комбинацией и сращением в новую художественную реальность. Что касается жанровой парадигмы, то на этой территории перманентно действует принцип «или – или». Например, сказка – или вид, или жанр. Если она вид, то далее выделяются по разумению ученых соответствующие жанры, если она признается жанром, то далее рассматриваются жанровые разновидности. Та же участь постигла обрядовую поэзию. Функционально-этнографический подход давал одну жанровую картину, филологический – другую. Парадигматика ориентируется скорее на «и – и», т. е. на сотрудничество пересекающихся концепций, чем на дилемму «или – или».

По сравнению с жанровой парадигмой социально-историческая предполагает иную конфигурацию фольклора. В данном случае ученые переходят в иную понятийно-терминологическую систему и оперируют такими терминами, как, например, фольклор крестьянский, солдатский (армейский), рабочий, отходников (чумацкий, бурлацкий, ямщицкий), разбойничий, сектантский и т. д.

Как правило, на территории географического распространения национального фольклора есть иноэтнические фольклорные включения, существование которых обусловлено рядом причин, к примеру, этногенетических, демографических, политических, культурных (через контакты в пограничных зонах) и др. Язык и культурный контекст – вот наиболее значимые факторы при выделении иноэтнических парадигм. Фольклор белорусов в Сибири, фольклор русских, украинцев, поляков, татар, цыган на территории Белоруссии – их изучение будет базироваться на общих методологических принципах.

Если же объектом исследования становится национальная парадигма, то в этом случае на первый план выходят ее конкретные локально-региональные парадигмы как наиболее показательные в этническом плане. Изучение локально-региональных парадигм того или иного фольклора значимо для теоретического осмысления проблемы соотношения национального, регионального и локального. Национальное вовсе не значит всеобъемлющее, охватывающее всю этническую территорию. Так, континуум белорусской календарно-обрядовой поэзии характеризирует разная плотность и интенсивность отдельных видов песен. Скажем, плотность купальских песен уменьшается в направлении с севера на юг, а в некоторых районах Восточного Полесья они и вовсе отсутствуют, но параллельно увеличивается интенсивность колядных песен.

Примеров достаточно, чтобы убедиться в следующем: национальное имеет вполне конкретное региональное воплощение, а региональное, в свою очередь, опирается на локальное. Отсюда следует несколько важных для белорусских фольклористов выводов.

1. Состав и интенсивность тех или иных локально-региональных парадигм может быть одним из достаточно надежных критериев выделения и уточнения границ фольклорно-этнографических регионов и микрозон на территории Беларуси.

2. Выделение локально-региональных парадигм белорусского фольклора – основа для его исторического изучения, декларации его национального своеобразия в контексте традиционной духовной культуры славянских народов. Публичная и научная репрезентация локально-региональных парадигм лишний раз дает белорусам право осознавать собственную духовную культуру и себя, ее носителя, как безусловную ценность для мирового сообщества, обеспокоенного зигзагами глобализационных процессов.

3. Довольно часто именно через локальное открывается возможность семантической реконструкции культурных звеньев, полностью или частично утраченных на других территориях.

4. Принципиально важно проводить научное изучение той или иной локальной парадигмы контекстуально и в связи с другими локально-региональными парадигмами национального фольклора.

Белорусская календарно-обрядовая культура представляет собой совокупность реально существующих по сегодняшний день устойчивых локально-региональных парадигм. Вместе с тем каждая парадигма – это особый текст, функция, узор, сплетенный из необозримого числа культурных кодов и погруженный в диахронию культурных смыслов.

- песні пра барацьбу супраць татараў, туркаў, літоўцаў, палякаў, шведаў, французаў («Каля лесу, каля цёмнага», «Са вечыра дождж, а к утру туман», «Вох, ты ёлка, ялінка» – пра татараў; «Зажурылася крутая гара» – пра туркаў; «На граніцы мы, брацці, стаялі» – татары і туркі тут атаясамліваюцца; «Цяжка ды важка» – пра палякаў; «Як у нонішнім гаду», «Разарёная дарожка» – пра французаў), а таксама шматлікія варыянты песень пра Бандароўну);
- казацкія песні («Кукавала ды кукулечка») і песні пра Сцяпана Разіна («Сценька Разін»);
- рэкруцкія песні («Служыў драгун службу»);
- казкі пра Івана Грознага, Пятра І, пра вайну з палякамі, шведамі, французамі;
- казкі з антыпрыгонніцкім зместам (найбольш яскравы прыклад – беларуская казка з філасофскім падтэкстам «Ад чаго ліха на свеце»).

Агульнавядома, што зараджэнне славянскіх эпасаў цесна звязана з эпохай распаду першабытнаабшчыннага ладу і ўтварэння першых славянскіх дзяржаў. Станаўленне беларускай эпічнай творчасці ў сваёй аснове было генетычна звязана з фальклорна-эпічнымі традыцыямі народаў Кіеўскай Русі (у прыватнасці, празаічныя творы таго перыяду былі прадстаўлены такімі жанрамі, як казкі пра жывёл, чарадзейныя і бытавыя казкі, легенды пра стварэнне чалавека, пра лесавікоў, хлеўнікаў, дамавых, русалак і іншых звышнатуральных істот, прыказкамі, прымаўкамі, загадкамі і, безумоўна, былінным эпасам). Палітычнае аб'яднанне ўсходнеславянскіх народаў пад кіраўніцтвам Кіеўскай Русі садзейнічала эканамічнай інтэграцыі і стварэнню адзінай духоўнай культуры. Гэта была прапедэўтычная стадыя фарміравання ўласна беларускай эпічнай творчасці, а таму вызначыць перавагу ў гэты перыяд таго ці іншага жанру менавіта беларускай эпікі не ўяўляецца магчымым.

Уласна беларускі эпас атрымлівае шырокае распаўсюджанне ў XIV-XVII стст. У эпоху Сярэдневечча, і асабліва ў перыяд умацавання Вялікага княства Літоўскага, на узроўні масавай свядомасці найбольш актуалізаваны быў багатырскі эпас у складзе такіх жанраў, як паданні і легенды пра багатыроў (асілкаў і волатаў), героі якіх (Пакацігарох, Вусыня, Дубіна, Гаравік) з'яўляліся пераможцамі шматгаловых змеяў і розных іншых пачвараў, якія ўвасаблялі варожыя чалавеку сілы. Як слушна зазначыў у свой час К. Кабашнікаў, менавіта гэтыя разнавіднасці казак маюць старажытныя міфалагічныя карані, таму што «волаты»-пераможцы тут паказаны як гаспадары яшчэ не зведаных чалавекам сіл прыроды [4, *458*].

Не меншай папулярнасцю карысталіся багатырскія казкі пра Іллю Мурамца, песні-быліны «Сяўрук», «Цямрук-Каструк», «Быліны аб градзе Себежы», якія адлюстроўвалі падзеі, што рэальна мелі месца ў айчыннай гістрыі. Так, напрыклад, у 1536 г. пад горадам Себежам пад лёд правалілася літоўска-польскае войска, аднак гэты гістарычны факт у быліне быў адлюстраваны як перамога Іллі Мурамца (у шэрагу варыянтаў – Іллі Мураўляніна), які ехаў побач з горадам Себежам і ўбачыў, што яго асадзілі ворагі. Замена рэальнага факта была абумоўлена тым, што, як паказаў услед за У. Мілерам [5] К. Ка-

башнікаў, у свядомасці народа масавая гібель ворага дазваляла бачыць у гэтай падзеі цудоўную боскую дапамогу, якая атрымала з часам эпічную афарбоўку ў вобразе народнага героя.

У перыяды ваенных катаклізмаў у эпоху феадалізму найбольшую вастрыню набывалі таксама жанры гістарычнага эпасу. Падобнае дамінаванне было абумоўлена гістарычнымі прадпасылкамі. Прывабнае геапалітычнае становішча беларускіх зямель прыцягвала да іх межаў захопнікаў, тэрыторыя Белай Русі шматразова станавілася месцам сутыкненняў паміж заходнімі краінамі і Расіяй, што спрыяла выспяванню ў народным асяроддзі адпаведных настрояў супрацьстаяння, імкнення да вызвалення. Гераічны багатырскі эпас і гістарычныя песні ўяўлялі сабой моцны заклік да дзеяння, прадстаўляючы народу ўзоры мужнасці і велічы. Адлюстраваная ў эпічнай форме гераічная барацьба народа супраць шматлікіх захопнікаў – татараў, туркаў, шведаў, французаў і інш. – выражала рэзкае непрыняцце вайны ў цэлым і ўмацоўвала баявы дух.

У XVIII-XIX стагоддзях, у перыяды адноснага ваеннага зацішша з боку замежных інтэрвентаў, найбольшую актуальнасць набываюць гістарычныя песні з іх увагай да праяў сацыяльнага, духоўнага, рэлігійнага прыгнятання народа, сялянскіх паўстанняў (песні пра Сцяпана Разіна), тэмы казацкай вольніцы (казацкія песні), набору рэкрутаў (рэкруцкія песні), цяжкага жыцця прыгонных (антыпрыгонніцкія песні і казкі).

У XX ст. бытаванне эпічных жанраў на Беларусі значна скарацілася, хаця фальклорныя экспедыцыі фіксавалі незвычайную «жывучасць» у асяроддзі сялянскага насельніцтва духоўных вершаў, казак, гістарычных песень. Стварэння прынцыпова новых твораў на гістарычную ці сучасную тэматыку выяўлена не было. Прычыну падобнага феномена, хутчэй за ўсё, неабходна шукаць у спецыфіцы эпічнага мыслення. Як вядома, зараджэнне і актыўнае бытаванне эпасу мае ідэалагічную нагрузку і звязана з магутнымі кансалідуючымі фактарамі – станаўленнем дзяржаўнасці, нацыянальнай самасвядомасці, з вызваленчымі войнамі. Іншымі словамі, эпічнае мысленне шырокіх народных мас было нязменна звязана з дзяржаўнай ідэалогіяй. У XX стагоддзі падчас двух рэвалюцый, грамадзянскай вайны былі знішчаны спрадвечныя ісціны – «айчына», «сябра», «вораг»: брат ішоў на брата, сын – на бацьку і г.д. І нават ва ўмовах кансалідацыі грамадства падчас Вялікай Айчыннай вайны эпічнае мысленне не было ўзноўлена ў поўным аб’ёме.

У 90-я гады XX ст. у гісторыка-культурных умовах стварэння самастойнай дзяржавы і актуалізацыі ідэй адраджэння на Беларусі цікавасць да эпічнай спадчыны ўсё больш узрастае.

Такім чынам, для беларускага эпасу характэрна выражаная ў шматлікасці сюжэтаў і стылістычных сродкаў наяўнасць differentнастадыяльных напластаванняў, абумоўленых асаблівасцямі развіцця беларускага этнасу і яго традыцыйнай вусна-паэтычнай творчасці. Падвядзенне ж вынікаў даследавання стала магчымым дзякуючы выкарыстанню тэхналогіі вывучэння названай фальклорнай з’явы з дапамогай інструментарыя тэорыі соцыякультурнай дынамікі.

Даследаванне ажыццеўлена пры фінансавай падтрымцы Беларускага рэспубліканскага фонда фундаментальных даследаванняў (код праекта: Г01-103).

## ЛІТАРАТУРА

1. Беларускі эпас / склад.: С. І. Васілёнак, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў; Пад. рэд. П. Ф. Глебкі і І. В. Гутарава. – Мінск, 1959.

2. *Кабашнікаў, К. П.* Беларуска-рускія фальклорныя сувязі / К. П. Кабашнікаў. – Мінск, 1988.

3. *Кабашнікаў, К. П.* Гераічны і гістарычны эпас / К. П. Кабашнікаў // Нарысы па беларускаму фальклору. – Минск, 1963.

4. *Кабашников, К. П.* Эпос белорусский / К. П. Кабашнікаў // Восточнославянский фольклор: Словарь научной и народной терминологии / Редкол. : К. П. Кабашников (отв. ред.) и др. – Мінск, 1993.

5. *Миллер, В.* К былинам об Илье Муромце / В. Миллер // Очерки русской народной словесности: Былины. – М., 1897.

6. *Флиер, А. Я.* Культурология для культурологов: учебное пособие / А. Я. Флиер. – М., 2000.

***Рыма Кавалёва***

# ФАРМІРАВАННЕ ФАЛЬКЛОРНА-ЭТНАГРАФІЧНЫХ ЗОН І ПРЫНЦЫПЫ ІХ ВЫВУЧЭННЯ

Сучасная фалькларыстыка ўсё больш цікавіцца непаўторнымі рысамі традыцыйнай мясцовай культуры, скіроўваючы ўвагу на варыянтныя формы выражэння рэгіянальнага і агульнанацыянальнага, фарміруе практычныя і тэарэтычныя праграмы даследавання лакальна-рэгіянальнага ў сінхраніі жывога фальклорнага працэсу. На сённяшні дзень акрэсліліся тры асноўныя падыходы да сінхроннага вывучэння беларускага фальклору: агульнанацыянальны, рэгіянальны, лакальны.

Пры характарыстыцы стану агульнанацыянальнай фальклорнай традыцыі ўлічваюцца лакальна-рэгіянальныя напрацоўкі і на іх падставе даецца сінхронны зрэз жанрава-відавой сістэмы беларускага фальклору, прычым абавязкова адзначаюцца нацыянальна адметныя віды песнятворчасці і народнага тэатра. Вялікіх абагульняючых прац на гэту тэму не з'явілася. Звычайна даследаванні тычацца асобных пытанняў, прыкладам, стану каляндарна-абрадавай, вясельнай, казкавай традыцыі і г. д. Іх цяжка сінхранізаваць з прычыны таго, што на час даследавання канкрэтнага пытання дынаміка фальклорных працэсаў магла быць рознай (нават, скажам, у межах паловы стагоддзя).

У метадалогіі лакальнага і рэгіянальнага ёсць спрэчныя і ўзаемавыключальныя моманты. Што лічыць лакальным і што рэгіянальным? Пры ўсёй відавочнасці адказу на практыцы мы сутыкаемся з дзвюма тэндэнцыямі іх прасторавай рэпрэзентацыі – праз гісторыка-этнаграфічнае і праз гісторыка-адміністрацыйнае. Першая тэндэнцыя характэрна для выданняў ІПК БДУКМ, другая – для фалькларыстаў БДУ і ГДУ імя Ф. Скарыны. Пасля таго, як

В. С. Цітоў вылучыў шэсць буйных гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў (Паазер'е, Панямонне, Цэнтральная Беларусь, Падняпроўе, Усходняе і Заходняе Палессе), задачу іх паглыбленага вывучэння ўзяў на сябе творчы калектыў навуковых супрацоўнікаў ІПК БДУКМ. Яны даследавалі стан жывой народнай традыцыі ў пазначаных рэгіёнах, сістэматызавалі і прааналізавалі сабраныя матэрыялы, выдалі унікальныя кнігі, навуковае значэнне якіх цяжка пераацаніць. У свой час фалькларысты БДУ абралі іншы шлях, калі пачалі выдаваць зборнікі традыцыйнага фальклору той ці іншай вобласці – Брэсцкай, Гомельскай, Мінскай, а ў наш час фалькларысты ГДУ друкуюць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы асобных раёнаў Гомельшчыны – Лоеўскага, Буда-Кашалёўскага, Рэчыцкага і інш., хаця ў планах ёсць збіранне і вывучэнне фальклору Мазырска-Прыпяцкага Палесся, а гэта ўжо іншы ўзровень усведамлення фальклорнай традыцыі ў гістарычным і прасторавым вымярэнні. Відавочная штучнасць падобнага раяніравання фальклору, але нельга не прызнаць таго, што ў пэўным сэнсе навукоўцы мелі рацыю: часам адміністрацыйныя межы не вельмі разыходзяцца з фальклорна-этнаграфічнымі, хоць ніколі не супадаюць з імі дакладна.

Трэба сказаць, што строгае размежаванне агульнанацыянальнага, рэгіянальнага і лакальнага ў фалькларыстыцы адсутнічае. На наш погляд, мэтазгодна лічыць адзінай рэальнасцю лакальнае, бо «рэгіянальнае» і «нацыянальнае» – тыя тэарэтычныя канструкты, якія вы-значаюць дыскурс прасторавага і гістарычнага вывучэння фальклору.

Вывучэнне лёсу фальклору, яго відаў і жанраў грунтуецца на крыніцах і матэрыялах самага рознага роду, але найбольш істотнымі пры ўсведамленні дынамікі гістарычнага функцыяніравання фальклору з'яўляюцца палявыяназіранні і архіўныя фонды. Рэальны стан рэчаў мяняецца не толькі ад эпохі да эпохі, істотна адрозніваецца ступень захаванасці і ўстойлівасці фальклору ў розных гісторыка-этнаграфічных рэгіёнах, нават у іх частках, якія мы прапануем разглядаць як *фальклорна-этнаграфічныя зоны*. Калі ў рэшце рэшт фалькларысты здолеюць вылучыць фальклорна-этнаграфічныя рэгіёны (мяркуем, што іх будзе больш за шэсць), не трэба думаць, што яны будуць цалкам, дакладна складацца з зон. Насамрэч зоны – гэта фальклорна-этнаграфічныя «астравы», якія натуральна, г. зн. гістарычна і геаграфічна, вылучаюцца на фоне нацыянальнага і рэгіянальнага «культурнага ландшафту». Частка зон-«астравоў» настолькі выразная і самадастатковая, што здаўна прысутнічае ў этнічнай культурнай свядомасці як цэласнасць. Такімі адметнымі зонамі для беларусаў з'яўляюцца Піншчына (Пінскае Палессе) – частка Заходняга Палесся, Тураўшчына – частка Цэнтральнага Палесся, магчыма, Нарачанскі край і, як даказвае даследчыца Н. В. Матыліцкая, Случчына, хоць яна і называе гэтую зону мікрарэгіёнам. Даследаванні ў напрамку вылучэння зон амаль не вяліся, таму мы і абмежаваліся відавочнымі прыкладамі.

Другая частка фальклорна-этнаграфічных зон не так кідаецца ў вочы, не атрымала такога шырокага прызнання, як папярэднія, але, здаецца, ёсць падставы для вылучэння Веткаўшчыны, Лагойшчыны. Магчыма, мы здолеем убачыць і даследаваць яшчэ большую колькасць зон, калі такая задача будзе пастаўлена, і тады значэнне тэрміна «лакальная традыцыя» напоўніцца канкрэтным сэнсам,

стане больш відавочным: лакальнае акрэсліцца ад кропкавага да занальнага. І мы не будзем пад абследаваннем рэгіёна разумець збіранне фальклору толькі ў межах папярэдне пазначанай мясцовасці.

Умовай фарміравання фальклорна-этнаграфічных зон з'яўляеццца наяўнасць пэўнай канстанты або дамінанты – этнагенетычнай, гістарычнай, геаграфічнай, дэмаграфічнай, культурнай (фальклорна-этнаграфічнай), лінгвістычнай і г. д. Зона можа мець розныя памеры. Вядомы парадаксальныя з'явы, калі адна вёска складаецца з дзвюх–трох зон. Праз плот ужо іншыя звычаі, песні, гаворка, што назіралася, напрыклад, у в. Моталь Іванаўскага раёна. Стрэшынская зона на Гомельшчыне значна менш за Жлобінскі раён, а Піншчына пераўзыходзіць межы Пінскага раёна. Канстанта Піншчыны – куставая каляндарна-абрадавая парадыгма, канстанта Стрэшынскай зоны – сам Стрэшын, яго геаграфічнае становішча і звязаная з гэтым фактарам гістарычна абумоўленая дынаміка фальклорных працэсаў у зоне. Паселішчы, падобныя Стрэшыну, з'яўляліся бліжэйшым сектарам канала трансляцыі гарадской песеннай культуры ў вёскі, уяўлялі сабой наглядную мадэль суадносін цэнтраімклівых і цэнтрабежных патэнцый фальклору. Стрэшын акумуляваў з'явы гарадской песнятворчасці, тэмпы змянення песеннага рэпертуару тут былі больш павольныя ў параўнанні з горадам, але паскоранымі ў параўнанні з вёскамі. З другога боку, Стрэшын больш запаволена, чым горад, развітваўся з традыцыйнай культурай. Ён быў гістарычным цэнтрам зоны, перакрыжаваннем шляхоў, аднак цэнтр традыцыі знаходзіўся не тут, а якраз на геаграфічнай перыферыі адносна Стрэшына. На прыкладзе Стрэшына і яго ваколіц прасочваюцца трансферныя працэсы, г. зн. формы перанясення ўжо існуючага эмацыянальна-аксіялагічнага стаўлення народа да значнай у іх побыце традыцыйнай песеннай культуры на новыя фальклорныя з'явы – асіміляваныя формы гарадскога фальклору (канты і рамансы). Яскравая рыса стрэшынскай зоны – калядны «цыганскі» рэпертуар.

Адзінства і адметнасць фальклорна-этнаграфічнай зоны вызначаецца кантэкстуальна і шляхам параўнальнага вывучэння сабраных матэрыялаў з матэрыяламі ўжо даследаваных зон. Не заўсёды фальклорна-этнаграфічная зона мае яркую каляндарна-абрадавую парадыгму. У тым выпадку, калі яна ёсць, важна прасачыць лініі яе карэляцыі з іншымі каляндарна-абрадавымі песнямі, каб зразумець тэндэнцыі фарміравання агульнай фальклорнай карціны ў дадзенай лакальнай зоне ў іх сувязі з этнакультурнымі працэсамі. Такім чынам, галоўны *прынцып* вывучэння фальклорна-этнаграфічных зон – *спалучэнне апісальна-аналітычнага метаду з параўнальна-гістарычным*.

Канец мінулага стагоддзя засведчыў пашырэнне праблемнага поля фалькларыстыкі, пэўнае змяненне яе дыскурса, зварот да набыткаў іншых навук, актыўнае выкарыстанне тэрмінаў «сістэма», «структура», «тэкст», «іерархія» і г. д. На парадак дня ўсё часцей выносяцца пытанні сістэмнага і комплекснага вывучэння фальклору. Праўда, шлях ад дэкларацыі намераў да распрацоўкі метадалогіі і рэальнай практыкі падобнага вывучэння амаль не скараціўся. А гэта наводзіць на роздум, ці магчыма сістэмнае і комплекснае вывучэнне лакальнага з наступным ажыццяўленнем абагульняючых сінтэтычных даследаванняў, якія

прадугледжваюць супрацоўніцтва фалькларыстаў розных спецыяльнасцей (філолагаў, музыказнаўцаў, інстру-ментазнаўцаў, харэографаў, тэатразнаўцаў), супрацоўніцтва фалькларыстаў і мастацтвазнаўцаў–спецыялістаў у вобласці народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а таксама фалькларыстаў са спецыялістамі ў вобласці этнаграфіі, этналінгвістыкі, сацыяльнай псіхалогіі і іншых абласцей ведаў. Так разумее спецыфіку комплекснага вывучэння фальклору як цэнтральнага прадмета даследавання рускі фалькларыст В. Я. Гусеў.

Мне здаецца, што ідэя комплекснага вывучэння фальклору, і лакальнага перш за ўсё, пры ўсёй яе прыцягальнасці – з вобласці фантастыкі. Не трэба займацца самападманам і марыць пра магчымасць ажыццяўлення сінтэтычных даследаванняў – усё роўна на выхадзе мы атрымаем зборнік матэрыялаў фалькларыстаў і прадстаўнікоў іншых навук. Як заўсёды. Бо ёсць супраціўленне матэрыялу, і нікуды ад гэтага не дзецца.

І фальклор цалкам, і кожная яго лакальная частка аж да самага малога твору – канцэптуальна глыбокі і семантычна бязмежны Тэкст, звязаны з папярэдняй і сучаснай культурай тысячамі генетычных, тыпалагічных сэнсавых сувязей. Дык што мы будзем комплексна вывучаць? Я вельмі сумняваюся ў магчымасці комплекснага даследавання лакальнай культурнай традыцыі, але зусім не выключаю комплекснага вывучэння асобных лакальных з'яў. Маштабныя комплексныя даследаванні недасягальныя, як недасягальнае рэальнае ажыццяўленне этычных норм хрысціянства. Можна таксама прыгадаць апарыю Зянона пра Ахілеса і чарапаху. Пакуль вучоныя займаюцца пошукамі супадзення, несупадзення, карэляцыі духоўнага, матэрыяльнага, моўнага і г. д., сітуацыя ўжо змянілася, даследаванне тычыцца мінулага стану традыцыі, а не сучаснасці.

Лакальная традыцыя – гэта ўзаемадачыненні адрозненняў, варыянтаў, версій, «рухомая нерухомасць», якая здольна нараджаць і ўвесь час нараджае несістэмныя і нечаканыя адрозненні, хутчэй дыферэнцыраваная цэласнасць, чым сістэма. Вось чаму я сумняваюся ў сістэмнасці лакальнай фальклорнай традыцыі і, адпаведна, у магчымасці яе сістэмнага вывучэння. Скажам так: калі дапускаецца існаванне фальклорнай сістэмы, то маецца на ўвазе і структура – іерархічна ўпарадкаваны прынцып арганізацыі фальклорных ці фальклорна-этнаграфічных з'яў. Вобраз мадэлі сістэмы – дрэва, а рэальнасці – рызома. Можна, напрыклад, гаварыць пра сістэму фальклорных жанраў, прычым у іх дачыненні да рэчаіснасці, але нельга вызначыць іх іерархію. Што тычыцца лакальнага, лакальнай фальклорна-этнаграфічнай зоны, тым больш лакальна-рэгіянальнага, то ці можна вызначыць іх упарадкавальны сістэмаўтваральны прынцып? Наўрад ці. Сістэмнасць і структурнасць лакальнага – не рэальнасць, а тэарэтычны канструкт, тое, што мы прыўносім у сваё разумение рэальнага, якое не мае таго, што кіруе структурай, арганізуе і ўтрымлівае яе, тым самым надаючы з'яве сістэмнасць. Паверхневая структура нараджаецца з глыбіннай структуры, што вельмі добра бачна на прыкладзе фальклорна-этнаграфічных абрадавых комплексаў, якія сапраўды і сістэмныя, і структурныя. Іх глыбінная структура – рытуальны змест. Напрыклад, унутраная змястоўная структура Купалля – іерагамія Зямлі і Сонца, адсюль яго сістэмнасць пры любой рэдукцыі частак і звёнаў.

Такога кшталту сістэмнасць лакальнай традыцыі (на ўзроўні фальклорна-этнаграфічнай зоны) не ўласціва. Паўстае пытанне: ці магчыма сістэмнае вывучэнне бессістэмнага, таго, што не мае сістэмаўтваральных сувязей, уяўляючы сабой суадносіны няпэўнасцей, бо ні адзін момант у існаванні фальклору не паўтараецца цалкам? Адказ відавочны?

Парадаксальнасць фальклору ў тым, што ён сапраўды сістэмны, але складаецца з няўстойлівых, някіруемых працэсаў і непрадказальных вынікаў на ўзроўні бытавання канкрэтных тэкстаў, г. зн. на ўзроўні лакальнага. Рэальна і супрацьлеглае: які б узровень фальклору мы ні ўзялі, ён будзе складацца з дастаткова ўстойлівых узораў, у тым ліку з узораў лакальнага, якія паддаюцца аб'ектыўнаму вычляненню.

Лакальнае – аснова для гістарычнага вывучэння нацыянальнага фальклору, праз лакальнае дэкларуецца яго адметнасць у сферы фальклорнай культуры славянскіх народаў, бо якія б універсаліі ні ўтрымліваліся ў лакальным, яны непазбежна будуць існаваць у нацыянальнай форме. Разам з тым лакальныя матэрыялы рэальна дапамагаюць рэканструяваць семантычныя звёны і структуры, цалкам або часткова страчаныя на іншых тэрыторыях. Менавіта лакальныя фальклорна-этнаграфічныя зоны – найлепшыя і натуральныя кандэнсатары культурнай інфармацыі. І чым старэйшая зона, тым больш яна інфарматыўная. Адсюль відавочная актуальнасць лакальных даследаванняў, вызначэння фальклорна-этнаграфічных зон, вывучэння лакальна-рэгіянальных парадыгмаў.

***Маргарыта Латышкевіч***

## ПЕРСПЕКТЫВЫ РАЗВІЦЦЯ ПСІХАФАЛЬКЛАРЫСТЫЧНАГА КІРУНКУ

У апошнія некалькі дзесяцігоддзяў усталявалася тэндэнцыя да ўзнікнення новых навук і кірункаў на стыку ранейшых дысцыплін, якія з цягам часу ўжо не поўнасцю адпавядаюць задачам сучаснасці. Нагадаем, што падобным чынам узнікла на пачатку 50-х гадоў XX ст. псіхалінгвістыка, якая на сёння арганічна ўлілася ў сістэму навук.

У роўнай жа ступені адпавядае задачам сучаснасці і псіхафалькларыстычны кірунак у сучаснай фальклярыстыцы. Падобная інтэгратыўная па сутнасці дысцыпліна прадвызначана неабходнасцю асэнсаваць тыя праблемы, для вырашэння якіх традыцыйны падыход падаецца недастатковым. У прыватнасці, пад такой праблемай мы разумеем характарыстыку не толькі саміх тэкстаў фальклору, але асобы-стваральніка і тых шляхоў, па якіх ідзе прадуцыраванне тэкстаў. У сувязі з гэтым найбольш мэтазгодным падаецца пункт гледжання на фальклор як на з'яву менавіта псіхалагічнага характару – гэта значыць з'яву, што не паддаецца аднабаковаму аналізу.

У рэчышчы пануючага ў сучаснай навуцы антрапацэнтрычнага падыходу натуральна было б абвясціць аб'ектам даследавання менавіта чалавека. Толькі аналіз яго псіхікі, творчай інтэнцыі і патэнцыялу дазволіць нам давесці фенаменальны характар фальклору. Заўважым, што даследаванні павінны тычыцца не толькі канкрэтнага індывіда як носьбіта і захавальніка фальклорных традыцый (а таксама – эксперыментатара і наватара), але і так званую *асобу-стваральніка*, абагульнены вобраз, своеасаблівы патэрн творчых маніпуляцый з фальклорам. Спецыфіка асобы-стваральніка можа быць высветлена на аснове аналізу вынікаў распрацаваных тэстаў, скіраваных на высвятленне псіхалагічных і аксіялагічных фактараў успрымання беларускага фальклору. Апошні – непасрэдны прадмет даследавання, крыніца матэрыялу, перадумова і аснова для эксперыментаў.

Асноўныя мэты новай дысцыпліны, на наш погляд, наступныя:

1) апісанне і вывучэнне спецыфікі функцыянавання фальклору як псіхалагічнага феномену (з улікам уздзеяння ўнутраных (псіхалагічных) і знешніх (сацыяльных) фактараў);

2) выяўленне ўласцівасцей і структураванне асобы-стваральніка, апісанне яе эвалюцыі і развіцця (так званая *ядзерная структура асобы*).

Верагодна, падчас далейшай працы з матэрыялам будуць удакладняцца (спецыялізавацца) мэты і задачы даследчыкаў, развівацца тэрміналогія. Звернем увагу на адпаведны для гэтага патэнцыял псіхафалькларыстыкі.

Як можна зразумець з заяўленай назвы, у першую чаргу даследчая праца арыентаваная на выкарыстанне метадалагічных дасягненняў псіхалогіі – ад тэорыі архетыпаў (К. Г. Юнг) да псіхалогіі мастацтва і фантазіі. На аснове здабыткаў папярэднікаў і грунтуецца псіхафалькларыстыка (далей – ПФ).

Канкрэтна нашыя доследы скіраваныя ў першую чаргу на вывучэнне асобы-стваральніка, у прыватнасці яе ядзернай структуры. *Пад ядзернай структурай асобы мы разумеем суадносіны традыцый і наватарства, архаікі і позніх утварэнняў унутры крэатыўнай сферы псіхікі асобы-стваральніка.*

Намі быў распрацаваны невялікі тэст, узор якога надалей дазволіць стварыць сістэму тэстаў для вызначэння структуры псіхікі канкрэтных выканаўцаў на аснове адпаведнасці іх адказаў запрагназаваным рэакцыям.

Задача: падабраць пару па гендэрнай прыкмеце.

| Слова | Прагназаваны варыянт | Ілюзорны варыянт |
|---|---|---|
| лябёдушка | селязень | лебедзь |
| баба | дзед | – |
| царэўна | царэвіч | цар |
| Мар'я | Іван | Мар'ян |
| сястрыца | брат | – |
| ведзьма | вядзьмар | вядзьмак |

У тэставае заданне, прапанаванае для выканання, была дададзеная крытычная пара *каліна-явар*, якая генетычна належыць да польскага фальклору. З'яўленне рэакцыі *явар* у гэтым выпадку варта вытлумачыць не столькі прамым уплывам польскай традыцыі, колькі апасродкаваным – праз літаратуру (Я. Купала).

Назоўнікі жаночага роду наўмысна вынесеныя на першае месца (насуперак традыцыі): такім чынам у нас ёсць магчымасць праверыць трываласць сувязей у канкрэтнай пары (шляхам адваротнага ўзнаўлення).

Некаторыя пары (тут, у прыватнасці, пара *баба – дзед*) з'яўляюцца простымі – гэта значыць, верагоднасць з'яўлення прагназаванага варыянта тут блізкая да 100 адсоткаў.

Папярэдне было праведзена эксперыментальнае тэсціраванне, у якім прынялі ўдзел дваццаць чалавек.

Вынікі згаданага тэсціравання наступныя (акрэслім найбольш знакавыя выпадкі):

1. Размеркаванне варыянтаў у пары *лябёдушка-селязень:*




2. Размеркаванне варыянтаў у пары *баба-дзед* стопрацэнтнае (усе выканаўцы выбралі прагназаваны варыянт).

3. Размеркаванне варыянтаў у пары *явар-каліна*:



Заўважым, аднак, што вынікі гэтага тэсціравання нельга лічыць канчатковымі і вызначальнымі, паколькі неабходна мець болей практычнага матэрыялу.

Безумоўна, у падобных заданнях неабходна ўлічваць узрост і сацыяльны статус выканаўцы, якія не могуць не паўплываць на выбар тых або іншых варыянтаў. Пазней вынікі такіх тэсціраванняў могуць быць выкарыстаны для даследавання параўнаўчага характару, каб выявіць адрозненні паміж найбольш частотнымі рэакцыямі ў розных узроставых і сацыяльных групах выканаўцаў. Зазначым таксама, што прапанаваныя апытальнікі могуць быць дапоўнены і пашыраны.

Такім чынам, перад даследчыкамі пастаноўка новых пытанняў у рэчышчы псіхафальклырыстычнага метаду адкрывае новыя гарызонты даследавання. Відавочна, што дасягненні ў гэтым кірунку могуць мець і практычнае прымяненне ў галінах псіхалогіі, сацыялогіі, паколькі праліваюць святло на розныя аспекты асобы сучаснага чалавека, яго стасункі з нацыянальнай традыцыяй і схільнасць да ўласнай творчасці. Гэта, натуральна, яшчэ раз падкрэслівае мэтазгоднасць распрацоўкі новага кірунку і яго непасрэдную каштоўнасць.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Красных, В. В.* Этнопсихолингвистика и лингвокультурология / В. В. Красных. – М., 2002.
2. Легенды і паданні / склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі; рэд. тома А. С. Фядосік. – Мінск, 2005.
3. *Розет, В. В.* Психология фантазии / В. В. Розет. – Минск, 1997.
4. *Фрейд, З.* Психология бессознательного / З. Фрейд. – М., 1989.

# Раздзел 2

# КЛАСІЧНАЯ ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА

*Татьяна Морозова*

## ПОЭЗИЯ ПЕРИОДОВ КАЛЕНДАРНЫХ ПЕРЕХОДОВ: АСПЕКТЫ ФОЛЬКЛОРИСТИЧЕСКОГО ИССЛЕДОВАНИЯ

В XX веке произведения фольклорного наследия неоднократно становились объектом исследования литературоведов, однако в последнее десятилетие интерес к ним еще более актуализировался, причем приоритет отдается, как правило, наиболее древним жанрам типа заговоров или аграрно-обрядовых песен, что обусловлено общей на сегодняшний день для теоретиков тенденцией обращения к проблемам исторической поэтики. Данная работа не является исключением.

Исходя из идеи возникновения словесного искусства в контексте первобытного ритуала, в неразрывной связи с обрядовым действием, танцем и музыкой, в качестве объекта исследования мы решили выбрать для анализа такие виды календарно-обрядовой поэзии, как масленичные, троицкие, кустовые и русальные песни. Общепризнано, что обрядовая поэзия вообще, и календарно-обрядовая – в частности, в связи со своим ритуально-регламентированным использованием и постоянной востребованностью смогла сохранить в себе особенности древнего мировосприятия и миропонимания, «зашифрованные» на уровне тропов, образов и композиции соответствующих вербальных текстов. Между тем необходимо помнить, что для понимания поэтики архаического периода нужно учитывать фактор устности произведения. Как известно, «возобновленный текст – это всегда только один из вариантов, использованные стилистические и сюжетно-тематические стереотипы с допустимой их модификацией, дополнением, редукцией и заменой» [11, *52*]. Соответственно, можно считать, что «в памяти исполнителя значительно чаще сохраняется не заученный текст, а какая-то доминантная структура, его более или менее подробный контур, который имеет широкие валентные возможности для использования стереотипов» [11, *53*]. Именно эти структуры сохранила под напластованиями позднейших нововведений древняя аграрная поэзия. Между тем данное обстоятельство проявляется в разных ее видах. Например, в текстах колядок, купальских, жатвенных песен, фонд которых определяется необычайно разнообразным составом, выразительно наблюдается трансформация поэтики, активное использование в схемах текстов нововведений на всех уровнях – лексическом, образном, сюжетно-тематическом, что обусловлено влиянием со стороны хри-

стианства. Сосуществование в рамках одного текста древнеязыческого образа Коляды и христианских – Сына Божьего, Девы Марии и Господа (колядки), Купалы и Петрищи (купальские песни), Спарыша и Господа (жатвенные песни) в значительной степени повлияло на словесную парадигму поэтики: она приобрела определенную утонченность тропики, большую стилистическую приукрашенность в сравнении с ее древним состоянием.

На фоне названных видов песенные тексты масленичной и семицко-троицкой обрядностей характеризуются относительной стабильностью поэтики, несмотря на некоторые эволюционные наслоения, что тесно связано с особенностями их состава, который не отличается многочисленностью зафиксированных произведений и тематическим разнообразием. Скорее всего, это обусловлено, с одной стороны, древне-магическим характером масленичных, троицких, кустовых и русальных песен, с другой – их связью с природными переходными периодами. Известно, что магическое слово – слово сакральное, и потому оно не может быть случайным. «Магическую цель, как правило, имел и обряд в целом, и его словесная часть, – утверждает Е. Мелетинский. – Магия слова способствовала его повторению. Одни и те же слова (или магические формулы), их вариации могли быть в ряде случаев обращены к различным духам, тотемам, богам» [11, *44*]. При этом магическая сила аккумулировалась и рассредоточивалась в сакральном пространстве, стимулируя повторение и варьирование словесно-смысловых комплексов по определенному структурному образцу, который не поддавался трансформации, что, в свою очередь, не способствовало обогащению количественного состава (сакральный текст – самодостаточный, он не требует синонимических образований). Во-вторых, масленичные, троицкие, кустовые и русальные песни объединяет единая фундаментальная идея переходности, которая характеризует временно-календарный период празднования соответствующих обрядностей (масленичной и семушно-троицкой). Наличие пороговой ситуации, которая пронизывает основные элементы названных фольклорно-этнографических комплексов, повлияла на особенности семантики, функционального предназначения и поэтики песенных текстов. Так, например, представления об окончании одного сезона (поры года) и наступлении другого имели, как правило, ярко выраженную негативную семантику, которая отождествлялась с небезопасным для человека временем. Соответственно, возникала необходимость нейтрализовать представляемую угрозу единственно доступным древнему человеку способом – исполнением определенного обрядового действия и влиянием сакрального (магического) слова.

Впервые на специфическое место в календаре Масленицы и семушно-троицкой обрядности обратил внимание Е. Аничков в работе «Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян» (1903, ч. 1), указывая, что последняя сохранила «у славян и новогреков древнее название Русальной недели» [2, *52*]. Он подчеркнул и ее промежуточность между двумя циклами, проведя параллель восточнославянской Масленицы с Карнавалам у романских народов, немецкой Fastnacht. Однако вопрос, относить ли к весенним песни масленичной и троицкой обрядностей, остался нерешенным. Значительно позднее, в 70-е годы XX века, к проблеме подобия масленичных и троицких обрядов и песен обратилась

исследовательница культуры язычества Н. Велецкая в монографии «Языческая символика славянских архаических ритуалов» (1978). Изучая в основном масленичную обрядность русских, она подчеркнула, что «сёмуха в некоторой степени воспринималась как бы реминисценцией масленицы» [4, *129*], причем особенно важными посчитала аналогии, связанные с «проводами».

И. Крук отмечает, что исследователи белорусского, русского и украинского календаря (Е. Аничков, Е. Романов, П. Бессонов, Е. Карский, В. Пропп, Г. Барташевич, А. Лис, А. Лозко и др.), изучая отдельные обрядовые комплексы, чаще всего придерживались принципа хронологической последовательности [9, *15*]. Все оно обращали внимание на то, что праздничная культура белорусов сохранила древнейшую приуроченность главных праздников и обрядов к солнечному календарю. Как утверждает В. Литвинко, Великдень, Купалье, Деды и Коляды символизируют весенне-осенние равноденствия и летне-зимние солнцевороты [10, *20*]. Основным критерием данного разделения исследователь считает глобальную классификационную оппозицию [**холод – тепло**]. Соглашаясь с правильностью данной трактовки, тем не менее необходимо заметить, что в календаре существует ряд праздников переходного характера, находящихся на пограничье пор года. В связи с этим они могут быть отнесены к следующим переходным периодам на основе модификаций оппозиции [**холод – тепло**]: [**от зимы к весне**] (Масленица, Призывание (Гуканне) весны), [**от весны к лету**] (сёмушно-троицкие «зеленые праздники» Куст, Троица, Русальная неделя), [**от лета к осени**] (спасовские праздники) и [**от осени к зиме**] (пилиповские праздники). Однако среди всех пор года именно весна является носителем будущего благополучия, поскольку ей принадлежит исключительная роль в возрождении природы, жизни. По свидетельству Е. Аничкова, весна – «время переходное, пролетье, главным его признаком является постепенное, длительное оживание природы, и чем ближе к лету, тем более наглядными и важными в хозяйственном плане становились те явления, которые притягивают к себе внимание человека, живущего близко к природе [2, *55 – 56*]. Поэтому неслучайно именно на весенний цикл выпадает такое большое количество праздников и обрядов: Призывание (Гуканне) весны, Великдень, Юрий, сёмушно-троицкие «зеленые праздники» (Куст, Троица, Русальная неделя). Некоторые исследователи (М. Гринблат, А. Лис, В. Сысов, В. Литвинко) в комплекс весеннего цикла включают также и Масленицу. А. Лис подчеркивает убедительность мнения, согласно которому «масленичные праздники в дохристианские времена относились к весеннему циклу, но позднее Великим постом были оттянуты к зимнему сезону [11, *4*; *78*]. Действительно, календарное время празднования Масленичной недели – весна, первые дни марта. Он отмечался как праздник проводов зимы и встречи весны и потому вместе со своей обрядностью стоял на пограничье двух пор года. Данное обстоятельство – временная неопределенность или, другими словами, временная переходность – объединяет масленичные песни с песнями троицкими, кустовыми и русальными, которые вместе с праздниками и обрядами Масленичной и Семицко-троицкой недель исполняются в конце зимы / весны – в начале весны / лета, это значит, находятся на границе двух пор года. В связи с этим необходимо дополнить, что анализируе-

мые переходные календарные периоды (от зимы к весне и от весны к лету) характеризуются как время, небезопасное для природы и человека. Так, некоторые современные исследователи (А. Байбурин, Е. Райкова) по отношению к календарному празднованию Масленицы утверждают, что этот период «отрицательно влиял на биоритмы всего живого», «являлся той экстремальной ситуацией, которая представляет собой пограничье, момент хаоса, бесструктурности и дезорганизации» [14, *259*]. Если учесть, что по времени проведения Масленица у славян совпадала с концом Старого года (Е. Аничков, П. Бессонов, А. Байбурин, Е. Райкова), то станет понятно, почему его определяют как специфический результат. По отношению к периоду конца весны – начала лета Е. Аничков отметил, что моменты цветения ржаных полей повсеместно у древних народов считались небезопасными. «Множество предостережений, целый ряд оберегающих очищений был необходим, чтобы с цветением не случилось никакой беды» [2, *304*]. Между тем заметим, что в представлениях восточных славян подобная однозначная семантика деструктивности не проявилась. Достаточно вспомнить существование у белорусов и русских таких слов, как предвесне и пролетье, которые указывают не на резкий, контрастный переход от одной поры года к другой, а на их перетекание, связь, объединение признаков пор года. Данный аспект указывает на специфику выделенных календарных периодов «от зимы к весне» и «от весны к лету».

Понятие переходного периода в фольклористике использовалось, с одной стороны, в связи с обрядами инициации, родинной, свадебной и похоронной обрядностями; с другой стороны – с обрядами и праздниками календарного года. Так, А. ван Геннеп, основатель концепции «rites of passage», относит к переходным периодам обряды, которые сопровождают всякую перемену места, состояния, социального положения, возраста и т. д. [17, *9*].

В 90-е годы XX века русская исследовательница Т. Агапкина, анализируя концепты движения в обрядовой мифологии восточных славян, в частности, моменты изгнания и уничтожения, рассматривала начало весеннего календарного цикла в контексте переходного периода. Она указала, что его квинтэссенцией является наступление весны и новолетья, воссоздание мира и времени каждый год [1, *213*].

В отношении белорусской традиционной культуры названную концепцию использовала И. Казакова, обратив внимание на идею универсального вселенского представления – через смерть к новому возрождению. Как видим, данный термин может быть приложен к календарным обрядам Масленичной недели и «зеленых праздников», которые по временному признаку находятся на пограничье двух пор года. Переломность момента, переходность, промежуточность – а следовательно, и неоднозначность – заключены даже на лексическом уровне в самих названиях праздничных недель: Масленичной – Кривая, Пустая, Прощальная (Крывы, Пусты, Развітальны тыдзень) [3, *54*] и Русальная – Граная (по-белорусски – *Граны* тыдзень, находящийся на границе, производное от «грань» [16, *106*], хотя существует и другое мнение – происхождение слова от *играть, гули*), Проводная [3, *86*]. Это подтверждает проведенный нами анализ обрядностей Масленичной недели и «зеленых праздников», который выявил их

функциональную и семантическую связанность, характеризующуюся наличием пяти типологических признаков:

1. календарное время празднования и связанные с ними функции «проводов (…)» и «перехода от (…) к (…)»;
2. продолжительность празднования – неделя;
3. аграрный характер, брачно-любовные мотивы обрядов и связанная с ними идея продолжения рода;
4. семантика соломенного чучела-куклы;
5. общая атмосфера праздничности и веселого настроения.

Кроме того, идея переходности присутствует не только во всех пяти выделенных признаках названных комплексов, но и в песнях – на структурном уровне.

Принимая во внимание все вышесказанное, считаем целесообразным далее дифференцировать масленичные, троицкие, кустовые и русальные песни как тексты периодов календарных переходов. Уточнение понятия переходного периода необходимо как для частной конкретизации по отношению к конкретному материалу, так и для удобства проведения дальнейшего исследования (возможно использование аббревиатуры ПКП).

Следует отметить, что выделенные типологические признаки – не просто совокупность аналогий; они образуют систему закономерных соответствий, которые, согласно теории Б. Путилова, обусловлены такими факторами, как связь с традиционным народным бытом, с представлениями о мире, внутренней преемственностью развития фольклора и его элементов в целом [13, *13*]. Поэтому и обряды масленичной и семушно-троицкой обрядностей со свойственными им устойчивыми структурами обуславливают не только собственно ритуальную специфику связанных с ними песен, аспекты их содержания и строения, моменты исполнения, но и структуру, характер действительности, которая в них изображается, набор мотивов, систему характеристик и признаков. Так, например, среди обрядовых действий Масленичной недели особенно выделяется обряд «Проводов Масленицы», который семантически и функционально соотносится с обрядом «Проводы русалки». Функции названных обрядов соответствуют формулам «проводы зимы/весны» и «переход от зимы/весны к весне/лету». Семантика проводов в обоих случаях одинаковая: сожжение (закапывание) антропоморфного изображения холода – куклы Масленицы и соломенного чучела Русалки символизирует их временную смерть во имя возрождения природы (Масленица) и обеспечения хорошего урожая (Русалка), что соответствует мифологическому закону: через смерть – к новому рождению. Таким образом, сожжение Масленицы и Русалки как заключительные моменты переходного периода воплощало идею победы жизнеутверждающих сил.

Интересно, что «Проводы Масленицы» в записях собирателей отмечалась как кульминация всего праздника, причем сожжение фиксировалось без песенного сопровождения. Между тем существует текст песни в сборнике «Белорусских народных песен» П. Шейна (1874), где указывается на этот же момент и семантику «закапывания». Исходя из его содержания, можно допустить, что обряд имел как минимум два звена: подготовка к «проводам» («*Сырам гору*

*ўкладалі, / Маслам зверху палівалі, / Штоб нашы горушкі былі крутыя, / Наша ж Масленіца з гор катліва»* [15, № 125]) и констатация факта «проводов» (*«А мы Масленіцу пракацілі, / У пясок яе закапалі, / Ды на лета яе прыбралі»* [15, № 125]), после чего говорили, что ***провели*** Масленицу.

Несмотря на инвариантное пятизвенное строение обряда «Проводы Русалки» (в вариантах их количество меняется от 2–3 до 5), песнями сопровождаются только три звена: вождение хороводов вокруг Русалки [7, *128-129*], собственно проводы в рожь (*«Правяду русалку ў ядраное жыта»* [5, *220, 222*]), разрывание одеяния Русалки *«Завілі вяночак»* [7, *129*]). Основное внимание направлено на непосредственный момент проводов, что зафиксировано даже лексически (*проведу*), а также на констатацию завершения обряда (сравним: в кустовых песнях – «прывялі», в троицких – *«З табой куміліся, не браніліся»*) [5, № 224]). И это закономерно. Именно на вербальном уровне закреплялись временная и акциональная стороны обрядов «проводов», относящихся к периодам календарных переходов, а структурное разделение масленичных и русальных песен на две части выразительно соответствует «шагам» названных обрядов и их семантике [8].

В случае с «Вождением Куста» обряд состоит из двух звеньев: подготовка к обряду (*«Ой, мы ж былі ў харошаму й бору, І звілі куста ж із зялёнага клёну»* [5, № 260]) и само вождение (*«Прывялі куста зеляненькага клёна»* [5, № 262], *«Да чэраз сяло Багданаўскае / Шло войска ўсё ж дзявоцкае»* [5, № 25]), которые сопровождаются соответствующими песнями.

Троицкие обряды «Кумления» в качестве основных компонентов включают три звена: завивание верхов двух березок (подготовка обряда, например, *«Пойдзем, дзевачкі, / Мы ў гай гуляць, / Вянкі завіваць»* [15, *135*]), прохождение парами под этими «воротами» и обмен поцелуями (*«Мы пакумімся, пагалубімся, / Ах, да люлі, люлі, пагалубімся: / Ты мне кума, а я табе кумка, / Ах, люлі, люлі, а я табе кумка»* [5, № 224]). В некоторых вариантах последним звеном обряда «Кумления» являлось гадание на венках, которые бросали в реку (*«Да вы кумушкі, вы галубушкі, / Падружанькі мае, / Кумецеся, да любецеся / Да любеце й мяне … / Як будзеце вяночкі віць, / Савеце і мне, / Як будзеце у рэчку пускаць, / Пусціце і мой»* [5, № 229]).

Таким образом, можно сказать, что масленичные, троицкие, кустовые и русальные песни, благодаря своей относительно стабильной поэтике, могут быть использованы в качестве фактического материала, «диахронный» срез которого позволит проанализировать особенности генезиса и особенностей становления системы поэтики (их словесной парадигмы, образного строя и композиции).

## ЛИТЕРАТУРА

1. *Агапкина, Т. А.* Концепт движения в обрядовой мифологии славян (на материале весеннего календарного цикла) / Т. А. Агапкина // Концепт движения в языке и культуре. – М., 1996.

2. *Аничков, Е. В.* Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян / Е. В. Аничков // Сборник ОРЯС ИАН. Т. 74. № 2. 1903. Ч. 1.

3. Беларускі народны каляндар / уклад. А. Лозка. – Мінск, 1993.
4. *Велецкая, Н. Н.* Языческая символика славянских архаических ритуалов / Н. Н. Велецкая. – М., 1978.
5. Веснавыя песні / склад.: Г.А.Барташэвіч. – Мінск, 1979.
6. *Івахненка, Т.* «Ах, мая русалачка, летні ты цвяточак …». Абрад «Провады русалкі» ў сучасным выяўленні / Т. Івахненка // Роднае слова. 1995. № 5. С. 123 – 130.
7. *Івахненка, Т. А.* Тыпалогія беларускіх абрадавых песень перыяду каляндарных пераходаў / Т. А. Івахненка // Мова – Літаратура – Культура: Матэрыялы міжнар навук. канфер., Мінск, 22-23 верасня 1998 г. / Беларускі дзярж. універсітэт. У 2-х ч. Ч. 2. – Мінск, 1999.
8. *Крук, Я.* Сімволіка беларускай народнай культуры / Я. Крук.– Мінск, 2000.
9. *Ліцьвінка, В.* Святы і абрады беларусаў / В. Д. Ліцьвінка. – Мінск, 1998.
10. *Ліс, А. С.* Вясна / А. С. Ліс // Земляробчы каляндар (Абрады і звычаі). – Мінск, 1990.
11. *Мелетинский, Е. М.* Статус слова и понятие жанра в фольклоре / Е. М. Мелетинский, С. Ю. Неклюдов, С. Е. Новик // Историческая поэтика. Литературные эпохи и типы художественного сознания. – М., 1994.
12. *Путилов, Б. Н.* Методология сравнительно-исторического изучения фольклора / Б. Н. Путилов. – Л., 1976.
13. *Райкова, А. М.* Масленіца ў сістэме каляндарнай абраднасці / А. М. Райкова // Славянскія культуры: гістарычны вопыт і сучасныя праблемы / Зб. арт. / Рэдкал.: Марцэлеў С. В. (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1996.
14. *Сысоў, У. М.* З крыніц спрадвечных / У. М. Сысоў.– Мінск, 1997.
15. *Шейн, П.В.* Белорусские народные песни / П. В. Шейн. –СПб., 1874.
16. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т.3. Г-І. – Мінск, 1985.
17. *Gennep, A. van*. The Rites of Passage / A. Gennep. – L., 1961.

***Римма Ковалева***

## ИНТЕГРАТИВНЫЕ ПРОЦЕССЫ В ФОЛЬКЛОРЕ

Парадокс фольклорных текстов состоит в успешном соединении, казалось бы, несоединимого – статики и динамики. С одной стороны, они традиционны до неподвижности, эстетически завершены до каноничности, с другой – не имеют твердых границ, подвижны, изменчивы, текучи. По словам Ю.М. Лотмана, «система с канонизированным выражением и столь же стандартизированным содержанием должна была бы быть полностью избыточной. За счет чего создается непредсказуемость этих текстов, при условии того, что значимо выполнение правил на всех уровнях, – неясно» [4, *425]*. Он предположил, что дело в автокоммуникации, когда в роли адресанта/адресата, отправителя/получателя выступает, условно говоря, одно лицо – «национальный организм или же человечество в целом». Тогда корреляция вводимой информации с предшествующей дает на выходе «значительный прирост информации, приблизительно определяемой понятиями «открытие», «вдохновение» [4, *425 – 426*].

Тезис ученого находит подтверждение в фольклорных материалах, где стабильные структуры расширяют семантику благодаря проекции социально-психологических переменных. Например, мифологическая структура человек – птица становится основой тропа птица – символ человека, но в любовных песнях выбор конкретного образа зависит от психотипа парня: в одинаковой ситуации по-разному поведут себя «соловей», сконцентрированный на своих душевных переживаниях, «орел», которому свойствен мужской эгоизм, и «сокол» – тип душевно щедрого, открытого, ответственного за свои слова и поступки человека. Процесс взаимодействия фольклора с внешней информационной средой, представленной природными, культурными, психологическими феноменами, можно определить как интегративный. Выявление сетки интегрантов зависит от контекста и предполагает выход за границы отдельного факта, текста, явления. Существенным моментом интегративных процессов воздействия на фольклор внешней по отношению к его текстам информационной среды является формирование, наполнение, движение эстетического объекта, т. е. художественного мира произведений. Интегративные процессы, таким образом, представляют собой адаптивный механизм, обеспечивающий жизнеспособность фольклора в новых условиях, опосредованных фольклорным сознанием.

*Языковая интеграция.* Фольклор не переходит в реликт благодаря языковой адаптации. Наши современники испытывают затруднения при чтении старобелорусских текстов, но сколь бы древними ни были фольклорные жанры, потомки всегда имеют дело с более или менее понятными по языковому оформлению произведениями. Секрет прост: в своих дальнейших судьбах фольклор сливается с движением местных говоров, хотя и транспортирует ряд окаменелых слов и образов, значения которых не в силах объяснить сами исполнители. Но не все так безнадежно. Например, нам удалось выяснить значение слова «чындокора» (орнаментальное украшение на кожухе) в колядной песне, посвященной хозяину, – хотя уже в начале XIX в. оно вызывало удивление у собирателей.

Языковая интеграция сопровождается сохранением мифологических структур, которые просто обновляют свое выражение при сохранении семантики. Например, общеизвестна связь глаголов свататься и охотиться (*паехаць на ловы*, *куну сачыць*), свататься и косить траву (*хто выкасіць, той выпрасіць дзяўчыну ад бацькоў*).

*Мифологическая интеграция.* Говоря об условиях взаимодействия между разнородными элементами, Ю. Лотман ограничился двумя побудительными причинами, вызывающими «интерес к какой-либо вещи или идее и желание ее приобрести или освоить… Первое можно определить как «поиски своего», второе – как «поиски чужого» [4, *604*]. Таким «чужим» был для фольклора миф. По большей части аморфный, для своего «овеществления» он нуждался в материале – среди прочих им становится фольклорное слово, что потом позволило Е. Мелетинскому считать миф древнейшей частью словесного фольклорного наследия и настаивать на его повествовательном характере.

В синкретическую эпоху интеграция мифа в фольклор сопровождалась сохранением тождественности формы и содержания. Фольклорный образ яв-

Макарцоў, шматзначным тэатралізавана-драматызаваным гульнёвым дзеянням [6, *146*]. Аднак і ў іх выразна прасочваецца ідэя шчаслівага шлюбу – адна з важнейшых характарыстык абраду «Провады русалкі».

Песні з'яўляюцца сутнасным кампанентам русальнай абраднасці. Нягледзячы на невялікую колькасць іх зафіксаваных тэкстаў (прыблізна 30 арыгінальных твораў), яны вылучаюцца асаблівасцямі складу. Згодна з функцыянальнай класіфікацыяй, толькі рытуальныя песні маюць завершаную жанравую форму як неад'емная частка абраду і русальнага карагоду. Заклінальныя і велічальныя песні фактычна адсутнічаюць. Русальныя карагодныя песні спалучаюцца з такім відам карагоду, як «крывы» танок, але яны не маюць выразнай жанравай тыпалогіі, у мастацкім плане вагаючыся ад рытуальнасці («Завілі вяночак») да лірычнасці («Васілёк»).

Усё адзначанае ўскладняе класіфікацыю русальных песень, якая дагэтуль належным чынам не праведзена. На нашу думку, яна немагчыма без уліку часава-функцыянальных прымет русальных песень. Так, абрад «Провады русалкі» знаходзіцца ўнутры часавых каардынат Русальнага тыдня: другі тыдзень пасля Тройцы – Пятроўскія запускі. Песні тыпу «Правяду русалку», «Ах, мая русалачка» выконваюцца падчас здзяйснення абрадавых дзеянняў. Астатнія песні («На граной нядзелі», «Сядзела русалка на белай бярозе», «Русалачкі-зямляначкі») спяваюцца на працягу ўсяго Русальнага тыдня і дэманструюць толькі часавую функцыянальнасць і асацыятыўную сувязь з абрадам «провадаў», утвараючы з ім агульнае семантычнае поле.

Такім чынам, русальныя песні падзяляюцца на дзве групы: 1) песні Русальнага тыдня, звязаныя з абрадавымі дзеяннямі не часава, а семантычна; 2) песні абраду «Провады русалкі». Адзначаныя групы не перасякаюцца, за выключэннем аднаго выпадку, калі выканаўцы падчас абраду выконвалі песню «На граной нядзелі» (Добрушскі раён).

У складзе русальных песень вылучаюцца два кантамінаваныя тэксты, утвораныя ў выніку аб'яднання матываў розных русальных песень, а таксама ўласна русальных з купальскімі і жніўнымі. У першым выпадку кантамінацыя мае выпадковы, нематываваны характар, паколькі аб'ядналіся ў адзін твор тры самастойныя песні з ярка выяўленымі апазіцыямі пачатку і канца. У другім выпадку кантамінацыя міжжанравая: у адзін твор аб'ядналіся русальны («На граной нядзелі»), купальскі («Пятро сына жэня, Ілля дачку 'ддае») і жніўны («На новай сялібе пшаніца стаяла») сюжэты. Але і такая кантамінацыя не можа лічыцца заканамернай, нягледзячы на структурную аформленасць і змястоўна-сэнсавую дасканаласць, паколькі гэта толькі адзінкавы твор, а тэксты русальных песень самі па сабе традыцыйна ўстойлівыя, што ўказвае на выпадковы характар кантамінавання. У сувязі з гэтым можна меркаваць, што русальная абраднасць належыць да ліку замкнёных у сабе культурных з'яў.

Такім чынам, пры вывучэнні русальнай абраднасці беларусаў пастаноўка і вырашэнне такіх праблем, як акрэсліванне арэала распаўсюджання (з улікам ядра, перыферыі і кола вераванняў пра русалку), распрацоўка дакладнага прынцыпу класіфікацыі русальных песень і выяўленне іх спецыфікі, магчымасць разгляду русальнай абраднасці ў тыпалагічным плане з

масленічнай на аснове прыналежнасці да пераходных перыядаў дазваляе лепш зразумець і растлумачыць гэты феномен народнай культуры.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Барташэвіч, Г.* Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя / Г. Барташэвіч. – Мінск, 1985.

2. *Виноградова, Л.* Ритуалы типа «Вождение ряженого» / Л. Виноградова // Philologia slavica. – М., 1993.

3. *Елатов, В*. Песни восточнославянской общности / В. Елатов. – Минск, 1977.

4. *Івахненка, Т.* «Ах, мая русалачка, летні ты цвяточак...» / Т. Івахненка // Роднае слова. 1995. № 5.

5. Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы: Весенние праздники. – М., 1977.

6. *Макарцоў, М*. Русальны тыдзень на Гомельшчыне / М. Макарцоў // Беларуская літаратура. 1988. Вып.16.

7. Повесть временных лет по Лаврентиевскому списку. – СПб., 1910.

8. *Романов, Е.* Белорусский сборник / Е. Романов. – Вильно, 1912.Вып.8.

9. *Соколова, В*. Весенне-летние календарные обряды русских, украинцев, белорусов / В. Соколова. – М., 1979.

10. *Шейн, П.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края / П. Шейн. – СПб., 1887. Т. I. Ч. 1.

***Таццяна Лук'янава***

## МАСТАЦКІ СВЕТ НЯКАЗКАВЫХ ЖАНРАЎ БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛОРУ

Мадэліраванне мастацкага свету няказкавых жанраў беларускага фальклору (легенд, былічак, сказаў, небыліц, анекдотаў) адбываецца па пэўных жанравых схемах, якія выпрацоўваюцца ў выніку функцыяніравання жанравага мыслення носьбітаў вусна-паэтычнай традыцыі, якое, у сваю чаргу, абапіраецца на карціну свету, кардынальна адрозную ад казкавай. Важнейшымі характарыстыкамі мастацкага свету выступаюць асаблівасці часава-прасторавай будовы, падзеі, персанажы і іх функцыі. Пры мадэліраванні мастацкага свету жанраў няказкавай прозы жанравае мысленне стваральнікаў фальклору адштурхоўваецца ад пэўнага дамінуючага аспекту, які служыць своеасаблівым ядром, вакол якога выбудоўваецца ўвесь мастацкі свет фальклорнага твора. Для наратыўнага мыслення асноватворнай з'яўляецца катэгорыя падзеі, таму што «свет героя заўсёды і ў першую чаргу характарызуецца магчымасцю або немагчымасцю здзяйснення ў ім пэўнага роду падзей» [7, *178*].

Калі падзея з'яўляеца той апорнай кропкай у жанравай свядомасці стваральнікаў фальклору, якая фарміруе структуру мастацкага свету сюжэтнага тэксту, узнікае пытанне, што можа выступаць такой кропкай для тэксту

бессюжэтнага. Паводле Ю. М. Лотмана, бессюжэтны тэкст сцвярджае пэўны свет, яго лад і непарушнасць межаў, іншымі словамі, паказвае пэўны *стан* свету, падаючы яго як норму, прынятую ў дадзенай «сістэме каардынат» [5, *288, 289*]. Гэта дае падставы лічыць катэгорыю *стану* функцыянальна аналагічнай *падзее* ў якасці апорнага элемента жанравага мыслення і супрацьлеглай ёй ў якасці кампанента сюжэтабудовы фальклорнага твора.

Пры аналізе мастацкага свету няказкавай прозы, няцяжка заўважыць, што падзеі ў ім могуць быць прынцыпова рознымі. Гэта розніца выяўляецца пераважна ў ступені вылучанасці дынамічнага факта з плыні жыцця, таму падаецца мэтазгодным дыферэнцыраваць падзейны рад на ўласна падзеі, выпадкі і здарэнні. Такім чынам, у жанравым мысленні носьбітаў беларускай няказкавай традыцыі, на нашу думку, магчымы колькасна і якасна розныя варыянты спалучэння чатырох жанравызначальных кампанентаў: стану свету, здарэння, выпадку і падзеі, пры перавазе аднаго з іх. Пры гэтым *падзея* разумеецца як факт сюжэтнага дзеяння твора, які характарызуецца маштабнасцю, наяўнасцю значнага для героя і свету выніка. *Выпадак* – факт, які можа датычыцца аднаго чалавека ці невялікага калектыву (напрыклад, жыхароў вёскі), але значных змен у свеце не выклікае. Яго галоўнай прыкметай выступае паўтаральнасць, тыповасць, таму і вынікі якога-небудзь выпадку не з'яўляюцца абсалютна нечаканымі ні для персанажаў твораў, ні для слухачоў. *Здарэнне*, як правіла, вылучаецца адзінкавасцю і прыватным характарам наступстваў. Астатнія кампаненты могуць прысутнічаць пры дамінантным у большай або меншай ступені, але не быць вызначальнымі. Напрыклад, за легендавай падзеяй перамогі над ворагам можа хавацца кампанент «стан» у выглядзе ўяўлення «свет у стане вайны». Прасачыўшы шляхі рэалізацыі названых кампанентаў у беларускай няказкавай прозе, можна вылучыць жанравыя асаблівасці мастацкага свету, звязаныя з перавагай таго ці іншага кампанента, а разам з тым вызначыць асноўны прынцып і пэўныя заканамернасці функцыяніравання жанравага мыслення носьбітаў няказкавай традыцыі.

Улічваючы своеасаблівую іерархію сюжэтаўтваральных фактараў ад поўнай адсутнасці падзей, калі акцэнт зроблены на стане мастацкага свету, праз здарэнне і выпадак як разнавіднасці падзейнасці да ўласна падзеі, лагічна пачаць аналіз жанраў няказкавай прозы з небыліцы. Руская даследчыца Л. М. Іўлева сцвярджае, што «сюжэтнага апавядання як спосаба мастацкага развіцця падзейнага плану твора яны <небыліцы> не ведаюць» [3, *122*]. Якога ж роду апавяданне і дзеянне ўласцівы небыліцам? Каб адказаць на гэтае пытанне, звернемся да аналізу твораў.

«*Было гэта як я яшчэ не радзіўся. Наняўся я ў пана пчол пасціць – дванаццаць раёў пчол. Трэба было іх раніцай на пашу выгнаць, а вечарам выдаіць і ў вуллі пазаганяць…*» [1, *537*]. У творах падобнага тыпу (небыліц, уключаных ў структуру тэкстаў іншых фальклорных жанраў, часцей за ўсё казак) стыль выкладання прыпадобнены да апавяданняў, якія быццам бы мелі месца ў сапраўднасці ў мінулым апавядальніка. Ствараецца ілюзія, што герой небыліцы рухаецца ў мастацкім свеце твора і здзяйсняе ўчынкі аналагічна героям тых жа сказаў, адрозненні датычацца толькі спецыфікі самога свету. Аднак, пры

бліжэйшым разглядзе відаць, што гэтыя «ўчынкі» і «здарэнні» ўяўныя. На самай справе, нягледзячы на неверагодныя прыгоды героя, нічога ў мастацкім свеце небыліцы не мяняецца. Гэта як калейдаскоп, калі толькі здаецца, што ў ім нешта адбываецца. Таму нанізванне эпізодаў у небыліцы можа быць бясконцым. Перад героем не стаіць выбар ва ўчынках, ён нават у пекле апынаецца зусім нечакана: «*Стаў я з пілавання вяроўку віць. Звіў, скінуў уніз ды спускаюся. Ажно кароткая аказалася вяроўка, да зямлі не дастаець. Тады я адрэжу зверху кусок вяроўкі, а знізу надтачу і спускаюся. Спусціўся, гляжу – не наш свет, пекла…*» [1, *537*].

Прыгоды героя цікавяць слухача ў плане іх неверагоднасці. Незвычайнасць законаў мастацкага свету, зусім непадобных ні да законаў свету ў творах іншых няказкавых жанраў, ні да свету рэальнага, – вось што акцэнтуе жанравае мысленне носьбітаў фальклорнай традыцыі пры стварэнні небыліц. Свет небыліцы характарызуецца адметным хранатопам і прычынна-выніковымі сувязямі. Напрыклад, герой, з якім адбываюцца прыгоды, яшчэ не нарадзіўся. Ён адначасова можа быць закапаны ў зямлю па пояс і бегчы дадому за рыдлёўкай, каб сябе адкапаць. У гэтым свеце рэчы і людзі набываюць незвычныя ўласцівасці, таму ў ім цалкам верагодна, што «*курыца бычка прывяла, парасёнак ды яечка знёс, а бязрукі на лешню панёс, ды голаму за пазуху залажыў, а сляпы ды прыглядваўся, а нямы “каравул” закрычаў, а бязногі ў паход пабяжаў...*» [9]. У той жа час, жанравае мысленне стваральнікаў небыліц не дазваляе іх мастацкаму свету пераўтварыцца ў поўны абсурд. Калі б «нармальнаму» мысленню ўспрымальнікаў не было за што «зачапіцца», то яно проста адмовілася б успрымаць твор. Таму, мадэліруючы мастацкі свет небыліц, жанравае мысленне не перагружае ўяўленне, заўсёды пакідаючы асноўныя канстанты светабудовы рэальнага свету. Катэгорыя *стану* ў якасці зыходнага пункта мадэліравання мастацкага свету дае магчымасць засяродзіць увагу слухачоў на асаблівасцях небылічнага свету, робячы акцэнт на яго «няправільнасці», «скажонасці» ў параўнанні з лагічна ўпарадкаваным светам.

Сюжэты вусных апавяданняў, або сказаў, часцей за ўсё заснаваны на здарэннях, якія на самай справе адбываліся з апавядальнікам, яго блізкім ці добра знаёмым чалавекам, і расказваюцца як жыццёвыя гісторыі. Мадэль мастацкага свету сказаў у найбольшай ступені набліжана да логікі рэальнага свету. Тэксты сказаў невялікія па аб’ёме і ў пераважнай большасці змяшчаюць толькі адзін эпізод – здарэнне, якое адбылося з персанажам. Карціна свету сказа монацэнтрычная. Якія б маштабныя падзеі ні былі кантэкстам асабістага лёсу героя, у сказах яны толькі фон, а мастацкі свет арганізуецца праз сэнсавы цэнтр, у якім знаходзіцца герой (часцей за ўсё герой-апавядальнік). Само здарэнне, звязаныя з ім персанажы і рэчы падаюцца праз прызму адносін да іх героя, яго так званага «індывідуальна-суб’ектыўнага» погляду, за якім, зразумела, знаходзяцца традыцыйныя ўяўленні калектыву.

Кампазіцыйна развіццю дзеяння ў сказах папярэднічае больш або менш разгорнутая экспазіцыя хранатопнага тыпу. У параўнанні з легендамі, дзе апавядач імкнецца дакладна пазначыць месца і час здзяйснення падзей, у сказах назіраецца тэндэнцыя да «дакладнасці даты»: «*Було мне, доньсі, у ту пору*

*трыццаць гадоў. А мужычка майго аж у 1941 годзе забралі ў армію…*» [9]; «*Когда нас спалылы в 1944 году, мы пережили в соседней деревне зиму, в землянцы…*» [9]. Месца дзеяння абазначаецца не так дакладна, як ў легендах (аж да узгорачка або камня пры дарозе), а больш агульна – вёска, паселішча, горад: «*Был в 1910 году в Днепропетровске у помещика на черепичном заводе…*» [9].

Дзеянне ў сказах не адрозніваецца імклівасцю руху, як у многіх легендах, або нечаканасцю пачатку, як у былічках, для яго характэрны роўны, спакойны тэмп аповеду. Дзеянне заўсёды адбываецца ў нядаўнім мінулым, лагічна завяршаецца і не мае выхаду на цяперашняе, сучаснае моманту апавядання. Для параўнання спашлемся на былічкі і легенды, дзе дзеянне, пачаўшыся ў мінулым, можа працягвацца «і па сённяшні дзень», калі апавядач гаворыць, што і зараз у пэўным месцы можна што-небудзь пачуць або ўбачыць). Сюжэтнае дзеянне ў сказах носіць характар *здарэння*: яно адрозніваецца адзінкавасцю, часта выпадковасцю. Наступствы здарэння маюць значнасць звычайна толькі для самога героя ці яго блізкіх: «*Ось як мы жылы. Пошол муй чоловік до врача – і'дэ пан наш порічскій. Да він здраў з нево шапку і піджак, да й прыйшоў мой чоловік голы. Бо не разрешалы ходыты там, где паны ходылы. Пошол на другі дэнь до пана да просіць аддаць шапку да піджака. Да туй і гаворыць: аддай шапку дурню*» [9]. Пры дамінанце катэгоры *здарэння* мадэліраванне мастацкага свету сказаў дазваляе ў поўнай меры ўвасобіць у творах сказавую карціну свету, дзе ў якасці сэнсавага цэнтра выступае «асобны» чалавек з яго эмацыянальна-ацэначнымі адносінамі да свету.

На фоне іншых жанраў народнай прозы сюжэты былічак вылучаюцца напружанасцю, таму што тэма твораў – усё незвычайнае, таямнічае, небяспечнае, удвая страшнейшае таму, што ўяўляецца цалкам рэальным, магчымым. Былічкавая карціна свету дапускае суіснаванне ў прасторы адзінага свету побач з чалавекам іншых істот, адпаведна ў мастацкім свеце былічак прысутнічаюць два тыпы персанажаў: звычайныя людзі і дэманічныя стварэнні. Апошнія могуць не выступаць у дзеянні адкрыта, у сваім сапраўдным абліччы, а прымаць выгляд якой-небудзь жывёлы, прадмета або прыпадабняцца да чалавека. Часам іх прысутнасць пазначаецца толькі праз рознага кшталту пачуццёвыя праявы: незвычайныя гукі, агні, рух паветра і інш. Да групы незвычайных персанажаў прымыкаюць людзі, якія валодаюць звышнатуральнымі здольнасцямі: чараўнікі, ведуны, ведзьмы, знахары. Сюжэтная сітуацыя ў былічках канцэнтруецца вакол стасункаў або сутыкнення, звычайна канфліктнага, гэтых разнародных персанажаў, часам небяспечнага для абодвух бакоў, але ўсё ж такі больш – для чалавека.

Былічкі могуць мець экспазіцыю, якая ўяўляе сабой кароткую «перадгісторыю» здарэння, тлумачэнне абставін, пры якіх яно адбылося, побытавя дэталі, біяграфічныя факты ў інш. Напрыклад: «*Мы спрэжда былі багаты, було ў нас трыццаць коней. Наканец таго заступілі памешчыкі з Масквы, асталась з трыццаці тры толькі. А нас було шэсць братоў, сёмая сястра. Цяперака ацец наш заскучаў, патаму не хватае нам на пракармленія…*» [4, *163*]. Часцей за ўсё экспазіцыйна пазначаюцца час і месца дзеяння (вечар, ноч, світанне; дарога, лес, сядзібныя пабудовы): «*Вот раз, у пілішаўку, <…> пашоў*

*бацька наш пасля абеда <...> ўва'він, памаліўся богу і лёг спаць. Скінуў шубу, паклаў у галава, сам абпёрся на руку і задумаўся аб сваім хадзяйстве, што негдзі чаго ўзяць…*» [4, *163*]. Завязка характарызуецца раптоўнасцю: «*Удруг яўляецца яму старык: куртка чорная, пояс чорны, на галаве каўпак…*» [4, *163*]; «*Адна кабета <...> перастала абсарвавацi шчодрыя вечары. Прала яна, прала раз, аж да паўночы. Удруг чуе, што нехта стукае ў вакно…*» [4, *140*]. Дзеянне разгортваецца імкліва і заканчваецца сціслай, стрыманай развязкай: «*Назаўтра знайшлі спячага смельчака, а пры ім цела пана і скарб. Пахавалі пана, і з таго часу быў ужо спакойны*» [4, *182*]; «*А нашыя мужчыны назаўтрае на адным вале дамоў прыбіліся*» [4, *151*]. У якасці своеасаблівага пасляслоўя сустракаюцца выразы, якія яшчэ раз падкрэсліваюць жудасць таго, пра што распавядаецца, тыпу «*Страхата, не прывядзі бог*» [4, *166*], або дадаткова запэўніваюць слухачоў у сапраўднасці апавядання: «*Дак от гэта нам расказвала жанчына ў Смуроцку да й бажылася, што праўда*» [4, *200*]; «*Вы не верыце, а я бачыла сама, далібо-ж тоі*» [4, *200*].

Сюжэтастваральны кампанент, на першы погляд, мае характар здарэння. Сапраўды, героі пераважнай большасці твораў апынаюцца ў сітуацыі сутыкнення з «чымсьці незвычайным і жудасным» упершыню і аднаразова. Вынікі здарэння звычайна датычацца лёсу толькі гэтых герояў. Напрыклад, гераіня адной з былічак знайшла ў лесе голае дзіця. Пашкадаваўшы яго, жанчына прыкрыла дзіця сваёй вопраткай. Аказалася, што дзіця належыла русалцы, якая ў падзяку надзяліла жанчыну спрытнасцю ў працы: «*З тае пары яна пачала так працаваць, што ўсе дзівіліся, адкуль у яе бяруцца сілы*» [4, *166*]. Калі разглядаць гэтае здарэнне ў кантэксце іншых, становіцца відавочна, што аналагічныя здарэнні адбываліся з героямі многіх былічак. Яны паўтараюцца, а значыць, слухачы і самі персанажы мастацкага свету твораў маюць справу з тыповымі выпадкамі. Больш таго, тыповасць з'явы выяўляецца і на ўзроўні свядомасці апавядальніка, у якой захоўваецца набор прэцэдэнтных сітуацый (напрыклад, нечысць заманівае на згубу, ведзьма шкодзіць і інш.). Па сутнасці, адпаведна з імі ствараюцца і ўспрымаюцца былічкі. Апавядальнік ведае, што выпадкі сутыкнення чалавека са звышнатуральным бывалі і раней, і тое, пра што ён расказвае, – усяго толькі адзін з такіх выпадкаў. Падцвярджэннем могуць служыць падагульняючыя заўвагі тыпу «*Дак от як нячыстая сіла здзекуецца да дурыць людзей*» [4, *150*], «*Во якія кепікі з людзей строіў тут калісьці нячысцік*» [4, *152*], «*Дак во як баба паддзелала*» [4, *174*].

Вядома, сустракаюцца творы, у якіх ключавы кампанент сюжэтнага дзеяння не выходзіць за межы здарэння, як, напрыклад, у былічцы «Заліто», дзе гераіня аднойчы знайшла сцяну сваёй хаты залітай смятанаю. Не ведаючы напэўна, што сталася прычынай такога незвычайнага здарэння, яна можа толькі меркаваць, што, хутчэй за ўсё, тут не абыйшлося без чарадзейства і «*гэта, мабыць, уздзеяно*» [4, *221*]. Аднак такіх твораў няшмат. Як правіла, і ў апавядальніка, і ў герояў былічак няма сумнення ў тым, што ў дадзеным выпадку мела месца ўмяшанне звышнатуральных сіл. Такім чынам, жанравае мысленне стваральнікаў былічак абапіраецца перш за ўсё на прэцэдэнтны

выпадак, «варыянты ўспрымання» якога кладуцца ў аснову фарміравання мастацкага свету твораў дадзенага жанру.

Адметная рыса легенд – вялікая тэматычная разнастайнасць сюжэтаў. Касмаганічна-этыялагічныя легенды адсылаюць да міфічных часоў першастварэння свету, зямлі з яе насельнікамі і чалавека. Этна-сацыяльныя тлумачаць паходжанне народнасцей і сацыяльных з’яў. Рэлігійна-этычныя распавядаюць пра «*час, калі ўсе людзі верылі ў Бога, і ён вельмі часта сходзіў з неба на зямлю*» [9]. Гістарычныя легенды паведамляюць пра факты з мінулага, сацыяльна-бытавыя – пра гаспадарчую дзейнасць або перыпетыі сямейных узаемадачыненняў. Тапанімічныя легенды засяроджваюць увагу на назвах прыродных і культурных аб’ектаў, іх паходжанні і зменах. Разнастайнае і вобразнае напаўненне легенд: ад міфалагічных волатаў і асілкаў, бога, святых, чорта да персанажаў, імены якіх належаць рэальным людзям. Нягледзячы на пазначаную розніцу, легендам уласцівы адзіны спосаб мадэлявання мастацкага свету твораў. Дзеянне легенды, калі б яно не адбывалася адносна моманту расповеду – у нявызначана-мінулым часе («*даўно*», «*вельмі даўно*»), у «гістарычным» і больш канкрэтна пазначаным («*калі татары ваявалі*») ці ў эсхаталагічнай будучыні, – заўсёды мае выйсце на цяперашняе, бо яно наперыўна звязана з ім прычынна-выніковымі сувязямі. Як слушна адзначае А. В. Цітавец, «сутнаснае ядро» легендарнага твора «фарміруецца пры дапамозе апісальнага падыходу, які заключаецца ў тлумачэнні з’явы, факта і г. д.», у працэсе якога «раскрываецца прычынна-выніковая сутнасць пэўнага феномена, як правіла, на пазнавальна-аналітычным узроўні» [6, *432*]. Адсюль спасылкі на рэчы, якія існуюць з часоў па сённяшні дзень і тым самым падцвярджаюць сапраўднасць падзей: «*У паўвярсты ад сяла Арэнічы знаходзяцца вялікія рвы, якія калісьці былі ложам аграмаднай ракі…*» [4, *375*]; «*Там, дзе зараз стаіць Крычаў, некалі людзі прыносілі афяры сваім багам. Але раз прагучаў голас зверху, які загадаў кінуць паганства і хрысціцца. Ад таго крыку і назвалі гэта месца Крычаў*» [4, *272*].

Цэнтр іх сюжэтнага дзеяння – да якой бы жанравай разнавіднасці ні належалі легенды – *падзея*, характар наступстваў якой з’яўляецца значным як мінімум для насельніцтва пэўнага паселішча або мясцовасці, максімум – у сусветным маштабе. Падзеі, вынікі якіх маюць глабальную значнасць, фарміруюць сюжэты касмаганічна-этыялагічных легенд. «*Даўней, кажуць, баранаваў чалавек, а чорт прыйшоў, сеў на барану і чалавек не мог пацягнуць бараны. Тады бог сказаў на чорта, штобы ён быў канём, – і чорт стаў канём, і з тых пор сталі на свеце коні*» [4, *53*]. Гэта заўсёды ўнікальныя падзеі, якія адбыліся аднойчы і больш ніколі не паўторацца, а іх наступствы нельга змяніць ці выправіць: «*Раз дзялілі два браты жыта, і пакуль адзін брат нёс жыта ў засеку, другі адсыпаў яму свайго. Так яны і перасыпалі жыта адзін аднаму. За тое іх Бог узлюбіў і ў месяц узяў. Дык во яны там здароўкаюцца*» [9]. Крыху меншыя па маштабе значнасці падзеі ляжаць у аснове сюжэтаў этна-сацыяльных легенд. Іх наступствы важныя для свету не ў касмічным плане, а ў грамадска-этнічным: «*Чаму цыгане ўсё жыццё не працуюць і маюць добрыя валасы? Таму што перад распяццем Хрыста цыганка схавала цвік, якім яго хацелі*

*прыбіць, у свае валасы. У падзяку Ісус, калі ўваскрос, даў ім пышныя валасы і сказаў усё жыццё не працаваць*» [9].

У цэнтры рэлігійна-этычных легенд знаходзяцца падзеі, якія перадвызначылі пэўны парадак у рэлігійнай сферы. Напрыклад, за тое, што Св. Касьян, сустрэўшы падчас свайго падарожжа па зямлі мужыка, які завяз у гразі з возам дроў, адмовіўся дапамагчы яму, бо «*пажалеў мараць сваю райскую вопратку*», а Св. Мікола, які ішоў разам са Св. Касьянам, дапамог мужыку, Бог прызначыў, што Міколу «*людзі будуць празнаваць два разы ў год*», а Касьяна «*у тры гады раз*» [4, *133*]. Гістарычныя і тапанімічныя легенды часта накладаюцца адна на адну, і падзея, якая сталася вехай гістарычнага жыцця калектыву, выступае крыніцай з'яўлення пэўнай назвы: «*Пад Койданавым рускія войскі разбілі татараў, а сам татарскі атаман Кайдан уцёк. Але рускія дагналі яго там, дзе цяпер Узда стаіць, і ранілі. Падаючы з сядла, Кайдан ухапіўся за ўзду свайго каня і сказаў: "Вось, дзе напаткала мяне смерць". На тым месцы пачалі будавацца людзі, і пасяленне тое назвалі Узда*» [4, *282*].

Жанравае мысленне стваральнікаў легенд здольна мадэліраваць мастацкі свет і пры дамінанце *выпадку*. Звычайна гэта легенды, якія распавядаюць пра цудадзейныя іконы, храмы, што ўвайшлі ў зямлю або праваліліся, паселішчы, што патанулі, і інш. У параўнанні з выпадкамі, якія фарміруюць мастацкі свет былічак, легендавыя знаходзяцца на іншым узроўні па характары наступстваў. Калі быліčкавы выпадак, узяты асобна, уяўляе сабой хутчэй здарэнне, якое адбылося з героем, то легендавы выпадак набліжаны да падзеі, бо выпадак, калі на месцы замка або горада разліваецца возера, напэўна мае большы грамадскі рэзананс, чым сустрэча селяніна з нячысцікам на начной дарозе.

У сістэме жанраў народнай прозы анекдоты займаюць адметнае месца, абумоўленае іх тэкставай спецыфікай. Тэкст анекдота фіксаваны і ў працэсе свайго функцыянавання не ствараецца кожны раз нанова, а ўзнаўляецца. На думку Е. Я. і А. Д. Шмялёвых, гэта «квазінаратыўны маналагічны тэкст (фармальна тэкст анекдота часта з'яўляецца дыялогам, але гэта ўяўны дыялог: пытанне, задаваемае ў пачатку анекдота слухачу, не патрабуе ад яго адказу, апавядальнік сам адказвае на яго) з двухчасткавай структурай: больш доўгі зачын, потым кароткі і нечаканы канец, які вымушае слухача пераінтэрпрэтаваць пачатак анекдота. У неадпаведнасці пачатку і канца анекдота – яго соль» [8, *131*].

Жорстка заданая схема анекдота, якая імкнецца ўкласціся ў мінімальны аб'ём тэксту, абумоўлівае і асаблівасці будовы яго мастацкага свету, таксама абмежаванага да мінімум: «*Праз кірмашны пляц праходзіць п'яны і, убачыўшы незнаёмага, пытаецца: "Ска-ажыце, якая цяпер пара: ці на небе свеціць сонца, ці месяц?" – "Не ведаю, браце, бо я не тутэйшы"*» [9]. У адрозненне ад твораў іншых жанраў фальклорнай няказкавай прозы, мастацкі свет анекдота замкнёны на сабе ў яшчэ большай ступені, чым свет небыліц. Калі апошнія хаця б па стылі апавядання (ад першай асобы) могуць быць прыпадобненыя да апавяданняў пра быццам бы сапраўдныя падзеі і тым самым мець выйсце на апавядальніка, то нерэальнасць таго, пра што ідзе гаворка ў анекдоце *павінна быць* відавочнай для слухача. Гэта абавязковая ўмова існавання анекдота як

такога. Таму анекдатычныя сітуацыі абагулена схематычныя, а персанажы падкрэслена безасабовыя – гэта маскі пана, войта, мужыка, бабы, кума ці проста чалавека: «*Да войта прынесла баба піражкоў. Ён ёй кажа: "І навошта было несці? Твае дзеткі зласавалі б". – "Ды ешце, пане начальнік, – адказвае бабка, – я дзеткам скажу, што свіння паела"*» [9]. Мастацкая прастора анекдота згорнута ў кропку, у якой параджаецца і з якой выходзіць смехавы імпульс. У гэтую ж кропку сціснуты і анекдатычны час, так што хранатоп анекдота – гэта заўсёды «тут» і «зараз»: «*"Здароў". – "Здароў". – "Што вязеш?" – "Дровы". – "Якія ж дровы, калі ў цябе сена?" – "А калі бачыш, што сена, дык нашто пытаешся?"*» [9]. «Анекдот больш, чым іншыя жанры фальклору, патрабуе актыўнага мыслення», – сцвярджае А. С. Фядосік, – таму што «вельмі часта сэнс і ідэя заключаны ў падтэксце» [2, *27-28*]. Сапраўды, разуменне слухачом анекдота можа быць прыпадобнена да рашэння ім лагічнай задачкі па выяўленні неадпаведнасці паміж пачатковай і заключнай часткамі і знаходжанні схаванага сэнсу анекдота.

Мадэліраванне мастацкага свету анекдота адбываецца адпаведна вызначанай схеме, якая, згодна з працай Е. Я. і А. Д. Шмялёвых, мае наступны выгляд: «Спачатку задаецца пэўная сітуацыя, кантэкст дзеяння (гэта неабавязковая частка), потым расказваецца гісторыя, падобная на задачу, якая мае некалькі рашэнняў, затым ў апошняй фразе даецца нестантартнае «гумарыстычнае» рашэнне гэтай задачы» [8, *27*]. Пры гэтым акцэнт жанравым мысленнем стваральнікаў робіцца менавіта на нечаканасці, парадаксальнасці і дасціпнасц «рашэння», якое і змяшчае ў сабе «соль» анекдота: «*"Ці не бачыў, васпан, бягучага зайца?" – пытае паляўнічы аратая. "Ага, бачыў." – "Ці даўно бег?" – "А ўжо, пэўна, тыдні два будзе"*» [2, *248*].

Мастацкі свет анекдота спецыфічны. На думку С. Н. Бройтмана, першае месца тут займае не паказаная ў творы падзея, а падзея самога расказвання, якая ўяўляе сабой «сутыкненне – у той ці іншай форме – супрацьлеглых пунктаў погляду» [7, *298*], таму дзеяння ў тым плане, у якім можна назіраць яго ў творах іншых празаічных няказкавых жанраў, у анекдотах няма. Тут рух іншага кшталту, а менавіта: ад «задачы» да яе нестандартнага «вырашэння», які адбываецца ў суб'ектнай сферы жанру – «у свядомасці героя, апаведача (або апавядальніка) і чытача» [7, *297*] ці слухача. У працах рускіх літаратуразнаўцаў ён вызначаецца як падзея ў мастацкім свеце твора, якая «пераствараe» прадмет выяўлення. Пры мадэляванні мастацкага свету анекдотаў акцэнт робіцца не на падзейнасці (беспадзейнасці), а на сутыкненні розных светаразуменняў герояў або героя і апаведача, момансе неадпаведнасці, які ўскрывае схаваны сэнс і вымушае слухача пераінтэрпрэтаваць змест анекдота.

Такім чынам, жанравая канфігурацыя няказкавых наратываў у вялікай ступені залежыць ад законаў мадэліравання мастацкага свету. Перавага аднаго з кампанентаў – стану, здарэння, выпадку, падзеі – вызначае асаблівасці небыліц, былічак, легенд, сказаў, анекдотаў Дамінанта стану пры стварэнні небыліц абумоўлівае бессюжэтны характар дзеяння і магчымасць неабмежаванага нанізвання эпізодаў. Акцэнт на стане дазваляе засяродзіць увагу слухачоў на незвычайнасці скажонага свету, сцвярджаючы тым самым правільнасць і

ўпарадкаванаць рэальнага. Увасабленне сказавай карціны свету ў творах магчыма пры вядучай ролі здарэння. Адзінкавасць і асабісты характар здарэння найбольш поўна адпавядае «індывідуальна-суб'ектыўнаму» погляду на свет сказавых герояў. Успрыманне выпадку сутыкнення са звышнатуральным героямі апаведачом, а таксама слухачамі ў адпаведнасці з культурна-псіхалагічным прэцэдэнтам, які вядомы героям, апавяльніку, слухачам, з'яўляецца вызначальнай жанравай рысай былічак. Мастацкі свет легенд выбудоўваецца вакол падзеі, што абумоўлівае адмысловае стаўленне да гэтага жанру як да аўтарытэтнай крыніцы ведаў аб мінулым, цяперашнім, будучыні. Перанясенне акцэнту з «аб'ектнай» сферы на «суб'ектную» ўтварае дзеянне, характэрнае для анекдотаў: яно ўяўляе сабой рух ў свядомасці героя, апаведача, слухачоў.

### ЛІТАРАТУРА


1. Беларускі фальклор: хрэстаматыя / склад. К. П. Кабашнікаў [і інш.]. – Мінск, 1996.
2. Жарты, анекдоты, гумарэскі / склад. А. С. Фядосік. – Мінск, 2005.
3. *Ивлева, Л. М.* Скоморошины (общие проблемы изучения) / Л. М. Ивлева // Славянский фольклор. – М., 1972.
4. Легенды і паданні / склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі. – Мінск, 1983.
5. *Лотман, Ю. М.* Структура художественного текста / М. Ю. Лотман. – М., 1970.
6. Народная проза / К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, А. В. Цітавец. – Мінск, 2002.
7. Теория литературы: учеб. пособ.: В 2 т. Т. 1: Н. Д. Тамарченко, В. И. Тюпа, С. Н. Бройтман. Теория художественного дискурса. Теоретическая поэтика. –М., 2004.
8. *Шмелёва, Е. Я.* Русский анекдот: Текст и речевой жанр / Е. Я. Шмелева, А. Д. Шмелев. – М., 2002.
9. Матэрыялы жанравага і рэгіянальнага архіву вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору Беларускага дзяржаўнага універсітэта.


***Вольга Прыемка***

## РЭПРЭЗЕНТАТЫЎНЫЯ МАТЫВЫ Ў ПАЛЕСКІХ ВЯСЕЛЬНЫХ ПЕСНЯХ

У сучаснай фалькларыстыцы распрацоўка тэорыі матыву пакуль што не атрымала канчатковага завяршэння, на што неаднойчы звярталі ўвагу даследчыкі [7, 9]. Вялікі дыяпазон сэнсаў, які ўкладаюць у паняцце «матыў», прыводзіць да залішне шырокага выкарыстання тэрміна, а часам нават да яго атаясамлівання з праблематыкай або тэматыкай твораў. І гэта нягледзячы на тое, што першае тэарэтычнае абгрунтаванне катэгорыі «матыў» у свой час даў

ужо А. Весялоўскі (1838–1906), які лічыў матывы натуральным выяўленнем зборнай псіхікі і адпаведных умоў у першыя часы супольнага жыцця, падкрэсліўшы іх важную ролю ў станаўленні чалавечай культуры. На яго думку, акаляючае асяроддзе паўсюдна ставіла перад чалавекам тыповыя пытанні, а на запатрабаванні першабытнага розуму культура давала вобразныя адказы, якія замацоўваліся ў выглядзе пэўных формул. Матывы былі кандэнсатарамі чалавечага вопыту, назіранняў, абагульненняў, гатовымі клішэ, якія ўваходзілі ў мастацкія творы ў якасці ўстойлівых змястоўных кампанентаў, зноў і зноў выкарыстоўваліся, паўтараліся. Матывы цікавілі А. Весялоўскага ў сувязі з праблемай запачаткавання сюжэтаў. Калі сюжэты – гэта складаныя схемы, то матывы – прасцейшыя апавядальныя адзінкі.

Вядомая даследчыца, глава сучаснай фалькларыстычнай школы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Р. Кавалёва, вывучаючы беларускія куставыя песні, прапанавала лічыць, што «куставы абход – своеасаблівы вербальна-акцыянальны сюжэт, які разгортваецца ў прасторы і часе праз кумулятыўнае нарошчванне звёнаў з новымі персанажамі» [5, *68*]. Фалькларыстка заўважыла, што «з'яўляючыся часткай абрадавага сюжэта, самі абходныя песні бессюжэтныя. Яны складаюцца з характэрных для іх матываў. Склад, характар і семантыка куставых матываў вытворныя ад рытуальнага зместу абраду, правілы іх счэплівання задавала логіка абрадавага сюжэта. Матывы былі рухавіком кампазіцыі песень, вобразным адказам на патрабаванні камунікатыўнай стратэгіі, а пераход ад аднаго песеннага матыву да другога – лірычнай падзеяй, рэалізацыяй крэатыўнай, рэферэнтнай і рэцэптыўнай кампетэнцый мастацкага твора» [5, *68*]. Гэтыя высновы даследчыца зрабіла адносна куставага комплексу, аднак, як паказвае наш аналіз, яны адлюстроўваюць спецыфіку і песеннай інфраструктуры беларускай, у прыватнасці пінскай, абраднасці. Абапіраючыся на прапанаваныя ёй функцыянальныя *тыпы* матываў, якія даследчыца вылучыла ў адпаведнасці з камунікатыўнай стратэгіяй абходнага абраду (рэпрэзентатыўныя, рытуальна-шлюбныя, аграрна-магічныя, патрабавальныя) [5, *69*], мы звярнулі ўвагу на спецыфіку праяўлення ў вясельнай паэзіі пінчукоў такога *віду* рэпрэзентатыўных матываў, як прасторава-часавыя.

Адразу трэба агаварыцца, што прастора і час абумоўлены рытуальна-міфалагічнымі акалічнасцямі вясельнага абраду. Для мастацкага свету пінскіх вясельных песень характэрныя ўстойлівыя прасторавыя і часавыя прыкметы, маркіраваныя ў адпаведнасці з вясельнай эстэтыкай. Хранатоп вясельных песень канструіруецца называннем пэўных прасторавых аб'ектаў, пазначэннем самога часу. У паэтычных творах згадваюцца хата, дуброва, сад, бор, мора і інш.; сярод хранонімаў дакладна вылучаюцца дні свята або моманты выканання абраду: «суботанька», «нэдэля», «нучка тёмна».

У кантэксце вясельнай абраднасці пінчукоў «*дубровонька*» – «свая» прастора, родны дом. У гэтым значэнні праяўляецца супрацьпастаўленне «*блізкì – далёкі»*. Эквівалентам «*дубровы*» з'яўляецца «*лес*». У песнях можна прасачыць шлях жаніха-«*сокола*» да «*лесу*», дзе жыве яго «*зувзулька*»: «*Через трі лісы, і через четыры, стань собі на пятом лісі…*» [* 1]. «*Лесу*», «*дуброве*»

супрацьпастаўляюцца «*бор*», «*горы*». «*Бор*» у пінскіх песнях асэнсоўваецца як «іншы» свет, дзе дзяўчына засталася назаўжды, адкуль ужо не магла вярнуцца назад, бо не «ведала» дарогі. У матыве «*прылету ў бор птушкай*», як лічаць даследчыкі, прасочваецца распаўсюджанае ўяўленне пра пераўвасабленне душы нябожчыка, якая адлятае на «той» свет птушкай. У семантыцы гэтага матыву сустракаюцца розныя мадыфікацыі, дапаўненні хрысціянскімі элементамі, прыўнясенне пэўных рэалій, у прыватнасці вывядзенне на першы план сацыяльнага значэння «*бора*» як «чужой» зямлі ці сям'і. Такая перакадзіроўка міфалагічнага зместу – цалкам натуральны факт для пінскай песні, цесна звязанай з народным побытам і светапоглядам, з усімі іх зменамі. У сацыяльным плане «*бор*» можа выступаць у якасці канцэптуальнай мяжы паміж «сваёй» і «чужой» прасторай. Напрыклад, у песні «Нуце, нуце, раду радуйце» жаніх і яго родзічы едуць борам. Для юнака дарога праз бор з'яўляецца шчаслівай, бо з ім «*едзе Бог*», а для нявесты на першы план выступае сацыяльная семантыка «*бора*» як «чужой» зямлі.

Асаблівую цікавасць пры аналізе зместу пінскіх вербальных тэкстаў выклікае лексема «*сад*». Сімволіка «*сада*» распаўсюджана ў фальклоры ўсходніх славян. Аднак калі ў свядомасці стваральнікаў рускай вясельнай паэзіі «*сад*» ідэнтыфіцыруецца з дзявоцтвам, родным домам, то ў фальклорнай свядомасці пінчукоў яго семантыка атрымала іншае тлумачэнне: гэта новы статус дзяўчыны – яе стан замужняй жанчыны: «*Ужэ ж бо мні дубрувонька доіла, // Ужэ ж бо мні садовіночка прыспіла. // ...Ужэ ж бо мні батькоўства доіла, // Ужэ ж бо мні свэкроўства прыспіла...*» [4, № 270]. У той жа час гэта – пэўная прастора, чужы дом: «*Уленула заўзуленька // У вышнёвый садочок. // Сюды гляне, туды гляне – // Некуда вылятеть: // По один бэк – вышнёвый сад, // По други – виноград. // Да ўехала девонька // У свэкратковэ подворъе. // Сюды гляне, й туды гляне – // Некуда выехаты: // По один бэк – скамьица, // По други – пиўница...»* [4, № 230]. З прыездам нявесты «*сад*» набывае выключна станоўчыя якасці: у ім з'яўляюцца «*вішні*», сюды прылятаюць «*голубы*» і г. д.

У некаторых пінскіх песнях узгадваюцца «*рака*» і «*мора*». Так, уязджаючы ў двор жаніховай хаты, нявеста «*разлівается рэчкай*», гэта значыць, вадой пладароднай, што, відаць, звязана з матывамі нараджэння. У той жа час у значэнні «мора» – вады салёнай, непрыгоднай для піцця ці арашэння, «ніжняй» – гэта намінацыя звязана са смерцю. У міфалагічным уяўленні славян вада, як і неба, з'яўляецца месцам жыхарства продкаў. На гэтыя вераванні ўказваюць шматлікія факты пахавальнай абраднасці: адным са спосабаў пахавання ў старажытных славян было апусканне нябожчыка ў палонку, у раку. Пахаванне Кастрамы як імітацыя пахавальнага абраду таксама заканчвалася апусканнем чучала ў ваду. Л. Вінаградава, зыходзячы са сведчанняў «Слова Грыгорыя Багаслова» (ХІХ ст.), выказала меркаванне, што «… да вады хадзілі, каб утварыць нейкія дзеянні, блізкія варажбе… Падразумявалася пры гэтым сувязь з нячыстай сілай ці душамі памёрлых» [3, *23*]. На аснове тэзіса К. Машыньскага аб матыве пераправы праз ваду як спосабе сувязі з іншасветам даследчыца лічыць, што перад вяселлем маглі хадзіць да вады для высвятлення, ці будзе шлюб адобраны продкамі, альбо папрасіць іх благаслаўлення [3, *23*].

Так высвятляецца міфарытуальная сувязь: шлюб – праз пасрэдніцтва продкаў – вада. Акрамя таго, «*вада*» ўспрымалася як перашкода, мяжа, што раздзяляе розныя этапы жыцця, таму пры пераходзе дзяўчыны ў новы стан трэба яе было пераадолець. Так, відаць, з’явілася ўяўленне пра шлюбную сімволіку вады.

Адзначым, што традыцыя пэўным чынам уплывала на паводзіны нявесты. Дзяўчына павінна была прайсці перыяд ізаляцыі, якая праяўлялася рознымі спосабамі. Адзін з іх – накрыванне покрывам, хусткай. У пінскіх песнях сустракаюцца матывы пра знаходжанне нявесты ў «*темніцы*», «*каморачке*»: «*Шкада тую маладіцу, // Што сядіть у темніцы. // Трэба ёй прастор даць – // Пакрывала зняць*» [* 2]. Нявеста павінна была «знікнуць» на некаторы час для іншых людзей і з’явіцца перад імі ў вызначаны рытуалам момант ў іншай іпастасі. Змены ў паводзінах выражаліся і іншымі спосабамі: па хаце нявесту вадзілі за руку ці за ручнік, павязаны на руцэ; з дому дзяўчына не магла выйсці адна, без суправаджэння і г. д.

Форму зносін з нявестай, якая знаходзілася ў парогавым стане, вызначалі часавыя ўяўленні. У пінскім вяселлі спосабам звароту да дзяўчыны з’яўлялася выкананне песні – такая форма патрабавалася рытуалам. Пакуль адбываўся пэўны абрад, гэтае правіла дакладна выконвалася. Калі «абрадавы час» заканчваўся, вярталіся да звычайных норм адносін. Дыферэнцыруючы этапы станаўлення і развіцця часавых (тэмпаральных) уяўленняў чалавека, М. Ахундаў на першае месца ставіць міфічны час, які праходзіць у сваім развіцці шэраг этапаў, і кожнаму з іх уласціва пэўная мадэль. Даследчык адзначае, што «міфалагічны час, адштурхоўваючыся ад архаічнай маятнікавай (хістальнай) мадэлі, пераходзіць да цыклічнай мадэлі, аднак на ёй не спыняецца, а развіваецца да мадэлі спіральнага часу» [1, *621*]. Магчыма, што маятнікавая мадэль часу адпавядае ранняму збіральніцка-паляўнічаму перыяду каменнага веку. Маятнікавы тып часу прадстаўлены ў пінскіх песнях матывам метамарфозы. Не выклікае сумненняў, што ўзнікненне і існаванне матыву пераўвасаблення нельга аддзяліць ад прасторава-часавых уяўленняў чалавека, таму што метамарфоза з’яўляецца пераходам ад адной якасна-колькаснай формы да іншай. Прычым гэты пераход ажыццяўляецца не прамалінейна, а скачкамі. Такім чынам, метамарфоза, як адзначыў М. Бахцін, – гэта «пэўная форма часавага раду» [2, *264*].

У эпоху мезаліту на калектыўна-працоўнай аснове ўзнікае дыферэнцаванае пачуццё часу, пра што сведчыць цыклічнасць каляндарна-абрадавай дзейнасці чалавека. Цыклічная і спіральная мадэлі міфічнага часу, фіксуючы пастаяннае аднаўленне прыроды, цыклічнасць, «зваротнасць» часу, умацоўвалі веру чалавека ў бессмяротнасць яго душы, у магчымасць існавання яе не толькі ў чалавечым абліччы, але і ў выглядзе расліны, жывёлы і нават нежывой істоты. Такім чынам, асаблівасцю міфічнага часу, як адзначае М. Бахцін, з’яўляецца яго адзінства, нерасчлянёнасць асобных часавых радоў, у прыватнасці, прыроднага і сацыяльнага [2, *358*]. З нараджэннем і ўмацаваннем класавай структуры грамадства, паводле сцвярджэнняў даследчыка, адбываецца шырокая трансфармацыя часавых форм: «Раўназначныя і вялікія рэальнасці старажытнага дакласавага грамадства адрываюцца адно ад аднаго, падвяргаюцца ўнутранаму

раздваенню і рэзкаму іерархічнаму пераасэнсаванню» [2, *362*]. Гэта значыць, што часавыя формы гэтага перыяду адметныя дакладным размежаваннем прыроднага і грамадскага, індывідуальнага, прыватнага і агульнага, гістарычнага. У гэтых умовах дыферэнцыяцыі індывідуальных радоў жыцця і рада гістарычнага часу песенная метамарфоза выступае як прыватны на фоне прыроды і соцыума выпадак, як падзея асобнага чалавечага жыцця. Таму сфера яе функцыяніравання цалкам пераносіцца ў сям'ю, ва ўзаемаадносіны двух ці некалькіх людзей. Менавіта такімі з'яўляюцца песні пра пераўвасабленні нявесты. У пінскіх тэкстах маладая прадстае ў выглядзе птушак, жывёл: «*Ой, лісом шла пчолою, // Цэраз поле перапёлкою, // На двыр сплыла щукою, // А ў хату ўлізла павою, // За стол села панною*» [8, № 47]. Пераўвасабленні, якіх, як відаць з тэксту, магло быць некалькі, адбываюцца скачкамі і практычна імгненна.

Магчыма, што, будучы «чужой», нявеста ўспрымалася родзічамі жаніха як прадстаўнік «чужога», а значыць, нечалавечага боку, жыхары якога – нелюдзі. У навуковай літаратуры неаднаразова адзначалася, што стэрэатып увасаблення «чужога» боку як прасторы «з парушанай дыстрыбуцыяй уласцівы… для ўсёй традыцыі апісання «невядомых, далёкіх земляў», «таго свету» з іх жыхарамі паўчалавечага, паўзвярынага аблічча» [1, *73*]. У вясельных матывах знайшло увасабленне міфалагічнае ўяўленне пра перасяленне душы чалавека ў жывёл, вядомае многім народам. У міфалагічнай сюжэтнай сітуацыі «дзяўчына пераўтвараецца ў «*утоўку*», адлятае на «*мора*», жаніх палюе на яе (ён з'яўляецца носьбітам паляўнічага атрыбута – каня)», жаніх-паляўнічы мае арнітаморфнае аблічча – гэта «*селезень*», які даганяе «*утоўку*», «*ворон*», які палюе на «*галочку*» і г. д. Паляванне здаўна вядома як сімвал сватаўства, шлюбу не толькі ў славян, але і ў іншых народаў. Падкрэслім, што ў матыве «*палявання*», у адрозненне ад «пераўтварэння», птушка заўсёды мае прыкметы якога-небудзь віду. У вясельных песнях пінчукоў выяўляецца той жа змест, што і ў чарадзейнай казцы з матывам пагоні, дзе царэўна ператвараецца ў зорку, вутачку, шчупака і г. д. Герой імкнецца вярнуць ёй чалавечае аблічча. У. Проп адзначае, што пераўвасабленне дзяўчыны ў жывёлу ідзе ад уяўленняў пра пераўвасабленне душы чалавека пасля смерці. Аднак пераўтварэнні суправаджаюць і зварот у свет жывых [6, *323–325*]. Навуковец выказвае меркаванне, што ў казках, калі бягучы чалавек ператвараецца ў лебедзя, а праследвальнік кідаецца на яго драпежнай птушкай, маецца на ўвазе лоўля душы нябожчыка. У. Проп прыходзіць да думкі, што асноўныя віды пагоні будуюцца на ўяўленнях аб вяртанні з царства мёртвых у царства жывых [6, *325*]. Мяркуем, што матывы вясельных песень узыходзяць да тых жа ўяўленняў, якія ўвасоблены ў матывах чарадзейных казак з пагоняй і пераўтварэннямі.

Памерлыя родзічы, як і раней, лічыліся членамі родавага калектыву. Натуральна, што ў такі адказны момант, як уступленне ў шлюб, неабходна было заручыцца іх згодай, прыхільнасцю і заступніцтвам. Асноўным спосабам «зносін» з нябожчыкамі, мовай, якая была зразумелай для іх, была песня. Як правіла, улічвалася ступень сваяцтва: калі гэта былі бацькі, то да іх звярталіся з песняй, у якой гучалі матывы запрашэння на вяселле, просьбы аб благаслаўленні і гэтак далей. У неабходнасці такой формы камунікацыі палягае

ўяўленне, што жыццё і дабрабыт тых, хто жыве, залежыць ад продкаў. Абрады запрашэння на вяселле памерлых бацькоў адбываліся ў пінчукоў рознымі спосабамі. Звычайна дзяўчына перад вянцом хадзіла на могілкі. Песні сіраты з'яўляюцца стэрэатыпнымі формуламі: дзяўчына запрашае нябожчыка «*юстать, нэ лежать*», заве на вяселле «*повэсті порадочок*». Матыў «*бацькі не прыходзяць на вяселле*» распрацоўваецца ў пінскіх паэтычных тэкстах ідэнтычна: бацькі не могуць прыйсці на «*вэсілля*», таму што, па-першае, нябожчыкі «не ведаюць» свет жывых, таксама як жывыя не ведаюць свет памерлых, а па-другое, ім цяжка падняцца: «*Одін замочок – жоўтый песочок, а другый замочок – новый домочок, трэйцій замочок – зэлэный хвуйнычок*» [* 2]. У песнях нявесты-сіраты прасочваецца дынаміка ўяўленняў пра спосабы сувязі з памерлымі бацькамі. Напрыклад, у песні «*Ой, лэтэла зозуленька*» дзяўчына, якая «*мамы нэ мае*», сама становіцца птушкай і ляціць да маці, каб асабіста запрасіць яе на вяселле. З часам чалавечае выдзяляецца са свету прыроды, а былая тоеснасць «*чалавек – прырода*» разбураецца. У песнях з'яўляецца матыў мары пра крылы, якія б аднеслі дзяўчыну на магілу роднага чалавека: «*Добра табе, голуб, а мне не, ёсць у табе пер'я, а ў мяне – не*». Канчатковая страта веры ў пераўтварэнне, якая не мае падтрымкі нават праз традыцыі, змяняе і форму выражэння. Так у песнях з'яўляецца матыў «*пасрэдніцтва»* паміж «гэтым» і «тым» светам, які ажыццяўляюць птушкі: «*Пошлю зовзульку на Ўкраіноньку / По свою родіноньку. / А соловейка до яснаго нэба, / Що бацінка мні потреба*..» [* 2].

Такім чынам, прасторава-часавыя матывы вясельных песень пінчукоў вызначаюцца пэўнымі семантычнымі нюансамі, для лепшага разумення якіх трэба мець на ўвазе агульную спецыфіку прэзентацыі мастацкага свету абрадавых твораў.

## ЗАЎВАГІ

* 1. Запісана аўтарам у 1988 г. у в. Лышча Пінскага раёна ад В. М. Грушко, 1932 г. н.

* 2. Запісана аўтарам у 1991 г. у в. Азарычы Пінскага раёна ад К. М. Яруты (Сінкоўскай), 1926 г. н.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Ахундов, М. Д.* Концепция пространства и времени: Истоки. Эволюция. Перспективы / М. Д. Ахундов. – М., 1982.

2. *Бахтин, М. М.* Вопросы литературы и эстетики / М. М. Бахтин. – М., 1975.

3. *Виноградова, Л. Н.* Девичьи гадания о замужестве в цикле славянской календарной обрядности / Л. Н. Виноградова // Славянский и балканский фольклор. Обряд. Текст. – М.. 1981.

4. *Довнар-Запольский, М. В.* Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов. Песни пинчуков / М. В. Довнар-Запольский // Унив. Изд. – М., 1896. № 1.

5. *Кавалёва, Р. М.* Лакальна-рэгіянальныя парадыгмы беларускага фальклору: у 3 ч. Ч. 1: Заходнепалескія куставыя песні: вучэб.-метад. дапам. для студэнтаў філал. фак. / Р. М. Кавалёва. – Мінск, 2008.

6. *Пропп, В. Я.* Исторические корни волшебной сказки / В. Я. Пропп. – М., 2000.
7. *Трыфаненкава, М. А.* Матыў змеяборства ва ўсходнеславянскай фальклорнай традыцыі: Генезіс. Семантыка / М. А. Трыфаненкава. – Мінск, 2003.
8. *Чубинский, П. П.* Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край: Материалы и исследования / П. П. Чубинский. – СПб., 1877. Т. 4.

***Таццяна Лук'янава***

## СТЫЛЬ ПРАЗАІЧНАГА ЖАНРАВАГА ВЫКАЗВАННЯ Ў БЕЛАРУСКІМ НЯКАЗКАВЫМ ФАЛЬКЛОРЫ

Мастацкі твор уяўляе сабой не толькі створаны ўмоўны свет, але і выказванне аўтара аб гэтым свеце, звернутае да адрасата. Рэалізацыя і нармальнае функцыянаванне фальклорнага твора адбываецца ў выглядзе вуснага выказвання, тэкст якога арганізуецца жанрам адпаведна вызначанай сітуацыі зносінаў. Жанр, такім чынам, выступае ў якасці «гістарычна прадуктыўнага тыпу выказвання, які рэалізуе пэўную камунікатыўную стратэгію эстэтычнага па сваёй мэце дыскурса» [4, *83*]. Камунікатыўная стратэгія жанра, прадстаўленая адзінствам крэатыўнага (хто гаворыць), рэферэнтнага (пра што гаворыцца) і рэцэптыўнага (каму гаворыцца) бакоў зносінаў, рэалізуецца праз асаблівасці пабудовы твора як маўленчага цэлага. Стыль мастацкага твора пры гэтым разглядаецца, згодна з вызначэннем В. І. Цюпы, як «тып адзінай і эстэтычна мэтанакіраванай упарадкаванасці (праз сістэму кампазіцыйна-маўленчых форм твора) фанетычных, лексіка-сінтаксічных і да т. п. асаблівасцей усіх выказванняў маўленчых суб'ектаў», а таксама як «агульны рэгулятыўны прынцып такога роду асаблівасцей выказванняў і іх кампазіцыйных форм у творы, які ўсведамляецца на фоне аналагічных мастацкіх з'яў і можа быць узноўлены шляхам перайманняў, стылізацый, варыяцый або пародый» [4, *456*].

Асаблівасці стылю мастацкага выказвання ў жанрах няказкавай фальклорнай прозы залежаць ад камунікатыўнай стратэгіі, якая рэалізуецца жанрам праз сістэму кампазіцыйна-маўленчых форм суб'ектных выказванняў твора. Для выяўлення камунікатыўнай стратэгіі няказкавых жанраў фальклорнай прозы неабходна раскрыццё структуры суб'ектнай арганізацыі твораў, якія разглядаюцца ў якасці мастацкага выказвання фальклорнага аўтара, адрасаванага слухачу. Маўленчай асновай зносінаў паміж творам як адзіным мастацкім выказваннем фальклорнага аўтара і яго адрасатам выступае *аповед,* які вызначаецца як «матэрыяльная (маўленчая) аснова <...> зносінаў суб'екта, які апавядае, і адрасата...» [4, *266*]. Разгляд маўленчых структур апавядальных празаічных жанраў фальклору патрабуе таксама аперыравання такімі нараталагічнымі катэгорыямі, як *аўтар* ( у дачыненні да фальклору –

*фальклорны аўтар*), *апавядач*, *апавядальнік*, *адрасат (слухач)*, якія ў сваю чаргу шчыльна звязаны з катэгорыяй *выканаўцы* [3].

Пазіцыя фальклорнага аўтара ў *легендах* характарызуецца паведамленнем звестак аб мінулым, верагоднасць якіх не падлягае сумненню. Найбольш распаўсюджанай для легенд формай прысутнасці фальклорнага аўтара на суб’ектным узроўні з’яўляецца форма апаведача. У тых выпадках, калі ў тэксце сустракаецца форма апавядальніка, яна звычайна выкарыстоўваецца напачатку або напрыканцы апавядання ў якасці своеасаблівай звязкі падзей мінулага з цяперашнім. Ён не з’яўляецца ўдзельнікам ці сведкам падзей, як, напрыклад, апавядальнікі былічак або сказаў: «*Гэта сяло называецца Більск тым, што калісь вельмі і вельмі даўно – я гэтага не памятаю, тылька мне расказуваў мой дзід – жыў тут багаты памешчык. Звалі яго Більскім*...» [2, *286*]; «<...> *Вось адтаго быццам наша мястэчка і завецца Узда*» [2, *283*].

Легендавым апавяданнем ствараецца своеасаблівая гісторыя, якая пачынаецца з часоў стварэння зямлі і цягнецца дагэтуль. Падзеі, пра якія расказваецца ў асобных легендах, прадстаўляюць сабой падрабязнасці гэтай квазігісторыі і адрозніваюцца большай або меншай ступенню міфалагізацыі. Таму рэгулятыўны прынцып легендавага стылю, на які абапіраецца жанравае мысленне носьбітаў вусна-паэтычнай традыцыі, на нашу думку, можа быць названы «квазігістарычным». Стыль жанравага выказвання легенд да таго ж валодае тлумачальна-філасафічнай накіраванасцю, што на тэкставым узроўні выражаецца праз задаванне апаведачам пэўных пытанняў, якія часта маюць светапоглядны характар, і адказаў на іх. Пытанне можа быць зададзена проста: «*Даўней людзі ведалі той час, калі да іх смерць прыйдзе, а цяпер, акромя бога, ніхто не ведае. Як гэта зрабілася*? <...>» [2, *51*]; «*Ці ведаеце, скуль узяўся мядзведзь*? <...>» [2, *54*]. А можа мецца на ўвазе, калі само апавяданне пра падзеі пабудавана ў выглядзе адказу на пытанне, якое не прагучала. Пра гэта сведчаць і такія звычайныя для легенд канцоўкі, як «*От адкуль узяліся буслы*» [2, *61*]; «*А гэта была алешына. От затым яна і чырвоная*» [2, *76*]; «*Вось адкуль у вёскі гэта пяшчотнае, напеўнае імя – Ліпень*» [2, *301*] і да т. п. Пазіцыя слухача легендавага выказвання – пасіўнае ўспрыняцце звестак, адносіны да іх як да верагодных ведаў, якія трэба захаваць і пры магчымасці паведаміць тым, хто яшчэ не ведае.

Для *былічак* характэрна прысутнасць фальклорнага аўтара на суб’ектным узроўні твора ў форме апавядальніка. Апавядальнік расказвае пра незвычайнае і страшнае здарэнне, якое адбылося з ім або добра вядомымі яму людзьмі, сведчанні якіх заслугоўваюць даверу. «*Сядзімо мы раз у карчме, пакурваем люлькі да гамонім аб том, аб сём. Толькі ось улазіць Купрэй і пачынае жаліцца, што яго коні ноччу хтось заезджвае ў хляве* <...>» [2, *161*]. Выкарыстанне суб’ектнай формы апавядальніка стварае эфект атрымання слухачом звестак «з першых рук», што дае дадатковыя падставы для ўспрыняцця іх як верагодных, асабліва калі ў тэкст уключаны пераканаўчыя запэўніванні апавядальніка: «<...> *Я сама бачыла от гэстымі самымі вачыма, што на вас пазіраюць. Далібо, што праўда, каб я так свет божы аглядала* <...>» [2, *221*]. Акрамя таго, яна дазваляе

слухачу перажыць разам з апавядальнікам усю нечаканасць і жудасць здарэння, пра якое расказваецца ў былічцы.

Значна радзей сустракаецца ў былічках форма апаведача. Звычайна яна выкарыстоўваецца для паведамлення пра тое, якія бывалі выпадкі сутыкнення са звышнатуральным. У такіх апавяданнях, як правіла, не засяроджваецца увага на асобе удзельніка здарэння, не называецца імёнаў. Герой прадстаўлены як «*нейкі чалавек*», «*адзін чалавек*», «*адна баба*» і да т.п. «*Адзін чалавек, ідучы познім вечарам, убачыў на полі нейкую істоту. Падобная да чалавека, але не мела на сабе шкуры і былі відаць усе ўнутранасці* <...>» [2, *172*].

Былічкавы аповед ўзнаўляе карціну свету, у цэнтры якой знаходзяцца ўзаемаадносіны чалавека са звышнатуральнымі істотамі і з'явамі. Таямнічасць звышнатуральнага свету, яго небяспечнасць для чалавека, натуральна, выклікалі страх. Адчуваюць страх героі былічак: «<...> *Ён у страх, яму аж валасы дыбам сталі, – думае, што гэта нячысты* <...>» [2, *194*]. Перадаецца гэта пачуццё і слухачу, прычым не толькі з-за жудасці самога здарэння, але і дзякуючы напружанасці апавядання. У некаторых творах перш, чым перайсці да самога здарэння, апавядальнік папярэджвае, што будзе расказваць пра страшныя рэчы. Такая прадмова адразу стварае адпаведны настрой слухача: «*Ці вы ведаеце, – не пры нас гаворачы, – што гэта за ліхо – мара? Калі самі не ведаеце, та мо хоць чулі ад людзей. А от мне так трапілася самому бачыць на вочы гэстую пачверу. Ну й пачвера ж, мае браткі! Але ось я раскажу па парадку, як тое было* <...>» [2, *172*].

Сустрэча героя былічкі са звышнатуральнай істотай героя амаль заўсёды нечаканая, раптоўная. У тэксце эфект нечаканасці ствараецца за кошт выкарыстання прыслоў'яў «*раптам*», «*удруг*», а таксама часціц «*аж*», «*ажно*» і да т. п. Найбольш абвостраныя моманты дзеяння акцэнтуюцца апавяданнем дзякуючы ўжыванню дзеясловаў у форме цяперашняга часу: «<...> *Прала яна, прала раз, аж да паўночы. Удруг* ***чуе****, што нехта* ***стукае*** *ў вакно. Так яна* ***пытае****: "Хто там?" Ён і* ***кажа****: "Я прынёс табе, кабета, работу". Спалохалася мая кабета...* <...>» [2, *140*]. Важную ролю ў былічках адыгрываюць дыялогі паміж чалавекам і звышнатуральнай істотай, сапраўдны сэнс якіх для чалавека раскрываецца толькі тады, калі ён здагадваецца, што размаўляў з «нячыстым». Часта распазнаць герою «нячыстага» дапамагае сам дыялог. Стылістычны прынцып, на які абапіраецца жанравае выказванне былічак, можна вызначыць як «прэцэдэнтны», таму што будуецца яно ў адпаведнасці з псіхалагічным прэцэдэнтам. Такое ж успрыняцце аповеду слухачом з'яўляецца найбольш адэкватнай для яго пазіцыяй.

Жанрава-стылістычныя асаблівасці *сказаў* вызначаюцца акцэнтам на асобным чалавеку, які выступае сэнсавым цэнтрам сказавай карціны свету і, як правіла, галоўным героем твора. Жанравае выказванне сказа ўяўляе сабой праламленне традыцыйных уяўленняў, поглядаў, норм і каштоўнасцей праз прызму жыццёвага вопыту асобнага чалавека. Найбольш прыдатнай для гэтага формай прысутнасці фальклорнага аўтара ў тэксце выступае суб'ектная форма апавядальніка, якая, як і ў былічках, стварае эфект непасрэднай прысутнасці «суразмоўцы» і далучэння слухача да перажывання пэўных падзей жыцця

героя: «*Було мне, донькі, у ту пору трыццаць гадоў. А мужычка майго аж у 1941 годзе забралі ў армію. Ох і нагаравалася я. Чацвёра дзяцей на ногі трэба было паставіць* <...>» [* 1].

Мастацкі свет, які ствараецца сказавым аповедам, мае «суб'ектыўна-індывідуальную» афарбоўку, дзе галоўнае месца належыць герою, абставінам яго прысутнасці ў гэтым свеце і яго адносінаў да апошняга. Таму тэксты сказаў не проста падаюць звесткі, дзе і калі адбылося пэўнае здарэнне, але амаль заўсёды ўказваюць на асабістыя абставіны месцазнаходжання героя, колькі яму было гадоў на той час і да т.п. Акцэнтуецца ўвага і на адчуваннях героя: «*Пры Польшчы, пры панах у лес за ягадамі хадзілі з такімі бумажкамі, спраўкамі, што можна збіраць. А я дык вельмі баялася хадзіць і з міне ўсе смяяліся* <...>» [* 1]. Стыль жанравага выказвання сказа характарызуецца канкрэтыкай дэталей самага рознага кшталту: ад дакладнай даты якога-небудзь здарэння да ўнутранага стану героя ў пэўныя моманты. «Жыццепадобнасць» выступае стылеўтваральным прынцыпам сказаў. Жанравае выказванне сказа стылістычна вельмі блізкае да «працэсуальнасці бытавога маўлення». Пазіцыя слухача ў сказе вызначаецца адносінамі разумення носьбіта іншага жыццёвага вопыта і яго пазіцыі ў свеце, што мае на ўвазе адзінства іх нарматыўна-каштоўнаснага раду.

Камунікатыўнай кампетэнцыяй фальклорнага аўтара ў *небыліцах* з'яўляецца паведамленне такога кшталту, неверагоднасць якога павінна быць відавочнай для слухачоў. Небылічным аповедам ствараецца наўмысна скажоны свет, вычварнасць якога сягае далёка за межы звычайнага. Стыль жанравага выказвання небыліц, згодна з нашымі назіраннямі, мае некалькі разнавіднасцей. Першая з іх характарызуецца адкрытым пазіцыяніраваннем апаведачом неверагоднасці з пункту гледжання разумнага сэнсу небылічнага свету. Апавядач сам пацвярджае, што тое, пра што ён расказвае, варта здзіўлення і сумнення з боку слухача: «*А где это виданое, ещё где это слыханое, чтобы курица быка родила,* <...> *поросёночек яичко снёс* <...>» [5, *96*]. Да другой разнавіднасці адносяцца выказванні, прыпадобненыя па стылі выкладання да апавяданняў пра падзеі, якія быццам бы адбываліся ў сапраўднасці. У тэкстах такіх небыліц звычайна выкарыстоўваецца суб'ектная форма апавядальніка. «*Была ў майго татка кабылка. Кабыцілася, прывяла дзесяць кабылкаў, сама адзінаццата. Была ў майго татка сякерка – сякерчылася. Прывяла дзесяць сякеркаў, сама адзінаццата. Ну, што я раблю? Запрагаю кабылку, сякерку пад пояс – еду ў лес па дрова* <...>. *Еду-еду, мая кабылка стала. Палянуў, а кабылка папалам распалася. Пайшоў я ў кусты, вырубаў дубца, скруціў круцялы, звязаў кабылку, еду далей* <...> [* 1]». Пазіцыя слухача заключаецца ў тым, каб не верыць ва ўяўную сапраўднасць апавядання, але далучыцца да своеасаблівай гульні і ў поўнай меры ацаніць яго неверагоднасць.

Яшчэ адной стылістычнай разнавіднасцю жанравага выказвання небыліц (падобнай да другой тым, што асаблівасці выкладання набліжаюцца да апавяданняў пра сапраўдныя падзеі) выступае паступовае ўпляценне небылічных матываў у апавяданне пра быццам бы звычайныя рэчы. «*Здарылася гэта даўно, калі балоты яшчэ асушаныя не былі.* <...> *Аднойчы нейкі паляшук*

*вазьмі да і скажы, што навошта, маўляў, па соль ездзіць кудысьці, калі можна сваю соль мець. Для гэтага трэба толькі пасеяць яе, прапалоць, калі ўзыйдзе, а потым сабраць і абмалаціць. Так і зрабілі, пачалі чакаць усходаў. І цяпер чакаюць*» [* 1]. Рэцэптыўная кампетэнцыя слухача для такіх тэкстаў заключаецца ў своечасовым распазнанні небыліцы і адпаведнага стаўлення да яе зместу. Вызначальным для стылю жанравага выказвання небыліц можа быць названы «гульнёвы» прынцып.

У *анекдоце* паведамленне фальклорнага аўтара, для якога ў тэксце выкарыстоўваецца пераважна суб'ектная форма апаведача, носіць камунікатыўны статус меркавання. Своеасаблівы дыялог прынцыпова розных поглядаў на вызначаную сітуацыю або розных адносінаў да жыцця, які фарміруе мастацкі свет анекдота і структуру яго тэкста, з'яўляецца вызначальным і для стылю жанравага выказвання. «*"Уставай, стары, пеўні ўжо крычаць!" – "Не трэба нам у гэту справу ўмешвацца"*» [1, *251*].

Галоўнае ў мастацкім свеце анекдота, як лічаць даследчыкі, – «самавыяўленне <...> характару» героя: «ініцыятыўна-авантурныя паводзіны ў аказіянальна-авантурным свеце – паводзіны кемліва знаходлівыя, або, наадварот, дыскрэдытыруюча недарэчнае, ці проста дзівакаватае, дурное, нярэдка блюзнерскае» [4, *85*]. Сродкам такога самавыяўлення слугуе той жа дыялог. Зацягнутым у гэты дыялог аказваецца і слухач, пазіцыя якога ў актыўным абмене меркаваннямі. Для таго, каб такі абмен адбыўся, слухач, на думку В. І. Цюпы, павінен валодаць «рэкрэатыўнай кампетэнтнасцю», якая «мае на ўвазе, у прыватнасці, наяўнасць так званага пачуцця гумару <...>» [4, *91*]. Жанравае выказванне анекдота імкнецца да мінімізацыі маўленчых сродкаў і можа быць зведзена да «рытарычнай мяжы», у якасці якой выступае «камічная апафегма, г. зн. дасціпны выраз» [4, *85*]. «*"Кума, як ты думаеш, што раній было – яйко ці курыца?" – "Э, кумэ, раній усё было"*» [* 1]. Агульны рэгулятыўны прынцып пабудовы выказвання можа быць названы «аказіянальным», улічваючы казуснасць і непрадбачнасць анекдатычнай канцоўкі.

Такім чынам, крэатыўная, рэферэнтная і рэцэптыўная кампетэнцыі жанраў легенды, былічкі, сказа, небыліцы і анекдота ўтвараюць індывідуальную, толькі ім уласцівую, камунікатыўную стратэгію, якая вызначае адметнасць стылю мастацкага выказвання адзначаных жанраў фальклорнай няказкавай прозы.

## ЗАЎВАГІ

* 1. Матэрыялы з жанравага архіва вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры БДУ.

## ЛІТАРАТУРА

1. Жарты, анекдоты, гумарэскі / склад. А. С. Фядосік. – Мінск, 2005.
2. Легенды і паданні / склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі. – Мінск, 1983.

3. *Лук'янава, Т. В.* Камунікатыўны акт у фальклоры: аўтар – выканаўца – слухач / Т. В. Лук'янава // Язык и социум: Материалы 5-й Международной научной конференции. Минск, 6 – 7 декабря 2002 г. В 2- х ч. Ч. 2. – Мінск, 2003.
4. Теория литературы: учеб. пособ.: в 2 т. / под ред. Н. Д. Тамарченко. Т.1: Н. Д. Тамарченко, В. И. Тюпа, С. Н. Бройтман. Теория художественного дискурса. Теоретическая поэтика. – М., 2004.
5. *Федорова, В. П.* Небылицы / В. П. Федорова // Проблемы изучения русского устного народного творчества. Вып. 1. – М., 1975.

***Рыма Кавалёва***

# ЭКСТРАЖАНРАВЫЯ З'ЯВЫ Ў ТРАДЫЦЫЙНЫМ ФАЛЬКЛОРЫ

Традыцыйны фальклор – складанае, маштабнае, жывое і да канца не вывучанае культурнае ўтварэнне. Па-сапраўднаму прастора фальклорнай традыцыі пачала асэнсоўвацца ва ўсіх яе праявах – жанравых і экстражанравых – дзесьці ў апошнія 25 гадоў у сувязі з пашыраным разуменнем паняцця «фальклор». Высветлілася, што сістэма традыцыйных жанраў любога нацыянальнага фальклору трымаецца на абмежаванай колькасці базавых форм і збольшага тыпалагічна адпавядае сусветнай.

Інтэрнацыянальны характар маюць жанравыя *класы* песеннай творчасці. Паўсюдна сфарміраваліся класы абрадавых і пазаабрадавых песень. Супадаюць пэўныя жанравыя віды. Так, каляндарна-абрадавыя і сямейна-абрадавыя песні ўласцівы не толькі славянам і не толькі індаеўрапейцам, а самым розным народам. Нацыянальная адметнасць жанравай сістэмы пачынаецца з канкрэтыкі – з узроўню жанравых разнавіднасцей, на якім добра бачны лакуны і безэквівалентныя з'явы. Напрыклад, беларускім радзінна-хрэсьбінным песням адпавядае лакуна ў рускім фальклоры, а рускім падблюдным (варажбітным) і ўюнішным песням – лакуна ў беларускім фальклоры. Цалкам арыгінальныя беларускія куставыя песні, паўднёваславянскія і заходнеславянскія краліцкія (каралеўскія). У беларускім фальклоры няма аналагаў сербскім божычным песням на Каляды. Прыклады можна працягваць, яны добра вядомы даследчыкам.

Калі мы звернемся да фальклорнай прозы, то там назіраецца тая ж карціна. Дастаткова выразна вылучаюцца *класы* казкавай і няказкавай прозы, якія ўключаюць шэраг жанраў. Безумоўна інтэрнацыянальным жанрам з'яўляецца казка. Якія б тэрміны ні існавалі для пазначэння казкі ў розных традыцыях, як бы ні адрозніваўся змест этнічных казак, у іх заўсёды можна вылучыць агульныя жанраўтваральныя рысы. Гэта тая нерухомая кропка класіфікацыі, згодна з якой вызначаюцца жанравыя віды (казкі анімалістычныя, чарадзейна-фантастычныя, рэалістычныя), мадыфікацыйныя і інтэграцыйныя формы (казкі міфалагічныя, легендарныя, анекдатычныя і інш.).

Разам з наратыўнай прозай – казкамі, легендамі, прымхліцамі, анекдотамі і іншымі жанрамі – у фальклоры існуе пласт дыскурсіўнай прозы. Яна складаецца з незлічонай колькасці сітуацыйных шматаблічных тэкстаў, якія не ўкладаюцца ў сістэму класіфікацыі традыцыйных жанраў, хоць і належаць традыцыйнаму фальклору. Гэта і ёсць экстражанры (лац. extra ’звыш’, ’па-за’, ’дадаткова’). Яны гойдаюцца на хвалях жыццёвых сітуацый і сітуацыйнага маўлення, утвараюць сімбіятычныя адзінствы і перакрыжаваныя множнасці, даволі свабодна пераразмяркоўваюцца, так што не заўсёды можна сказаць, што перад намі. Паказчыкі экстражанраў – дамінантныя сэнсава-функцыянальныя параметры, згодна з якімі яны асэнсоўваюцца. У народнай свядомасці экстражанры фіксуюцца ў выглядзе прыкмет, павер’яў, абярэгаў, варажбы, тлумачэння сноў і г. д.

Мэта дадзенага артыкула даволі сціплая: усяго толькі звярнуць увагу даследчыкаў на наяўнасць у традыцыйным фальклоры экстражанравых з’яў, генетычна прыналежных стадыі монафальклору, і на канкрэтных прыкладах абгрунтаваць правамернасць паняцця «экстражанр». Вызначэнне складу экстражанраў мы пакідаем для зацікаўленых асоб, спыніўшы ўвагу на прыкметах і павер’ях. Пры даследаванні народных уяўленняў, прыкладам, пра зоркі, маланку, змей, рыб, дрэвы і г. д., гэтыя дыскурсіўныя экстражанры выкарыстоўваюцца як комплексны матэрыял, нягледзячы на тое, што яны грунтуюцца на розных светасузіральных асновах (фр. discours 'маўленне', 'гаворка'). Наогул тэмы фальклорнай дыскурсіўнай прозы, звязанай з маўленчымі актамі, натуральнымі камунікатыўнымі падзеямі, хоць і шырокія, але спецыфічныя. Яны ахопліваюць народныя традыцыі, звычаі, абрады, павер’і, рацыянальнае, магічнае і міфалагічнае асваенне свету, погляды на бога і чалавека, людзей і не-людзей, жывёльны і раслінны свет, культурныя і прыродныя аб’екты (камяні, пагоркі, балоты; збудаванні, рэчы, прадметы). Напрыклад, «прывязка» павер’яў – канкрэтная жыццёвая сітуацыя, якая ўключае па меншай меры дзвюх асоб. Возьмем шэраг сітуацый з удзелам маці і дзяцей, якім трэба нешта забараніць, абгрунтаваўшы забарону спасылкай на вынік яе нарушэння:

а) «Каму кажу, кінь жабу – барадаўкі ўскочаць, не звядзеш потым!»;

б) «А ну злазьце, неслухі! Што надумалі! Не чапайце ластаўку! Хочаце рабацінне на твар! Толькі датыкнецеся да яйка – адразу ўскочыць!»;

в) «Нікуды не хадзіце. Гуляйце каля хаты. Пойдзеце ў поле – русалка ў жыта зацягне. Мала вам не будзе!».

Як бачым, у дадзеным выпадку дыскурсіўны фальклорны элемент з’яўляецца хутчэй сэнсавай структурай, чым завершаным жанравым выказваннем. У складзе сітуацыйнага звароту маці да дзяцей забароне надаюцца розныя функцыі:

- камунікатыўна-інфармацыйная (паведамленне аб існуючых павер’ях);
- засцерагальная (вось што бывае з непаслухмянымі дзецьмі);
- выхаваўчая (як не трэба сябе паводзіць);
- аксіялагічная (каштоўнасць жывой прыроды).

Выказванні апелююць да фальклорна-міфалагічнай карціны свету, праз іх яна набывае слоўнае выяўленне ў форме забароны, але жанрам, у строгім значэнні дадзенага паняцця, не з’яўляецца, як нельга лічыць самастойным жанрам і забарону.

Такім чынам, дыскурсіўная фальклорная проза, дзе жанраў як такіх няма, уяўляе сабой сэнсавыя ненаратыўныя выказванні. Іх можна скараціць да слоўнай формулы адпаведнай структуры тыпу «як – то», «калі – то», «суб’ект – прэдыкат – акалічнасць» і інш., што, уласна кажучы, і робяць інфарманты, калі да іх звяртаецца збіральнік.

Менавіта ў такой штучнай форме павер’і і прыкметы прадстаўлены ў выданнях XIX-XX стст. Найбольш поўнае ўяўленне аб іх дае зборнік А. К. Сержпутоўскага «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» (1930). Багаты матэрыял прадстаўлены ў кнігах «Беларускія народныя прыкметы і павер’і» (кн. 1, 1996; кн. 2., 1998; кн. 3., 1999), складзеных У. А. Васілевічам на аснове запісаў папярэднікаў. Шырокая рэпрэзентацыя тэкстаў ажывіла цікавасць даследчыкаў да сучаснага бытавання, збірання і вывучэння пазначаных экстражанраў. Пры фалькларыстычным падыходзе заканамерна паўстае праблема абгрунтавання аб’екту вывучэння. Даследчык павінен усведамляць, што ён, уласна кажучы, вывучае: фальклорныя тэксты пэўнай жанравай формы, якія захоўваюць сувязь з усім багаццем народных уяўленняў, або штучныя выказванні «аб» прыкметах і павер’ях, ініцыянаваныя збіральнікам, што адліліся ў тую ці іншую форму.

Зразумела, што аб’ектам разгляду станавіліся не кантэкстныя выказванні ў натуральных бытавых умовах, бо яны амаль не паддаюцца фіксацыі, а менавіта скандэнсаваныя да структурнага выгляду запісы збіральнікаў – па сутнасці, плод сумеснай працы інфарманта і фалькларыста, калі апошні з’яўляецца тым самым парушальным фактарам, які «размывае» чысціню эксперыменту. Натуральна, што прадметам аналізу браліся структура запісаў, семантыка асобных канцэптаў, уяўленні, што рэпрэзентаваліся выказваннем, некаторыя мастацкія элементы і г. д. Даследчыкі прама ці ўскосна адносілі павер’і і прыкметы да жанраў фальклору і групавалі адпаведна тэматыцы або функцыянальна-семантычнага прызначэння (напрыклад, павер’і, звязаныя з прыроднымі стыхіямі). Скажам, А. Кастрыца ўпэўнена, што «ў сістэме іншых фальклорных жанраў прыкметам і павер’ям належыць асобнае месца», абумоўлена гэта «іх старажытнасцю, устойлівай утылітарнай функцыянальнасцю і добрай захаванасцю» [5, *228*]. Калі раней У. Васілевіч асцярожна заўважыў, што народны соннік, «напэўна, можна было б прызнаць самастойным фальклорным жанрам», то пазней ён падкрэсліў, што «павер’і, як і іншыя жанры вуснай народнай творчасці, надзелены элементамі мастацкага зместу» [1, *265*]. Тэндэнцыя лічыць прыкметы і павер’і самастойнымі жанрамі адгукаецца ў студэнцкіх працах. А. Давыдаў пачынае свой артыкул са знаёмых тэзісаў: «Прыкметы і павер’і займаюць важнае месца ў сістэме фальклорных жанраў вусна-паэтычнай творчасці. Менавіта ў гэтых малых творах, якія добра захаваліся ў народнай памяці, знайшлі адлюстраванне міфалагічныя ўяўленні, народжаныя рэальнымі ўмовамі жыцця» [4, *114*].

Паўстае законнае пытанне, ці сапраўды прыкметы і павер'і знаходзяцца ў сістэме традыцыйных жанраў, а калі так, то ў якім «асобным» (А. Кастрыца) або «важным» ( А. Давыдаў) месцы. Што тычыцца павер'яў, то няблага ўлічыць слушную думку У. Васілевіча наконт іх функцыянальнасці: «Павер'і ляжаць у аснове разнастайнай варажбы, тлумачэння сноў, чарадзейства, знахарства, рытуальных дзеянняў, магічных прыгаворак, забарон і інш.» [2, *265*]. З гэтага вынікае, што павер'і нельга лічыць устойлівым фальклорным жанрам ні з боку формы, ні з боку марфалогіі, ні з боку зместу. Яны выдатныя майстры перамены не толькі выгляду, але зместу і структуры, чым і адрозніваюцца ад наратыўнай фальклорнай прозы. Іх здольнасць адліваецца ў розныя формы ўражальная. Тады якім чынам мы распазнаем павер'і? Здаецца, толькі на падставе сэнсавай канфігурацыі любых выказванняў – аморфных і структураваных. Галоўнае, каб яны грунтаваліся на ўстойлівай веры ў сапраўднасць звышнатуральнага, ілюзорнага, уяўнага. Вера тычыцца, напрыклад, суб'ектаў міфалагічнага свету, нейкіх міфічных якасцей, здольнасцей, характарыстык рэальных істот, прадметаў і рэчаў, містычнай сутнасці звычайных і абрадавых дзеянняў або, наадварот, рытуальнай бяздзейнасці. Што б ні гаварылася пра прымхі і забабоны, яны з'яўляюцца вынікам кагнітыўнай працы старажытнага чалавека, скіраванай на знешні свет, унутры якога ён знаходзіўся, і свае стасункі з ім. У працэсе выжывання з несупыннай плыні з'яў, сутыкненняў, наступстваў паступова вылучаліся тыя, якія, згодна з міфалагічным і магічным мысленнем, пачыналі лічыцца заканамернымі. Наяўнасць павер'яў азначае пэўную ступень адаптацыі чалавека да акаляючага асяроддзя, яны – тая кропка, якая дазваляла надзейна арыентавацца ў свеце, каб пазбегнуць непажаданых вынікаў, негатыўнага ўздзеяння немаведама якіх сіл, неспрыяльных сітуацый і г. д. Якія б разнастайныя формы ні прымала тое ці іншае павер'е, яно заставалася ў пэўных сэнсавых межах. Камунікатыўны акт у залежнасці ад удзельнікаў дыктуе, чым быць павер'ю – забаронай, інфармацыяй, тлумачэннем і інш., дазваляе "плаваць" у шырокіх рамках ад аморфнасці да жорсткай структурнасці, ад дыскурсіўнасці да наратыўнасці, ніколі не дасягаючы апошняй самастойна, а толькі ў складзе або "на плячах" наратыўных жанраў, напрыклад, прымхліц, легенд, дзе яны палягаюць семантыкай вобразаў, матываў, сюжэтных сітуацый, дэталей, набываючы сюжэтаўтваральныя функцыі.

Па сваёй сутнасці павер'і міфалагічныя і, падобна міфу, могуць існаваць у вербальнай і невербальнай форме, быць выказваннем, дзеяннем, прадметам, звязвацца з пэўнымі акалічнасцямі. Напрыклад, раніцай гаспадыня сыпала рэшткі куцці курам. Пры гэтым не гаварылася ні слова, але падразумявалася, што тады яны будуць добра несціся. Калі звычай патрабаваў удзелу дзяцей, то павер'е вылівалася ў загад: «Ідзі насып курам куцці» без усякага тлумачэння. Недасведчанага чалавека вучылі: «Калі куццю скорміш курам, добра несціся будуць». Збіральнік на пытанне, што рабілі з рэшткамі куцці, пачуе адказ-інфармацыю тыпу: «Куццю насілі курам, каб яны добра несліся». Ва ўсіх выпадках павер'е застаецца ў рамках тэмы куцця і куры, якая знаходзіцца ў сферы бытавой магіі.

Устойлівая залежнасць паміж тэмай і павер'ем існуе не заўсёды, а калі існуе, то на лакальным ўзроўні. Возьмем, напрыклад, структуру Пятніца – пост – павер'е. У рукапіснай кніжачцы жанчыны з в. Хільчыцы Жыткавіцкага раёна

Гомельскай вобласці аб чацвёртай пятніцы запісана наступнае: «Пред вознесеньем Господа на небо кто ее постит тот от стрелы сохранен будет» [7, *560*]. Рэлігійнае правіла (пятнічны пост) неўсвядомлена суадносіцца з язычніцкім абрадам ваджэння і пахавання «стралы». Згодна з распаўсюджаным на Гомельшчыне тлумачэннем абраду, «стралу» хавалі на полі, каб адвесці ад вёскі маланку. А ў сшытку жанчыны з в. Шчадрагор Ратноўскага раёна Валынскай вобласці акцэнтуецца іншае павер’е: «Пятница перед вознесением Господним кто ее постоват будет тот человек от потопа водяного сохранен будет» [7, *559*]. Трэба думаць, на павер’і таксама адбіўся культ Грамавіка Перуна, навальнічнага бога, уладара дажджавых хмар, але гэта ўжо другі бок бажаства.

Ці можна лічыць самастойным жанрам фальклорнай прозы прыкметы? Можна, але толькі ў практычных мэтах, напрыклад, пры афармленні экспедыцыйных палявых матэрыялаў, хаця агульнага меркавання на гэты конт няма. Р. Л. Пермякоў лічыў іх асобным тыпам парэмій з пераважна *прагнастычнай* функцыяй. Прыкметы, у адрозненне ад павер’яў, “прароцкіх” сноў, варажбы, – натуральныя прадвеснікі падзей і з’яў. Іх асноўная сутнасць, як адзначыў вучоны, у прадказанні будучага – надвор’я, ураджаю, бяскорміцы, дароў прыроды, стану здароўя чалавека і жывёлы, стыхійных бедстваў і г. д.

Беларускі фалькларыст У. А. Васілевіч характарызуе прыкметы як жанравую разнавіднасць малой фальклорнай прозы: пад імі разумеецца прадказанне пэўнага выніку, заснаванае на аб’ектыўнай заканамернасці і прычынна-выніковай залежнасці з’яў, падзей, дзеянняў і пацверджанае многавяковым народным вопытам. Азначэнне прыкмет, дадзенае вучоным у энцыклапедыі «Беларускі фальклор» [3, *389*], патрабуе ўдакладнення, вязанага з іх паходжаннем. Яны сапраўды грунтаваліся на назіраннях, якія адпавядалі пэўным заканамернасцям. Вось толькі сувязь з’яў ўсведамлялася метанімічна, па сумежнасці. Напрыклад, часавай, прычым напачатку з’явы разумеліся міфалагічна. Так, лічылася, што сонца абавязана сваім нараджэннем святлу, пасля якога яно з’яўлялася на небе. Роднасць з міфалогіяй адчуваецца ў парэміях праз сувязь дня і сонца – «Сонца ўстане, так і дзень настане», стасункі сонца і месяца – «Сонца з-за хмары, а месяц у шпары».

Для метанімічнага мыслення старажытнага чалавека не існавала прычынна-выніковай сувязі ў нашым разуменні. Прычына была чыста ілюзорная: «Рыба плёскае перад дажджом» (таму што яе ганяе вадзянік). Вынік метанімічнага ўспрымання сувязі з’яў, прыкметы напачатку тычыліся кароткачасовых прагнозаў: «Мурашы хаваюцца ў мурашнік – чакай дажджу». Падкрэслім: сувязь спеву пеўня, палёту ластавак, паводзінаў мурашоў з наступным дажджом усведамлялася праз іх заканамернае суседства ў часе. З назапашваннем вопыту кола назіранняў пашыралася. Акрэсліваўся шэраг аб’ектыўных паказчыкаў – знакаў, якія тычыліся не толькі надвор’я, але і будучых сезонаў – лета, зімы, вясны, восені. У мэтах жыццезабеспячэння паляўнічым было важна навучыцца бачыць знакі магчымай колькасці аб’ектаў сезоннага палявання, земляробам – ведаў на ўраджай. З цягам часу некаторыя прыкметы набываюць выгляд адназначных рэкамендацый, парад, сцвярджэнняў: «Калі ў жыце кветкі, то будзе дабра поўны куткі», «Дзе валошка, там хлеба крошка», «Гной адвязеш – хлеба прывязеш».

Прыкметы ўтвараюць логіка-тэматычную групу простых ці складаных сказаў з інварыянтнай структурай «калі – то». Прыкмета можа ўяўляць сабою сцвярджэнне ў форме простага сказа: «Пятух пяець на змену надвор'я». Ва ўсіх выпадках структура або прысутнічае ў сказе, або лёгка ўзнаўляецца: «Калі ластаўкі лётаюць нізка, будзе дождж» – «Ластаўкі пырхаюць над вадою – на дождж» (*Калі* ластаўкі пырхаюць над вадою, *то* будзе дождж). Формула прыкметы – папярэдняе / наступнае. Яна чытаецца так: «Калі ёсць нейкая папярэдняя з'ява А, то будзе наступная з'ява Б, а калі не назіраецца з'явы А, то нельга чакаць і з'явы Б». Напрыклад: «Калі ў лесе з'явіцца вясною шмат вавёрак, то будзе ці неўраджай, ці вайна», «Калі лось вясною зойдзе на азіміну пасвіцца, трэба чакаць добрага ўраджаю жыта». Як бачна, прыкметы выразна грунтуюцца на метанімічнай мадэлі сувязі дзвюх розных сітуацый, дзе першая – знак магчымага з'яўлення другой, а зусім не на ўсведамленні прычынна-выніковых сувязей паміж імі.

Агульнатэкставая адзнака прыкметы – абавязковая адназначнасць выказванняў прадказальнага характару: «Калі заяц у вёску ўбяжыць, дык вёска згарыць», «Калі ў збожжы часта дзярэцца дзяркач, то яно добрэ зародзіць». Яны не дапушчаюць пашыранага тлумачэння і адносяцца менавіта да тых аб'ектаў і з'яў, пра якія гаворыцца: заяц – вёска – пажар, збожжа – дзяркач – ураджай. Іншая справа, што жывёлы-прадвеснікі часам звязаны з міфалагічнымі павер'ямі аб іх якасцях. У міфалагічным кантэксце яны якраз выступаюць «прычынай» бедстваў і няшчасцяў або прыбытку і дабрабыту.

Калі прыкмета набывае ўласцівасць ужывацца па аналогіі ў дачыненні іншых з'яў і сітуацый, яна, застаючыся як прамое выказванне ў сферы свайго экстражанру, можа выконваць функцыю прыказкі ці прымаўкі. Напрыклад, тыповай прыкметай з'яўляецца выказванне «З вялікае хмары малы дождж», «З вялікай хмары малы дождж будзе», «З малай пучыны бываець часам вялік дождж». Яно чытаецца наступным чынам: «Нягледзячы на тое, што хмара малая, з яе можа быць малы/вялікі дождж», што адпавядае назіранням за хмарай. А ў жыццёвай сітуацыі гэтыя выказванні – тыповыя прыказкі, іншасказанні, суджэнні аб сітуацыі і яе ўдзельніках. Тут рэаліі хмара, гром, пучына, дождж важныя не самі па сабе, а як паказчыкі тых ці іншых абагульняючых якасцей.

Па сваёй прагнастычнай функцыі прыкметы збліжаюцца з *«вешчымі» снамі, павер'ямі, варажбой*.

Такім чынам, мы прыходзім да высновы аб гетэрагеннасці фальклорнай прасторы, якая складаецца з гістарычна ранніх экстражанравых з'яў – гэтакага катла няпэўных форм з расплывістымі абрысамі, але з сэнсавай дамінантай, і жанравых, якія маюць сістэмны характар. Жанры і экстражанры – два полюсы фальклорнай творчасці, дзве формы бытавання фальклору. Дадзены факт меў каласальнае значэнне для развіцця фальклору, стварыўшы ўмовы для інтэграцыйных працэсаў, праўда, галоўным чынам ад экстражанравага поля да жанравага. Зрэшты, гэты тэзіс яшчэ мае патрэбу ў абгрунтаванні на больш шырокім фактычным матэрыяле, што само па сабе вельмі цікава.

Даследаванне экстражанраў мае непасрэднае дачыненне да фалькларыстыкі. Трэба толькі ўлічваць, што яно не можа не быць міждысцыплінарным. Прызнаўшы фальклорны статус экстражанраў, мы тым самым пазначаем праблему, якая можа стаць важнай часткай вывучэння гісторыі і тэорыі фальклору. Гэта не патрабуе радыкальнага перагляду даследчай праблематыкі і падыходаў, але адкрывае новыя перспектывы ў асэнсаванні фальклорнага працэсу.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Васілевіч, У.* Ад складальніка / Уладзімір Васілевіч // Беларускі народны соннік / укл. і прадмова У. Васілевіча. – Мінск, 1995.

2. *Васілевіч, У. А*. Павер'і / У. А. Васілевіч // Беларускі фальклор: Энцыклапедыя: у 2 т. Т. 2 / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. – Мінск, 2006.

3. *Васілевіч, У. А*. Прыкметы / У. А. Васілевіч // Беларускі фальклор: Энцыклапедыя: у 2 т. Т. 2 / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. – Мінск, 2006.

4. *Давыдаў, А*. Прыкметы і павер'і Добрушскага раёна / Андрэй Давыдаў // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі: зб. арт. Вып. 4 / пад нав. рэд. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка. – Мінск, 2007.

5. *Кастрыца, А.* Прыкметы і павер'і Гомельшчыны / Алена Кастрыца // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі: зб. арт. Вып. 3 / пад. нав. рэд. Т. А. Марозавай, В. В. Прыемка. – Мінск, 2006.

6. *Пермяков, Г. Л.* Основы структурной паремиологии / Г. Л. Пермяков. – М., 1988.

7. *Толстая, С. М*. Полесский народный календарь / С. М. Толстая. – М., 2005.

# Раздзел 3

# ПАРАЎНАЛЬНАЯ ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА

***Вера Дзянісенка***

## ЭТНАСАЦЫЯЛЬНЫЯ І КУЛЬТУРНА-ПОБЫТАВЫЯ З'ЯВЫ Ў БЕЛАРУСКІХ І ВЕДЫЙСКІХ ЛЕКАВЫХ ЗАМОВАХ

Беларуская індаеўрапеістыка не мае такіх глыбокіх навуковых традыцый, як руская і заходнееўрапейская, аднак можна сцвярджаць, што цяпер яна лічыцца даволі папулярнай і перспектыўнай галіной даследавання. Асабліва гэта тычыцца тыпалогіі абрадавых сувязей беларускіх і ведыйскіх лекавых замоў. Кожная з іх уключана ў вельмі складаную сістэму сувязей з нацыянальнай міфалогіяй і нацыянальным фальклорам, так што ствараецца ўражанне, быццам паміж імі няма кропак судакранання, настолькі яны знешне не падобныя адна на адну. Тым не менш заўсёды застаецца такі напрамак, як гісторыка-тыпалагічнае даследаванне абрадавых функцый замоў, выяўленне іх жанраўтваральнага значэння, з аднаго боку, і высвятленне канкрэтных неадпаведнасцей – з другога, бо характар і спецыфіка адлюстравання рэчаіснасці ў беларускіх і ведыйскіх замовах розныя.

Калі важным рэгулятарам паэтыкі лекавых беларускіх замоў можна лічыць пэўныя светапоглядныя ўяўленні, звязаныя з першабытнай практыкай, у якой вялікае месца належала інстынктыўным дзеянням [2, *75*], то ў аснове медыцынскіх уяўленняў Атхарваведы – некаторыя агульныя рэлігійна-філасофскія погляды гэтай эпохі. Так, прычынай хваробы, па меркаванні ведыйскіх арыяў, магла быць апанаванасць якім-небудзь дэманам, сурокі, насланыя ворагам, ці грэх перад якім-небудзь боствам [1, *31*].

Пад безэквівалентнасцю мы разумеем сукупнасць канкрэтных неадпаведнасцей, асаблівасцей, якія можна вызначыць пры тыпалагічным супастаўленні беларускіх і ведыйскіх лекавых замоў. Зразумела, што назвы хвароб, вобраз ці прадмет абазначаюцца пэўнай лексемай, аднак мэта нашай работы – выяўленне не безэквівалентнай лексікі ў дзвюх культурах, а пэўных адрозненняў сярод культурна-бытавых кампанентаў, г. зн. пры параўнанні замоў будзем улічваць факты паўсядзённай рэчаіснасці і шырокага культурнага кантэксту.

Як вядома, мастацкае пазнанне і мадэліраванне рэчаіснасці ў замовах ажыццяўляецца апасродкавана, праз сферу быту і сферу фальклорнай свядомасці для жанравых, эстэтычных і магічных мэт.

Этнасацыяльныя і культурна-побытавыя з’явы, якія ўтвараюць свет першасных абагульненняў, у беларусаў і арыяў ведыйскай эпохі не могуць супадаць, што, на наш погляд, з’яўляецца глебай мастацкай безэквівалентнасці.

У беларускіх і ведыйскіх лекавых замовах мы вызначаем наступныя ўзроўні безэквівалентнасці і спынімся на разглядзе першых трох:

- агульны: ён выяўляецца на падставе аналізу агульных прынцыпаў класіфікацыі беларускіх і ведыйскіх замоў;
- паняційны: тут улічваюцца пэўныя неадпаведнасці ва ўяўленнях, наяўнасць / адсутнасць паняццяў пэўных відаў хвароб, а таксама іх назвы;
- рэлігійны: неадпаведнасці ў імёнах ці назвах звышнатуральных сіл, да якіх звяртаюцца з просьбай, на якія спадзяюцца ў ажыццяўленні задуманага, у нашым выпадку – накіраваныя на атрыманне здароўя;
- персанажна-хранатопны: адрозненні тычацца назваў, семантыкі і функцыі вобразаў-локусаў, вобразаў-персанажаў і іх памочнікаў.

Нават не закранаючы самі замоўныя тэксты, агульны ўзровень безэквівалентнасці можна выявіць пры разглядзе прынятых класіфікацый лекавых замоў, якія ў дзвюх традыцыях вельмі адрозніваюцца.

Беларускія лекавыя замовы падзяляюцца ў задежнасці ад відаў хвароб. Так, ў томе «Замовы» (Мінск, 2000) са зводу БНТ вылучаюцца наступныя групы: 1) на забеспячэнне здароўя; 2) ад крывацёку; 3) ад звіху, удару, выбою; 4) ад зубнога болю; 5) ад скулы; 6) ад рожы; 7) ад вогніку; 8) ад астуды; 9) ад лішая; 10) ад валасня; 11) ад грыжы; 12) ад залатніка; 13) ад болі ў жываце; 14) ад каўтуна; 15) ад хваробы вачэй; 16) ад урокаў; 17) ад спугу; 18) на захаванне плода; 19) на добрыя роды; 20) ад начніц, крыксаў і інш.

Класіфікацыя ж ведыйскіх лекавых замоў улічвае не толькі падзел па відам хвароб (напрыклад, замовы супраць хваробы якшма, супраць хваробы кшэтрыя, супраць ліхаманкі-такман, супраць хваробы баласа, супраць хваробы сэрца і жаўтухі, супраць блукаючых нырак), але па сімптомах (напрыклад, замовы супраць апачытаў, супраць крывацёку, супраць ран і пераломаў, супраць кашлю, супраць хваробы, на доўгае жыццё) і сродках, з дапамогай якіх вылечвалася хвароба (напрыклад, замовы да расліны куштха – супраць ліхаманкі-такман, да расліны лакша – супраць ран, супраць пашкоджанняў і ран – з ягадай піпалі, супраць хваробы – з маззю, супраць хвароб – з амулетам з ячменных зярнят).

У беларускіх і ведыйскіх лекавых замовах мы вылучаем рэлігійны ўзровень безэквівалентнасці. У зачыне беларускіх замоў звычайна звяртаюцца з просьбай да тых сіл, на якія спадзяюцца ў ажыццяўленні задуманага. Паколькі два тысячагоддзі існавання хрысціянства прывялі да пэўнай хрысціянізацыі замоў, то звычайна беларускі замаўляльнік звяртаецца да Хрыста ці Божай Маці, што набліжае замову да малітвы: *«Ішла святая Прачыстая матка Хрыстова гарою, нясла ваду дугою»* [3, *154*]. У рытуал прама ўводзіцца малітва, адсюль ў замовах «памалюся»: *«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай мацеры пакланюся, прыступі да памажы ўрокі шаптаці»* [3, *275*]. Таму падчас замаўляльнага акта Бога просяць умяшацца ў стасункі людзей, дараваць здароўе. Фактычна гэта нават не просьба: замаўляльнік нечым прыраўноўвае сябе да Бога – дыктуе свету свае прадпісанні. Выказанае імя

Бога, згодна самым старажытным і паўсюдна распаўсюджаным вераванням, як бы паварочвае іншасвет да чалавека, робіць Боскі свет больш адкрытым для таго, хто вымаўляе сакральнае імя. Праз пасрэдніцтва імёнаў, што належаць да семантычнага поля «пачатак», або «зачын», замова праводзіць паралелі паміж дзеяннямі замаўляльніка, з аднаго боку, і Хрыста, Божай Маці, святых, анёлаў, іншых усемагутных істот – з другога. І вышэйшыя сілы, і замаўляльнік – разам – пачынаюць магічныя дзеянні, накіраваныя на атрыманне здароўя для рэцыпіента [5, *51–52*].

У адрозненне ад ведыйскіх, у беларускіх лекавых замовах не сустракаецца зварот да язычніцкіх багоў, хаця яны згадваюцца, напрыклад, у любоўных ці ад нячыстай сілы.

Што тычыцца рэлігійнага ўзроўню замоў ведыйскай эпохі, то ў першую чаргу неабходна закрануць пытанне пра суаднесенасць у іх рэлігіі і магіі. Ведыйская рэлігія наскрозь пранікнута магіяй. Адны і тыя ж рытуалы маглі выкарыстоўвацца як ў рэлігійных, так і ў магічных мэтах. Агульным элементам для магіі і рэлігіі было прызнанне абумоўленасці чалавечага існавання звышнатуральнымі сіламі [1, *25–26*]. У ведыйскіх замовах рэлігійны ўзровень прадстаўляюць два класы: багі і сілы зла (асуры і іншыя дэманы). Багі звязаны са светам, касмічным законам *рыта*, парадкам і ісцінай, асуры – з цемрай, парушэннем касмічнага парадку, хаосам, зманам. У ведыйскіх лекавых замовах сустракаецца імя Індры – бога навальніцы і вайны: *«Няхай аддадуць цябе зноў апсарас! // Зноў – Індра! Зноў – Бхага!»* [1, *72*]. Бог Агні (agni) – адзін з асноўных багоў Атхарваведы, ён бог агню ва ўсіх яго праявах: на зямлі, на небе і ў вадзе. Ён з'яўляецца богам сямейнага ачага і ахвярнага вогнішча, які забівае і праганяе дэманаў. Агні надзяляе даўгалеццем, вылечвае ад укусаў дзікіх звяроў і змяінага яду: *«Няхай прагоніць Агні адсюль ліхаманку!»* [1, *63*]. Сома (soma) – уладар раслін. Варуна (varuna) – асноўны захавальнік касмічнага закону рыта. Ён карае грэшнікаў, зацягваючы на іх свае петлі ці насылаючы вадзянку; звязаны з вадой і клятвай пры вадзе. Гэта змрочны бог магічных замоў Атхарваведы: *«Няхай прагоніць Агні адсюль ліхаманку! // (Няхай прагоняць яе) Сома, давільны камень, Варуна, чысты помысламі, // Алтар, ахвярная салома, ярка пылаючыя дровы! // Няхай знікне прэч нянавісць!»* [1, *63*].

Безэквівалентнымі з'яўляюцца, як бачым, некаторыя назвы хвароб у беларускіх і ведыйскіх замовах, таму ёсць падставы выдзеліць паняційны ўзровень. Так, у беларускіх замовах сустракаем назвы наступных хвароб:

- мізірніца – хвароба, галоўная адзнака якой сып: *«У полі стаяла ігруша, а пад той ігрушай стаяла тры дзявіцы: Арына, Марына й Кацярына. Яны не ўтыкалі, не ўшывалі, толькі скулу-рожу і скулу-залатуху, і мізерніцу ўгаварaлі»* [4, *196*];
- ятры – высыпка на барадзе ў дзіцяці: *«Ішоў гарэлы дзед гарэлым мостам да гарэлай бабы прасіць масла мазаці Івану раны, расшарпаны, разрываны. Штоб не ад'ятрывалісь, не раскідаліcь ні пад поўняй, ні пад маладзіком, ні вавекі вяком»* [4, *218*];
- астуда – скурная хвароба, прышчы, якія чэшуцца, не выключэнне і кароста: *«Астуда-чуда, я цябе знаю, умаўляю, уклікаю з чырвонае крыві, з белай касці, з жоўтага мозгу, з салодкага мяса»* [4, *220*];

- прытча – хвароба, якая сталася з невядомай прычыны; стаццё – хвароба, аслупяненне, стаянне слупам, адурэнне: *«Прашу Госпада Бога і Духа Святога, стань, Бог, у помач, ангалы, на радась і стаццё і пасабіця мне вымерать, выгавараваць з раба божага і стаццё і прытчо – стаццё вадзяное, стаццё земляное, стаццё ветраное, стаццё агняное: земляное ў зямлю, а вадзяное ў ваду, а агняное на ‘гонь, а ветраное на вецер»* [4, *296*];
- каўтун: *«Каўтун, каўтунішча-дурнішча, ад чаго ты ўзняўся? Ці ты з падзіўку, ці ты з пасілку, ці з цяжкага падымання, ці ты з цяжкага падыхання?»* [4, *246*];
- залатнік: *«Залаты залатнічок, малады маладзічок, я цябе знаю, я цябе выгаварaю, на сваём месцечку пастанаўляю»* [4, *238*];
- дзяцінец – хвароба маленькіх дзяцей, якая праяўляецца ў перыядычных прападках з сутаргамі і стратай прытомнасці: *«Цэркаўку не рабілі, да дзіцяці дзядзінец лячылі»* [4, *345*];
- красушнік, краснуха – заразная дзіцячая хвароба з чырвонай высыпкай на целе: *«Красушнік, сухотнік, ламотнік, пякотнік, не хадзі, не крышы з гарачай крыві»* [4, *349*];
- колка, колікі: *«Ішоў Бог дарогаю і сустрэў колюку»* [4, *364*];
- зубішча – як зубы растуць ды баляць: *«Дубішчы, вазьміця ў раба божага зубішчы, у верх вярховыя, а ў бок бакавыя, а ў корань каранявыя, із цемя із палуцемя, із куткоў із палукуткоў, із шчаляпей із палушчаляпей, із касьцей, із ясных вачэй»* [4, *190*];
- грыжа: *«Як етаму дрэву на пні не стаяць, корнеў не пускаць, лісцьеў не распускаць, так каб у етага (імя) грыжы не бываць»* [4, *226*];
- начніцы – калі дзеці курчацца і крычаць ад болю, не спяць ноччу, лічыцца, быццам іх катуюць начніцы – маленькія і злосныя духі ночы: *«Вячэрняя зара-зарыца, забяры ў майго дзіцяці плач і начніцы»* [4, *333*];
- ліхаманка – хінця, хінцюха, цётка, цяцюха, варагуша, трасца: *«На полі, на кіяні стаіць дуб Ракітані; на том дубі дванаццаць какатоў, на тых на дванаццаці какатах дванаццаць Цяцюх (цётак, ліхаманак), яны зжадаліся, у раба божага сабіраліся»* [4, *253*].

Што тычыцца ведыйскіх замоў, то трэба адзначыць, што ў класічнай індыйскай медыцыне існавала тэорыя трох асноўных складнікаў, якія састаўлялі арганізм чалавека, жывёлы, а таксама космас: гэта вада, агонь і вецер. Напрыклад, у замовах на вылячэнне і на доўгалецце ў Атхарваведзе знаходзіць сваё выражэнне ўяўленне аб тым, што замаўляльнік узнаўляе жыццё ці здароўе хворага чалавека. Такім чынам, размова ідзе пра нейкае сімвалічнае падабенства касмаганічнаму акту. Менавіта таму ў розныя варыянты касмаганічных міфаў уключаюцца эпізоды пра стварэнне лекавых раслін. Хваробы ў ведыйскіх замовах носяць агульны характар, звычайна іх цяжка атаясамліваць. Напрыклад, сустракаецца такая хвароба, як *якшма*. Гэта самая агульная назва для хваробы. У тэрміналагічным ужытку слова *«якшма»* (aksma) абазначае клас хвароб, якія выклікаюць схудненне: «*З вачэй тваіх, з ноздраў, // З вушэй, з падбародка // Якшму галаўную – з мозгу, // З языка я вырываю ў цябе!»* [1, *60*]. Па меркаванні адных, *якшма* абазначае сухоты, па

меркаванні другіх, сухоты абазначае *джанья* (jāyānya), якая ўяўляе сабой адну з разнавіднасцей *якшмы*. Увогуле, вядомы рад разнавіднасцей *якшмы*, сярод якіх неаднаразова згадваецца *«царская якшма»* (rājayaksma). Добра засведчана ў Атхарваведзе хвароба, якая называецца *такман* (takman) – ліхаманка, апісаная ў замовах ў многіх яе разнавіднасцях: сезонная, якая чаргуецца і інш.: *«Пастаянную і восеньскую, // Ліхаманку халодную і спякотную, // Летняй пары і пары дажджоў – // Я застаўлю знікнуць!»* [1, 65]. *«Паклон пякучай, трасучай, // Васпламяняючай, магутнай!»* [1, 66]. З *такманам* разам нярэдка ўзгадваюцца такія хваробы, як *баласа* (balāsa) і *каса* (kāsa). *Баласа* – няясная хвароба, якая суправаджаецца пухлінай ці набуханнем тканак: *«Усю баласу прымусь знікнуць, // (І) якая знаходзіцца ў членах, і якая – у суставах»* [1, 65]. Згодна аднаму з каментатарыяў, рытуал лячэння ад *баласы* складаўся з таго, што па рацэ пускалі чарот і хворага мылі гэтай вадой з дапамогай галінкі святога дрэва, прамаўляючы замову. *Каса* – гэта кашаль. Узгадваюцца страўнікавыя хваробы, *жаўтуха* (hariman), *вадзянка* (jalorada), хвароба сэрца (hrdyota), разнавіднасці рэўматызму (viskandha, samskandha): *«Няхай падымуцца ўслед за сонцам // Хвароба сэрца і жаўтуха твая!»* [1, 66]. Хвароба *кшэтрыя* (ksetriyá літар. «палявая» ад слова ksétra «поле»), па апісанні індыйскага каментатара, была заразнай хваробай, якая забівала цэлыя сем'і, магчыма, спадчынная, якая мела розныя формы. Не выключана, што яна была эндымічнай, г.зн. звязанай з пэўнай мясцовасцю: *«Калі кшэтрыя нагнала цябе // З-за варыва, якое прыгатоўваецца, – // Я ведаю лякарства ад яе, // Я прымушу знікнуць у цябе кшэтрыю»* [1, 62]. Даволі часта сустракаюцца назвы хвароб, невядомых для саміх індыйскій вучоных, напрыклад: *апва, вісалья, віндрадха, вацікара*, *аладжы*, *вацікрыта* [1, 32 – 33].

Такім чынам, нават на падставе невялікага матэрыялу ведыйскіх замоў мы паспрабавалі даказаць, што ўсё ж такі магчыма вызначыць узроўні безэквівалентнасці ў беларускіх і ведыйскіх лекавых замовах, што дае нам магчымасць з вялікай доляй верагоднасці вызначыць шэраг прыкмет, якія абазначаюць несуаднесенасць таго ці іншага элемента (ці вобраза). Таму мы можам гаварыць пра адрозненні ў праявах культурна-бытавога кампаненту ў беларускіх і ведыйскіх лекавых замовах.

## ЛІТАРАТУРА


1. Атхарваведа. Избранное. – М., 1977.

2. *Барташэвіч, Г. А.* Магічнае слова: вопыт даследавання светапогляднай і мастацкай асновы замоў. / Г. А. Барташэвич. – Мінск, 1990.

3. Замовы / уклад. Г. А. Барташэвіч; рэдкал.: А. С. Фядосік (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 2000.

4. *Кавалёва, Р. М.* Тыпалогія гімнічнай паэзіі беларусаў і арыяў ведыйскай эпохі / Р. М. Кавалёва // Фальклор і этнакультура Палесся ў індаеўрапейскім кантэксце: матэрыялы ІІІ Міжнар. навук. канф., (7 – 8 снежня 2006 г., г. Мінск) / Ін-т мастацтва, этнаграфіі і фальклору Нац. акад. навук Беларусі, Бел. дзярж. ун-т; рэдкал.: І. С. Роўда [і інш.]. – Мінск, 2007.

5. *Кудрашова, М. В.* Паэтыка беларускіх замоў у аспекце літаратуразнаўства. Вобразны свет. Гукавая арганізацыя тэксту / М. В. Кудрашова. – Мінск, 2005.

***Настасся Баярскіх***

# ГРАНІ КАНЦЭПТА КАХАННЕ Ў БЕЛАРУСКІХ І ЧЭШСКІХ ТЭКСТАХ

Агульным кірункам развіцця сучасных гуманітарных ведаў з'яўляецца антрапацэнтрызм – цікавасць да чалавека, фарміравання яго ўнутранага свету пад знакам агульначалавечых, нацыянальных і культурных канцэптаў, сярод якіх адно з галоўных месцаў займае канцэпт *каханне*. Пад канцэптам разумеецца згустак культуры, сукупнасць уяўленняў і асацыяцый, звязаных з пэўным словам, якія кансалідуюцца ў свядомасці чалавека, у тым ліку фальклорнай. Інакш кажучы, гэта слова, значэнне якога шырэй за тлумачэнне ў слоўніку агульналінгвістычнага тыпу і раскрываецца праз апеляцыю да карціны свету.

У розныя перыяды развіцця філасофіі і культуры каханне як з'ява духоўнага, культурнага і сацыяльнага жыцця інтэрпрэтавалася па-рознаму. Сучасная філасофія дае азначэнне каханню як інтымнаму і глыбокаму пачуццю, якое накіравана на іншую асобу, а не на чалавечую супольнасць ці ідэю. Каханне абавязкова ўключае ў сябе парыў і волю да сталасці, што афармляецца ў этычнае патрабаванне да вернасці. Каханне ўзнікае як самае свабоднае і таму непрадказальнае выражэнне глыбінь асобы, яго нельга прымусова ні выклікаць, ні пераадолець. Яно характарызуецца інтэнсіўнасцю, устойлівасцю, уключае ў сябе біялагічны і духоўны пачатак, мае пэўныя праявы, тыповыя для соцыума, але разам з тым яно асобаснае і індывідуальнае [1, *12*].

Часам фарміравання песень пра каханне па праву лічыцца XVII стагоддзе. Трэба адзначыць, што ў папярэднюю эпоху існавала культурная забарона на выражэнне ўласных пачуццяў. Вось чаму мы знаходзім у тэкстах імпліцытнае выражэнне эротыкі, але не сустрэнем згадак пра пачуцці. Наступная эпоха стала часам перанакіравання вектара грамадскага светаўспрымання, з'явілася магчымасць адкрыта казаць пра свае пачуцці. Аднак жа не будзем забывацца на ментальную памяць. Магчымасць увасабляць тэму кахання яшчэ не азначала, што адразу з'явіліся патрэбныя мастацкія сродкі. Фальклорная свядомасць стала аперыраваць даўно асвоенымі прыёмамі – выкарыстоўваць сімвалізацыю паняцця. У гэтай сувязі можна пагодзіцца з думкай С. Г. Варкачова, што метафізічныя канцэпты тыпу *душа, шчасце, каханне* лёгка «сімвалізуюцца», утвараючы «канцэптуальную вобласць». Улічваючы той факт, што трэба было закадзіраваць паняцце ў пэўнай ступені табуіраванае, прычым зрабіць гэта такім чынам, каб яно было зразумелым і семантычна празрыстым, нельга, на наш погляд, казаць пра лёгкі шлях сімвалізацыі разглядаемага канцэпта.

Корпус аналізуемых намі тэкстаў склаў 50 беларускіх і 50 чэшскіх песень пра каханне. На пачатку даследавання нам былі даступныя толькі 50 чэшскіх тэкстаў, з гэтай прычыны была абмежавана і колькасць беларускіх.

Пры вывучэнні беларускіх тэкстаў высветлілася, што ў іх зусім адсутнічае лексема *каханне*. Гэта не значыць, што ў калектыўнай свядомасці не існавала канцэпта. Як ментальная і семантычная сутнасць ён ужо быў адзінкай калектыўнай свядомасці і знаходзіў выражэнне праз адпаведныя вобразы і сітуацыі. Семантыка канцэпта «*каханне»* ўвасобіла тое, што метафарычна называецца душой народа, а яго вобразная рэалізацыя – асаблівасці фальклорнага мыслення этнасу.

Адну з асноўных асацыятыўных прыкмет кахання, зафіксаваных у фальклорнай свядомасці беларускага народа, можна ўмоўна пазначыць як *шчасце працаваць разам* (выяўляецца ў 28% тэкстаў):

*Мілы за вядзерка,*
*А я за другое.*
*Пойдзем прынясём*
*Вадзічкі абое* [2, *50*].

Як бачым, для лірычнай гераіні песні «Каліна-маліна» каханне не проста метафізічнае пачуццё, яно звязана з фактам фізічнай працы разам. Адзначым, што падобным чынам канцэпт «каханне» выяўляецца ў паэме Я. Купалы «Яна і Я».

Непадкантрольнасць – універсальная якасць кахання. Так, у песні «Даліна, даліна» лірычная гераіня разважае пра *наканаванасць* пачуцця, завяршаючы выказванне сентэнцыяй:

*Даліна, даліна,*
*На даліне студня.*
*Закахацца проста,*
*Расставацца трудна* [2, *49*].

У гэтай песні асацыятыўная «аўра» канцэпта ўключае моц пачуцця, што характэрна для 20% беларускіх любоўных песень.

У песні «Ты сяло маё, сяло новае» дзяўчына пытаецца:

*Ты каму, краса, ты дастанешся,*
*Ці старому, а ці малому,*
*А ці роўнаму разудалому* [2, *48*]?

Пра каханне ў ёй ні слова, наадварот, прысутнічае ў выказванні фаталістычная нотка, гераіня не выключае ніводнай перспектывы, аднак толькі апошні варыянт праз спалучэнне *красы* і *вянца* сігналізуе аб тым, што каханне разумеецца як шчасце жыць з роўным:

*Калі старому – ў чабатах насіць,*
*Калі малому – ў лапцях насіць,*
*Калі роўнаму – ў вянец насіць* [2, *48*].

Тут каханне-шчасце – умова з'яўлення высокай красы, а яго адсутнасць мае вынікам трагедыю знявечанай, стаптанай, зняважанай красы. Замужжа без кахання разумеецца як прыняты ў соцыуме статусны крок. Фальклорная свядомасць, аперыруючы паняццямі *краса/красата,* спалучае іх з дзявоцтвам, маладосцю, шчаслівым дашлюбным жыццём і часам ураўнаважвае каштоўнасць *красы* і статуса маладзіцы. Інерцыя побытавай свядомасці выразна бачна ў песні «Як з-пад каменя, і з-пад белага». Дзяўчына мылася пад ракітавым кустом у чыстай вадзе быстрай ракі, «дзівілася» сваёй прыгажосці,

разважаючы пры гэтым пра страту і набытак і, здаецца, не вельмі шкадуючы красу:

*Краса мая – жысць дзявоцкая,*
*Замуж я пайду – красату згублю,*
*Красату згублю – мужа нажыву* [2, *48*].

Цікавымі, на наш погляд, падаюцца песні, дзе лірычная гераіня, маладая незамужняя дзяўчына, з іроніяй ставіцца да кахання і закаханасці, за якім прыхаваны разлік:

*Ой, там на грудочку,*
*Расла груша-дзічка,*
*Кахайце мяне, хлопцы,*
*Хоць я невялічка,*
*Хоць я невялічка,*
*Але я багата.*
*У мяне кавалераў*
*Поўная хата* [2, *51–52*].

Невыпадковая асацыяцыя з грушай-дзічкай, гэта ўжо адзнака характару. Такая дзяўчына пасмяецца з няўдалых кавалераў і свайго Ясеньку *«чакаць да восені»* будзе.

Цікава, што лірычная гераіня наскрозь бачыць матывацыю кахання да сябе, далёкую ад духоўнай у «кавалераў» і, відаць, пазбаўленую меркантыльных інтарэсаў у Яся.

У песні «Сохне-вяне з ружы кветка» каханне падаецца як *непераадольная хвароба:*

*Занядужыла дзяўчына,*
*Не ходзіць гуляці.*
*– Чым ты хворая, дачушка? –*
*Запытала маці.*

*– Закружылася галоўка,*
*Сэрцайка баліці.*
*Ой, не знаю, не ведаю,*
*Як мне перажыці.*

*– Чым цябе лячыць, дачушка,*
*І дзе цябе дзеці?*
*– Ой, не знойдзеш мне лякарства,*
*Мамачка, на свеце* [2, *56*].

Лякарства ад яе, згодна з народным разуменнем, адно – узаемнае каханне. *«Адлягла боль ад галоўкі,// Сэрцу лепей стала»* толькі калі дзяўчына ўбачыла, што *«ходзіць хлопец каля хаты»* [2, *57*]. У беларускіх песнях пра каханне своеасаблівы семантычны акцэнт маюць матывы *ночы і дня*. Напрыклад, песня «Мак зялёны» – тыповы прыклад суб’ектывізацыі часу і прасторы. Калі дзяўчыну клічуць *татка і мамка*, яна не кранаецца з месца, тлумачачы прычыну наступным чынам: *«Ночка цёмна, рэчка быстра і кладка не*

*машчона»*. Для спаткння любыя ўмовы спрыяльныя – такая няхітрая ідэя песні, дзе хранатоп становіцца знакавым выражэннем пачуцця:

*Там за гарой, там за другой мяне мілы кліча,*
*Мяне мілы кліча.*
*Я пайду, да душы, пайду, далібог, пайду.*
*Ночка відна, рэчка ціха, кладачка мошчана* [2, 53].

Хацелася б яшчэ адзначыць той факт, што ў тэкстах імпліцытны канцэпт *каханне* знаходзіць выражэнне праз традыцыйныя пpасторавыя вобразы-матывы *садочка, рэчкі, беражочка* і інш.:

*Ой, не жалка мне таго чаўночка,*
*Не жаль малявання:*
*Толькі выплыві к майму беражочку*
*Ты, маё каханне* [2, 53].

Так ускосна гаворыць пра сваё каханне лірычная гераіня песні «А на возеры ды на сіненькім». Яе мілы, рыбак, які *«рыбку ловіць»*, але буйныя ветры абярнулі яго чаўнок. У сувязі з агульным настроем песні нават *«ветры буйныя»* пашыраюць сваё значэнне да жыццёвых нягод.

Такім чынам, аналіз беларускіх любоўных песень выявіў некаторыя асаблівасці выражэння канцэпта «каханне» ў беларускай фальклорнай традыцыі, дазволіў прасачыць, праз якія эксплiцытныя дэталі ён прэзентуецца, і выявіць, з якімі іншымі канцэптамі звязаны семантычна. У выніку выявіліся наступныя характарыстыкі канцэпта паводле беларускіх любоўных песень: каханне – шчасце працаваць разам, наканаванасць і прадвызначанасць пачуцця, смерць дзявочай красы і нерэалізаванасць пачуцця ў сувязі з замужжам, невербальная, часам яго хранатопнымі элементамі, матэрыяльная матывацыя, каханне = хвароба. Семантычна канцэпт каханне звязаны з канцэптамі дня, ночы і ракі.

*Каханне* ў чэшскіх песнях эксплiцытна выражаецца ў значна большай ступені ў параўнанні з беларускімі песнямі пра каханне. Напрыклад, у песні «A já sám, dycky sám» аповед вядзецца ад імя лірычнага героя, які гаворыць пра тое, што ён усё заўсёды робіць сам: даглядае сваіх коней, вычэсвае іх, а таму ён высватае прыгожую дзяўчыну:

*Svy koníčky okšíruju, hezké děvče pomiluju,*
*a já sám, dycky sám, svy koníčky očesám* [3].

Канцэптуалізацыю кахання ў дадзеным выпадку лічым магчымым трактаваць па мадэлі *годны хлопец мае права высватаць годную нявесту*, уласцівай 40% тэкстаў.

Мадэль *каханне-хвароба*, на наш погляд, прадстаўлена ў песні «A já vždycky, co mě má hlavička pobolívá»:

*A já vždycky, co mě má hlavička pobolívá,*
*a já vždycky, co mě hlava bolí ?*
*Má hlavička pobolívá,*
*má panenka zapomíná,*
*a já vždycky, co mě má hlava bolí* [3]?

Лірычны герой скардзіцца на тое, што яму баліць галава, і прычына зразумелая – яго каханая забывае пра яго. Па сутнасці, дадзеная вобразная ідэя гэтая характэрная для ўсіх часоў, прысутнічае ў фальклорнай свядомасці многіх народаў, прасочвалася і ў літаратуры. Лірычны герой чэшскай песні знаходзіць арыгінальнае выйсце з сітуацыі, блізкае да самаўнушэння:

*Však já přece pro tě do nemoci neupadnu,*
*však já přece pro tě stonat nebudu !*
*Do nemoci neupadnu,*
*když tě, holka nedostanu,*
*však já přece pro tě stonat nebudu* [3].

Нават калі ён і не даб'ецца сэрца ўпадабанай дзяўчыны, то не захварэе. Відавочна, што тут гаворыцца пра хваробу не фізічную, а хутчэй душэўную, праводзіцца думка пра каханне: *нераздзельнае каханне – гэта хвароба, але моцны чалавек здольны яе пераадолець*. Наступны прыклад цікавы ў плане сыходжання з беларускімі творамі

*Jaké to voráni bez pluhu, bez koní,*
*jaké to vorání bez koleček?*
*Takové vorání, jako milování,*
*jako milování bez hubiček* [3]!

Для лірычнага героя цалавацца без вуснаў – тое самае, што і араць без плуга. Метафарычная паралель *каханне – праца* зафіксавана ў 4% тэкстаў, а гэта значыць, што паступова неад'емная частка жыцця народа губляе свае семантычныя пазіцыі ў адносінах да канцэпта *каханне*, захоўваючыся на перыферыі фальклорнай свядомасці як традыцыйны ўзор. Напрыклад, калі у песні «Ach, synku, synku» бацька пытаецца ў лірычнага героя, ці араў ён сёння, то сын адказвае, што ён араў, але не поле, а сцежачку да сваёй мілай. Падчас даследавання выявілася тэндэнцыя да элегічнага модуса мастацкасці. У пэўнай колькасці тэкстаў дамінуе думка, што каханне, як і вада у рацэ, цячэ і мінае. Так, лірычная гераіня скардзіцца на нясталае каханне, якое нібыта вадзіца паміж скаламі:

*Naše láska houha - není stálá,*
*jako ta vodička mezi skalma.*
*Ta vodička houha - pryč uplyne,*
*ta naše láska zas pomjine* [3].

Яна, як бачым, прыходзіць да высновы, што *каханне, як і вадзіца, сплыне, і ўсё мінецца.* Падобны вобраз-матыў прысутнічае яшчэ ў адным творы, дзе каханне зближаецца з вадой ці з ракой: падобнае збліжэнне назіраецца ў 32% тэкстаў:

*Už je láska zrušená, už je všecka zkažená,*
*do vodičky do hluboký je uvržená* [3].

Пэўная колькасць беларускіх і чэшскіх песень трымаецца на тыповай сюжэтнай сітуацыі: хлопец просіць дзяўчыну выйсці да яго, яна ж вымушана адмовіцца, таму што бацькі не дазваляюць выходзіць ёй з хаты ўначы. Побач існуе наступная варыяцыя сюжэта: дзяўчына можа сустрэцца са сваім каханым

толькі ўначы, калі бацькі спяць. Так, у адной з песень лірычная гераіня тлумачыць каханаму, што не можа пайсці на спатканне, бо маці чуйна спіць:

*Já bych je ven vyhnala, jen dybych se nebála*
*Paňmáma lehce spí, jak se hnu, všecko ví!*
*Já nesmím z komůrky ven dřív, než bude bílej den* [3].

Як бачым, для чэшскага фальклору ўласцівы той самы семантычны комплекс *каханне-ноч-дзень,* што і для беларускага (18% тэкстаў). Аднак у цэлым заўважаюцца семантычныя нюансы і мастацкія дэталі, якія ствараюць нацыянальныя версіі ключавога канцэпта песень пра каханне.

Разуменне кахання ў чэшскай фальклорнай свядомасці выяўляецца праз наступныя матывы: годны хлопец мае права высватаць прыгожую нявесту, каханне – хвароба, непадзельнае каханне – яшчэ большая хвароба, але моцны духам чалавек здольны пераадолець насланнё, каханне і праца – своеасаблівы метафарычны комплекс.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Лобкова, Е. В.* Образ-концепт «любовь» в русской языковой картине мира : дис. … канд. филолог. наук : 10.02.01. / Е. В. Лобкова. – Омск, 2005.
2. Песні пра каханне / уклад. І. К. Цішчанка. – Мінск, 1978.
3. http://lidovepisne.cz/.

***Светлана Крылова***

# РОЛЬ МОТИВА СУДЬБЫ / ДОЛИ В СКАЗОЧНОМ СЮЖЕТООБРАЗОВАНИИ

Фольклорная проза характеризуется разнообразием жанров, отличающихся тематикой, способами отражения действительности, сюжетопостроением и системой образов. Наиболее развитой в этом смысле является сказочная эпика, наполненная творческими поисками и фантазией народа. Сказки повествуют о событиях, которые то ли были, то ли не были, выражают важные стороны народного миросозерцания. Их сюжеты обычно имеют эпическое развитие. Но в отличие от других жанров фольклорной прозы сюжетная композиция сказки обладает рядом специфических особенностей: во-первых, сюжет организуют действия сказочных персонажей, во-вторых, в нем выделяются простейшие повествовательные единицы, которые впервые охарактеризовал А.Н. Веселовский, назвав их «мотивами» [2, *301*].

В фольклористике термин «мотив» имеет несколько значений, одним из которых является следующее: «Мотив – структурообразующий элемент сюжетосложения в фольклоре. Мотивы… составляют содержательную ткань и структурную основу произведения, они обладают конструктивными сюжетообразующими свойствами, обеспечивающими логику повествовательного движения» [3, *156*]. Типологическая классификация мотивов до конца не разработана.

Б. Н. Путилов предлагает выделять мотивы-действия, мотивы-ситуации, мотивы-характеристики, мотивы-описания, мотивы-речи [3, *156*]. Но этого явно недостаточно, особенно в отношении некоторых сказочных мотивов, которые не соотносятся ни с одним из названных Б. Н. Путиловым типов. К подобного рода мотивам, которые наиболее отчетливо заявили о себе в социально-бытовых сказках, хотя нельзя оспаривать их наличия и в волшебно-фантастических, относятся тесно связанные между собой мотивы доли и судьбы человека. На наш взгляд, их вполне можно определять как мотивы-понятия, поскольку они базируются на мифологических представлениях онтологического плана, связанных с попытками разума понять природу бытия личности, степень свободы и зависимости жизненной нити от неких созданных воображением сил.

Истоки представлений о доле находятся в жизненном укладе архаического общества, где доля имела вполне конкретное, реальное, материальное воплощение как, например, часть добычи, выделяемой человеку. Но с развитием религиозных представлений доля, с одной стороны, переходит в разряд понятий, с другой – воспринимается как то, что дается человеку высшими инстанциями, в-третьих – персонифицируется, приобретает качественные характеристики, становится полноправным действующим лицом в фольклорных произведениях.

Древние представления о доле основывались на вере в то, что определенные действия могут привести к желаемому результату: молясь богу, язычник надеялся на него и был уверен, что результат молитвы зависит от божьей воли. Но иногда божий промысел осуществляется и без помощи молитвенного обращения, а как бы по воле случая. Например, герои мечут жребий, кому и по какой дороге ехать, или сами выбирают, кому какая невеста достанется. Но всё же само понятие предопределения предполагает, что в нем участвует не только случай, но и сверхъестественная сила.

Здесь раскрывается ещё одна особенность жанра: сказка не признает равенства, люди в её понимании вовсе не равны между собою. Высшая справедливость, торжествуя, щедро одаривает людей обездоленных, но тем не менее не уравнивает их: «*Бог не равняет нас – кому даст, а кому нет*» [1, т.2, *444*] . Иными словами, бог неравномерно распределяет свои дары: у одного – богатство, у другого – сын; у одного человека – доля (судьба) хорошая, у другого – лихая, недоля.

Чрезвычайно устойчивые у славянских народов представления о судьбе являются результатом более высокого этапа развития человеческого мышления. Человек начинает предполагать, что судьба – это то, что он не в силах изменить, что дается ему свыше, от рождения, а если судьба неожиданно меняется, то это происходит независимо от воли и стараний человека. Следовательно, в этой перемене судьбы – тоже его судьба.

Взаимоотношения человека с Долей нашли отражение в различных жанрах фольклора. В пословицах и поговорках давно замечено, что доля (судьба) – это что-то фатальное: «*Будзе тое, што будзе, а будзе, што суждана*», «*Бяздольнаму ўсюды нядоля*», «*Ад ліхой долі нікуды не ўцячэш*», «*Сваю долю канём не аб’едеш*» [5, *421*], «*С чем кто родился, с тем и останется*», «*Як*

*суджано, то не міне*» [8, *20*]. Согласно другому взгляду, человек сам может определить свою долю: «*Куй сам сваю долю*», «*Куй сам свой лёс*», «*Каждый сам кузнец своего счастья*» [8, *28*].

Доля/Недоля, Судьба, Счастье и Горе являются персонажами белорусских бытовых сказок «Салдат і чорт», «Чэрці і смерць у мяшку», «Дзве долі», «Доля», «Гора» и др. От волшебных сказок они отличаются не только системой образов, но и содержанием мотива, его функцией в сюжетопостроении, философской направленностью произведений, в которых основной проблемой является проблема бытия. В них испытывается возможность человека влиять на свою судьбу, избавиться от недоли, инверсировать её в долю.

Как в пословицах и поговорках, так и в сказочной прозе существует двойственное понимание человеком своей судьбы. Самый распространенный взгляд: судьбу изменить нельзя. Подтверждением могут служить сюжеты некоторых сказок, например, белорусской сказки «Суджано», записанной А. К. Сержпутовским. Герой сказки – мальчик, который пытается в окружающей его природе найти знаки своей судьбы и расшифровать, «што яму суждано, ці якая яго будзе доля»: «*Бзын! Пчолка паляціць, а яму здаецца, што яна сказала – ліхо*». Дед Гришко объясняет мальчику, что любое создание умеет говорить, но это не значит, что птицы и звери знают о том, «*што нам суджано й якую долю нам бог прызначыў*». Мальчик не соглашается жить так, как суждено, и решает «*біцца з ліхою бядою*». Гришко поучает мальчика, «*як на свеце жыць, як ліхо абхадзіць, толькі адно казаў, каб долю не чапаў, бо суджанага не абойдзеш, ні канем не аб'едеш, што суджано, тое й будзе*». Справедливость слов деда подтверждается дальнейшим развитием сюжета. Погибают родители, и сироту приютили соседи. Через год жене хозяина пришло время рожать. Мальчик видит, как в дом роженицы приходят Смерть с косою и две молодые женщины. Смерть хочет забрать роженицу, но её защищает одна из пришедших женщин. «*Паляскала смерць зубамі ды й кажа:* «*Я вазьму хаця дзіця*»*. Тут выступіла другая жанчына ды й кажэ:* «*Я яго доля*». Именно Доля защитила новорожденную девочку от смерти. Из разговора женщин герой узнает, что у девочки будет хорошая доля, она вырастет красивой и выйдет за него замуж. «*А другая жанчына, а то была судзьба, зірнула на дзіця ды й кажэ:* «*Але яе ўкусіць свіньня, дык яна з таго й памрэ*»».

Нашему герою всё это не понравилось, он решил, что никогда на ней не женится. Позже он даже попробует убить девушку. Но судьба сложилась так, как было предсказано: парень женился на девушке, но дикий кабан смертельно ранил её.

Анализируя содержание сказки, можно сделать вывод, что доля и судьба не всегда воспринимались в народном сознании как нечто тождественное. Согласно мифологическим представлениям восточных славян, присутствующие при рождении ребенка *рожаницы* определяли его судьбу в момент появления на свет. У южных славян эту же функцию выполняли *орисницы*, которые также наделяли новорожденного долей и предопределяли его судьбу, которую изменить невозможно. То, что присуждено *рожаницами* (*орисницами*), нельзя изменить никакими силами: это приговор всемогущей, неумолимой судьбы. Доля

может быть хорошей (как в нашем примере), но то, что дано судьбой, предопределено раз и навсегда.

Показательна в этом плане известная сказка о Марке Богатом. В ней повествуется о том, как герой всеми силами пытается избежать своей судьбы, но ему это так и не удалось. Гордясь богатством, Марко приглашает к себе Бога, но, не дождавшись его, убирает со стола угощения. Тут к нему приходит старик и просится переночевать. Марко грубо обходится с путником. В эту же ночь родились три мальчика, одному из которых, сыну бедняка, по воле Бога суждено было владеть Марковым богатством. Не желая покориться Божьему суду, Марко всеми возможными средствами пытается избавиться от сына бедняка. Но все напрасно: что бы он ни делал, в итоге богатство всё равно достается бедняку.

Можно сделать вывод, что обе сказки основываются на древнем представлении о предопределенности судьбы, которая даётся человеку при рождении. Судьба не связывается буквально со всеми событиями в жизни человека, но все события и поступки людей, какой бы характер они ни носили, все равно ведут к предначертанному исходу. В таком случае славянские представления о судьбе в чем-то сродни древнегреческим представлениям о роке, нашедшим наиболее полное и яркое отражение в трагедии Эдипа. Свидетельством бунта человеческого сознания против фатальности судьбы явилась фольклорная трансформация древнейших представлений о доле, которая в славянской мифологии наделяется как положительной, так и отрицательной семантикой.

В отличие от судьбы лихую долю можно изменить или же вовсе избавиться от недоли. Мотив избавления от недоли характерен для целого ряда сказок, героями которых являются два брата. И хотя в сказках сохраняется идея, что у каждого человека есть своя судьба, в них ярко выражена мысль о возможности борьбы с недолей. Сказочные герои пытаются всеми доступными средствами найти Долю (или Недолю), подчинить себе или даже погубить Недолю. Здесь следует заметить, что в народном сознании существовали представления о функциональных проводниках персонифицированной Недоли, в число которых входили, например, Злыдни и Горе – своеобразные медиаторы между злой (лихой) Долей и человеком. Погубить их, значит, перекрыть канал действия зловредной Доли, замкнуть её в другом мире, отсечь от себя. В сказках мужик обманом завлекает Горе в кобылью голову или пустой сосуд и топит в болоте, привязывает злыдней к жерновам и сталкивает их в реку. Кроме того, саму Долю, если её найти, можно заставить работать на человека.

В сказке «Два браты, бяда ды доля» [7, *203-225*] говорится о том, что Бог дал каждому брату Долю, но одна из них – работница, а другая – лентяйка и гулёна, и эта доля тождественна недоле: «*аднаму доля спрыяе, дак яму вецер дзяцей калышэ, дождҗык мые, сонца грэе, а другога доля ледашчыцца па свеце гуляе, аб дзетках не дбае... Адзін брат багаты, за што ні возмецца, усё добра ймецца. Другі брат без долі, не мае карысці ніколі*» [7, *204*]. Содержание сказки в полной мере подтверждает представления народа о возможности изменить свою Долю. Когда бедняк делится с бедной женщиной мясом зарезанной коровы, из-за чего его собственные дети остались без молока, он вдруг узнает, что

эта «баба-жабрачка» – Беда: «*Схапіў ён тут бабу пад клешні, бы жабу, ды ў выжар глыбокі заціснуў пад бокі*». В данном случае Беда была полновластной хозяйкой жизни бедняка, поскольку его Доля где-то гуляла. Беда занимает место Доли, а после исчезновения Беды изменяется и жизнь бедняка: ему во всем стало везти, и он разбогател. Богатый брат, завидуя младшему, узнает, отчего разбогател бедняк, и выпускает Беду. Но та «*на галодныя зубы схапіла багатага ў губы, схапіла ў дамоўцы багацье да й знішчыла самае шмацьце*» [7, *224*]. Так Беда становится долей богача, и он превращается в нищего: «*І накрыж павесіўшы клункі, ён ходзіць, жабруе без жонкі. Не мае прытулку ніколі, бо дарам шукае ён долі*». «*А доля з бядою сакочэ, бо заўжды так зробіць, як схочэ*». Таким образом, Беда предстает той силой, которая трансформирует любую Долю, причем как можно было заметить, сама Доля от этого нисколько не страдает. Но если человек заставит свою плохую Долю почувствовать боль, испугаться, то в ее силах изменить его жизнь к лучшему. Такая амбивалентность образа Доли наблюдается в сказке «Ліхая доля». Когда мужик «навучае» Долю палкой, она делает его богатым. Отсюда следует, что долю возможно и нужно держать в руках, бороться с ней, «*бо без ушчунку й ад долі няма ратунку*» [6, *109*]. В сказке «Пра багатага брата-зайдрасніка» бедняк узнает свою Долю, которая шла рядом и ему подпевала: «*Такая абарваная, такая абшарпаная, такая худая, такая нэндзная*». Изловил он её хитростью, посадил в мешок, закопал, но при этом наткнулся на золотой клад, а на этом месте воткнул кол. С того времени он разбогател.

По поверьям, от Недоли или злыдней избавиться очень трудно, но возможно. Для этого нужно хитростью заставить их залезть в мешок и бросить его в болото. Злыдней можно связать и оставить на дороге, и тогда они перейдут к тому, кто их освободит.

Например, в украинской сказке традиционно представлены два брата, богач и бедняк. И сколько младший ни работал, сколько ни старался выбиться из нужды, ничего у него не получалось. Однажды возвращался бедный брат из гостей. Идут они с женой, поют и вдруг слышат – им третий голос подпевает. Он узнает, что к нему привязались злыдни. «*Оттого ты и такой бедный*», – объяснили они человеку. Побил их бедняк, отволок в трясину, утопил и колом заткнул. Разбогател бедняк, чем вызвал зависть у своего брата. Заинтересовавшись, тот как-то, идя мимо болота, увидел торчащий кол и подумал: «*Видно брат в болоте свое богатство прячет, а для приметы кол в этом месте воткнул*». Вытащил старший брат кол, злыдни выскочили из трясины, «*прицепились злыдни к старшему брату, и стал он ещё беднее, чем был младший*».

Традиционный сюжет мы встречаем и в белорусской сказке «Доля», в основе которой взаимоотношения богатого и бедного братьев. У богатого вырос хороший урожай, а у бедного – плохой. Мало того, его копны жита кто-то крадет. Бедняк выследил кота, который перетаскивал его жито на поле богатого. Оказалось, что кот – Доля богатого: «*Я абавязан яму цягаць: я яго Доля*!» Доля бедняка в это время спала в лесу на камне и мхом поросла. Отыскал её бедняк, но на его требования работать, она посоветовала все продать и переехать в город. При переезде бедняк избавляется от злыдней, загоняя их в бакла-

гу. Здесь интересен нюанс: именно благодаря совету Доли у бедняка изменяется жизнь. Но, с другой стороны, он сам оказывается творцом своего счастья.

Таким образом, метаструктура человек и его судьба (доля) онтологична по своей природе. В сказках она разворачивается в двух плоскостях – возможного и невозможного, определяя нравственную доминанту произведений: то, что невозможно для богача, оказывается возможным для бедняка. Их воля и выбор приводят к совершенно противоположным результатам. В соответствии с предопределенной ему судьбой богач превращается в нищего, и это уже навсегда. Направленность волевых усилий и действий бедняка такова, что они меняют координаты и векторы его отношений с Долей. Из пассивного страдальца бедняк превращается в творца своей судьбы, создавая новый мир с новой стратегией жизнеустройства. Характерно, что бедняк не ждет помощи со стороны. В волшебной сказке страдающий персонаж всегда может рассчитывать на избавителя или помощников: таковы законы морфологии этого типа сказочного повествования. В социально-бытовых сказках с мотивами судьбы и доли обделенный хорошей долей персонаж и избавитель объединяются в одном лице, что так же, как и в волшебно-фантастической сказке с демократическим типом героя, меняет его социальный статус.

## ЛИТЕРАТУРА


1. *Афанасьев, А. Н.* Народные русские сказки: в 3 т. / А. Н. Афанасьев. – М., 1957.
2. *Веселовский, А. Н.* Историческая поэтика / А. Н. Веселовский. – М., 1989.
3. Восточнославянский фольклор: Словарь научной и народной терминологии / под ред. К. П. Кабашникова. – Минск, 1993.
4. *Пропп, В. Я.* Морфология волшебной сказки / В. Я. Пропп. – М., 2001.
5. Прыказкі і прымаўкі / склад. К. П. Кабашнікаў. – Мінск, 1976.
6. *Сержпутоўскі, А. К.* Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета / А. К. Сержпутоўскі. – Л., 1926.
7. *Сержпутоўскі, А. К.* Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў / А. К. Сержпутоўскі. – Л., 1926.
8. Шасцімоўны слоўнік прыказак, прымавак і крылатых слоў. – Мінск, 1993.


***Вольга Прыемка***

# ІНВАРЫЯНТНАЯ ФОРМУЛА ВЯСЕЛЬНАЙ АБРАДНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ У ЛАКАЛЬНА-РЭГІЯНАЛЬНАЙ РЭПРЭЗЕНТАЦЫІ

Сучасныя фальклорна–этнаграфічныя матэрыялы прадстаўляюць карціну багатай варыянтнасці ў межах вясельнай традыцыі беларусаў. Варыятыўнасць закранае як абрад, так і змест песень. Гэта дазваляе, з аднаго боку, вызначыць інварыянт беларускай абраднасці, а з другога – вылучыць рэгіянальныя, нават лакальныя рысы. Збіральнікі XIX–XX стст. назапасілі багаты фактаграфічны матэрыял, які дазволіў навукоўцам прыступіць да вырашэння праблемы

рэгіянальнага аналізу вясельнай абраднасці ў метадалагічным і ў тэарэтычным аспектах, але вывучэнне лакальных вясельных традыцый беларускага народа па-ранейшаму застаецца важнейшай задачай фалькларыстыкі. З гэтага пункту гледжання зварот да фактаў вясельнай абраднасці асобных мікрарэгіёнаў падаецца не толькі актуальным, але і перспектыўным у плане вызначэння заканамернасцей фарміравання мясцовых традыцый. Аб'ектам даследавання абрана вясельная абраднасць Усходняга Палесся, на фоне якой разглядаецца вяселле на Жлобіншчыне. Дзякуючы намаганням В. С. Новак і яе творчага калектыву, вясельныя традыцыі Гомельшчыны, аднаго з самабытных рэгіёнаў Беларусі, цяпер грунтоўна апісаны і прааналізаваны ў аспекце некаторых лакальных асаблівасцей [2]. Улічваючы структуру традыцыйнага вяселля і яе сучасную рэалізаванасць, паспрабуем разгледзець асаблівасці лакальна-рэгіянальнага ўвасаблення агульнанацыянальнай абрадавай формулы ў дыяхраніі – праз вылучэнне якасных рэдукцыйных з'яў.

Вяселле на Жлобіншчыне, як і ўвогуле па ўсёй Беларусі, традыцыйна пачыналася сватаннем, якое праводзілася сватамі разам з бацькам маладога чалавека. Калі яно было ўдалым, то бацькі хлопца і дзяўчыны дамаўляліся аб *запоінах*. На гэту сустрэчу збіраліся сваты, сяброўкі маладой, хросныя маці і бацька маладых. Менавіта ў гэты час дамаўляліся, калі праводзіць вяселле, які пасаг даць маладой і г. д. У *зборную суботу* да нявесты прыходзілі дзяўчаты–сяброўкі, каб «завіць вянкі». Абавязкова вілі *в'ёльца* (ёлку), упрыгожваючы якую спявалі: «*Ой, хвоя, хвоя, зелена, / Ты ў бару расла, шумела, / ...На стале стала – заззяла...*» [2, *190*].

Раніцай перад вянцом у нявесты і жаніха «*зачынялі*» каравай. У першы дзень вяселля, калі хлопец прыязджаў за дзяўчынай, ён павінен быў прывезці цешчы боты (чобаты) і пірагі. У Жлобінскім мікрарэгіёне ў гэты дзень праводзіўся традыцыйны цыкл абрадаў: пасад нявесты, выкуп дзяўчыны і благаслаўленне да вянца. Пасля вянчання маладыя раз'язджаліся па сваіх хатах. Потым жаніх забіраў дзяўчыну ў сваю сям'ю, і застолле для сваякоў і родзічаў працягвалася ў маладога. Бацькі нявесты прыязджалі да зяця толькі на наступны дзень – гэта так званыя «*закасяне*» або «*крошкі*». Другі дзень вяселля адметны тым, што нявесце ўбіралі валасы і надзявалі жаночы галаўны ўбор – *завівальную хустку*. Каравай дзялілі асобна ў маладой і маладога. Апошні дзень вяселля меў розныя назвы – «*цыганы*», «*пятухі*». У гэты дзень спажывалі ў асноўным курынае мяса. Так у агульных рысах выглядае схема жлобінскага традыцыйнага вяселля.

Аналіз запісаў апошніх гадоў XX ст. паказвае, што сучасны абрад у сваіх контурах і дэталях захаваў асноўны парадак вяселля, але сэнс і фармальны бок асобных элементаў рэдукаваліся. Схематычна вясельны абрад Жлобіншчыны ў наш час выглядае наступным чынам: сватанне, запоіны, каравай, пасад нявесты, выкуп, урачыстая рэгістрацыя шлюбу, сустрэча маладых бацькамі, вясельнае застолле, «*закасяне*», «*пятухі*» (у іншых рэгіёнах Беларусі — «*ряжение*», «*цыганы*», «*госці*», «*одведкі*», «*фэст*»). Як бачым, большасць этапаў сучаснага вяселля супадае з традыцыйнымі.

Важнай і абавязковай засталася перадвясельная цырымонія сватання, якая ў мінулым распачынала абрадавы цыкл. Захаваліся некаторыя традыцыйныя элементы і атрыбуты сватання, уласцівая яму сімволіка. Параўнанне апісанняў XIX і XX стагоддзяў дае амаль што аднолькавую карціну. Да дзяўчыны ідуць сват, жаніх, яго родны і хросны бацька. Як і раней, яны нясуць з сабой абавязковы атрыбут сватання – «*гарэлку*». Яшчэ і сёння імкнуцца прытрымлівацца традыцыйнай сімволікі ў маўленні. Так, у вёсцы Касакоўка сваты, увайшоўшы ў хату нявесты, пачынаюць размову: «*Мы прыблудзілі дарогай, ці не пусціце, людзі добрыя, на начлег*?» Бацькі нявесты дазваляюць. Галоўны сват пытае: «*Мы чулі, у вас цялушка ёсць, ці не прададзіце вы яе нам*?» – «*Няма ў нас цялушкі*», – адказваюць бацькі нявесты. Тады сваты гавораць: «*Не, людзі добрыя, нам патрэбна дзеўка красная. Чулі мы, ёсць у вас яна, што яна і прыгожая, і да работы спраўная. А ў нас ёсць маладзец ясны. Так давайце іх спаруем і паглядзім, як яны будуць жыць разам*» [2, *195*]. Сваю згоду на шлюб дзяўчына выражае традыцыйным спосабам: дорыць бацькам жаніха ручнік і хустку. Праз некаторы час пачынаецца другі этап вяселля – *запоіны*. У хату нявесты прыязджаюць сваякі жаніха і збіраюцца яе блізкія родзічы, якія будуць прысутнічаць і на вяселлі. Песні для гэтага выпадку выбіраюцца адвольна. З традыцыйных твораў выконваюцца «*Добры вечар, добрыя людзі*», «*Ой, пайду я да шчаўлю рваці*», «*Продай, продай, тату, цэсар вінограду*» і інш. Адным словам, знешне сватанне і запоіны выглядаюць даволі традыцыйна.

Аналіз запісаў сведчыць аб страце старажытнай асновы многіх абрадавых дзеянняў, Так, пасад жлобінскай нявесты практычна не адрозніваецца ад аналагічнага абрадавага дзеяння ў іншых мікрарэгіёнах Беларусі і заключаецца ў тым, што дзяўчыну саджаюць на вывернуты кажух і расплятаюць яе касу. Абрад паўтараецца двойчы: да вянца – у нявесты і пасля вянца – у жаніха. Мэта названых рытуальных дзеянняў, на думку М. Нікольскага, заключалася ў наступным: па-першае, даведацца, ці захавала нявеста цнатлівасць; па-другое, прыняць яе ў склад дарослых членаў роду [4, *54*]. Сучасныя запісы сведчаць аб страце культава-магічнага сэнсу гэтага абраду і пераўтварэнні яго ў гульню: якая з дзяўчын-сяброўак маладой першай пасля нявесты сядзе на кажух, тая раней за іншых пойдзе замуж [2, *203*].

Важным момантам вясельнага рытуалу застаецца каравайны абрад з удзелам каравайніц. Хоць і ў гэты абрад час унёс свае карэктывы. Так, калі раней каравай расчынялі на квасным цесце з жытняй мукі, то цяпер выкарыстоўваецца дрожджавое цеста, прыгатаванае з пшанічнай мукі. Што тычыцца каравайных упрыгажэнняў, якія даследчыкі тлумачылі то як «атрыбуты ахвярапрынашэння багам» [5, *57*], то як фалічныя сімвалы [6, *34*], то як галінкі «Сусветнага дрэва» [3, *65*], то як салярныя сімвалы [1, *378*], то ў сучасным абрадзе яны згубілі сваё магічнае значэнне, набылі ўласна-эстэтычную функцыю і выкарыстоўваюцца, каб надаць караваю святочны выгляд. У рытуалах, звязаных з падзелам абрадавага хлеба, знік уласцівы ім містыка-магічны і рэлігійны падтэкст. Галоўная функцыя дзеяння – выказаць павагу да гасцей, прадставіць кожнага з іх, запрасіць на «каравай», заахвоціць даць «на каравай» больш грошай.

Песенны рэпертуар сучаснага жлобінскага вяселля даволі разнастайны. Разам з прафесійнымі ўжываюцца традыцыйныя вясельныя песні, функцыі якіх у наш час істотна змяніліся. Песні згубілі магічны і юрыдычны характар, вядучай стала мастацка-эстэтычная функцыя. Іншы таксама характар сувязі паміж песеннымі тэкстамі і абрадам. Напрыклад, высвятляецца, што некаторыя абрады засталіся без паэтычнага суправаджэння. Згадкі пра існаванне некаторых абрадавых дзеянняў, наадварот, захаваліся толькі ў песнях. Так, у паэтычных тэкстах з матывам збору дружыны маладога аднаўляецца карціна былых рэальна-сімвалічных дзеянняў, абрадавы эквівалент якіх знік нават з памяці цяперашніх выканаўцаў.

Перамены пахіснулі сувязь асобных абрадавых дзеянняў з канкрэтнымі момантамі вяселля. Так, запісы сведчаць, што завіванне нявесты, згубіўшы сувязь з абрадам, набывае гульнёвы характар і можа праводзіцца і ў хаце нявесты, і ў хаце жаніха падчас вясельнага застолля. Яму адводзіцца значна менш часу, чым у мінулым, хоць фармальна яно «разыгрываецца» па ўсіх правілах традыцыйнага рытуалу.

Адзначым, што такія рытуальныя кампаненты, як выкуп нявесты, сустрэча маладых у кажуху, падзел каравая і інш., пачынаюць ўспрымацца як вясёлая гульня, пазбаўленая старажытных вераванняў. Ператварыўшыся ў гульню, вясельныя дзеянні згубілі абрадавае прызначэнне і набылі эстэтычную функцыю. Гэта робіць вяселле яркім, маляўнічым, эмацыянальна насычаным відовішчам, прадаўжае жыццё многіх абрадавых дзеянняў, хоць і ў фармальным эквіваленце. Эстэтызацыя рытуальных дзеянняў, забяспечваючы вялікае эмацыянальнае ўздзеянне «сцэн» вясельнай гульні на ўдзельнікаў вяселля, спрыяе захаванню некаторых экспрэсіўных элементаў традыцыйнага вяселля. Разам з тым нельга не заўважыць рэдукцыйных з’яў, скарачэння інварыянтнай формулы традыцыйнай абраднасці на мікрарэгіянальным узроўні.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Довнар–Запольский, М. В.* Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов / М. В. Довнар-Запольский // Университетские Известия. 1896. № 1.

2. Вяселле на Гомельшчыне: фальклорна-этнаграфічны зборнік. – Мінск, 2003.

3. *Иванов, В. В.* К семиотической интерпретации коровая и коровайных песен у белорусов / В. В. Иванов, В. Н. Топоров // Ученые Записки Тартуского ун-та. – Тарту, 1967. Вып. 198 (III).

4. *Никольский, Н. М.* Происхождение и история белорусской свадебной обрядности / Н. М. Никольский. – Минск, 1956.

5. *Сумцов, Н. Ф.* Религиозно-мифическое значение малорусской свадьбы / Н. Ф. Сумцов. – Киев, 1885.

6. *Чубинский, П. П.* Труды этнографическо–статистической экспедиции в Западно-Русский край. Материалы и исследования / П. П. Чубинский. – СПб., 1877. Т. 4.

***Рыма Кавалёва***

# ГІМНІЧНАЯ ПАЭЗІЯ БЕЛАРУСАЎ І АРЫЯЎ ВЕДЫЙСКАЙ ЭПОХІ Ў ПАРАЎНАЛЬНА-ТЫПАЛАГІЧНЫМ АСПЕКЦЕ

Абрадавыя гімны ёсць у многіх народаў свету. Найбольш вядомыя ведыйскія ўхваленні асобных багоў, некалькіх разам або Усіх–Багоў, старажытнагрэчаскія, звернутыя да Апалона (пеаны), Дыёніса (дыфірамбы) і іншых багоў, раннехрысціянскія, духоўныя гімнічныя песнапенні Візантыі, Русі, Заходняй Еўропы і г. д. Сярод іх не значыцца беларуская гімнічная паэзія, пад якой мы разумеем традыцыйны абрадавы фальклор, прадстаўлены велічальнымі каляндарнымі песнямі розных цыклаў. Ядро гімнічных песень складаюць калядныя і валачобныя велічанні, да іх далучаецца шэраг вяснянак, юраўскіх, купальскіх. Кожная група каляндарных гімнаў мае тыповыя тэмы і кампазіцыйныя элементы. Напрыклад, калядныя і валачобныя песні – разгорнутыя велічанні гаспадара – месяца, гаспадыні – сонейка, іх дзяцей – ясных зорачак; тэма юраўскіх песень – ухваленне Юр’ева каня, які «*вушкамі неба падапрэ, // Вочкамі зоры палічыць*» [2, *175*]; зачын веснавых гімнаў – «*Вясна наша вясёлая – гу! // Развесяліла зямлю, ваду – гу!*» [2, *149*]; атачэнне купальскіх тэкстаў – гімнічныя прыпевы–воклічы «*Божа наш!*», «*Сонейка!*», «*Рана–рана*», «*Каліна!*», прычым два апошнія суадносяцца, на наш погляд, з ранішняй зарой або з Ранішняй Зоркай (Венерай).

Характарызуючы латышскія дайны, В. Іванаў адзначыў, што ў іх «з найбольшай некранутасцю захоўваюцца многія перажыткі індаеўрапейскай эпохі» [8, *37*]. На думку вучонага, яны былі страчаны ў большасці іншых традыцый, якія дажылі да нашых дзён, або адлюстраваліся ў іх толькі часткова. Мяркуем, што толькі няўвага з боку даследчыкаў да вызначэння найглыбейшых вытокаў беларускай гімнічнай паэзіі не дазволіла ўбачыць у песнях яскравы прыклад таго, як пад покрывам этнічна адметнага захоўваецца архаічнае ядро, суадноснае з індаеўрапейскай міфарытуальнай сістэмай.

Зразумела, што ў кожным канкрэтным выпадку выбар аб’екта параўнальнага аналізу павінен быць навукова абгрунтаваны. Якія ж ёсць падставы для тыпалагічнага разгляду беларускіх і ведыйскіх гімнаў? На наш погляд, комплекс гістарычных, культурных, жанравых, міфарытуальных і лінгвістычных фактараў. Асноўная маса больш за 1000 гімнаў згрупавана ў 10 мандалах Рыгведы. Адносна іх датавання вучоныя не прыйшлі да аднадушнай высновы. Мяркуецца, што Рыгведа як адзіны збор склалася ўжо на тэрыторыі Індыі. Вядомы індолаг Г. Елізаранкава лічыць «разумным прыняць за час стварэння Рыгведы другую палову – канец II тысячагоддзя да н. э.» [6, *437*]. Спробы вучоных канца XIX – пачатку XX ст. адсунуць існаванне ведыйскай паэзіі да інтэрвалаў 4500 – 2500 гг. да н. э. (Г. Якабі) ці нават 6000 – 4000 гг. да н. э. (Б. Цілак) яна характарызуе як няўдалыя [6, *436*]. Беларусы, як, дарэчы, і праславяне, з’явіліся на гістарычнай арэне значна пазней за арыяў. Здаецца, паміж імі пралягае бездань прасторы і часу, але ў куль-

турна-гістарычнай рэтраспектыве ўсё выглядае крыху інакш, калі ўлічыць гіпотэзу аб існаванні агульнай прарадзімы індаеўрапейскіх народаў. Дыскусія наконт яе лакалізацыі яшчэ не атрымала канчатковага завяршэння, але ніхто не аспрэчвае меркавання, што прарадзіма носьбітаў індаеўрапейскіх моў, дзе б яе ні прапаноўвалі змяшчаць – у прыпалярнай зоне, як Б. Цілак, у арэале ўсходняй Анатоліі, Паўднёвага Каўказа і Паўночнай Месапатаміі, як Т. Гамкрэлідзэ і В. Іванаў, павінна была існаваць, бо ў іншым выпадку цяжка растлумачыць рознага кшталту паралелі і сыходжанні.

Даследаванні па выяўленні фактаў лексічнага і граматычнага падабенства паміж еўрапейскімі мовамі і санскрытам засведчылі, што больш за ўсё сыходжанняў з санскрытам назіраецца ў славянскіх мовах. Так, доктар філалагічных навук Н. Гусева, дарэчы, прыхільнік гіпотэзы прыпалярнай лакалізацыі прарадзімы арыяў, дала зводку з 400 рускіх слоў, якія супадаюць з санскрыцкімі або падобныя да іх [3]. Пэўныя паралелі выяўлены таксама ў сферы гідронімаў, тапонімаў, тэонімаў. Стала агульным месцам параўнанне значэння беларускага слова *веды* з санскрыцкім, хаця апошняе кадыфікуе свяшчэнныя Веды. Сувязь рускай мовы з санскрытам не адмаўляюць індыйскія вучоныя (Дурга Прасад Шастры). Балта-славянскія даследаванні паказалі, што ў песенных традыцыях народаў захавалася шмат міфалагічных архаізмаў, вытлумачэнню якіх дапамагае супастаўленне фальклорных твораў з ведыйскімі гімнамі [8].

Беларуская індаеўрапеістыка не мае такіх глыбокіх навуковых традыцый, як руская і заходнееўрапейская. Тым не менш можна адзначыць, што апошнім часам зроблены пэўныя крокі на шляху выяўлення індаеўрапейскага субстрата беларускай традыцыйнай культуры, з’явіўся шэраг артыкулаў, якія сведчаць аб запачаткаванні новага кірунку ў параўнальным вывучэнні беларускай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Так, Ю. Драздоў, грунтуючыся на беларускім фальклоры, супаставіў міфалагічныя функцыі славянскага Ворана і ведыйскага Варуны [5], М. Трыфаненкава – змеяборчы сюжэт палескай тапанімічнай легенды аб паходжанні Маларыты і Велікарыты з ведыйскімі гімнамі пра барацьбу Індры са змеем, адзначалася пэўнае падабенства онімаў – змяі Рыты (бел.) і змея Урытры (вед.) [11]. А. Дзярновіч і А. Квяткоўская засведчылі шырокае распаўсюджанне выявы свастыкі ў археалагічных і этнаграфічных матэрыялах, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі [4]. Можна дадаць, што правабаковая свастыка прысутнічае на палескім вясельным караваі нароўні з іншымі касмалагічнымі сімваламі (в. Моталь Іванаўскага раёна).

Калі ведыйская літаратура, як лічыцца, пралівае новае святло на грэчаскую, рымскую, іранскую і іншыя міфалогіі, то чаму мы не павінны прымаць у разлік яе значэнне для разумення міфалагічных асноў беларускага фальклору? На наш погляд, беларуская гімнічная паэзія заслугоўвае таго, каб яе ўспрымалі не толькі ў аграрна-магічным ключы, але, падобна латышскім дайнам, і ў касмалагічным. Абсалютызацыя канцэпцыі У. Чычарава аб працоўнай аснове каляндарна-абрадавай паэзіі на пэўны час выключыла з поля зроку даследчыкаў праблему вывучэння яе рытуальна-міфалагічнай функцыі. Пасля прац беларускіх фалькларыстаў, дзе каляндарныя песні пачалі разглядацца ў

кантэксце нацыянальнай міфалогіі, асабліва востра адчуваецца патрэба ў дадатковым вектары іх асэнсавання – індаеўрапейскім.

Мы цалкам згодны з думкай Г. Елізаранкавай, што любыя супастаўленні Рыгведы з іншымі помнікамі трэба праводзіць надзвычай асцярожна. Гэта тычыцца і беларускага фальклору, бо заўсёды ёсць небяспека ўбачыць у яго гімнічных песнях тое, чаго там генетычна не існавала. З другога боку, адмаўляючыся ад параўнальна-тыпалагічнага аналізу беларускіх гімнаў, мы рызыкуем застацца ў палоне традыцыйных падыходаў да іх разумення, пасвойму правільных, але на сённяшні дзень відавочна недастатковых для ўсведамлення сусветнага значэння фактаў беларускай каляндарна-абрадавай паэзіі. Няма нічога дзіўнага ў адсутнасці прац падобнага роду. Нават не прадузята настроены даследчык можа сказаць, што беларускія творы адрозніваюцца ад ведыйскіх у большай ступені, чым верш ад прозы, і будзе мець рацыю.

Калісьці агульны рытуальны вопыт індаеўрапейцаў паспрыяў стварэнню протамадэлі гімнаў, але з цягам часу рэальныя традыцыі разыходзяцца вельмі далёка ў прасторы і часе, трапляюць у зусім адрозныя сацыякультурныя кантэксты, кожная мае свой хранатоп, персанажны склад, ланцугі матываў, моўныя клішэ і г. д. Пры агульным ўзвышаным стылі гімнаў яны ўяўляюць сабой дзве самадастатковыя эстэтычныя сістэмы: эстэтычны ідэал ведаў – бог у яго звышнатуральнай дзейнасці, а беларускіх песень, здаецца, чалавек. Калі Веды – гэта грандыёзны рытуальны праект з выразным касмаганічным жэстам, то анталагічны падмурак беларускіх твораў прыхаваны настолька надзейна, што іх гарантавана прымаюць зусім за іншае, чым яны генетычна ёсць на самой справе, – за ўслаўленне членаў простай сялянскай сям'і, апяванне яе ўяўнага дабрабыту, аграрна-магічныя заклінанні і да т. п. Не будзем спрачацца. Усё адзначанае ляжыць у песнях, як гаворыцца, на паверхні, абумоўліваючы такую прагматыку тэкстаў, калі сакральнае ўспрымаецца за звычайнае, міфалагічнае – за паэтычнае, анталагічнае – за абрадава–сітуацыйнае. Толькі якія ж у гэтым выпадку адкрываюцца перспектывы параўнання беларускіх гімнаў з Ведамі? Наколькі шырокія – пакажуць далейшыя даследаванні, галоўнае, што яны ёсць. Дастаткова змясціць беларускія творы ў агульныя з ведыйскімі міфарытуальныя каардынаты, бо для гэтага ёсць усе падставы, разглядаць іх паэтыку ў семантычным ключы, як карціна адразу мяняецца, і ўсё становіцца на месца. Можа, толькі праз Веды мы нарэшце дазволім сабе ўсведаміць, што пры знешняй празрыстасці зместу беларускіх гімнаў іх стыль надзвычай сугестыўны, мастацкая мова поўная загадак і метафар, якія да гэтага часу належным чынам не расшыфраваны, што самі тэксты патрабуюць дадатковай інтэрпрэтацыі ў двух істотных для падобнага роду твораў аспектах – рытуальным і міфалагічным.

Метадалагічная перадумова параўнання — вылучэнне тыпалагічна падобных, абавязковых для гімнічнай структуры элементаў, якія захоўваюцца на працягу ўсёй этнічнай гісторыі існавання жанру. Будзем зыходзіць з меркавання, што іх склад не можа быць выпадковым, хаця камбінацыі цалкам адпавядаюць нацыянальнай традыцыі. Агульная жанравая канфігурацыя беларускіх і ведыйскіх гімнаў абумоўлена наяўнасцю заклікаў, зваротаў да

міфалагічных асоб, іх метафарычных субстытутаў, міфалагізаваных прыродных з'яў, услаўленняў з прамымі або ўскоснымі адсылкамі да міфа, просьбаў, заклінанняў, канстатацый рытуальна адзначаных сітуацый, падзей, здзяйсненняў, зрэдку загадак і адгадак. Тыповая частка ведыйскіх твораў – просьба да багоў аддзякаваць за ахвярапрынашэнне ў выглядзе ўзлівання на агонь (увасабленне Агні) сомы, сакральнага напою: «*Даруйце абарону!*» [I, 21, 6], «*Няхай яны напояць нас харчаваннем!*» [I, 22, 13], «*З бляскам мяне аб'яднай, // З патомствам , з доўгім жыццём!*» [I, 23, 24] і да т. п. Аналагічна ў калядных і валачобных песнях: «*Радзі вам, божа, // Гусі ды качкі. // Гадуй вам, божа, // Сыны ды дочкі*» [7, *209*], «*Зарадзі, божа, // Буйное жыта*» [7, *180*], «*У тваім доме – дробны дзеткі, // У тваёй аборы – валы, каровы, // У чыстым полі – буйна жыта*» [7, *205*], «*Дай жа мне, божа, да тры сыночкі*», «*хараша спахаці*», «*матку пчаляністую*» [1, *81–82*] і г. д. Лічылася, што стваральнікамі ведыйскіх гімнаў былі *рышы*, натхнёныя багамі паэты, спевакі, мудрацы, празарліўцы, якім адкрывалася боская ісціна. Экстатычны стан душы даваў ім магчымасць авалодаць Боскай Мовай, персаніфікаванай у выглядзе багіні Вач (літаральна «слова», «маўленне»). Звычайна мастацтва рышы было спадчынным, існавала ў межах жрэчаскага роду. Мяркуецца, што паэт, спявак і жрэц маглі супадаць у адной асобе. Пры тым, што жрэчаскай касты у славян, тым больш у беларусаў, не існавала, функцыі жрацоў выконвалі ўдзельнікі абрадаў, асабліва абходных, як калядны і валачобны. Згодна з гімнамі, яны, як і рышы, бачылі тое, што скрыта ад звычайных людзей, і перш за ўсё боскую прысутнасць ва ўсіх прыродных з'явах і зямных справах: бога, які «родзіць» жыта, святых, якія снягі зганяюць, заворваюць, коней пасуць, барануюць, колас выносяць, ядро наліваюць, зажынаюць і г. д. Падобна рышы, беларускія спевакі выконвалі функцыю рытуальных пасрэднікаў паміж богам і людзьмі, прычым сувязным звяном былі свяшчэнныя песнапенні. Красамоўнае сведчанне знаходзім у валачобнай песні:

*Гаспадару, слаўны мужу,*
*[Слаўны мужу] над мужамі!*
*Ці ўслых табе наша песенька,*
*Наша песенька старасвецкая,*
*Што мы ходзім, Бога просім:*
*Дай жа ж, божа, зарадзі ж, божа…* [1, *126–127*].

С. Санько выказаў слушнае меркаванне, што валачобныя песні «могуць быць карысныя пры рэканструкцыі старажытнага індаеўрапейскага навагодняга (веснавога) рытуалу і асабліва корпуса злучаных з ім касмалагічных уяўленняў і тэкстаў» [10, *6*]. Перспектыўным прадметам аналізу стаў для яго сюжэт «пра зніклага бога», прадстаўлены ў хецкай і беларускай традыцыях. Можна сказаць, што ўсе каляндарныя гімны так або інакш, у той ці іншай ступені арыентаваны на цыклічны час, які быў ужо зададзены ім анталагічна. Яны ўзнікалі як мастацкая рэакцыя на культ цыклічнага часу і яго навагоднія рытуалы, як абрадавы тэкст уключэння ў сакральныя працэсы адраджэння часу, калі ахвярапрынашэнне надавала сілы багам усталяваць парадак у свеце, калі спевы пра касмаганічную падзею рытуальна замяшчалі яе, сімвал быў тоесны сімвалізуемаму, слова містэрыяльна, замест мяжы паміж звычайным, людскім, дыскрэтным і сакральным, боскім, кан-

тынуальным паўставала нейкае мігатлівае спалучэнне аднаго з адным. Гімнічны тып светаадчування проста запраграміраваны на адчуванне свету адзіным арганізмам у рамках цыклічнага часу.

Паводле касмаганічнай тэорыі Ф. Кёйпера, якая мае шмат прыхіль-нікаў, старажытнае ядро Рыгведы – гімны, звязаныя з навагоднім рытуалам, калі зноў, пасля завяршэння цыкла, багі павінны паўтарыць касмаганічны акт. Для беларускай народнай культуры, як мне здаецца, цыклічны час – увесь! – складаўся з канцоў – пачаткаў, паваротных кропак, пераходных зон, таму каляндарна-абрадавыя гімны заўсёды храналагічна знаходзяцца на стыках, граніцах, рубяжах, канцэптуальна звязаных з ідэяй руху ад старога да новага, якое, па сутнасці, такім не з'яўляецца, а дубліруе само сябе. Тыпалагічны аналіз дае тую неабходную дыяхранічную перспектыву, у кантэксце якой кардынальна розны мастацкі свет беларускіх і ведыйскіх гімнаў выяўляе агульную касмаганічную вось – уяўленне пра нулявы час. Задача даследчыка будзе перш за ўсё палягаць у высвятленні пытання, якія мастацкія сродкі выкарыстоўваюцца ў дзвюх гімнічных індаеўрапейскіх традыцыях для рытуальнай актуалізацыі нуль-часу, таго пераломнага моманту, за якім будзе або ўсё, або істотна іншы свет. Папярэдне звернем увагу на тое, што даследчык сутыкнецца з прынцыпова рознымі модусамі мастацкасці: гераічным – у ведыйскіх гімнах, ідылічным – у беларускіх. Веды падаюць нулявы час як усяленскую катастрофу: спыняецца плынь касмічных і зямных вод, дэманы выкрадаюць кароў (метафара святла), надыходзіць цемра, пануюць змрочныя пачвары і асуры. Узнаўленне часу трактуецца як вынік гераічных подзвігаў вызвалення. Напрыклад, Індра забівае змея Урытру і вызваляе паланёныя тым воды; Індра з памочнікамі шукае кароў, прабівае скалу, разбурае пячору і выпускае ўкрадзеных кароў; Брыхаспаці, бог малітвы, і Ангірасы, боскія спевакі, робяць тое ж самае, што Індра, але не зброяй, а сваім гучным голасам [I, *6*]. Вызваленне вод і кароў, вяртанне сілы божаствам святла Агні, Ушас, Савітару, Сур'і – падзеі, якія знамянуюць пачатак новага цыкла.

Нічога падобнага ў беларускіх гімнах няма, і разам з тым тыпалагічна ёсць усё адзначанае, толькі ў іншых формах. Яны аперыруюць не відавочнымі міфалагемамі часу, а мастацкімі вобразамі агульнай гармоніі, спакою, глыбіннай сувязі культурных і прыродных локусаў, суб'ектаў і аб'ектаў, прасцей кажучы – постнулявым хранатопам, і нулявы час пазбаўлены ў іх ведыйскага драматызму. Ёсць прыпевы – заклікanні Каляды, матыў чакання яе прыезду, абвяшчэнне «*А ў нас сёння сход каляд*» [7, *131*], апісанні прыезду Каляды «*у чырвоным вазочку, на сівым канёчку*» [7, *127*]. У валачобных песнях ідэя нуль-часу ўвасабляецца праз хранатапічны матыў збірання ўсіх свят-святых у адно месца – храм (царкву, касцёл), дзе Бог па чарзе, аднаго за адным, адпаведна закону, запісанаму ў кнізе, выпраўляе іх у гадавы шлях. Яго функцыя, на наш погляд, тоесная функцыі ведыйскага Варуны, захавальніка і трымальніка касмічнага закону *рыта* [IV, 42, 4]. Замыканне – адмыканне кола часу перадаецца формулай «*Прыйшлі саракі да другіх саракоў*» [1, *116*], гэта значыць, канец сумясціўся з пачаткам.

Відавочная рытуальная тоеснасць беларускіх і ведыйскіх гімнаў пазбаўляе іх пераўнанне спекулятыўнасці. Наадварот, пашырэнне кантэксту дазваляе ў новым ракурсе ўбачыць, здавалася б, вырашаныя праблемы, растлумачыць мастацкія факты, дэталі, сітуацыі, што пакідаюцца па-за ўвагай як неістотныя. Скажам, агульнапрынята, што назвай *Каляды* славяне абавязаны рымлянам і лацінскай мове, толькі ніхто не палічыў неабходным высветліць, як называлася свята па-славянску, да запазычання. Цалкам магчыма, што абедзве назвы – лацінская і славянская – абапіраюцца на індаеўрапейскую аснову і ўтрымліваюць у сабе корань *kala*. У старажытнаіндыйскай мове захавалася яго літаральнае значэнне ’час’, вядомы і тэонім Кала – бог, які з’яўляецца персаніфікацыяй часу. У такім выпадку пад Калядамі трэба разумець, як і пазначана ў песні, «сход», збег дзвюх каляд, двух колаў часу, больш дакладна, канца аднаго і пачатку другога.

Не ўсё ясна з этымалогіяй тэрміна *валачобнікі*. Яшчэ С. Санько слушна крытыкаваў версію «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». Яркая ўнутраная форма слова стварала ілюзію поўнай вырашанасці пытання. С. Санько не палічыў яго залішнім. У сувязі з разглядам хецка-крыўскіх (беларускіх) паралелей ён выказаў меркаванне аб наяўнасці ў семантычнай структуры слова «валачобнік» значэнняў ’воблака’, ’рой’ [10, *13–14*], што ўскосна пацвярджаецца ведыйскімі матэрыяламі. Рытуальная функцыя валачобнікаў закадзіравана ў самой іх назве. Калі яны замыкаюць стары год, то ў гэтым плане міфалагічная семантыка валачобнікаў раўназначная стар.-інд. Valá (літар. «які ахоплівае, скрывае»). У ведыйскай літаратуры гэта імя дэмана, які хавае ў пячоры (таксама Вала) кароў, скрадзеных Пані. Нездарма ў адной песні валачобнікі выступаюць як шкоднікі: «*Сад-вінаград яны паламалі, // Райскія пташкі паразганялі*» [1, *75*]. Гімны ўсхваляюць Індру-быка за разбурэнне пячоры, вызваленне кароў [I, 11, 53; III, 30, 10], знішчэнне цемры, пасля чаго пераможна з’яўляецца Ушас, «*карова-ранішняя зара*» [III, 30, 14]. «*Дай жа нам, о Індра, надзею* // (у выглядзе) *кароў, коней…*» [I, 29, 1] – прыпеў гімна, суадносны з тыповым матывам калядных і валачобных песень «ацёл кароў», шырэй – «маштабны прыплод жывёлы», што цалкам адпавядае тэксту жыцця. І толькі ведыйскі кантэкст дазваляе ўбачыць за бытавым матывам нешта большае, чым звычайную рэальнасць, – міфалагічную падзею, той жа самы, што ў ведыйскіх гімнах, зааморфны метафарычны вобраз маладых нябесных свяцілаў адроджанага часу. Спяваючы пра боскае стварэнне новага цыклічнага часу, валачобнікі рытуальна «вывалакваюць» яго падобна таму, як Індра «вывалакваў» кароў-святло з пячоры. Валачобнікаў, вартавых светлага часу, можна параўнаць з пчаліным роем боскіх карлікаў, вартаўнікоў сонечнай калясніцы. Згодна з міфам, карлікі Валакхільы (стар.-інд. Vāla – волас) нарадзіліся ад воласа вялікага рышы Крату, шостага сына Брахмы, а з’явіліся роем з сухой земляной трэшчыны, куды ўпаў пахвінны волас мудраца.

Ведыйскія гімны – той змястоўны кантэкст, дзякуючы якому зусім у іншым святле бачыцца навагодняя гімнічная паэзія беларусаў, выяўляюцца рэчы, якія звычайна пакідаюцца ўбаку, не тлумачацца, не заўважаюцца, маўкліва лічацца неістотнымі, гэткай выпадковай мастацкай фантазіяй, эстэтычнай гульнёй. Захопленыя «гуманістычным» пафасам твораў, даследчыкі

беспадстаўна разглядаюць іх мастацкую рэальнасць у каардынатах антрапацэнтрычнай мадэлі свету сялянскага тыпу, лічаць героямі песень членаў простай сялянскай сям'і – пана гаспадара, яго жонку, дачку і сына, а самі песні – гімнам працоўнаму чалавеку – земляробу. І гэта зразумела, бо псіхалагічна мы скіраваны на літаральнае ўспрыманне тэкставай метафарыстыкі. Калі гаворыцца пра гаспадара, гаспадыню, паніча, паненку, бабку, нявестку, то яны аўтаматычна атаясамліваюцца з рэальнымі, якіх нібыта ўслаўлялі песнапеннямі калядоўшчыкі і валачобнікі. Тут блытаюцца тры тыпы тэкстаў – жыццёвы, абрадавы і рытуальны. Два першыя могуць быць песеннымі тэмамі, а трэці належыць семантычнаму плану гімнічнай паэтыкі. Калі з даверам паставіцца да песенных сведчанняў, то давядзецца прызнаць, што цэнтрам гімнічнай мадэлі свету з'яўляецца згорнуты сусвет – двор нябеснай сям'і, дзе жывуць месяц з сонцам, сваімі дзецьмі, нявесткамі, слугамі. Ні сімволікі, ні субстытуцыі няма ў радках: «*Ясны месяц – сам гаспадар, красна сонца – жана яго, дробны звёздачкі – яго дзетушкі, буён вецер – яго служанькі*» [7, *191*] і пад. Тут месяц не паэтычны сімвал гаспадара, як гаспадар не субстытут (рытуальны дублёр, «намеснік») месяца, ён – трансгрэсіўны персанаж, сапраўдны месяц антрапаморфнага выгляду. Трансгрэсіўныя персанажы – унікальная з'ява беларускай (у пэўным сэнсе – славянскай) гімнічнай паэзіі, абумоўленая станам міфалогіі.

Героі ведыйскіх гімнаў – персанажы вышэйшай міфалогіі. Сусвет апісваецца як абсалютная боская дадзенасць, боская эманацыя: «*Агні запальваецца з дапамогай Агні*» [І, 12, 6], «*У боскім лоне Савітара* (і) *усе светы*» [І, 35, 5], Маруты «*трасуць горы*» [І, 39, 5], сонца ўсходзіць пасля зары – «*Сур'я наступае ззаду на ззяючую багіню Ушас*» [І, 115, 1] і да т. п. Цэнтр навагодняй мадэлі свету – бог Індра, цэнтральная падзея – касмаганічны акт Індры-дэміурга па аднаўленню цыклічнага хранатопу. Вышэйшая міфалогія славян з процістаяннем крэатыўных багоў і іх дэструктыўных праціўнікаў так і не паспела сфарміравацца, таму гераічная лінія ў беларускіх навагодніх гімнах адсутнічае. Ёсць толькі цьмяныя намёкі на яе. Напрыклад, маці выпраўляе сына ў войска, дзяўчына кажа, што «*прыехаў яе братка з вайны*» [7, *263*] або «*татка з войска прыехаў*» [7, *264*]. Для арыяў «вайна ўваходзіла ў сферу дзеяння касмічнага закону сусвету – ṛta» [6, *456*]. І, відаць, ваяр гэтаксама рытуальна быў патрэбны калядкам, як Індра ведыйскім гімнам. Патэнцыяльны герой – хлопец – «*бел малойчык на коніку вараненькім, на сядэлку залаценькім*» [1, *365*], патэнцыяльны вораг, падобны на ведыйскага змея Урытру, – змяя (змейка), якая абяцае хлопцу розныя выгоды за дараванне жыцця. Фінал сустрэчы застаецца па-за тэкстам, але ён вядомы з чарадзейна-фантастычных казак змеяборчага тыпу, дзе герой забівае змея і вяртае на неба свяцілы. Засведчана традыцыя расказваць казкі менавіта на Каляды. Ніводны з вышэйшых багоў, прадстаўленых у пантэоне князя Уладзіміра, не ўвайшоў у гімнічную паэзію ўсходніх славян ў якасці адрасата напышлівага ўхвалення і, відаць, не меў шанцаў на гэта, бо персанажы трансгрэсіўнага тыпу даўно і трывала занялі месца.

У сваёй гімнічнай творчасці беларусы затрымаліся на постпантэістычным узроўні, для іх жанравай свядомасці сонца не бажаство, а персаніфікаваная існасць гарманізаванага свету. Ва ўмовах міфалагічнай няўпэўненасці

дамінуюць песенныя персанажы трансгрэсіўнага тыпу – чалавекастыхіі, яны – вынік рытуальнага пераходу неадольнай у звычайны час мяжы, абсалютнага знішчэння грані паміж звычайным, чалавечым (сялянская сям'я) і трансцэндэнтным, стыхійным (нябесная сям'я). Гэта значыць, што героі твораў пры ўсёй іх абрадавай рэальнасці і функцыянальнасці (слухачы песень, шчодрыя ахвяравальнікі) з'яўляюцца носьбітамі субстанцыянальных якасцей. Характарыстыкі і атрыбуты персанажаў, сітуацыі і акалічнасці іх песеннай «біяграфіі», падзеі і ўчынкі маюць зусім не жыццёвую, а рытуальна-міфалагічную падаплёку. Паколькі грунтоўны ўсебаковы аналіз канцэптуальнай сутнасці гимнічных персанажаў працаёмкі працэс, абмяжуемся некалькімі прыкладамі, каб паказаць перспектыўнасць параўнальнага даследавання і важнасць выкарыстання ведыйскіх матэрыялаў.

Калі гаспадар – ясны месячык, то ў кантэксце штогодняй драмы заканчэння цыклічнага часу з ім заканамерна звязваюцца метафары знікнення святла. Адна з іх – страта залатога персценя: калі гаспадар «*уз'ехаў на сіне мора*», то (ці выпадкова?) «*зваліўся золат персцень з правай ручкі, з мязінага пальца, утануў жа у сіне мора*» [7, *159*]. З ёй далей спалучаецца метафара вылоўлівання нябесных свяціл. Жана гаспадара замест персценя выцягвае трох акунёў «*златапёранькіх, златакрыленькіх*» [7, *155*], што на метафарычнай мове азначае вяртанне ў свет святла і свяціл, або наймае трох малойцаў, якія таксама замест персценя ўлавілі «*тры рыбанькі, тры акунёчкі*» [7, *160*]. З трох рыбачак-краснакрылачак адна, за тры тысячы, – гаспадару (= месяцу), другая («*цаны нету*») – жане яго (= сонцу), трэцяя – малай дачцэ (= маладой зары) [7, *168*]. Сонечны дыск называецца ў Ведах колам [I, 175, 4; IV, 30, 4]. І калі ў беларускай гімнічнай песні гаворыцца, што персцень патануў, мы можам меркаваць, што патанула ў цёмных водах само свяціла (сонца, месяц – не мае істотнага значэння) або што яно згубіла свой бляск (пар.: I, 117, 5, дзе Ашвіны выкопваюць для Ванданы скарб, які параўноўваецца з сонцам у змроку). Наогул усе «вяртанні» асэнсоўваюцца ў Ведах міфалагічна як вяртанне сонца з ніжняга свету. Так, Ашвіны вяртаюць маладосць старому Калі [X, 39, 8], узнагароджваюць яго сіламі перад жаніцьбай [I, 112, 15], з мудраца Чх'яваны знімаюць стары пакроў цела, робяць яго мужам юных дзеў [I, 116, 10].

Гаспадар выступае як суддзя. Калі яго няма дома, то гаворыцца, што ён паехаў у горад «*суды судзіць і рады радзіць*» [7, *155*]. У гэтым выпадку персанаж поліфункцыянальны ведыйскаму ўтрымальніку касмічнага закону Варуне. Ведыйскай багіні зары Ушас адпавядае паненка, якая або прама называецца яснай зарой, або параўноўваецца з ёю. І, наогул, характэрная рыса дзяўчыны – ззянне, сувязь з золатам, залатымі рэчамі, убраннем і г. д. Яна ўстае раней за пеўняў, расчэсвае косы, мосціць масты, па двару хадзіла, «*увесь двор красіла*» [7, *255*], «*увайшла ў сені – сені заззялі*» [7, *255*], «*у сенечкі выйшла – зорачка ўзышла*» [7, *257*], «*А ў хатку ўвайшла – хатка свяціцца, а да цэрквы ўвайшла, як зара ўзыйшла*» [7, *257*]. Дзяўчына падбірае «*залатую расу*» [1, *250*], на галаве яе «*пярлоў венчык*», у які ўвітыя «*злоты пёры*» [1, *256*], да вяселля ёй рыхтуюць залатыя «надобкі» – вянец, персцень, кубак [1, *258*]. «*Таткава дачка красна паннанчка*» [7, *255*] суадносіцца, на наш погляд, з вобразам «*зары-зараніцы, краснай дзявіцы*», які вядомы з загадак. 700 хлопцаў ці сватоў, якія прыходзяць да дзяўчыны, атрымоўваюць здавальняю-

чае вытлумачэнне толькі ў сувязі з Ушас, колькасцю гадавых зор (гіпатэтычны год з 350 дзён) і жаніхоў Ушас. Ведыйская тэма паланення вод і зары вырашаецца традыцыйна – праз метафару патаплення. Дзяўчына-зара «*на моры, моры, на сінім Дунаі... залаты персцень утапіла*» [1, *270*]. Калі мілы дастае з мора пярсцёнак, перад намі метафара вяртання зары і яе святла. Паненка з'яўляецца ўвасабленнем ідэальнай прыгажосці, але ці выпадкова яе эквівалентам выступае ззянне?

Як вядома, паэтычныя выразы абрадавых песень даволі часта захоўваюць у сабе старажытныя міфалагічныя ідэі. Іх першапачатковая семантыка магла забывацца, і ў большасці выпадкаў сапраўды забывалася. На наш погляд, індаеўрапейскі ўзровень беларускіх гімнічных песень можа быць рэканструяваны змястоўна, бо яны захоўваюць суадносную з ведыйскай сістэмную сувязь вобразаў, матываў, паэтычных выразаў, нясуць у сабе індаеўрапейскі культурны код, інфармацыю пра рытуальны навагодні хранатоп і яго функцыянальных персанажаў. Будучых даследчыкаў не павінен бянтэжыць той факт, што пры функцыянальным і жанравым падабенстве беларускія і ведыйскія гімны па-мастацку рознасістэмныя, кардынальна адрозніваюцца па стылю, г. зн. па арыгінальнасці змястоўнай формы, па характары эстэтычнага адзінства ўсіх фармальных бакоў і элементаў (прадметных, кампазіцыйных, маўленчых). Мяркуем, што праз параўнальны аналіз стылявых элементаў адкрываюцца новыя перспектывы даследавання міфапаэтыкі беларускіх гімнаў.

## ЛІТАРАТУРА


1. Валачобныя песні / уклад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей, В. І. Ялатаў.– Мінск, 1980.
2. Веснавыя песні / уклад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей, В. І. Ялатаў.– Мінск, 1979.
3. *Гусева, Н. Р.* Краткая сводка совпадающих и сходных слов русского языка и санскрита / Н. Р. Гусева // Кто они и откуда? Древнейшие связи славян и арьев.– М., 1998.
4. *Дзярновіч, А.* «Свастыка» як касмалягічны сымболь / А. Дзярновіч, А. Кватькоўская // Крыўя. 1994. № 1.
5. *Драздоў, Ю.* Параўнаўчы аналіз некаторых міталягічных функцыяў славянскага Ворана і ведыйскага Варуны / Ю. Драздоў // Крыўя. 1994. № 1.
6. *Елизаренкова, Т. Я.* «Ригведа» – великое начало индийской литературы и культуры / Т. Я. Елизаренкова // Ригведа. Мандалы I – IV.– М., 1989.
7. Зімовыя песні (Калядкі і шчадроўкі) / уклад. А. І. Гурскі, З. Я. Мажэйка.– Мінск, 1975.
8. *Иванов, Вяч. Вс.* О мифопоэтических основах латышских дайн / Вяч. Вс. Иванов // Балто-славянские исследования. 1984.– М., 1986.
9. Ригведа. Мандалы I – IV.– М., 1989.
10. *Санько, С.* Сюжэт «пра зніклага бога»: хецка-крыўскія (беларускія) паралелі / С. Санько // Крыўя. 1994. № 1.
11. *Трыфаненкава, М. А.* Матыў змеяборства ва ўсходнеславянскай фальклорнай традыцыі: Генезіс. Семантыка / М. А. Трыфаненкава. – Мінск, 2003.

*Таццяна Лук'янава*

# МАСТАЦКАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ РЭЧАІСНАСЦІ Ў БЕЛАРУСКІХ І СЕРБСКІХ ЛЕГЕНДАХ

Сербская няказкавая проза не мае такой жанравай дыферэнцыяцыі, як беларуская. Уся разнастайнасць фальклорных празаічных тэкстаў называецца «*приповетке*». Агульнасць назвы, тым не менш, не абвяргае наяўнасці тэкстаў, аналагічных беларускім былічкам, сказам, легендам.

І беларускія, і сербскія легенды звернуты да рэчаіснасці, адзначаюць той ці іншы факт, падзею, прапускаючы іх скрозь прызму жанравага мыслення, народных уяўленняў, ідэалаў. Нам падалося цікавым параўнаць, як беларускія і сербскія носьбіты фальклору ўспрымаюць і асэнсоўваюць рэчаіснасць, як інтэрпрэтуюць яе ў мастацкіх тэкстах легенд, якія мастацкія сродкі выкарыстоўваюць. Асвятленне дадзенага аспекту ўяўляецца асабліва цікавым не толькі дзякуючы генетычнай роднасці беларускіх і сербскіх народаў, але і падобнасці іх гістарычных лёсаў, сацыяльнага і культурнага развіцця. Вялікая разнастайнасць праяў рэчаіснасці, што знайшла адбітак у легендах, прымусіла нас абмежавацца адной, але агульнай для беларускага і сербскага фальклору тэмай барацьбы з іншаземнымі захопнікамі.

Змаганне сербскага народа з туркамі, Венецыяй, Венгрыяй, Аўстрыяй, мноства заваёўнікаў, што прайшліся па беларускай зямлі (татары, шведы, палякі, французы і інш.) абумовіла з'яўленне шматлікіх сюжэтаў, звязаных з бітвамі, нападамі ворагаў, узброенымі сутычкамі з імі мясцовых жыхароў і г. д.

І ў беларускіх, і ў сербскіх легендах уварванне ворагаў усведамляецца як вялікая бяда. Беларускія легенды расказваюць пра здзекі, якія чынілі захопнікі: знішчалі ўсё агнём і мячом, закладалі дзяцей за лавы і, прыціскаючы, душылі іх, мужчын раздзіралі надвое, прывязваючы да двух сагнутых дрэў, цяжарным жанчынам распорвалі жываты і да т. п. [1, *233*]. Расказваюць беларускія легенды і пра выпадкі супрацьдзеяння заваёўнікам: баба, ратуючы сваё жыццё, забівае татарына (ці шведа), прыпамінаюцца бітвы, дзе «*многа пабілі і нашага войска, і татар*» [1, *231*]. Але значна часцей апісваецца, як людзі хаваліся па лясах ды балотах, доўга галадалі, чакаючы, пакуль ворагі сыйдуць.

У сербскіх легендах распаўсюджаны сюжэты пра набегі туркаў за данінай, пра здзекі ворагаў над палоннымі, пра бітвы паўстанцаў з туркамі, пра помсту туркам, пра вызваленне з турэцкага палону і г. д. Сербскія легенды прасякнуты духам адкрытага супраціўлення. У шматлікіх творах расказваецца пра змаганне з туркамі і перамогу над імі, пры гэтым вялікая заслуга належыць асобным героям. У адносінах да саміх туркаў адчуваецца не жах, а іронія. Сербскі народ паказваецца вышэйшым за ворагаў ва ўсіх адносінах: у моцы духу, спрыце, прыгажосці, маралі [2, *427*].

Калі ў сербскім фальклоры самі сербы помсцяць туркам ці героі-асілкі праганяюць ворагаў, то ў беларускіх легендах за пакрыўджаных вельмі часта заступаецца Бог. Ён карае татар (шведаў, французаў) за лютаванне над людзьмі ці глумленне над хрысціянскімі святынямі, насылае на іх слепату, страх, робіць так,

што ворагі забіваюць адзін аднаго ці проста гінуць [1, *248*]. Розніца ў мастацкай трактоўцы падобнай гістарычнай сітуацыі яшчэ больш паглыбляецца пры пераходзе ад сюжэтнага ўзроўню да вобразнага. Сербскія легенды, нягледзячы на пэўныя агульныя з беларускімі клішэ, стварылі глыбока нацыянальныя вобразы герояў-змагароў за свабоду сербскага народа: Мілаша Обіліча, Янкі Сібіняніна, Секулы і інш. Галоўныя персанажы легенд часта маюць гістарычныя імёны. Яны вызначаюцца высокім ростам, незвычайнай фізічнай сілай (чым нагадваюць герояў беларускіх казак пра асілкаў), доблесцю, спрытам і кемлівасцю [1, *426*; *427*]. Нават мясцовыя разбойнікі-гайдукі не толькі помсцяць багатым феадалам, яны таксама змагаюцца і з туркамі.

Народныя ўяўленні пра абаронцу ад ворагаў пераплятаюцца ў сербаў з марай аб «справядлівым» валадары і ўтвараюць такія вобразы, як, напрыклад, Марка Кралевіч. Юнак-асілак, адзіны, хто можа перамагчы Чорнага Арапіна, у той жа час выступае і як мудры, справядлівы валадар. Ён заступаецца за простых людзей, пакрыўджаных туркамі, вызваляе дзяцей і жанчын з турэцкага палону. Акрамя таго, вельмі кемлівы, знаходлівы і часта перамагае не сілай, а розумам. Не пазбаўлены ён і пачуцця гумару [1, *425*]. Марка Кралевіч паўстае і як будучы легендарны збавіцель сербаў ад нацыянальнага прыгнёту. Ён не памёр, сцвярджаюць легенды, а спіць ў пячоры на далёкім востраве разам са сваім канём Шарцам. Але настане час, ён прачнецца і зноў з’явіцца свайму народу.

Беларускія легенды падобных вобразаў не ведаюць. У беларусаў няма ўяўленняў аб князі-абаронцы, нацыянальным збавіцеле, выратавальніку ад захопнікаў. Пазбаўлены ідэалізацыі і вобразы разбойнікаў. Такія сюжэты, як помста ворагам, паспяховы набег на варожы стан і да т. п., не тыповыя для беларускіх легенд, затое ў іх няма і расказаў пра здрадніцтва, прадажніцтва і рэнегацтва, якія, хоць зрэдку, але сустракаюцца ў сербскім фальклоры.

Розніца ў трактоўцы рэчаіснасці беларусамі і сербамі абумоўлена спецыфікай нацыянальнай псіхалогіі, менталітэту, светабачання, а таксама розным узроўнем развіцця нацыянальнай самасвядомасці. Трэба адзначыць, што сербскія легенды ў большай ступені прасякнуты ідэямі нацыянальнага вызвалення, а ў беларускіх легендах барацьба з іншаземцамі мае пераважна характар супраціўлення сацыяльнаму прыгнёту. Героі беларускіх твораў, таксама як і сербскіх, свабодалюбівыя, здольныя даць адпор ворагам, але, у адрозненне ад апошніх, у іх яшчэ недастаткова развіта пачуццё нацыянальнай годнасці.

Сербскія героі-змагары ўяўляюць сабой увасабленне патрыятычных ідэалаў. Яны вызначаюцца не толькі фізічнай сілай, смеласцю, спрытам, але і маральным высакародствам, справядлівасцю, самаахвяраваннем і той моцай духу, якая дазваляе нават на парозе смерці пагарджаць ворагамі і адчуваць сваю перавагу над імі. Ступень ідэалізацыі беларускіх герояў значна меншая. Гэта звычайныя, «зямныя» людзі, якім, аднак, таксама ўласцівы і моц, і смеласць, і кемлівасць, а часам нават непаражальнасць і непераможнасць [1, *252*]. Ворагі ў беларускіх легендах заўсёды паказваюцца бязлітаснымі, лютымі гвалтаўнікамі, для якіх няма нічога святога, а ў сербскіх легендах яны, акрамя таго, і амаральныя асобы, несумленныя, клятваадступнікі і г. д.

Беларускія і сербскія легенды маюць сваю спецыфіку і на фармальным узроўні. Часцей за ўсё яны ўяўляюць сабою кароткія празаічныя апавяданні, якія не маюць устойлівай кананічнай формы. Форма выражэння зместу сітуатыўная, залежыць ад кантэксту зносін апаведача і слухачоў, яе мастацкасць няўстойлівая і неабавязковая. Вызначальнай прыкметай сюжэту беларускіх легенд з'яўляецца аднаэпізоднасць. Звычайна распавядаецца пра нейкі выпадак ці падзею, якія мелі месца ў мінулым. Сербскія легенды вельмі часта складаюцца з некалькіх эпізодаў, а часам уяўляюць сабой набор разнастайных звестак пра таго ці іншага героя, населены пункт і да т. п. Але гэта не пярэчыць арганічнай сувязі паміж асобнымі часткамі твора. Іх з'яднанню садзейнічае цэнтральная пазіцыя вобраза, вакол якога канцэнтруюцца пэўныя факты [2, *423*; *425*].

Для стылістычнай формы і беларускіх, і сербскіх легенд характэрна пастаянная арыентацыя на верагоднасць таго, аб чым распавядаецца. Беларусы, каб пераканаць слухача ў праўдзівасці аповеду, звычайна выкарыстоўваюць спасылкі на аўтарытэтны досвед старых людзей: «*А былі ў Пагосце і туркі, даўно-даўно. Нам пра іх дзяды расказвалі, а ім іхнія дзяды…*» [1, *232*].

Сербы звычайна спасылаюцца на агульнавядомасць фактаў «*Няма такога серба, які б не чуў імя Марка Кралевіча…*» [2, *425*]; «*Кажуць сербы, быццам Царград не людзі будавалі…*» [2, *423*]. Для абодвух традыцый характэрны спасылкі на рэальныя фізічныя аб'екты, якія быццам бы засталіся з таго часу, калі адбываліся легендарныя падзеі, і з'яўляюцца сведчаннем праўдзівасці апавядання: «*Там і цяпер у балоце можна абмацаць кавалкі муру…*» [1, *250*]; «*Таму, кажуць і па сёняшні дзень, асабліва летам, у спякоту ўся вада ў Котары саленаватая, акрамя той, што ў паўднёвай крыніцы*» [2, *424*].

У беларускіх і сербскіх легендах побач з рэальнымі людзьмі могуць дзейнічаць незвычайныя па сваёй прыродзе персанажы. Гэта не людзі, а прадстаўнікі іншага, звышнатуральнага свету. Але калі ў беларускіх легендах прысутнічаюць Бог, святыя ці чорт, то ў сербскіх легендах яшчэ і міфалагічныя істоты: крылатыя коні, якія размаўляюць па-чалавечы, змеі, вілы і інш. Сербскія легенды ўвогуле ў вялікай ступені напоўнены казкавымі матывамі і персанажамі, якія для беларускіх твораў з'яўляюцца рэдкім выключэннем.

Такім чынам, своеасаблівасць мастацкай інтэрпрэтацыі рэчаіснасці ў беларускіх і сербскіх легендах абумоўлена адметнасцямі нацыянальнага менталітэту і светабачання. І невялічкія па памеру і выразныя па сюжэце беларускія легенды, і насычаныя казкавымі матывамі легенды сербаў выяўляюць найбольш яркія рысы нацыянальнага характару гэтых народаў: трываласць, жыццястойкасць, асаблівую павагу да старых – у беларусаў, нацыянальную годнасць, непакорнасць – у сербаў. Далейшае параўнальнае вывучэнне беларускіх і сербскіх легенд можа даць плён як для фалькларыстыкі, так і ў сферы этнапсіхалогіі.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Легенды і паданні / склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі. – Мінск, 1983.

2. Сербские народные песни и сказки из собрания Вука Стефановича Караджича / сост. Ю. Смирнов. – М., 1987.

# Раздзел 4

# МІФАФАЛЬКЛАРЫСТЫКА

*Рыма Кавалёва*

## МІФАЛОГІЯ ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКАЙ АНІМАЛІСТЫЧНАЙ КАЗКІ

Анімалістычныя казкі, ці, як іх яшчэ называюць, казкі аб жывёлах, – адзін з самых загадкавых фальклорных жанраў. Яны простыя па форме і зместу, але гэтая прастата падманлівая, бо іх цяжка суаднесці з пэўнай рэальнасцю – гістарычнай, міфалагічнай, бытавой. Відавочна, што дадзеныя казкі складаюць частку агульнай анімалістычнай лініі народнай культуры, але незразумела, якое месца яны займаюць у ёй, як суадносяцца з іншымі часткамі, прыкладам, з вырашэннем анімалістычнай тэмы ў каляндарна-абрадавай паэзіі. Ды і само азначэнне – казкі аб жывёлах – далёка не ў поўнай меры адпавядае зместу твораў, паўнапраўным персанажам якіх з'яўляецца чалавек. Што тычыцца тэорый паходжання анімалістычных казак, то, акрамя паляўнічай і татэмістычнай, іншых, бадай, не прапаноўвалася, ды і пазначаныя хутчэй цыркулююць на ўзроўні гіпотэз, слаба падмацаваных фактамі. Неаднаразова адзначалася, што паляванне зусім не тэма анімалістычных казак. Нават у казцы пра мядзведзя на ліпавай назе факт палявання выклікае сумненне: ёсць просьба дзеда да мядзведзя, ёсць добраахвотная згода задаволіць просьбу і нейкае запозненае шкадаванне аб неабдуманым учынку, але няма вобраза паляўнічага. Выпадак, апісаны ў казцы, адзінкавы і унікальны. Многія вучоныя ўпэўнена суадносяць дадзены сюжэт з татэмістычнымі ўяўленнямі. Але ці дастаткова адной казкі для абгрунтавання тэорыі?

У анімалістычных казках няма і следу пакланення жывёлам, цалкам адсутнічаюць уяўленні аб напаўзвярыных-напаўчалавечых агульных продках людзей і жывёл. Водгаласы татэмістычнага міфа захоўваюцца ў некаторых чарадзейна-фантастычных казках, напрыклад, у матыве сексуальнай сувязі мядзведзя з жанчынай. Тым не менш анімалістычныя казкі міфалагічны ў той жа ступені, што і чарадзейна-фантастычныя, але іх міфалагізм іншага кшталту. На наш погляд, ключом да разгадкі міфалагічнага падмурка анімалістычнай казкі з'яўляецца статус, характар і функцыя мовы ў мастацкай прасторы гэтых твораў. Простае пытанне: колькі моў знаходзілася ў распараджэнні дзеючых асоб? Адна – універсальная, дзве – звярыная і чалавечая, некалькі – у кожнага свая? Як і чаму розныя істоты разумеюць адзін аднаго? Здаецца, што адказ відавочны: усе персанажы выкарыстоўваюць чалавечую мову. Але гэта толькі

мастацкі факт. Паколькі казкі створаны людзьмі, то і мова дзеючых асоб передаецца сродкамі чалавечай мовы, толькі і ўсяго.

Звычайна праблема казкавай камунікацыі вырашаецца праз апеляцыю да тых міфалагічных уяўленняў, згодна з якімі ў былыя часы людзі разумелі мову звяроў, а тыя – мову людзей, адкуль вынікае, што міф дапускаў існаванне генетычных паліглотаў. Але ці быў ён першасным? Для нас праблема мовы і маўлення паўстае ў іншым ракурсе. Казкі ўпарта падштурхоўваюць да думкі аб існаванні міфа, згодна з якім калісьці была адзіная універсальная мова ўсяго існага, а не дзве і некалькі. Тыпалагічна яму адпавядае міфалагічная легенда пра ўзвядзенне вавілонскай вежы і наступнае змяшэнне моў богам, дзе гаворыцца, што напачатку ўсе людзі на зямлі мелі адну мову і аднолькавыя словы.

Відаць, існавала ўяўленне, што былую адзіную мову захавалі не людзі, а жывёлы, бо ў казках жывёлы розных відаў спакойна маюць зносіны паміж сабой, мала таго – некаторыя з іх ведаюць і чалавечую мову, напрыклад, карова з казкі пра Хаўрошачку, шчупак з казкі пра Ямелю, Шэры воўк з казкі пра Жар-птушку і інш. У чарадзейных казках паўстае сітуацыя, калі людзі ўжо не разумеюць мову птушак і звяроў, пытанне ў тым – якую: тую першасную, універсальную, ці ўжо іншую, спецыфічную? Казачныя героі атрымліваюць дар разумець мову жывёл пры пэўных абставінах, якія, на думку У. Пропа, суадносяцца з абрадам ініцыяцыі, калі яго ўдзельнікі набывалі ўсёведнасць праз з'яданне кавалачка татэмнай жывёлы [3, *195*], ці выпадкова, напрыклад, ад змяі як падзяку за выратаванне [1, *224–225*], ці гэтай здольнасцю яны валодаюць ад нараджэння, як хлопчык з казкі «Птушыная мова» [1, *223–224*]. Занатавана сведчанне, што беларусы верылі, быццам здольнасць разумець чалавечую мову вяртаецца да жывёл у калядную ноч: «У гэты час усялякае стварэнне валодае чалавечаю моваю» [2, *91*]. А вось у купальскую ноч у памяці як быццам адраджаецца універсальная мова: «Дрэвы, звяры і наогул усё жывое нібы вядуць паміж сабой гаворку» [2, *223*].

Такім чынам, камунікацыя паміж людзьмі і жывёламі або яе адсутнасць – з'ява светапогляднага плана, аб чым сведчыць тыпалогія матываў, але адразу паўстае пытанне аб іх канкрэтнай міфалагічнай аснове. На наш погляд, такой асновай быў міф аб Залатым веку, ці так званы райскі міф. У эпоху вялікіх геаграфічных адкрыццяў быў створаны міф аб высакародным дзікуне, што жыве райскім жыццём «у стане нявіннасці і духоўнага шчасця» на ўлонні прыроды, але, на думку М. Эліадэ, ён з'яўляўся «ўсяго толькі адраджэннем і працягам міфа аб Залатым веку, гэта значыць аб дасканаласці пачатку рэчаў» [4, *42*]. Разам з тым пазней высветлілася парадаксальная рэч: «Дзікуны, у сваю чаргу, таксама лічылі, што страцілі першасны рай». Яны, як і заходнія хрысціяне, думалі, «што знаходзяцца ў «паўшым» становішчы ў параўнанні з казкава шчаслівым жыццём у мінулым» [4, *45*]. Вывад відавочны: міфалагічнай свядомасці ўласціва ўспрымаць рэальныя ўмовы быцця драматычна, нават з трагічным адчуваннем, лічачы іх вынікам катастрофы, што адбыліся *in illo tempores.*

Відаць, адчуванне катастрофы з вялізнай сілай праследавала ўжо і архаічнае чалавецтва, асабліва на стадыі пераходу да новых форм гаспадарання. У сілу гэтага яно «выпадала» з прымальнай карціны свету, з прывычнай практыкі і ідэалогіі татэмізму, якая грунтавалася на сацыяльным аб’яднанні не па крыві, не па тэрыторыі, а па татэму без супрацьпастаўлення людзей, жывёл, птушак, раслін, з’яў прыроды і г. д. Анімалістычныя казкі ўтрымліваюць каштоўнейшы матэрыял для вывучэння міфалагічнага мыслення чалавека, які знаходзіўся ў фазе балючага паглыблення разрыву з прыродай, вылучэння сябе з яе, які абвострана адчуваў драматызм рэальнага жыцця і спрабаваў зразумець прычыну. Мяркуем, што анімалістычныя казкі ўвасобілі ўяўленні менавіта неалітычнага чалавека аб тым міфалагізаваным мінулым, калі ва ўсіх было агульнае несупярэчнае жыццё і агульная мова. У свядомасці чалавецтва ўжо адбылося адасабленне ад міфалагічный эпохі моўнага адзінства, бо новы сацыяльны ўклад радыкальна супрацьстаяў ранейшай форме жыцця, таму аб’яднанню па татэму, якога ўжо не было.

Свет моўнага адзінства быў прыдуманы, але ён той від уяўнага, якое лічылася рэальнасцю мінулага, г. зн. той міфалагізаванай гісторыяй, якой ніколі не існавала. Нейкая агульная, універсальная мова – адна з граней былой дасканаласці. Анімалістычныя казкі якраз імпліцытна актуалізавалі беспадстаўную памяць аб страчаным раі. Слова, якое са сродку ўзаемаразумення ператварылася ў сродак падману, – ключавая праблема паслярайскага грамадства і скразны матыў анімалістычных казак, яго жанраўтваральная рыса. Цікава, што ў казках няма настальгіі па раю, іх тэма – свет на пераломе. Паказчыкам блізкай катастрофы, якую немагчыма прадухіліць, становяцца сімптомы распадзення моўнага адзінства, адасабленне людзей ад жывёльнага свету. У пераважнай большасці казак захоўваюцца паўнацэнныя камунікатыўныя акты паміж чалавекам і жывёламі, але ў некаторых, напрыклад у казцы пра зімоўе звяроў, камунікацыя аднабокая: хатнія жывёлы чуюць размову аб тым, што іх хочуць забіць, і збягаюць у лес, але гаспадары нават не падазраюць аб здольнасці жывёл разумець чалавека, бо самі ўжо не ведаюць мову жывёл.

Казкі сведчаць, што архаічны райскі міф аб супольнасці людзей і жывёл, пабудаванай на справядлівых пачатках, асновай якіх была дамова аб выкананні ўзаемных абавязацельстваў, не знік. Яго рэмінісцэнцыі знаходзім у шэрагу сюжэтных сітуацый, дзе звяры, здаецца, паводзяць сабе алагічна. Напрыклад, ліса, за якой замацавалася рэпутацыя бязлітаснай і хітрай махляркі, ратуе ад ваўка авечку. Воўк звычайна характаразуецца як дурань. Замест таго, каб адразу кідацца на ахвяру, ён, насуперак сваёй прыродзе, пачынае перагаворы, чамусьці адкрыта аб’яўляе аб сваім намеры з’есці яе ды яшчэ і згаджаецца на прапанаваныя тою ўмовы, г. зн. дзейнічае, зыходзячы з нейкіх невядомых нам правілаў, якія яго ахвяры выкарыстоўваюць, каб выратаваць сваё жыццё. Воўк дапамагае старому сабаку вярнуць ласку гаспадара, але яго неразумныя паводзіны пад сталом на вяселлі прыводзяць да маштабнай вайны паміж хатнімі і дзікімі жывёламі. Наколькі жорсткім і небяспечным стаў свет, у якім парушаюцца былыя канвенцыі, сведчыць казка, дзе ліса, каб абдурыць

цецерука, спасылаецца на быццам бы прыняты новы закон аб мірным суіснаванні звяроў.

Верагодна, калі б не існавала райскага міфа, то не з'явіліся б анімалістычныя казкі таго віда, які нам цяпер вядомы. Яны – вынік перажывання псіхалагічнай траўмы, нанесенай уяўленнямі аб страчаным раі, аб распадзенні былога гарманічнага адзінства ўсяго існага, той мастацкі погляд з цяперашняга, якое пакутуе з прычыны ўяўнага раз'яднання і перажывае наступствы катастрофы. Анімалістычныя казкі – гэта яшчэ і спроба ўсвядоміць, чаму цяпер людзі і жывёлы жывуць так, а не інакш, чаму яны не разумеюць адзін аднаго і ў сілу чаго гэта адбылося. Яны жывяцца міфамі аб парытэтнай супольнасці людзей і звяроў, але паказваюць зусім іншае – ігнараванне інтарэсаў, марнасць спроб сабрацца пад адным дахам або хаця б жыць побач. Так разбураецца добраахвотнае таварыства звяркоў з-за прыдуркаватасці ці злоснага намеру мядзведзя – апошняга прэтэндэнта на дзедаву рукавічку. Небяспечным аказалася для зайца суседства з лісой, якая нахабна выгнала яго з уласнай хаткі. Сябравалі воўк з лісам, але ліс падвёў ваўка пад стрэл. Па-рознаму складваецца лёс жывёл, якіх зводзіць разам бяда. У адным выпадку збегшых ад чалавека жывёл аб'ядноўвае неабходнасць абараняць сваё жыццё ад ваўкоў-драпежнікаў, у другім – звяры, трапіўшы ў яму, становяцца ахвярамі падманных прапаноў лісы. Сям'я, на абарону якой можна было б спадзявацца, ёсць толькі ў людзей, а ў звяроў, калі і ёсць, то звычайна няпоўная: каза з казлянятамі, ліса з лісянятамі, дрозд з птушанятамі. Заўважым, што менавіта дзеці аказваюцца самымі безабароннымі. Хоць у гэтых выпадках назіраецца тэндэнцыя да шчаслівага выхаду, пакарання драпежніка, але тым не менш гінуць дзеці дразда. А ці варты павагі станоўчы кот, які, ратуючы пеўніка, зусім не вагаецца, калі забівае дачок лісы? Дарэчы, мядзведзь, які пашкадаваў лісянят, сам становіцца ахвярай бязлітаснай лісы-маці.

Нават беглы агляд казак дазваляе сцвярджаць, што пытанне аб прычынах парушэння нейкай міфалагічнай канвенцыі паўстае не прама, а ўскосна. Замест прычыны можа быць адзінкавы выпадак, як, напрыклад, недарэчны спеў ваўка пад вясельным сталом, вынікам чаго стала вайна паміж дзікім звярамі і хатнімі жывёламі. Але ў глабальным маштабе за ўсімі драматычнымі калізіямі казак паўстае прывід віны людзей і звяроў за «няправільнае» выкарыстанне слова, якому па інерцыі многія казачныя персанажы працягваюць давяраць, але цяпер яно стала сродкам узаемнага падману, чорнай магіі, дасягнення карыслівай мэты. Дазволім сабе не пагадзіцца з шырока распаўсюджаным меркаваннем, што сцягам архаічнага грамадства была хітрасць як адзін са сродкаў барацьбы за існаванне. Зусім наадварот: сцяг архаічнай культуры – дамова і ўзаемаабмен. Калі ссякалі дрэва, то прасілі прабачэння за прычынены боль і ўскладалі на пень ежу як дар за загубленае жыццё. Ахвярнае забойства жывёл лічылася як неабходным, так і вымушаным, суправаджалася просьбамі дараваць віну, рытуальным ачышчэннем удзельнікаў або перакідваннем віны на «іншых», у тым ліку і на прыладу забойства.

У адпаведнасці з новым стаўленнем да слова, казачных персанажаў можна падзяліць на наіўных прасцякоў, што верацЬ кожнаму слову, прытрымліваюцца пэўнай канвенцыі, і хітруноў, падманшчыкаў, якія выкарыстоўваюць давер да слова, нахабна парушаюць былыя законы. Першых мы аднеслі б да правапаўшарных істот з неразвітай кагнітыўнай сферай. Яны легка паддаюцца ўплыву, слоўнаму ўнушэнню, не адчуваюць падвоху, не здольны мысленна пралічыць вынікі сваіх учынкаў. Сярод іх ёсць і звяры, і людзі. Такі мядзведзь, што не сабраўся дакладна акрэсліць умовы дзяльбы ўраджаю з мужыком, а той і скарыстаў выпадак, або пагадзіўся дазволіць мужыку даараць поле на валах, якіх намеціўся з’есці. Гэта і воўк, які паверыў лісе, што рыбу ловяць хвастом, або неабачліва прыняў умовы сваіх ахвяр. Тут і дурнаватая ліса, раззлаваная адказам уласнага хваста, што ён перашкаджаў ёй уцякаць ад сабак; дрозд і дзяцел, спужаныя нерэальнымі пагрозамі лісы; дзед, які спасаваў перад спевам ваўка і паслухмяна аддаў яму не толькі ўсю маёмасць, але і ўласную жонку; гаспадар, што паверыў паклёпу ілжывай казы і забіў сваіх сямейнікаў, і інш. Другіх трэба палічыць левапаўшарнымі, бо яны віртуозна валодаюць словам, лёгка ставяць лагічныя пасткі, прадбачаць рэакцыю субяседніка і вынікі сваіх славесных хітрыкаў. Так, конь, гусь, баран, свіння, якія быццам згаджаюцца з тым, што воўк іх з’есць, абгаворваюць папярэднія ўмовы, а ў выніку даверлівы воўк аказваецца пабітым або абдураным. Ліса спрытна выкарыстоўвае закон гасціннасці, угаворвае гаспадароў прыняць яе на начлег, а потым вымушае іх адкупацца за прапажу птушкі, якую сама і з’ела. Кабанчык ілжывымі абяцанкамі заваблівае ваўка ў яму. Але самым хітрым і няўдзячным аказваецца чалавек, які звычайна падманвае або забівае звяроў-выратавальнікаў, каб не плаціць ім за сваё выратаванне ад вужа, цмока, ваўка.

Лепш за ўсіх адчуваюць сябе тыя персанажы, якія дзякуючы слову маніпулююць паводзінамі іншых або набылі імунітэт да слова. Натуральна, самы яскравы прыклад – ліса. Для яе пагрозлівыя словы больш моцных за яе ваўка і мядзведзя, якія спрабуюць дапамагчы зайчыку выгнаць захопчыцу з яго хаткі, – пусты гук, у той час як ім пагрозы лісы здаюцца зусім рэальнымі. Уласна кажучы, спужалася яна не слоў пеўніка, сваёй звычайнай ахвяры, а яго зброі. Зброя – заўсёдны спадарожнік небяспечнага свету, дзе стасункі, пабудаваныя на падмане, хутка пераўтвараюць былых ахвяр у катаў і забойцаў, прычым можа адбыцца і так, што помсцяць яны не сапраўдным крыўдзіцелям, а выпадковым людзям, як у казцы «Помста дзятла».

Ёсць у казках і трэцяя, даволі невялікая група персанажаў, якіх бы мы залічылі да «кагнітывістаў», «аналітыкаў», «мудрацоў». Яны адказалі на небяспечныя знешнія абставіны змяненнем свядомасці і стратэгіі паводзін, навучыліся жыць у неспрыяльных умовах, суадносіць пагрозы з рэальнасцю, словы з дзеяннямі, перапрацоўваць інфармацыю, быць добрымі дарадчыкамі. Гэта цецярук, які ў адрозненне ад пеўніка разумее, што не трэба верыць словам лісы, варона, якая навучыла дразда, як адказаць лісе, паказаўшы беспадстаўнасць яе пагроз.

Палічыўшы, што казкі аб жывёлах адпавядаюць дзіцячаму светасузіранню, Я. Карскі, а за ім і іншыя даследчыкі фатальна памыляліся. Гэта казкі дарослых і для дарослых, занепакоеных недасканаласцю свайго свету, дзе пануе антыномія маральных прынцыпаў, дзе чалавечы розум самы разбуральны, знішчальны, з'едлівы, дзе цяжка правесці грань паміж ахвярамі і карнікамі. Сапраўдная культурная каштоўнасць анімалістычных казак палягае зусім не ў двухсэнсавай утапічнай ідэі перамогі слабых над дужымі і моцнымі, хоць і яе трэба браць у разлік, а ў аўтарскай канцэпцыі свету і той рэтраспектыўнай міфалогіі канвенцыяльнага слова, якая жывілася татэмістычнымі ўяўленнямі. Аддадзім належнае смеласці калектыўных аўтараў: ствараючы казкі, яны тым самым сумленна бралі на сябе віну за заганы свету, за тое, што чалавек не здолеў захаваць чысціню і праўдзівасць слова, якое, згодна з іх пазіцыяй, павінна яднаць усё жывое на зямлі.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Афанасьев, А. Н.* Народные русские сказки: в 3 т. / А. Н. Афанасьев. – М., 1985. Т. 2.
2. Земляробчы каляндар (Абрады і звычаі) / уклад. А. І. Гурскага. –Мінск, 1990.
3. *Пропп, В. Я.* Исторические корни волшебной сказки / В. Я. Пропп.– М., 2000.
4. *Элиаде, М.* Мифы, сновидения, мистерии / М. Элиаде. – М., 1996.

***Светлана Крылова***

# ГРАНИ МИФОЛОГЕМЫ ДОЛИ / НЕДОЛИ В ОБРЯДОВЫХ И НЕОБРЯДОВЫХ ПЕСНЯХ БЕЛОРУСОВ

В белорусской народной лирике мотив доли присутствует в двух ее разностадиальных пластах – песнях обрядовых и необрядовых. Эти группы песен сформировались в разное время и, соответственно, опирались на разную мировоззренческую основу. Обрядовые песни ориентированы на мифологические представления о высшей силе, дарующей человеку долю или лишающей ее. Их ритуальное содержание — испрашивание и заклинание доли, подкрепленное определенной обрядовой атрибутикой и магическими действиями. Необрядовые песни возникли гораздо позже как лирическая реакция личности на проблемы экзистенционального плана. Их содержание представляет собой поэтически оформленную эмоциональную рефлексию лирического «я» над его положением в мире, семье, социуме.

Необрядовая лирика заимствует мифологему ***доля*** из предшествующих ей обрядовых песен и, сохраняя ее доминантное мифологическое ядро, использует для того, чтобы через апелляцию к возможному – счастливой, хорошей, идеальной доле человека – создать образ персонажа, лишенного доли, не получившего ее или наделенного долей несчастливой, злой, лихой и т. д. Таким обра-

зом, знаковыми понятиями необрядовых песен становятся соотносимые между собой понятия бездолья и несчастливой доли.

Жизнь человека была обусловлена последовательными переходами от раннего возрастного состояния к следующему, от одного социального положения к другому. По мнению А. ван Геннепа, суть жизни состоит в последовательной смене этапов – переходов из одного состояния в другое; окончание предыдущего этапа и начало последующего образуют, по его мнению, системы одного порядка [1, *9*]. Таковыми ученый считает рождение, достижение социальной зрелости, брак, повышение общественного положения, переход от одного рода деятельности к иному, смерть: «И каждое из этих явлений сопровождается церемониями, у которых одна и та же цель: обеспечить человеку переход из одного определенного состояния в другое, в свою очередь столь же определенное» [1, *9*]. Но, помимо основной направленности этих обрядов, каждая из этих церемоний имеет ещё и общественную, приватную, цель [1, *16*]. Например, свадебные церемонии включают в себя обряды плодородия и предохранительные обряды, церемонии по поводу рождения ребёнка – предохранительные обряды и обряды-предсказания и т.д.

В данной связи следует отметить существенный момент: большинство обрядов перехода имеет общую цель – обеспечение субъекта долей, представления о которой относятся к числу самых древних. Для архаического человека доля имела вполне определенный смысл: это была та часть общего материального блага, которая ему выделялась, прежде всего пища и место. Во внутренней форме восточнославянского слова *доля* присутствует элемент как деления, так и выделенности. По данным этимологических словарей, белорусское *доля* родственна глаголу делить и пережило изменения значения от «части» к «судьбе» [10, *142*], что, безусловно, связано с особенностями мифологического мышления предков. Следует отметить, что с развитием религиозных представлений доля, с одной стороны, воспринимается как то, что дается человеку высшими инстанциями, с другой – переходит в разряд понятий, в-третьих – персонифицируется, приобретает качественные характеристики, становится полноправным действующим лицом в фольклорных произведениях.

Если развернуть белорусскую песенную лирику в соответствии с жизненным циклом человека и обрядами перехода, то выясняется, что песни обращенные к доле, представляют ее в двух разных версиях – доли и недоли. Соответственно и персонажи лирических произведений делятся на две группы – вообще бездольных, т. е. лишенных права на долю, и тех, кто имеет долю (в данном случае не имеет значения, какая это доля, – хорошая или плохая).

Рассматривая весь континуум народной лирики по оси жизненного цикла человека и мотива доли, нетрудно заметить последовательное чередование двух ее фаз — хорошей доли и недоли. Конкретно это выглядит следующим образом:

1) родильные обряды и песни (белорусы называют их также «хрэсьбiннымi») – магическое обеспечение новорожденного хорошей долей, представление о характере которой дают конкретизирующие эпитеты;

2) любовные песни, связанные с предбрачным периодом жизни, – сплошные нарекания лирических героев на бездолье, исчезнувшую или отсутствующую долю;

3) свадебные песни – снова, как и в родильных песнях, замечается стремление вербализировать желание наделить молодых долей;

4) семейно-бытовые песни, связанные с послебрачным периодом, – и опять, как в любовных песнях, обычны сетования на долю, причем часто причина плохой доли видится в несчастливом браке, а несчастливый брак, в свою очередь, как раз и является выражением бездолья.

В песнях, связанных с родильной обрядностью, народные представления о доле и судьбе отразились достаточно полно. Считалось, что каждый человек имеет свою, только ему предназначенную долю, определяющую его судьбу, благополучие или неблагополучие. Наделение долей при рождении чаще всего связывалось с матерью, которая мистическим образом, фактом своего материнства добывает ее:

*Рэчанька, рэчанька так шырока разлілася,*
*Ладная дачушка ў мамкі ўдалася!*
*Матуля нарадзіла, долю добрую здабыла,*
*Каб здаровая расла, каб шчасця знайшла.*

Вместе с тем по неясным причинам ребенок мог и не получить предназначенную ему долю или получить плохую. Отсутствие доли воспринимается как трагедия, ибо получается, что человека ни за что, еще при рождении, лишили неотъемлего права на долю. Отсюда ряд обрядовых моментов магического обеспечения доли, например, связанных с делением «бабиной каши». Полагаем, что данное блюдо изначально предназначалось богам. Его готовила бабка, которая при родах перерезала пуповину. Обряд приготовления «бабиной каши» имел целью заручиться поддержкой богов «на счастливую судьбу ребенка», верили, что бог оделит его доброй, счастливой судьбой. Кашу приносили трижды. Причем две первые были подставные и только третьей на стол подавалась та, которую варила бабка-повитуха. Действия с подставными кашами были направлены на то, чтобы обмануть нечистую силу, не позволить ей нанести вред или негативно повлиять на судьбу новорожденного. Горшочек с кашей бабка ставила на столе, говоря при этом: *«Дай жа Божа, гэтаму дзіцяці птушку-долю паймаці, сто гадоў жыці, гора не ведаці»* [8, *172-173*]. Затем кум выкупал кашу и разбивал горшок (если родился мальчик, то в центре стола, а если девочка – об угол стола), а бабка-повитуха брала один черепок и бросала его в порог со словами: *«Як хутка і бесперашкодна ляцяць гэтыя чарапочкі ад кута да парога, няхай будзе ў майго ўнука такой ў жыцці дарога»* [8, *173-174*].

Песни свидетельствуют, что право обратиться к богу с просьбой дать ребенку хорошую долю принадлежало как родителям, так и главным обрядовым персонажам, в частности бабке и кумовьям, причем совершенно четко определялись характеристики доли:

*А ў нядзелечку спараненечку*
*На небе развіднела,*
*Кумочак ходзіць, дзіцяцю носіць,*

Аднак вербальныя формы ў сучасным гарадскім фальклоры займаюць важнейшае месца і пераважаюць над невербальнымі.

Маўленчы ўжытак сучаснага горада ўключае шэраг малых форм фальклору – парэмій, фразеалагічных клішэ, прычым у большасці выпадкаў іх набор папаўняецца з арсенала «высокай» (класічнай) літаратуры ці – часцей – з тэкстаў масавай культуры. Так, пасля з’яўлення гукавога кіно ў парэміі ўваходзяць кінацытаты, а зусім нядаўна – і рэкламацытаты. Другі тып маўленчых клішэ перадаецца выключна ў пісьмовай форме і складае частку альбомаў і песеннікаў (дзявочых, салдацкіх, турэмных). Такія творы фалькларысты адносяць да *парафальклорных* [4, *13*]. Гэта эпісталярныя формулы, віншаванні, пажаданні, «святыя лісты», «лісты шчасця», графіці і іншыя «тэксты», якія бытуюць у рукапіснай традыцыі, але фальклорныя па многіх сваіх прыкметах: яны ананімныя, варыятыўныя, клішыраваныя.

Важнай соцыякультурнай рысай сучаснага гарадскога фальклору з’яўляецца мова трансляцыі твораў. На тэрыторыі Беларусі гэта практычна руская мова. Дадзеная акалічнасць добра ілюструе агульнамоўную сітуацыю ў краіне, у адпаведнасці з якой сфера выкарыстання беларускай мовы значна саступае рускай у свабодным выбары грамадзян. У многім гэта абумоўлена традыцыяй выкарыстання рускай мовы ва ўмовах горада. Агульнавядома, што гарадская культура ў Беларусі яшчэ з савецкіх часоў карысталася рускай мовай як афіцыйна найбольш прыдатнай для горада. У наш час выкарыстанне рускай мовы ў прававой, адукацыйнай, палітычнай, грамадскай і іншых сферах жыцця ўсеагульнае. Адпаведна і фальклорныя творы амаль суцэльна рускамоўныя (на сённяшні дзень у архіве вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору БДУ, матэрыялы якога мы выкарыстоўваем у якасці факталагічнай базы, не выяўлена ніводнай беларускамоўнай фальклорнай адзінкі гарадскога фальклору, калі не лічыць выпадкаў запісаў твораў на так званай «трасянцы»).

У жанравым «асартыменце» сучаснага гарадскога фальклору на першы план выходзяць творы ці адносна нядаўняга паходжання (напрыклад, гарадскія песні і анекдоты), ці істотна мадыфікаваныя традыцыйныя – сучасныя мемараты і легенды (у тым ліку неаміфалагічныя), а таксама такія слаба структураваныя тэксты, як чуткі і плёткі. Дэманалагічная традыцыя, адлюстраваная ў сучасных забабонных легендах, падобная на класічную і характарызуецца вузка-лакальнай прымеркаванасцю (звязана з «нядобрымі» месцамі: палянамі, скаламі, пячорамі ў павер’ях альпіністаў, паддашкамі і сутарэннямі гарадскіх будынкаў у страшылках дзяцей і падлеткаў).

Асаблівасці наглядна праяўляюцца і ў анекдоце. Нават на памяці аднаго пакалення паспела змяніцца некалькі тэматычных цыклаў («армянскае радыё», анекдоты «пра звар’яцелых», «пра дыстрофікаў», «пра чукчаў», «пра Шцірліца», Зайца і Ваўка, Віні-Пуха і Пятачка і інш.); адны хутка знікаюць па прычынах культурных ці палітычных, другія здольныя праіснаваць адносна доўга.

У гарадскім песенным фальклоры выразна назіраюцца спецыфічныя формы пераемнасці. Тут найперш звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне ў новым творы якога-небудзь устойлівага, шырока вядомага рытмічна-музычнага

малюнка. Так, у архіве ВНЛ БФ БДУ захоўваецца мноства пераробак песень савецкага часу («Па ваеннай дарозе…», Гімн Савецкага Саюза, «Ляцяць пералётныя птушкі…»), старых балад і рамансаў (тыпу «Маруся атравілась»).

Такім чынам, сутнаснымі рысамі соцыядынамікі сучаснага гарадскога фальклору з'яўляюцца:

1) актыўнае бытаванне у сродках масавай інфармацыі і камунікацыі, перш за ўсё ў Інтэрнэце;

2) наяўнасць «непранікальных», «адасобленых» традыцый (падзеленасць у адпаведнасці з узроставым, прафесійным, сацыяльным і іншым расслаеннем грамадства);

3) існаванне ў дзвюх формах маўленчых клішэ – вуснай і пісьмовай – пераважна на рускай мове.

*Даследаванне ажыццяўляецца пры фінансавай падтрымцы Беларускага рэспубліканскага фонда фундаментальных даследаванняў (код праекта Г08М-070).*

## ЛІТАРАТУРА

1. *Андреев, Н. П.* Проблема истории фольклора / Н. П. Андреев // Советская этнография. – М., 1934. № 3.

2. *Кабашнікаў, К. П.* Беларуска-рускія фальклорныя сувязі / К. П. Кабашнікаў. – Мінск, 1988.

3. *Неклюдов, С. Ю.* Фольклор современного города / С. Ю. Неклюдов // Современный городской фольклор: сб. ст. / редкол.: А. Ф. Белоусов [и др.]. – М., 2003.

4. *Соколов, Б. М.* Поэзия деревни. Руководство для собирания произведений устной словесности / Б. М. Соколов. – М., 1926.

5. *Флиер, А. Я.* Культурология для культурологов: учеб. пос. / А. Я. Флиер. – М., 2000.

***Рыма Кавалёва***

# ПАМІЖ ФАЛЬКЛОРАМ І ЛІТАРАТУРАЙ: ДЫСКУРС САМАДЗЕЙНАЙ ТВОРЧАСЦІ САВЕЦКАГА ЧАСУ

Тое, што паняційна-тэрміналагічны апарат фальклярыстыкі мае патрэбу ў далейшай распрацоўцы і ўдасканальванні, здаецца, прызнаецца ўсімі навукоўцамі. Паняцце «самадзейная творчасць» адносіцца да ліку самых няпэўных. Дастаткова сказаць, што ў кнізе «Усходнеславянскі фальклор: слоўнік навуковай і народнай тэрміналогіі» (Мінск, 1993) тэрмін «творчасць народная, самадзейная» мае спасылку на артыкул «Самадзейнасць мастацкая» [3, *351*], дзе апошняя вызначаецца як «масавая арганізаваная непрафесійная дзейнасць, якая праяўляецца ў розных формах, відах, жанрах мастацкай творчасці». Сцвярджаецца таксама, што яна «звязана з традыцыямі фальклору і прафесійнага мастацтва» [3, *304*], але нічога не гаворыцца пра асобныя віды творчасці, у прыватнасці пра песенна-музычны фальклор і яго спецыфіку ў

розныя гістарычныя часы. Мы спынімся толькі на характарыстыцы дыскурса самадзейнай слоўна-песеннай творчасці савецкага часу, але паспрабуем паказаць тыпалагічныя рысы з’явы «самадзейнае» і яе прысутнасць у сучаснай культуры.

На наш погляд, пазначаны від самадзейнай творчасці знаходзіцца паміж фальклорам і літаратурай, а яе дыскурс, г. зн. тып выказвання, не з’яўляецца ні фальклорным, ні літаратурным. Гэта зусім іншае пісьмо, прыкметай якога выступаюць не эстэтычныя характарыстыкі, а сацыялагічныя асаблівасці аўтараў. Феномен самадзейнага аўтара палягае ў яго ідэалагічнай ангажыраванасці, даволі часта нават неўсвядомленай, а феномен самадзейнага дыскурса – у прынцыповай схематычнай застыласці: гэта творчасць, якая не ведае ўнутранай іерархіі, эвалюцыі, развіцця. Калі вусная народная творчасць паўстае як складаны нелінейны шматвектарны працэс, непрадказальны, непадуладны загадам, індывідуальным жаданням і памкненням, то самадзейная – як статычнае ўтварэнне, што кожны раз узнаўляе свае ўласныя ўзоры. Эклектычнае спалучэнне літаратурнага, фальклорнага і псеўдафальклорнага – характэрная рыса самадзейнага дыскурса і яго «вырабаў», эстэтычна бездапаможных і нелагічных. Напрыклад:

*Мы адновім гаспадарку,*
*Пойдзем ў новы, светлы шлях,*
*Заспяваюць зноў жняяркі*
*І машыны на палях* [2, *162*].

Калі фальклорны дыскурс – гэта сістэмна арганізаваная мастацкая мова, асаблівасцю якой з’яўляецца традыцыйнасць, то самадзейны – набор штампаў, прынятых за мастацкую норму. Арганічная сукупнасць традыцыйнага – тая прыкмета фальклорнага выказвання, якая адрознівае яго ад фальклорных стылізацый і ад самадзейных твораў. Літаратурны дыскурс уяўляе спалучэнне традыцыйнага і індывідуальнага. Час ад часу пісьменніцкая боязь эпігонства дае выбухі ў выглядзе такіх з’яў, як авангардызм і мадэрнізм. Паказана, што пісьменнікі постмадэрнісцкай плыні таксама дэкларуюць зварот да «новага пісьма», адмаўляючыся ад «старога», г. зн. рэалістычнага. Ніякіх выбухаў, мастацкіх знаходак, наватарскага выкарыстання прыёмаў, выразнай вобразнасці самадзейная творчасць не ведае.

Самадзейную творчасць нельга блытаць з наіўнай славеснасцю, часткай наіўнага мастацтва, якое заўсёды існавала ў культуры, але толькі цяпер атрымала эстэтычнае прызнанне і філасофскае асэнсаванне. Яе трэба адрозніваць ад канцэптуальнага мастацтва, якое выкарыстоўвае прыёмы і вобразы наіўнага і тым самым актуалізуе, па словах А. Апрэсяна, «наіўную свядомасць як грамадскую каштоўнасць» [10, *116*]. У сваёй пераважнай большасці самадзейныя творы прымітыўныя, але іх нельга адносіць да прымітывізму з яго свядомай арыентацыяй на імітацыю наіўнага для дасягнення пэўнай мастацкай мэты.

Слоўная самадзейная творчасць савецкага часу, безумоўна, патрабуе вывучэння як спецыфічная соцыякультурная з’ява, але яна не падлягае эстэтычнаму аналізу. Творы, якія складаліся мясцовымі аўтарамі і культасвет-работнікамі, на жаль, вельмі далёкія ад патрабаванняў, якія прад’яўляюцца мастацтву. Горш за ўсё тое, што дэфармацыя эстэтычных крытэрыяў прывяла да прызнання тоеснасці

фальклору і самадзейнай творчасці. Штучныя, эстэтычна бедныя падробкі «пад фальклор» уключаліся ў зборнікі сучаснага фальклору, атрымоўвалі ад фалькларыстаў высокую ацэнку.

Трэба сказаць, што самадзейныя паэты-песеннікі зусім не прэтэндавалі на статус фальклорных аўтараў, хутчэй наадварот: ім хацелася адчуваць сябе сапраўднымі паэтамі. Фальклорнымі іх зрабілі вучоныя. Менавіта на «прадукцыю» самадзейнай творчасці былі вымушаны спасылацца даследчыкі, каб засведчыць росквіт народнай творчасці, для якой быццам бы «надышла самая шчаслівая, яркая эпоха, асвечаная геніем Сталіна» [8, *555*]. Па сутнасці, большая частка так званага «сучаснага фальклору» была ў чыстым выглядзе псеўдафльклорам. Няўмелае выкарыстанне фальклорнай формы станавілася падставай для залічэння самадзейных песень і прыпевак да фальклору. Насамрэч тэксты, падобныя да наступных, не мелі ніякага дачынення да сапраўднай народнай творчасці:

*Сабірайцеся, падружкі,*
*Песню звонкую спяём.*
*З новым ленінскім законам*
*К камунізму мы ідзём.*

*Больш не вернецца ніколі*
*Жыццё цяжкае да нас, –*
*Мы заможныя ў калгасе,*
*Бальшавіцкім стаў калгас.*

*Кулакі вы, кулакі,*
*Папоўскія галовачкі.*
*Не ўдасца вам сарваць*
*Хлебанарыхтовачкі* [1, *686–688*].

Гэтыя прыпеўкі – звычайныя агіткі, як і лозунгі «Ленінізм – шлях у камунізм», «Жыць – партыі служыць», «Камуністы адчынілі затворы ў касмічныя прасторы», што змяшчаліся ў зборніках і хрэстаматыях пад выглядам савецкіх прыказак [1, *697–699*]. Тым не менш для паўнаты характарыстыкі культурнай сітуацыі ў СССР падобныя з’явы трэба ўлічваць. Неабходна мець на ўвазе, што адначасова існавала фальклорная плынь, апазіцыйная і афіцыйнай культуры, і ангажаванай уладамі самадзейнай песеннай творчасці, але ў друкаваныя крыніцы яе творы не траплялі, застаючыся ва ўласных архівах збіральнікаў.

З папраўкай на час трэба разглядаць даследаванні, дзе самадзейныя творы падаваліся на ўзроўні фальклору савецкай эпохі. Яны не падлягаюць крытыцы, бо іх навуковыя тэзісы – часцей за ўсё прыняты рытуальны жэст. Напрыклад: «У яркіх паэтычных вобразах сучасных народных твораў увасоблены ідэі і мары савецкага чалавека. Паэтыка гэтых твораў, асабліва песень і частушак, вельмі багатая на разнастайныя мастацкія сродкі. З дапамогай іх ствараюцца цудоўныя песні, ясныя па думцы і выразныя па форме, напрыклад:

*Цаліну мы скрозь расквецім*
*Ва ўрадлівыя палі,*
*Каб і мы, і нашы дзеці*

*У шчасці, радасці жылі* [9, *57*].

*Эй, цвіці, красуй навокал,*
*Беларускі родны край!*
*Хай звініць, расце высока*
*Наш савецкі ўраджай* [9, *69*].

Назіраецца заканамерная карэляцыя паміж «навуковай» і «мастацкай» мовай: абедзве карысталіся ідэалагічнымі клішэ, за якімі была пустата. Адсутнасць адрознення паміж дыскурсамі мела агульны корань – ідэалагічны ціск і самацэнзуру. Маска ідэйнай вытрыманасці была на той час самай масавай, хоць і вымушанай.

Канцэпцыю росквіту народнай творчасці, пад'ёму яе «на вялікую ідэалагічную і мастацкую вышыню» [8, *554*] зацвердзіў сваім аўтарытэтам акадэмік Ю. М. Сакалоў, аўтар падручніка «Рускі фальклор» (М., 1941), дзе прастадушна акрэслены прычыны пад'ёму: «Народная паэзія цяпер акружана цёплым клопатам партыі і Урада і ўсёй савецкай грамадскасці. <…> А гэта надзвычай ажывіла і сам фальклор, самым добратворным чынам паўплывала на творчасць рабочых і калгаснікаў» [8, *554*].

Пакуль сапраўдная народная творчасць працягвала незалежнае ад улады плаванне, самадзейная знаходзілася ў палоне савецкай прапагандысцкай машыны. Ключавым паняццем песень стала «шчаслівае жыццё». За яго на ўсе лады дзякавалі Сталіну, Ураду, партыі. У літаратурных творах ключавыя паняцці прыхаваны, «валодаюць гранічна нізкай частотнасцю» [11, *50*], а ў самадзейных яны надзвычай частыя і з'яўляюцца знакам нарматыўнай ментальнасці аўтара, яго «ідэйнай спеласці». Змястоўным стрыжнем твораў, яго арганізацыйным пачаткам становіцца запазычаная паэтамі-аматарамі з літаратуры і савецкай масавай песні апазіцыя мінулае жыццё (цяжкае, дрэннае, жудаснае, пад прыгнётам) – цяперашняе (добрае, шчаслівае, свабоднае). Супадаюць і іх ідэйна-мастацкія клішэ: светлы дзень, светлы шлях, заможныя калгасы, новыя песні, багаты ўраджай, дружная праца, савецкі народ, пераможны шлях і, вядома, дзякуй партыі, дружная сям'я народаў, шчаслівыя калгаснікі. Яны надаюць стылю дзяжурную экспрэсіўнасць, яскрава сведчаць аб аберацыі аўтарскага зроку, дэфармацыі мастацкай мовы, панаванні скажонай карціны свету. Калі разумець пад цэласнасцю мастацкага выказвання «сам эстэтычны аб'ект» [11, *92*], то эстэтычных аб'ектаў у слоўнай самадзейнай творчасці якраз не назіраецца, а ўзровень культурных ведаў, або, па тэрміналогіі М. Фуко, «эпістэма», нагадвае арганчык са знакамітай «Гісторыі аднаго горада» М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Ідэалагічныя нормы абумоўлівалі спрашчэнне мастацкага мыслення паэтаў-аматараў, шаблоннасць іх мовы. Нездарма ў сучасным літаратуразнаўстве левыя дэканструктывісты падыходзяць да разгляду дыскурсіўных практык як да канструктаў, што забяспечваюць уладу пануючай ідэалогіі праз ідэалагічныя «карэкціроўкі» і «рэдактуры» агульнакультурных ведаў той ці іншай канкрэтнай гістарычнай эпохі» [7, *42*]. Культурнае напаўненне самадзейнага дыскурса імкнецца да нуля.

Зразумець феномен самадзейнай творчасці можна і праз найноўшыя паняцці, напрыклад, праз паняцце «метарасказ», уведзенае французскім даследчыкам

Ж. Ф. Ліатарам [1979] для пазначэння «вытлумачальных сістэм», якія служаць сродкам самаапраўдання сацыяльна-палітычных дактрын [7, *217*]. Міфалагічная ідэалізацыя савецкага ладу жыцця – стрыжань самадзейных твораў. Яскравы прыклад – песня «Юбілейная застольная», складзеная, згодна з заўвагамі збіральніка, удзельнікамі Азершчынскага хору пад кіраўніцтвам Т. К. Лапацінай:

*Сабраліся мы сёння*
*На нашае свята*
*Сям'ёю вялікай,*
*Калгаснай багатай.*
*За стол юбілейны*
*Мы ўсіх запрашаем,*
*За партыю першы*
*Наш тост падымаем.*
*Мы з песняй у светлае*
*Заўтра шагаем,*
*Мы партыю родную*
*У ёй услаўляем…* [6, *134*].

Дзяржаўная падтрымка сапраўды таленавітых самадзейных паэтаў і кампазітараў, стыль якіх перaймалі мясцовыя аматары, спалучалася са штучнай стымуляцыяй «нізавой» творчасці. Партыйныя інспектары ўважліва сачылі за рэпертуарным забеспячэннем мастацкай самадзейнасці, пашырэнню якой савецкія прапагандысцкія структуры надавалі вялікае значэнне. Творам мясцовых паэтаў-песеннікаў адводзілася роля народнага рупара. Песні і прыпеўкі ствараліся не спантанна, а на заказ, не для ўласнага спажывання, а для выступленняў мастацкай самадзейнасці. Яны не пераходзілі межы калектыву, выконваліся толькі ў прызначаны час. Дакладна акрэсліў «новыя формы бытавання сучаснага беларускага фальклору» І. В. Гутараў: «пры правядзенні масавых народных урачыстасцей і гульняў, на дэманстрацыях, мітынгах, маёўках, святах песні, пры правядзенні розных юбілеяў… на злётах, гадавых справаздачных сходах у калгасах, пры провадах у Савецкую Армію» [4, *25*]. Праўда, прыведзеныя ім прыклады не маюць дачынення да фальклору, як, скажам, быццам бы савецкая жніўная песня, у якой «гучаць матывы шчасця, радасці, волі:

*Ой, калышыцца жыта ў полі,*
*Залатыя звіняць каласы,*
*Льецца жніўная песня ў прыволлі,*
*Песня шчасця і светлай красы* [4, *22*].

Ідылічныя карціны выдаваліся за сапраўдную пазатэкставую рэальнасць, хаця адзінай рэальнасцю ў самадзейных творах была ідэалогія савецкага часу. Супярэчнасць паміж выдумленым светам агульнага шчасця і сапраўдным станам рэчаў самадзейная творчасць не вербалізавала, а тэорыя вуаліравала яе праз эксплуатацыю катэгорыі «эстэтычны ідэал». Ён разумеўся як камуністычны ідэал, свайго роду праекцыя «светлага будучага» на цяперашняе. Творы паэтаў-аматараў былі імітацыяй нейкага псеўданароднага стылю шэрага савецкіх масавых песень, аўтары якіх, што зусім натуральна, не валодалі сакрэтам вытанчанай прастаты фальклорных песень. Таму і фальклaрызм самадзейных твораў – усяго толькі

другасная падборка, а літаратурнасць вельмі нагадвае безгустоўную літаратуршчыну. Спрактыкаваны слых адразу вылучае чужародныя ўстаўкі. Прыклад такой самадзейнай апрацоўкі – песня «Ой, пайду я па-над лугам», запісаная А. Чопчыцам у 1947 г. у в. Ганцавічы ад удзельнікаў мясцовага народнага хору і пазначаная як «беларуская народная» [6, *25*]. Цалкам пазбаўлены натуральнасці фальклярызм песні «Ды чаго ж, Ванька, журышся?», запісанай А. Чопчыцам у 1940 г. у Лунінецкім народным хоры і рэпрэзентаванай як народная. Тут і неўласцівыя фальклорнаму дыскурсу прымітыўныя дзеяслоўныя рыфмы *журышся – пячалішся*, *журыціся – пячаліцца*, *жаніціся – журыціся*, *плакацца – сватацца*, *жаніціся – памыліціся*, і карагодны прыпеў, і не арганічнае для народных лірычных песень ужыванне калектыўнага праклёну баязліваму хлопцу, і разухабістае імя, не характэрнае для беларускага фальклору:

*Да чаго ж, Ванька, журышся,*
*Да чаго ж ты пячалішся?*
*Лю-лі, лю-лі, лю-лі,*
*Да чаго ж ты пячалішся?. .*

*Ой, баюся я жаніціся,*
*Ой, каб не памыліціся…*
*Лю-лі, лю-лі, лю-лі,*
*Век табе не жаніціся!* [6, *20*].

Такім чынам, прыклады сведчаць, што суб’екты фальклорнага, літаратурнага і самадзейнага дыскурсаў валодаюць розным тыпам мастацкага мыслення, апераруюць розным наборам мастацкіх кампанентаў, унутрытэкставых дыскурсаў і рознымі кампазіцыйнымі прыёмамі іх спалучэння. Відавочная камунікатыўная адметнасць дыскурсаў: фальклорны апелюе да традыцыйнай мастацкай свядомасці, агульнанацыянальнага эстэтычнага вопыту; літаратурны імкнецца да яго бязмежнага пашырэння за кошт новых форм асэнсавання рэчаіснасці; самадзейны – водгук на сацыяльны заказ, спроба самавыражэння на «трэцяй» мове – быццам бы літаратурнай, быццам бы фальклорнай. Акрамя фальклярыстаў, ніхто – ні аўтары, ні слухачы – не лічыў мясцовыя песні фальклорнымі, народнымі.

Падагульняючы, можна было б сказаць, што разгледжаныя творы самадзейных паэтаў-песеннікаў – прадукт гістарычнай эпохі, што іх сімуляцыйная прастора складаецца з ідэалагічных міфалагем шчаслівага жыцця, што іх культурны код адсылае да практыкі сакралізацыі асобы правадыра і ўладнай партыі, і на гэтым паставіць кропку, калі б не жывучасць з’явы. Цяпер яна паўстае як агрэсіўны дылетантызм у сферы поп-культуры з сакралізацыяй права самадзейных аўтараў, членаў музычных груп, на самавыяўленне. Іх творчасць – дыялог не з культурай, а з антыідэалогіяй. У выніку мы бачым, па словах І. Бястужава-Лады, «трыумфальнае шэсце антыкультуры, якая паспяхова заганяе ў «цень» уласна культуру» [10, *18*], бо карыстаецца паслугамі магутных СМІ, атрымоўвае своеасаблівае тэарэтычнае абгрунтаванне і права не браць у разлік эстэтычнае. Псіхалагічны феномен – упэўненасць аўтараў у істотнасці першых індывідуальных вопытаў для маладзёжнай субкультуры, ідэнтыфікацыя сябе з «Beatles», якія самі сабе былі аўтарамі. Дык што – самадзейнае forever? Яно бессмяротнае? Вечнае ярмо

культуры? Здаецца, трэба прызнаць той факт, што чамусьці ўсякі раз, калі з'яўляецца запыт, культура адказвае на яго ў тым ліку і вялікай колькасцю штампаванай прадукцыі. Так з'явілася савецкая масавая песня і яе спадарожнік – самадзейная. У 60-я гг. ідэйную апазіцыю ім стаў складаць бардаўскі рух з рамантызацыяй вобразаў маральных падзвіжнікаў савецкага часу.

Гісторыя паўтаралася з той толькі папраўкай, што поп-культура адгукнулася на запыт эстэтычна не развітай часткі соцыуму. У выніку мы маем панаванне забаўляльна-трывіяльнай літаратуры, газетна-часопіснай прадукцыі адпаведнага фармату, коміксы і самаробныя песні дылетантаў без усякай аглядкі аўтараў на эстэтычныя нормы, правілы, узоры, творчасць па законах той суб'ектыўнай свабоды, калі нормай становіцца ўласны прымітыўны інварыянт. Наіўнае мастацтва прастадушнае, як дзіця, самадзейнае – ідэалагічны монстр, і не мае значэння, чыя гэта ідэалогія – дзяржаўна-партыйная ці ваяўнічага масавага мастацтва з фарміраваннем самадзейных сацыялектаў.

Прызнаючы і паважаючы права кожнай асобы ці групы на самавыяўленне, мы павінны катэгарычна не прымаць штучнага навязвання маргінальнай з'явы, да якой адносіцца самадзейная творчасць, у якасці эстэтычнай нормы. Калі дамінуючай тэндэнцыяй становіцца прапаганда нізавой культуры, яе носьбітаў і іх недарэчных вершавых самаробкаў, гэта значыць, што наспела задача абароны Культуры, распрацоўкі канцэпцыі яе абароны.

Толькі хто яе будзе распрацоўваць?

І ці не спазнімся?

## ЛІТАРАТУРА

1. Беларускі фальклор: хрэстаматыя / склад. К. П. Кабашнікаў [і інш.]. – Мінск, 1995.

2. Беларускія частушкі. – Мінск, 1960.

3. Восточнославянский фольклор: словарь научной и народной терминологии /сост. Л. Г. Бараг [и др.]. – Минск, 1993.

4. *Гутараў, І. В.* Новыя формы бытавання сучаснага беларускага фальклору / І. В. Гутараў // Праблемы сучаснага беларускага фальклору / рэд. П. Ф. Глебка [і інш. ]. – Мінск, 1969.

5. *Павецьева, Л. І.* Некаторыя асаблівасці паэтычнай стылістыкі сучаснай беларускай народнай паэзіі / Л. І. Павецьева // Праблемы сучаснага беларускага фальклору / рэд. П. Ф. Глебка [і інш. ]. – Мінск, 1969.

6. Роднае Палессе (зборнік песень) / склаў А. Чопчыц. – Мінск, 1961.

7. Современное зарубежное литературоведение: энцикл. справочник. – М., 1999.

8. *Соколов, Ю. М.* Русский фольклор / Ю. М. Соколов. – М., 1941.

9. Сучасны беларускі фальклор. – Мінск, 1963.

10. Философия наивности / сост. А. С. Мигунов. – М., 2001.

11. *Фоменко, И. В.* Введение в практическую поэтику / И. В. Фомин. – Тверь, 2003.

# Раздзел 7

# ГЕНДАРНАЯ ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА

*Юлія Атрошчанка*

## ГЕНДАРНАЯ ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА: СТАН І ПРАБЛЕМЫ СУЧАСНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Эвалюцыя гендарных даследаванняў ішла ад жаночых даследаванняў да ўласна гендэрных. Яшчэ ў 60-х гадах XX ст. паняцце «гендар» у значэнні «суадноснасць полаў» было амаль невядомым. На Захадзе гендарныя даследаванні толькі ў 80-ыя гады выдзеліліся з фемінісцкіх, якія мелі больш доўгую і больш палітызаваную гісторыю існавання і адрозніваліся выбарам аб'екта і прадмета. У адрозненні ад іх у гендарных даследаваннях мае месца аналіз не толькі жанчын, але і мужчын.

Гендарныя даследаванні перайшлі мяжу філасофска-палітычных і набылі статус міждысцыплінарных. Праблемы полу як сацыяльнага феномена пачалі разглядацца на ўсіх узроўнях грамадскіх ведаў.

Фемінісцкая лінгвістыка альбо фемінісцкая крытыка мовы ўзнікла ў заходнім мовазнаўстве ў 70-ыя гады XX стагоддзя, што было абумоўлена развіццём новых навуковых кірункаў у самой лінгвістыцы – псіхалінгвістыкі, квантытатыўнай соцыялінгвістыкі, прагматыкі, тэорыі камунікацыі, а таксама з'яўленнем уласна метадалагічнай і навуковай базы для развіцця гендарных даследаванняў у сацыяльных навуках. У працах лінгвістаў панавалі гіпотэзы «дэфіцытнасці» жаночай мовы і «дыферэнцыяцыі» мовы на жаночую тактыку «камунікатыўнага супрацоўніцтва» і мужчынскую тактыку «камунікатыўнага саперніцтва».

Шырокае распаўсюджанне ў Расіі на мяжы XX-XXI стст. гендарных ідэй паўплывала і на літаратуразнаўства. Аб'ектам гендаралагічнага кірунку, што фарміруецца ў літаратуразнаўстве, з'яўляюцца зафіксаваныя ў літаратуры сацыяльна-псіхалагічныя стэрэатыпы фемінінасці і маскуліннасці, увасабляюцца ў адметнай карціне свету, асаблівым пункце погляду аўтара і героя, сістэме персанажаў, у асаблівым характары аўтарскай свядомасці, аб'ектна-суб'ектнай сістэме, рэалізуюцца ў асаблівым тыпе жаночай-мужчынскай літаратуры (маўленчых жанрах), стылі жаночай і мужчынскай паэзіі і прозы, а таксама ў жанравай сістэме, якая таксама мае гендарнае вымярэнне. За апошні час у межах гендэралогіі сфарміравалася вобласць літаратуразнаўства, якую ўмоўна называюць «гендарнай паэтыкай».

Такім чынам, гендарныя даследаванні даюць магчымасць адыйсці ад традыцыйных літаратуразнаўчых і сацыяльна-палітычных трактовак, аналізаваць творы ў ракурсе ўяўленняў пра паняцці «мужчынскасць» і «жаноцкасць», якія з'яўляюцца канструктамі культуры і пастаянна эвалюцыяніруюць у гістарычнай перспектыве.

У той час як лінгвістычныя і літаратуразнаўчыя гендарныя даследаванні прэтэндуюць на аўтаномнае існаванне ў выглядзе кірунку філалагічнай навукі, фалькларыстычныя працы ў дадзеным рэчышчы на сённяшні дзень яшчэ з'яўляюцца адзінкавымі фактамі. Таджыкская даследчыца Л. К. Ібрагімава ў сваёй працы «Адлюстраванне гендарных адносін у таджыкскіх народных казках» выказвае даволі спрэчную думку, што ў гуманітарнай навуковай прасторы прысутнічае дастаткова вялікая колькасць фалькларыстычных гендарных даследаванняў [4, *4*]. На жаль, высвятлілася, што падобных прац не так і шмат. Трэба адзначыць, што да гендарнай тэматыкі фалькларысты звярнуліся пазней за літаратуразнаўцаў і лінгвістаў і апіраліся на даследаванні сваіх калег. У сувязі з цесным супрацоўніцтвам фалькларыстыкі з іншымі галінамі навук узніклі працы на сумежжы фалькларыстыкі і педагогікі (В. Ю. Мелехава «Фальклорны вобраз як сродак фармавання культуры гендарных адносін у падлеткаў (Да пастаноўкі пытання)» [12]), фалькларыстыкі і мовазнаўства (С. А. Канавалава «Гендарная спецыфіка перадачы прэдыкатыўных адносін у тэксце рускай народнай чарадзейнай казкі» [8]), фалькларыстыкі і сацыялогіі (В. А. Сукаватая «Сатыра як рэпрэсія: гендарныя палітыкі ў бытавым фальклоры (На матэрыяле ўсходнеславянскіх казак)» [18]), фалькларыстыкі і літаратуразнаўства (А. А. Здравамыслава «Гендарныя стэрэатыпы ў дашкольнай дзіцячай літаратуры: рускія казкі» [3]) і інш., дзе фальклорныя тэксты прадстаўлены як ілюстрацыйны матэрыял. Таму ўласна фалькларыстычных гендарных даследаванняў намнога менш, чым падаецца на першы погляд.

Да таго ж патрэбна адрозніваць гендарныя даследаванні ў фалькларыстыцы ад проста фалькларыстычнай працы: пры разглядзе народнай творчасці ў гендарным аспекце ставіцца праблема фемініннасці або маскуліннасці аб'екта аналізу, у той час як у спецыялізаваных працах можа разглядацца проста пэўны вобраз. Так, праца Д. В. Сакаевай «Вобраз жанчыны-ваўчыхі ў асецінскай няказкавай прозе ў кантэксце фальклору індаеўрапейскіх народаў» уяўляе сабою цікавае і арыгінальнае даследаванне ў рэчышчы класічнай фалькларыстыкі, аднак не з'яўляецца гендарным, так як не мае на мэце пастаноўкі праблемы ўзаемаадносін полаў, суадносін жаноцкага і мужчынскага ўяўленняў, зафіксаваных у тэксце, мастацкага вырашэння жаночага пытання [17]. Артыкул К. І. Мадлеўскай «Гераіня-ваяўніца ў рускіх былінах» з'яўляецца гендарным даследаваннем, таму што аўтар разглядае вобраз быліннай ваяўніцы Настассі ў апазіцыі з вобразам мужчыны-волата. Даследчыца закранае пытанне разгляду жаночых персанажаў у кантэксце лёсу мужчынскіх і прыходзіць да высновы: «У быліне пра Настассю і Дуная прадстаўлена супярэчнасць, прычынай якой выступіла спалучэнне «няправільных» шлюбных партнёраў. Акрамя таго, у перспектыве лёсу гераіні

матыў супрацьстаяння суадносіцца з пэўным этапам яе жыцця – гэтая барацьба ўяўляе сабой пошукі шлюбнага партнёра» [11, *58*].

У асноўным гендаролагі зацікавіліся казкавай і смехавай прозай, што звязана з адноснай празрыстасцю паэтыкі твораў, падобнасцю сюжэтаў да рэальнага жыцця і тыповасці галоўных персанажаў. Так, А. У. Ткачык у манаграфіі «Гендарныя стэрэатыпы ў англамоўным фальклоры» сцвярджае, што народная творчасць з’яўляецца найбольш яскравай праявай нацыянальна-культурнай спецыфікі, таму фальклорныя тэксты адыгрываюць ролю стэрэатыпаў культурнага светабачання, яго эталонаў, выступаюць моўнымі рэпрэзентацыямі культурных знакаў: «Адшліфаваныя часам і колькасцю аўтараў, фальклорныя тэксты ўспрымаюцца як аксіёмы народнага светапогляду, з’яўляюцца адной з найбольш магутных крыніц гендарных стэрэатыпаў. З прычыны бытавання празаічных жанраў фальклору (іх апавядальнікамі з’яўляюцца мужчыны або жанчыны), у тэкстах можна знайсці думкі і меркаванні, уласцівыя прадстаўнікам жаночага або мужчынскага полаў» [19, *8*].

У сваёй працы «Гендарная канцэптасфера брытанскага казкавага дыскурса: ад традыцыі да сучаснасці» В. М. Дзёміна адзначае, што «герой народнай казкі не асоба, а сімвал асобы, адсюль – тыпізаванасць вобраза, якая дапушчае абазначэнне толькі рэлевантных для сюжэта рысаў (прыгажосць гераіні-«прыза» або сіла героя)» [2, *91*]. Пад гендарнай канцэптасферай аўтар разумее сукупнасць гендарных канцэптаў або стэрэатыпаў. Так, Г. Г. Слышкін, аналізуючы гендарную канцэптасферу сучаснага анекдота, гаворыць пра «ідэнтыфікуючыя прыметы» і «дадатковыя характарыстыкі» і выдзяляе наступныя падгрупы: для канцэпта «жанчына» – сямейна-родавыя адносіны, прафесія/пасада, узрост і для канцэпта «мужчына» – прафесія/пасада, сямейна-родавыя адносіны, маёмаснае становішча, узрост, заганы і стан здароўя [16, *24–25*]. В. М. Дзёміна разглядае асіметрычнае размеркаванне гендарна маркіраваных лексічных адзінак па сегментах гендарнай канцэптасферы, што сведчыць пра розны статус мужчынскіх і жаночых персанажаў і розныя сферы іх жыццядзейнасці. Даследчыца зазначае, што «найбольшая канцэнтрацыя апеляцый да канцэпта «мужчына» назіраецца ў сацыяльным сегменце, да канцэпта «жанчына» – у рэляцыйным з дадэным значэннем «сямейна-родавыя адносіны» [2, *96*].

Асаблівую ўвагу фалькларысты звярнулі на жанр смехавай прозы – анекдот. Пытанню гендарных стэрэатыпаў у творах анекдотаў прысвечаны працы Г. Г. Слышкіна «Гендэрная канцэптасфера сучаснага рускага анекдота» [16], А. С. Птушкі «Аб’ектывацыя гендарных стэрэатыпаў у тэкстах англамоўных анекдотаў» [15], А. У. Васінай «Гендарныя стэрэатыпы ў анекдотах» [1], Л. Е. Каістра і Л. Ю. Шчыпанскай «Асаблівасці выяўлення рускіх і нямецкіх гендарных стэрэатыпаў у анекдотах пра жанчын» [7]. Анекдот даследчыкамі разглядаецца як адна з форм праявы масавых гендарных стэрэатыпаў. Аўтары спрабуюць даць асабістую класіфікацыю дадзеных стэрэатыпаў, вылучаючы групы, кшталту «Прыняцце рашэнняў – справа мужчын», «Сексуальныя адносіны», «Жанчына за рулём», «Усе яны аднолькавыя» і г. д. Навукоўцы адзначаюць, што анекдот як фальклорны

смехавы тэкст выяўляе гістарычна складзеную сістэму каштоўнасцей, у тым ліку ў адносінах соцыякультурнай значнасці полавых ролей канкрэтнага грамадства.

Па-новаму разглядаецца паэтыка казкавай прозы ў святле гендэрнай праблематыкі. Навуковец Н. Л. Пушкарова ў працы «Чытаем казкі «праз гендарныя акуляры» раскрывае спецыфіку «жаночага сцэнарыю поспеху»: «Казкі пацвярджаюць той факт, што актыўны жаночы жыццёвы сцэнарый і ў жыцці, і ў казцы звычайна прыгнятаўся, выцясняўся, у той час як пакорлівыя «Папялушкі» ўсхваляліся і ўспяваліся» [14, *166*]. На думку даследчыцы, пасля шлюбу накіраванасць сімпатый казачнікаў мяняецца: спрытная і дасціпная дзяўчына раптам ператвараецца ў сварлівую, прыгодную для насмешак жонку пры мужу: «Такая змена нічым не матывавана, акрамя жаданнем зберагаць і аднаўляць той светапарадак, у якім мужчыны – уладараць, а жанчыны – падпарадкоўваюцца» [14, *178*]. Аналіз мужчынскіх і жаночых мадэлей поспеху ў казцы прадстаўлены таксама ў артыкуле В. М. Люсіна «Асаблівасць архетыпаў жаночага/дзявочага поспеху ў рускай казцы». Аўтар лічыць, што жаночы сцэнарый некалі ўключаў мадэль моцнай жанчыны, якая была адсунутая традыцыйнай мадэллю. Найбольшага поспеху і волі жанчына дасягае, калі становіцца бабуляй і маніпулюе малодшымі сваякамі [10, *101*].

Распрацоўкай гендарнага пытання беларускага фальклору займаюцца прадстаўнікі універсітэцкай школы фалькларыстыкі: Р.М. Кавалёва «Тры псіхатыпы залётніка ў беларускіх песнях пра каханне і гендар» [5], Т. В. Лук’янава «Гендарная вызначанасць фальклорнага аўтара ў беларускіх легендах» [9], С. В. Шамякіна «Сказочная категория красоты в свете данных современной науки» [20], Н. В Карыцкая «Гендарныя стэрэатыпы ў беларускіх песнях пра каханне» [6], В. І. Палукошка «Сацыяльна-псіхалагічныя асновы вобраза свекрыві-маці ў беларускіх сямейна-бытавых песнях» [13]. Даследчыкі разглядалі розныя жанры народнай творчасці: сямейна-бытавыя песні, песні пра каханне, легенды і казкі. Асноўныя праблемы, якія закранулі аўтары, заключаліся ў інтэрпрэтацыі гендарных стэрэатыпаў, выражаных у фальклорных тэкстах. Гендарны падыход да аналізу фальклорных твораў дазваляе ўсвядоміць сюжэтныя сітуацыі і вобразы ў катэгорыях стабільнасці ці нестабільнасці «мужчынскіх» і «жаночых» стэрэатыпаў.

Так, Р. М. Кавалёва разглядзела тры псіхатыпы залётніка ў беларускіх песнях пра каханне. Даследчыца адзначыла, што беларускі народ пры дапамозе псіхалагічных дэталей, праз сімвалічныя характарыстыкі персанажаў тонка адрознівае тыпы залётнікаў: «у аднолькавых сітуацыях залётнікі паводзяць сябе адпаведна сваёй псіхалагічнай прыродзе, прычым амаль усім ім уласціва залежнасць ад гендарных стэрэатыпаў» [5, *207*]. Т. В. Лук’янава даследавала гендарную вызначанасць фальклорнага аўтара ў беларускіх легендах і прыйшла да высновы, што «спецыфіка фальклорнага аўтара заключаецца ў тым, што яго палавая прыналежнасць вар’іруецца ў залежнасці ад кожнага канкрэтнага твора і выяўляецца шляхам комплекснага аналізу» [9, *213*].

Як бачым, фалькларысты большую ўвагу надаюць гендарнаму аналізу казкавых, смехавых, а таксама пазаабрадавых песенных тэкстаў, што

тлумачыцца блізкасцю дадзеных твораў да рэалій жыцця, у той час пакідаючы вялікую прастору для гендарнага даследавання фальклору як у жанравым, так і тэарэтыка-метадалагічным кірунку.

Такім чынам, калі тэорыя гендара для філасофска-сацыяльных навук з'яўлецца адной з фундаментальных тэм (таму і шырока прадстаўленай у навукова-даследчай прасторы), то для фалькларыстыкі гэта новы і мала вывучаны, таму і перспектыўны аспект даследавання. Нягледзячы на тое, што да фальклорнай прозы даследчыкі-гендаролагі звяртаюцца часта, у навуковай літаратуры адсутнічае комплекснае, сістэматызаванае гендарнае вывучэнне празаічных жанраў беларускага фальклору. Без увагі засталіся пытанні залежнасці паэтыкі твораў ад пола-ролевай вызначанасці фальклорнага аўтара, уздзеяння гендара на мастацкую і вобразную сістэму, праблема аўтарства фальклорных тэкстаў і генезісу тыповых персанажаў.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Васина, А. В.* Гендерные стереотипы в анекдотах / А. В. Васина // Сборник научных трудов: Социально-психологические проблемы / под ред. Л.Э. Семеновой. – Нижний Новгород, 2004.

2. *Демина, В. М.* Гендерная концептосфера британского сказочного дискурса: от традиции к современности / В. М. Демина // Вестник СамГу / под ред. В.П. Карчик. – Самара, 2006. – № 10/2 (50).

3. *Здравомыслова, Е. А.* Гендерные стереотипы в дошкольной детской литературе: русские сказки / Е. А. Здрвомыслова // Преображение. 1998. – № 6.

4. *Ибрагимова, Л. К.* Отражение гендерных отношений в таджикских народных сказках**:** автореф. дис. канд. филол. наук: 10.01.09 / Л. К. Ибрагимова. – Душанбе, 2004.

5. *Кавалёва, Р.* Тры псіхатыпы залётніка ў беларускіх песнях пра каханне і гендар / Р. Кавалёва // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія Сувязі / пад нав. рэд. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка. – Мінск, 2004.

6. *Карыцкая, Н.* Гендарныя стэрэатыпы ў беларускіх песнях пра каханне / Н. Карыцкая // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія Сувязі / пад нав. рэд. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка. – Мінск, 2004.

7. *Коистра, Л. Е.* Особенности проявления русских и немецких гендерных стереотипов в анекдотах о женщинах / Л. Е. Коистра, Л. Ю. Щипицина // Вестник ВГУ: Лингвистика и межкультурная коммуникация. – Воронеж, 2005. – № 1.

8. *Коновалова, С. А.* Гендерная специфика выражения предикативных отношений в тексте русской народной волшебной сказки: автореф. дис. канд. филол. наук: 10.02.19 / С. А. Коновалова. – М., 2005.

9. *Лук'янава, Т.* Гендарная вызначанасць фальклорнага аўтара ў беларускіх легендах / Т. Лук'янава // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія Сувязі / пад нав. рэд. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка. – Мінск, 2004.

10. *Люсин, В. Н.* Особость архетипов женского/девичьего успеха в русской сказке / В. Н. Люсин // Общественные науки и современность. – М., 2000. – № 4.

11. *Мадлевская, Е.* Героиня-воительница в русских былинах / Е. Мадлевская // Язык – гендер – традиция: Материалы международной научной конференции 25-27 апреля 2002 года / под общ. ред. С.Б. Адоньевой. – СПб., 2002.

12. *Мелехова, В. Ю.* Фольклорный образ как средство формирования культуры гендерных отношений у подростков (К постановке проблемы) / В. Ю. Мелехова // Письма в Эмиссия / под ред. Р.М. Белавского. – М., 2006. – № 10.

13. *Палукошка, В.* Сацыяльна-псіхалагічныя асновы вобраза свекрыві-маці ў беларускіх сямейна-бытавых песнях / В. Палукошка // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія Сувязі / пад нав. рэд. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка. –Мінск, 2004.

14. *Пушкарева, Н. Л.* Читаем сказки «сквозь гендерные очки» / Н. Л. Пушкарева // Ребенок в современном мире. Открытое общество и детство / отв. ред. К.В. Султанов. – СПб., 2000.

15. *Птушка, А. С.* Об'єктивація гендерних стереотипів у текстах англомовних анекдотів: автореф. дис. канд. філол. наук: 10.02.04 / А. С. Птушка. – Харьків, 2008.

16. *Слышкин, Г. Г.* Гендерная концептосфера современного русского анекдота / Г. Г. Слышкин // Гендер как интрига познания (гендерные исследования в лингвистике и теории коммуникации). – М., 2002.

17. *Сокаева, Д. В.* Образ женщины-волчицы (ус-бирæгъ) осетинской несказочной прозы в контексте фольклора индоевропейских народов / Д. В. Сокаева // Известия СОИГСИ. Вып. 1 (40) / под ред. Ф. Х. Гутнов. –Владикавказ, 2007.

18. *Суковатая, В. А.* Сатира как репрессия: гендерные политики в бытовом фольклоре (На материале восточнославянских сказок) / В. А. Суковатая // Общественные науки и современность / под ред. К. Э. Ступова. –М., 2000. – № 4.

19. *Ткачик, О. В.* Гендерні стереотипи в англомовному фольклорі: автореф. дис. канд. філол. наук: 10.02.04 / О. В. Ткачик. – Київ, 2008.

20. *Шамякина, С.* Сказочная категория красоты в свете данных современной науки / С. Шамякина // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія Сувязі / пад нав. рэд. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка. – Мінск, 2004.

***Рыма Кавалёва***

# ТРЫ ПСІХАТЫПЫ ЗАЛЁТНІКА Ў БЕЛАРУСКІХ ПЕСНЯХ ПРА КАХАННЕ І ГЕНДАР

Як гэта ні дзіўна, беларускія любоўныя песні да гэтага часу так і не сталі аб’ектам спецыяльнага даследавання. У самым агульным плане яны разгледжаны ва ўступным артыкуле І. К. Цішчанкі да тома «Песні пра каханне» са зводу «Беларуская народная творчасць» (Мінск, 1978). Шэраг старонак прысвяціў іх узнёсламу апісанню Н. С. Гілевіч у кнізе «Наша родная песня» (Мінск, 1968). Іншым шляхам пайшоў у сваёй працы «Тайны народнай песні» (Мінск, 1994) А. І. Гурскі, які прааналізаваў ідэйна-мастацкія асаблівасці звыш 120 любоўных песень, узятых са зборніка «Песні пра каханне». Усе даследчыкі так або інакш адзначалі высокія мастацкія якасці беларускіх любоўных песень. І. К. Цішчанка падкрэсліў, што вобразы двух галоўных герояў песень – дзяўчыны і хлопца «ўражваюць шырынёй мастацкага абагульнення і глыбінёй рэалістычнага выяўлення» [3, 5].

Сапраўды, вобраз хлопца з'яўляецца адным з галоўных, але каштоўнасць беларускіх любоўных песень трэба бачыць не толькі ў шырыні мастацкага абагульнення, а ў тым, што ў іх прадстаўлены разнастайныя тыпы залётнікаў. Паводзіны, думкі, размовы хлопцаў-залётнікаў сведчаць, што перад намі не адзін тыпаж, а некалькі. І калі І. К. Цішчанка зазначае сувязь характару хлопца з лепшымі рысамі беларускага народнага характару, то адразу паўстае пытанне аб крытэрыях вызначэння рыс народнага характару і характараў герояў любоўных песень. У межах аднаго артыкула мы не збіраемся вырашаць гэтую праблему цалкам і катэгарычна, а паспрабуем больш уважліва паглядзець на паводзіны хлопцаў, калі яны выступаюць у ролі залётнікаў, і адзначыць іх залежнасць ад псіхатыпаў герояў. Пэўны накірунак у дадзеным выпадку можа даць кніга А. Афанасьева «Синтаксис любви: Типология личности и прогноз парных отношений» (М., 2000). Аўтар працы зыходзіць з таго, «што ўсе нашы адрозненні тыповыя, як і паўтаральнасць тыповая гэтаксама» [1, *15*]. Разнастайнасць чалавечых тыпаў абумоўлена, на яго думку, суадносінамі чатырох псіхічных модулей, або функцый: Эмоцыі («душы»), Логікі («розуму»), Фізікі («цела») і Волі («духа»). Згодна з А. Афанасьевым, гэтыя модулі не з'яўляюцца роўназначнымі – яны ўтвараюць пэўную іерархію: «Як прырода пакладзе адна на адну гэтыя чатыры цагліны, такім і будзе ўнутраны свет індывідуума» [1, *17*]. У залежнасці ад магчымых чатырох пазіцый кожнай з гэтых функцый, пры якіх дзве верхнія (моцныя) супрацьпастаўляюцца дзвюм ніжнім (слабым), прычым I і IV з'яўляюцца выніковымі (гэта значыць, што пры самавыяўленні для іх вынік даражэй працэсу), II і III – наадварот, працэсійнымі, аўтар вылучае 24 псіхічныя тыпы, суправаджаючы іх аналіз ілюстрацыямі са спасылкай на характар вядомых асоб, якія пакінулі значны след у гісторыі і культуры.

Разам са студэнтамі мы паспрабавалі пайсці далей і вызначыць дамінуючы беларускі нацыянальны псіхатып, зыходзячы з асаблівасцей беларускага фальклору – люстэрка беларускага нацыянальнага характару. Каб захаваць чысціню эксперымента, кожны студэнт вырашаў прапанаваную задачу асабіста. Калі мы параўналі вынікі, то здзівіліся агромністай колькасці супадзенняў у меркаваннях. Пасля падагульненняназіранняў мы без асаблівых пярэчанняў прыйшлі да пэўнай высновы. Усе пагадзіліся з тым, што першую, выніковую, пазіцыю, галоўнай прыкметай якой з'яўляецца празмернасць, у беларуса займае Эмоцыя – «душа», г. зн. яго перажыванні, пачуцці, але Эмоцыя беларуса, у адрозненне ад палярнасці пачуццяў рускага чалавека, гарманічная, пра што красамоўна сведчыць адсутнасць у беларускай лірыцы залішне «распетых» (працяглых за кошт слоўна-музычных паўтораў) і залішне шалёна-рытмічных твораў. Нездарма лірычная песня «Ой, рэчанька, рэчанька», на думку айчынных даследчыкаў, – найлепшая ілюстрацыя да душэўнага ладу беларуса.

Другая пазіцыя, «працэсійная», была аддадзена Фізіцы («цела», цялесныя адчуванні). Трэба сказаць, што галоўная вартасць чалавека, якая праяўляецца ва ўсіх баках яго жыцця, на думку А. Афанасьева, якраз залежыць ад таго, што займае ў яго другую пазіцыю. Звычайна ўладальнікі 2-й Фізікі – працалюбівыя і

працаздольныя людзі, добрыя бацькі. Звярнуўшыся да аналізу гісторыі і сучаснага стану беларускага фальклору, заўважаем, што вялікае месца займаюць у ім каляндарна-абрадавыя песні з апяваннем гаспадароў, гаспадаркі, магічным заклінаннем багатага ўраджаю. Акрамя таго, толькі ў беларусаў ёсць шырокае кола нацыянальна адметных талочных песень, прысвечаных удзельнікам калектыўнай працы-дапамогі. А яшчэ беларусы могуць ганарыцца сваімі хрэсьбіннымі песнямі з іх увагай да нованароджанага дзіцяці і яго бацькоў, неўласцівымі фальклору іншых славянскіх народаў. Наогул, багацце беларускага фальклору можна зразумець і вытлумачыць якраз 2-й Фізікай беларуса, які з'яўляецца працаўніком не толькі ў матэрыяльнай, але і ў мастацкай сферы.

Трэцюю, самую дваістую, уразлівую, слабую ступень у беларуса займае Логіка, псіхічная функцыя, уладальнікам якой А. Афанасьеў дае вобразнае азначэнне «скептык». Трэцяя Логіка пазбягае спрэчак, але любіць нетаропкую, добразычлівую размову. Больш за ўсё 3-я Логіка баіцца паказацца дурнем. Нездарма беларусы з вялікай прыхільнасцю ставяцца да казак, у якіх дурнем застаецца пан, а просты селянін, якога пан лічыць дурным, на самай справе аказваецца разумным і знаходлівым. Бясстрашная 2-я Логіка будзе сумнявацца нават у традыцыйных ісцінах, а 3-я – хаваецца за іх, таму менавіта ад яе носьбітаў даводзіцца чакаць падтрымкі гендарных забабонаў у адносінах да жанчыны, яе месца ў грамадскім жыцці і становішча ў сям'і, пра што сведчыць вялікая колькасць гендарна афарбаваных прыказак і прымавак.

Трэцяя Логіка не схільна да адкрытага бунту, але гэта не значыць, што беларусы пакорлівыя фаталісты, проста іх бунт супраць улады мае іншы характар, чым у рускіх і ўкраінцаў: ён не выбуховы, не моцны, але ўпарты і ціхі. Грунтуючыся на змесце беларускіх легенд, можна заўважыць, што беларусы часцей за ўсё цішком збягалі ад паноў-прыгнятальнікаў, імкнучыся дасягнуць вольных зямель, няхай тыя і будуць сярод гіблых балотаў. Шчырую радасць адчулі ўцекачы, калі ўбачылі сухія мясціны, і па першаму слову, якое вырвалася з іх вуснаў, назвалі новую вёску Радастава (легенда аб заснаванні в. Радастава Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці). А вось жыхароў суседняй вёскі Сварынь, выхадцаў з блізкай Украіны, празвалі сварынцамі за тое, што яны, абараняючы сваю годнасць, увесь час спрачаліся з панам. Нарэшце той не вытрымаў і проста прагнаў ад сябе тры самыя непахісныя і непакорлівыя сям'і, якія перабраліся на Беларусь (легенда аб заснаванні в. Сварынь Драгічынскага раёнана).

Асобная тэма – схільнасць 3-й Логікі да прымхаў і забабонаў. У беларускім фальклоры выдатна прадстаўлены казанні, звязаныя са сферай ніжэйшай міфалогіі, таму беларускія матэрыялы лічацца ў славістаў багатай і дастаткова надзейнай крыніцай для рэканструкцыі міфалагічных уяўленняў старажытных славян.

А. Афанасьеў падкрэсліў, што «Воля... з'яўляецца нябачным стрыжнем усяго парадка функцый». У залежнасці ад месца Волі на ступенях функцыянальнай іерархіі ён вылучыў, вобразна ахарактарызаваўшы іх, псіхатыпы з 1-й Воляй («цар»), 2-й («дваранін»), 3-й («мешчанін») і 4-й

(«прыгонны»), прычым, на яго думку, «1-я Воля – уся ***як бы*** маналог, лішак, вынік, індывідуалізм, 2-я Воля – уся ***як бы*** норма, дыялог і працэс, 3-я Воля – уся ***як бы*** закамплексаванасць, татальная ўразлівасць, 4-я Воля – уся ***як бы*** воск, залежнасць і ўсёяднасць» [1, *138*]. Тыповага беларуса з яго чацвертай Воляй вызначае тое, што ў любой сістэме ён «аўтаматычна змяшчае сябе не на верхнюю, як «цар», а на ніжнюю яе ступень, адводзячы сабе ролю пасомага, падначаленага, дзіцяці» [1, *205*]. Самымі мілымі людзьмі на свеце назваў носьбітаў 4-й Волі А. Афанасьеў, і яго характарыстыка цалкам адпавядае беларускаму нацыянальнаму характару. Характарызуючы беларусаў, даследчыкі падкрэслівалі такія іх рысы, як абаяльнасць, ветлівасць, даверлівасць, добразычлівасць, шчырасць, арыентацыю на традыцыі і аўтарытэты. Можна дадаць, што беларус успрымае і будуе адносіны па прыказках і песнях, яго мысленне фальклорна арганізаванае.

Калі б мы ў аспекце беларускага нацыянальнага характару аналізавалі каляндарна-абрадавую паэзію беларусаў, то ў якасці базавых псіхічных функцый, безумоўна, абралі б яго 1-ю Эмоцыю і 2-ю Фізіку. Але разглядаючы тыпы залётнікаў у песнях пра каханне, лічым мэтазгодным абапірацца на дамінуючую 1-ю Эмоцыю. Пры гэтым, памятуючы аб тым, што стасункі галоўных персанажаў любоўных песень у большай ступені будуюцца ў залежнасці ад іерархічнага становішча Волі, чым ад Фізікі і Логікі, спынімся на аналізе толькі трох тыпаў залётнікаў, у якіх Воля адпаведна займае чацвертую, трэцюю і другую ступень.

Такім чынам, будзем лічыць, што выражэнне пачуццяў у беларускага хлопца-залётніка часцей за ўсё праходзіць па яго 1-й Эмоцыі. Уладальнік 1-й Эмоцыі (А. Афанасьеў вобразна назваў яго «рамантыкам») – звычайна вельмі таленавіты залётнік, бо здольнасць адчуваць і выказваць пачуцці закладзена ў ім прыродай. Дыяпазон і спектр пачуццяў у такога залётніка агромністы – ад прыцішанага да надзвычай эмацыянальнага, што і знайшло ўвасабленне ў беларускіх любоўных песнях. Тут неабходна зрабіць адну істотную заўвагу. Агульнапрызнана, што бытавыя пазаабрадавыя песні – гэта ў асноўным жаночая творчасць. Такім чынам, нават тады, калі залётнік выступае ў ролі экспліцытнага аўтара, прысутнічае ў песнях як суб'ект выказвання, за яго часцей за ўсё «гаворыць» жанчына – аўтар імпліцытны, якая нібыта пераўвасобілася ў героя. Адсюль вынікае, што залётнік як вобраз любоўнай лірыкі, як пэўны псіхалагічны тып трансліруецца праз бытавую і фальклорную свядомасць жанчын. Яго вобраз і пачуцці – абагульненне жаночых назіранняў над залётнікамі, іх здольнасцю ўзбуджаць эмацыянальна-псіхалагічныя рухі дзявочай душы.

Прывабнасць залётніка не так у аблічччы, хаця ў песнях адзначаюцца рысы яго знешнасці – «*сам бялявы, вус чарнявы*», як у голасе і словах. Дзяўчына шкадуе, што яна не зязюлька, а то б «*абляцела ўсю Украіну і цёмны лясочак і пачула міленькага* <u>*ціхі*</u> *галасочак*» [3, *57*]. Менавіта на яго голас, а зусім не на голас бацькоў, гатова, забыўшыся пра ўсё, бегчы дзяўчына:

*Я пайду, да душы, пайду, далібог, пайду*
*Ночка відна, рэчка ціха, кладачка машчона* [3, *53*].

Залётнік-«рамантык» звычайна шчодра адораны музычным голасам з прываблівым тэмбрам, які западае ў душу дзяўчыны:

*Пайду ў лес, пайду ў лес,*
*Наламаю маю,*
*Дзе мой мілы запяе –*
*Па голасу ўзнаю* [3, *58*].

Выкрываючы «рамантыка», А. Афанасьеў дае яму даволі знішчальную характарыстыку: «Шакіруючая праўда такая, што «рамантык» – такуючы глушэц, які жыве ў ілюзорным свеце гіпертрафіраваных перажыванняў, дабраахвотны заложнік сваіх залішніх і аўтаномных эмоцый» [1, *42*]. Беларускага залётніка хутчэй за ўсё можна назваць салаўём, што адпавядае яго сімвалічнаму абазначэнню ў тых любоўных песнях, дзе разбураецца гендарны стэрэатып мужчыны, згодна з якім яго вызначальнымі рысамі з'яўляюцца стрыманасць пачуццяў, рашучасць, мужнасць. Куды падзяваецца гэтая стрыманасць, калі хлопец залятаецца да дзяўчыны! Ён упарта «ходзіць каля хаты» [3, *57*], а калі дзяўчына не выходзіць, то яго рэакцыяй могуць быць слёзы і жаласлівыя гаваркія словы:

*Ходзіць Ясенька*
*Ды скрай ваконца,*
*Ўсё плача:*
*– Выйдзі, дзяўчына,*
*Сэрца адзіна,*
*Да мяне.*
*Сінія вочы*
*Спаці не хочуць*
*Без цябе!* [3, *88*].

Хлопец ніколі не ўтрымаецца ад таго, каб ў прывабным свеце выказаць сябе перад дзяўчынай, падкрэсліць, на якія ахвяры ён здатны дзеля сустрэчы з ёю:

*– Дзе ж ты, мілы, валачыўся,*
*Што па пояс замачыўся?*
*– Я ішоў к табе расою,*
*Па пожаньцы над ракою* [3, *74*].

А хіба не было іншага шляху, бо спатканне адбылося не ўвечары, калі трэба ісці да дзяўчыны патаемна, а тады, калі ўжо «на двары дзень бяленькі»?

Даўно заўважана такая акалічнасць: чамусьці самыя лепшыя, узнёсла-эмацыянальныя залётнікі не вельмі спяшаюцца са сватаннем і шлюбам. Так, адзін з варыянтаў песні «Ой, рэчанька, рэчанька» завяршаецца здзіўленым пытаннем: «Ах, Ясенька, чаму ты не жэнішся» [3, *60*]. Адказ на яго знаходзім у песні «Сядзіць голуб на дубочку»:

*Не ўсе тыя сады цвітуць,*
*Што раскідаюцца,*
*Не ўсе тыя дзевак бяруць*
*Што заляцаюцца* [3, *105*].

Зразумець гэтую акалічнасць можна з улікам заўвагі А. Афанасьева: эмацыянальная мова залётніка-«рамантыка» і сапраўднасць – розныя рэчы. За

шчырым прызнаннем у каханні зусім не абавязкова стаіць думка аб хуткай жаніцьбе. Вельмі часта яе, наадварот, няма, бо, па А. Афанасьеву, «стасункі наогул праходзяць не па эмацыянальнай, а па валявой функцыі» [1, *41*]. А калі яна чацвертая («прыгонны»), то гэта значыць, што каханая дзяўчына дарэмна будзе чакаць сватоў. Тут улада належыць ужо гендарным стэрэатыпам паводзінаў. Нягледзячы на тое, што беларускія бацькі даволі памяркоўна ставіліся да пачуццяў сваіх дзяцей, імкнуліся ўлічваць іх, калі справа тычылася сватання дзяўчыны, хлопец разумеў і прымаў як належнае, што апошняе слова заставалася за імі. Так і ў песні «А калі ж той вечар» каханак, якога дзяўчына патаемна прымае ў сваёй хаце, шчыра прызнаецца:

*– Я цябе, дзяўчына,*
*Любіў, любіць буду,*
*Сазнаюсь па праўдзе –*
*Сватаці не буду.*
*Рад бы я ўзяці –*
*Не вяліць мне маці.*
*Як цябе вазьму я,*
*То не ўседжу ў хаце* [3, *86*].

І ў гэтых словах увесь залётнік-«рамантык» з чацвертай Воляй. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ўсё ж такі ў песні дапушчаецца магчымасць узяць дзяўчыну нават супраць волі маці, але каханак клапоціцца не аб дзявочым лёсе, а аб сваім уласным: «то не ўседжу ў хаце». Вялікая бяда для дзяўчыны, калі на яе шляху сустрэнецца «рамантык» з воляй «прыгоннага», якога яна пакахае. Асаблівасць псіхатыпу такога залётніка палягае ў тым, што ім вельмі лёгка кіраваць збоку. Можна па-рознаму інтэрпрэтаваць сітуацыю ў песні «Чаму не прышоў, як месяц узышоў» у залежнасці ад таго, якім мы палічым стаўленне хлопца да дзяўчыны. Калі ён ужо не кахае дзяўчыну, то адбываецца, што хлопец, па сутнасці, здзекваецца з яе, апраўдваючыся тым, што яго не пусціла меншая сястра. Але тут магчымы і іншы варыянт: перад намі прадстаўнік 4-й Волі. Для такога хлопца дастаткова нават малога ціску збоку, каб ён падпарадкаваўся і не паехаў да дзяўчыны, хаця і каня меў, і сцежку ведаў, і маці выпраўляла, але меншая сястра так яго застрашыла, што ён застаўся ў хаце [3, *89–90*].

«Рамантыкі» з 4-й Воляй мілыя, абаяльныя, але слабыя людзі, якія схільны паважаць традыцыі, чужы аўтарытэт, толькі не саміх сябе, уласныя жаданні і памкненні. Для іх вельмі важна, што гавораць людзі, і дзяўчыне застаецца з сумам адзначаць:

*А за ліхімі за марозамі*
*Рутачка не ўсходзіць,*
*А за людскімі языкамі*
*Міленькі не ходзіць* [3, *111–112*].

У такога залётніка, які сапраўды шчыра кахае дзяўчыну, заўсёды напагатове папрокі са спасылкай на чужыя меркаванні:

*– А я табе скажу,*
*Што людзі гавораць, –*
*Што да цябе, мая міла,*

*Кавалеры ходзяць* [3, *117*].

Яшчэ больш слабы, уразлівы да вясковых плётак «рамантык» з 3-й Воляй («мешчанін», па вызначэнні А. Афанасьева). Ён вельмі нерашучы, няўпэўнены ў сабе. Звычайны стан душы хлопца з 3-й Воляй – сум, туга, журба, скаргі на долю. Ён сам не разумее, што з ім адбываецца, чаму ён не такі, як усе людзі: «*Божа мой, божа, па кім я ўдаўся*?» [3, *238*]. Часта яго каханне моцнае, ды нявыказанае: дзяўчына можа і не здагадвацца пра яго пачуцці, бо хлопец не асмеліўся зрабіць крок насустрач свайму шчасцю і дзяўчыну аддалі за другога. Ён той самы заўсёдны «трэці», які «*слёзы роніць, што любіў ды й не ўзяў*» [3, *243*].

Аналізуючы песню «А дзе тая крынічанька» [3, *238–239*], А. Гурскі сцвярджае, што хлопец, каханая дзяўчынанька якога «за іншага пашла», «не збіраецца нудзіць і сумаваць. Рашучы і настойлівы, ён упэўнены, што верне каханую». На яго думку, другая частка песні, якая змяшчае выказванні-намеры лірычнага героя, «пазбаўлена якой бы там ні было меланхоліі. Наадварот, яна гучыць у выразным мажорным тоне:

*Ой, я тую крынічаньку*
*Тычкам пeратычу,*
*Да я сваю міленькую*
*К сабе пераклічу* [2, *131*].

Так, калі глядзець толькі звонку і слухаць толькі словы. А калі паспрабаваць зразумець сітуацыю знутры як аўтаномную, то давядзецца прызнаць, што ўсё гэта толькі пустыя мары і неадэкватная ацэнка сапраўднай сітуацыі, як і ў яшчэ адным варыянце песні, дзе герой у думках звяртаецца да засмучонай і заручонай з другім дзяўчыны, калі тая плача па з’ехаўшаму з войскам нашаму герою, прасцей кажучы, збегшаму ад неабходнасці прыняць рашэнне:

*Не плач, не плач, дзяўчынанька,*
*Я к табе вярнуся.*
*Усёй душою, шчырым сэрцам*
*К табе прыхілюся.*
*Зажывём мы, запануем,*
*Як галубкоў двое,*
*І раздзелім з табой шчасце,*
*Долю і нядолю* [3, *240*].

Не вернецца і не раздзеліць, а калі і вернецца, то нічога не зробіць. Не звяртаючы ўвагі на рэальнасць, такі залётнік часам шчыра верыць у магчымасць ідэальнага выхаду са становішча, захапляючыся ўласнымі марамі і трызненнямі, абараняючы тым самым сваё сапраўднае бяздзейснае «я» ад расчаравання. А. Афанасьеў падкрэсліў даволі непрывабную рысу эмацыянальнага чалавека з 3-й Воляй: ён «ліцэдзейнічае не толькі ў грамадстве, але і перад самім сабой» [1, *182*]. Драматычна напружаная сітуацыя адразу высвечвае недахоп высакародства і чуласці ў такога залётніка. Калі дзяўчына каля крыніцы сарамліва адмаўляецца ад яго пярсцёнка і паслуг, ён не разумее яе сціпласці і адразу пачынае незадаволена падазраваць яе ў здрадзе, шкадаваць сябе, свае пачуцці і марна патрачаны час:

*Ой, напэўна, дзяўчыначку*
*Другі спалюбіў,*
*Жалка, жалка маіх ножак,*
*Што я к ёй хадзіў.*
*Жалка, жалка маіх ручак,*
*Што я абдымаў,*
*Жалка, жалка маіх губкаў,*
*Што я цалаваў* [3, *244*].

Хлопцу нават не прыходзіць у галаву, што ён здольны «перагуляць» саперніка, якога, можа, сам і выдумаў, не разумеючы прычыну паводзінаў дзяўчыны.

Несвядомы падман і самападман – тая зброя, якой схільны карыстацца эмацыянальны залётнік з 3-й Воляй, каб нейкім чынам прыстасаваць сітуацыю да свайго душэўнага ладу. Яму не пазайдросціш, бо гіпертрафіраваная 1-я Эмоцыя заўсёды афарбоўвае сітуацыю ў чорны колер і робіць яго ўнутраныя пачуцці глыбока трагічнымі. Дастаткова самай маленькай псіхалагічнай перашкоды ці праблемы, каб хлопца напаткала мацнейшая дэпрэсія, пра што сведчыць яго ацэнка ўласнага стану: «*Каля майго сэрца ўсё журба ўецца*» [3, *248*], і яшчэ больш экспрэсіўная – «*сэрца маё з жалю разрываецца*» [3, *248*]. «*Смуцен, невясёл*» [3, *247*] – звычайны стэрэатып апісання псіхалагічна зломленага залётніка. Водбліск душэўных пакут такога персанажа знаходзім у шэрагу твораў-маналогаў з красамоўнымі зачынамі «*Забалела галованька, відна, я памру*» [3, *245*], «*Баліць мая галованька, знаць, скора памру*» [3, *247*], «*Журба мая, журба, ты мяне журыла… і з розуму збіла*» [3, *248*]. Пужаецца, стогне, енчыць ды не памірае, бо спадзяецца, што нехта перапыніць яго пакуты і прывядзе каханую. Але парадокс заключаецца ў тым, што людзі нават не ведаюць пра аб’ект яго пачуццяў, хаця шчыра імкнуцца дапамагчы гаротніку: «*Ой, прывялі дзяўчыначку, відна, не маю*» [3, *245*]. Паўстае цікавы тып заглыбленага ў свае пачуцці хлопца, які нібыта існуе ў другой рэальнасці і заўсёды няўмольна спазняецца і з прызнаннем у каханні, і з сватаннем. Лёгка заўважыць, што ў першую чаргу ён шкадуе не дзяўчыну, якую аддаюць за другога, а сябе, і яго хваравітыя скаргі выліваюцца ў двухсэнсоўную формулу: «*Ды жаль жа мне дзяўчыначкі, што яе не ўзяў*» [3, *246*]. Спрабуючы ўпэўніць сябе ва ўласнай годнасці, ён схільны змагацца з журбою толькі адным вядомым яму спосабам – гарэлкай:

*Я слаўны хлапчына,*
*Журбы не баюся,*
*Пайду да карчомкі,*
*Водачкі нап’юся* [3, *248*].

Зноў жа самападман, бо, здаецца, не дапамагае добра правераны мужчынамі сродак. Пасіўнага, прыбітага сваімі перажываннямі хлопца звычайна жэняць бацькі, бо сам ён здольны толькі журыцца, засмучацца, хадзіць каля Дунаю, думаць аб самагубстве [3, *211*] або гуляць з недаросткамі [3, *212*]. Знаходзячыся ўвесь час у нейкім няпэўным становішчы, хлопец

бессэнсоўна ходзіць, блудзіць, плача, параўноўвае сябе з больш актыўнымі таварышамі, баіцца цяперашняга, а яшчэ больш будучага. Адна надзея на Бога:

*Божа, з неба высокага*
*Глянь на мяне, маладога!*
*Глянь на мяне, што я прашу,*
*І дай мне жонку харашу*.

Хлопец з 3-й Воляй з'яўляецца найлепшай ілюстрацыяй да ідэй З. Фрэйда. Псіхалагічна ён залежыць ад маці. У апісанні добрай, на яго погляд, жонкі адчуваецца моцны ўплыў матчыных меркаванняў аб ідэальнай нявестцы:

*Штоб была добра гаспадыня*
*І харошая дружына,*
*І каб хаты пільнавала,*
*І другога не кахала* [3, *210*].

Карацей, у сваёй жонцы ён хоча знайсці другую маці, аднак гэтага не адбываецца.

Тыповай была сітуацыя, калі шлюб бралі згодна дамоўленасці паміж бацькамі. Адсюль горкае расчараванне ў сямейным жыцці абодвух бакоў. Выдадзеная за нялюбага, дзяўчына адразу была запраграмавана на нешчаслівы лёс, але ж не ў лепшым становішчы знаходзіўся і малады муж. У сваіх няшчасцях ён вінаваціў не самога сябе, не сваю былую нерашучасць, з-за якой згубіў каханую дзяўчыну, не свой страх браць на сябе адказнасць у прыняцці рашэнняў, а бацькоў і, немаведама чаму, сваю жонку. Звычайнымі былі ўцёкі слабой волі ў п'янства, схільнасць да сямейнага садызму, жаданне прынізіць жонку, спагнаць на ёй сваю злосць і няслушнасць. Менавіта дадзены тып з'яўляецца ў сямейна-бытавых песнях самым яскравым выразнікам і носьбітам гендарных забабонаў, згодна з якімі ён будуе сістэму заганных стасункаў ва ўласнай сям'і.

Прыемна адзначыць, што шмат твораў беларускай любоўнай лірыкі прысвечана апяванню вернага, шчырага, шчодрага кахання хлопца, які не здольны на здраду, не схільны слухаць, што кажуць людзі:

*Няхай гавораць, няхай сачуюць*
*Хоць цэламу свету.*
*Я цябе любіў, любіць буду,*
*Мой ружовенькі цвету*! [3, *119*].

Або:

*– Няхай гавораць,*
*Мы іх не баімся,*
*Прыдзе та нядзеля,*
*На шлюб станавімся* [3, *124*].

Відаць, у гэтых выпадках мы маем зусім іншы тыпаж залётніка – уладальніка 2-й Волі ("двараніна"), бачым перад сабой смелага, рашучага, непахіснага ў сваіх пачуццях хлопца. А. Афанасьеў наступным чынам тлумачыць гэты тып: «У «двараніна» – вялікае сэрца. Не хачу нікога крыўдзіць, але толькі 2-й Волі дадзена па-сапраўднаму кахаць. Шчырае каханне – самааддача. А на самааддачу здольны толькі той, хто гатовы дзяліцца, каму

ёсць што даць, і даць без рызыкі збяднення. Усім гэтым умовам адпавядае толькі 2-я Воля» [1, *166–167*].

Менавіта каханак з 2-й Воляй з'яўляецца лепшым прадстаўніком мужчыны-беларуса, выразнікам і захавальнікам сапраўднай народнай маралі, а не гендарных міфаў. Ён не ўлашчвае дзяўчыну падарункамі і ліслівымі словамі, каб потым здрадзіць, ашукаць яе давер, а ставіцца да каханай ўзнёсла і з павагай:

*А што ж я думаю,*
*Красну дзевіцу кахаю,*
*Паклічу я мілу*
*К сабе на параду* [3, *195*].

Чалавек, які жыве ў суладдзі з сабою, прыгожа і адкрыта заляцаецца да дзяўчыны, знаходзячы для яе асабліва цёплае вобразнае азначэнне – *радушэнька*:

*Там і рэчка, там і мост,*
*Там я сваю радушэньку*
*На ручаньках перанёс.*
*Перанёс, пераскочыў,*
*Нічога не замачыў* [3, *190*].

Людзі часта не могуць зразумець таго, што для такога хлопца каханая – найпрыгажэйшая ў свеце. На іх здзіўленае пытанне, «*ці ты п'ян быў, ці змыліўся, што ў такую некрасівую ўлюбіўся*», ён упэўнена і свядома адказвае:

*Я не п'ян быў, не змыліўся:*
*У дзявочы ясны вочы*
*Улюбіўся*! [3, *192*].

«Асобасная адкрытасць, прастата, адэкватнасць сабе ў любой сітуацыі, адсутнасць другога, задняга плана» – асновапалагальныя, на думку А. Афанасьева, элементы другой псіхічнай функцыі [1, *167*]. Сімвалічным вобразам такога хлопца з'яўляецца сокал. Цікава, што дзяўчына і яе маці інтуітыўна адчуваюць надзейнасць хлопца-сокала, маці нават дае дачцэ параду хутчэй прынадзіць сокала [3, *91*]. Хлопец-арол можа проста звесці дзяўчыну [3, *65*]. Імпульсіўнасць учынкаў асабліва характэрна для казакаў, якія затлумліваюць галаву даверлівым дзяўчатам, забіраюць з сабою, а потым яшчэ і насміхаюцца з іх. Інакш у хлопца-сокала: словы і ўчынкі прадуманы, вывераны. Суцяшаючы каханую, якая чамусьці «*на свайго міленькага зажурылася*», хлопец разумее прычыну яе турботы і спяшаецца выправіць становішча, прапануючы дзяўчыне разам ехаць да яе хаты. З пачуццём уласнай годнасці ён шляхетна, не хаваючы сваіх самых добрых намераў у дачыненні да дзяўчыны, звяртаецца да яе маці:

*– Добры вечар, стара маці,*
*А я вось – твой зяць.*
*Ці не пусціш Ганулечку*
*У сад пагуляць* [3, *85*].

Толькі моцны чалавек без страты сваёй годнасці здольны схіліцца да ножак маці дзяўчыны, просячыся нанач, але не проста начаваць, а «*касу*

*таргаваці, цябе, маладую, за сябе ўзяці*». Ён шчодра кладзе «*за русую касу тры тысячы*» і забірае дзяўчыну з сабою [3, *268–269*].

Немагчыма ўявіць сабе, каб «сокал» прапанаваў дзяўчыне смяротнае выпрабаванне:

*Зчаруй, дзеўка, брата свайго,*
*Будзеш меці міленькага* [3, *106*].

Або каб з яго вуснаў вываліся такія папрокі і праклёны:

*– Я цябе любіў,*
*Я цябе кахаў,*
*Цераз цябе, маладую,*
*Многа ноч не спаў.*
*Ой, а ты мяне*
*Ужо пакінула,*
*Бадай твая красонька*
*Марна згінула* [3, *66*].

Або:

*– А каб жа ты, дзяўчыначка,*
*Тады замуж пайшла,*
*Як у млыне на камені*
*Пшанічанька ўзышла* [3, *216*].

«Салавей» скажа каханай, што думаў яе браці, але адразу спашлецца на перашкоду: «*Цераз злыя варажэнькі мушу пакідаці*» .Справа не ў ворагах, а ў меркантыльнасці кандыдата:

*Ой, каб жа ты, дзяўчынанька,*
*Капу грошай мала,*
*То са мною, дзяўчынанька,*
*У пары б ты стаяла* [3, *164*].

А «сокала» не вельмі цікавіць пасаг дзяўчыны: «*Ты ў мяне пасаг сама, як на небе зара*» [3, *153*].

Хлопец-«салавей» чуе толькі  сябе, «сокалу» прыемна слухаць мілую:

*Ой, выйдзі, дзеўча, сэрца і душа,*
*Да прамоў жа мне слова* [3, *119*].

Душэўная шчодрасць «сокала» праяўляецца ў тым, што ён схільны да дыялогу, умее гаварыць і слухаць другога, нагаварыцца з мілай для яго вялікае шчасце [3, *262*]. Ён любіць і паважае сваіх бацькоў, але гэта той тып, які разумее, што будаваць уласную сям'ю трэба праз даверлівыя стасункі з дзяўчынай, а не па падказцы старэйшых:

*З бацькам жыву, з маткай жыву*
*Ды не нажывуся,*
*А з табой, дзяўчыначка,*
*Не нагаваруся* [3, *381*].

Відаць, невыпадкова, маці раіць дачцэ назваць такога хлопца «мілым да саколам», калі той просіць: «*Маладая дзяўчыненька, размоўся са мною*» [3, *125*]. Стасункі «сокала» з каханай вызначаюцца вялікай адказнасцю.: «*Будзем гаварыці, як на свеце жыці*» [3, *190*]. Цікава, што дзяўчыны па-рознаму

ацэньваюць магчымыя паводзіны «сокала» і «салаўя», калі «*бог знае, бог ведае*», дзе тыя начуюць. У вернасці «сокала» дзяўчына цалкам упэўнена:

*Начуе мой мілы*
*У лузе пры даліне* [3, *270*].

«Салаўю» дзяўчына не вельмі давярае, бо ад яго можна чакаць усяго, пра што сведчаць такія словы:

*Калі ён у дарозе,*
*Прынясі яго, божа,*
*Калі ў дзеванькі на пасцеленьцы,*
*Пакарай яго, божа* [3, *272*].

Цяжка ўявіць сабе, што «салавей», даведаўшыся пра цяжарнасць дзяўчыны ці нараджэнне дзіцяці, пашкадуе гаротніцу, ад якой адраклася ўся радзіна, кінецца яе суцяшаць, абяцаючы адразу ажаніцца. Цвёрды, высакародны характар «сокала» не ведае ваганняў. Па-першае, ён спяшаецца не проста да маці свайго сына, а «*да кахання свога*». Па-другое, яго цешыць тое, што ён стаў бацькам. Не звяртаючы ўвагі на «*радзімоньку*», што, «*як сабакі, брэша*», хлопец бярэ каханую «*за ручаньку, лічэйка цалуе*» [3, *356*]. У другой песні «сокал» чыстасардэчна прызнаецца камандзіру, чаму яму тэрмінова трэба паехаць на радзіму: «*Мае дзеўка сына праз маю прычыну*» [3, *357*]. Добра разумеючы становішча дзяўчыны з пазашлюбным дзіцем, мець якога лічылася на вёсцы ганьбай, ён не цураецца адказнасці і маральна падтрымлівае бедную маладую маці, якая да таго завагалася, што ў яе нават з'явіліся думкі аб смерці:

*– Не ўмірай, дзяўчына,*
*Гадуй маго сына,*
*З Русі павярнуся,*
*З табой ажанюся* [3, *358*].

«Сокалу» менш за ўсё ўласцівы мужчынскі эгаізм. Не ведаючы, калі ён вернецца на радзіму, «сокал» дае дзяўчыне свабоду: «*Нас на свеце многа – выбірай любога*» [3, *367*]. І гэта зусім не абыякавасць да яе пачуццяў, а павага да асобы, далікатнасць і бескарыслівасць узнёслага характару. Апынуўшыся далёка ад каханай, ён не шукае ёй замену, а «*штодзень лісты піша*» [3, *398*]. Парукай яго вернасці з'яўляецца сумленне, якое не дазваляе ашукаць давер дзяўчыны:

*– Скарай мяне, божа, у вялікай дарозе,*
*Калі я замыслю аб іной нябозе.*
*Ты ў мяне, дзяўчына, ты адна,*
*Як на небе ясная зара* [3, *400*].

Разлучыць яго з дзяўчынай можа, бадай, толькі смерць:

*Перад богам прысягаю,*
*Як любіў, так і кахаю,*
*Тады скончу міласць к тобе,*
*Калі лягу ў цёмным гробе* [3, *404*].

Відаць, здольнасцю стварыць шчаслівую сям'ю больш адораны менавіта тып «двараніна» (1-я Эмоцыя, 2-я Воля), але тэма шчаслівай сям'і не надта

цікавіць мастацтва, у тым ліку і народныя сямейна-бытавыя песні, бо, як яшчэ заўважыў Л. Талстой, усе шчаслівыя сем'і шчаслівыя аднолькава.

На жаль, у адным артыкуле немагчыма разгледзець стаўленне да кахання ўсіх вылучаных А. Афанасьевым 24 псіхатыпаў. Мы спыніліся толькі на трох найбольш цікавых і паэтычна распрацаваных тыпах залётніка, трох модулях, вызначыўшы іх па 1-й Эмоцыі, наогул характэрнай для беларусаў, і трох пазіцыях Волі – другой, трэцяй і чацвёртай. Але і гэтага аказалася дастаткова, каб упэўніцца ў тым, што вобраз залётніка ў песнях пра каханне не маналітны. Вельмі важна адзначыць, што беларускі народ пры дапамозе псіхалагічных дэталей, праз сімвалічныя характарыстыкі, унутраныя маналогі і дыялогі персанажаў тонка адрознівае розныя тыпы залётнікаў. Высветлілася, што ў аднолькавых сітуацыях яны паводзяць сябе адпаведна сваёй псіхалагічнай прыродзе, прычым пэўная незалежнасць ад гендарных стэрэатыпаў ўласціва толькі прадстаўнікам 2-й Волі.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Афанасьев, А.* Синтаксис любви: Типология личности и прогноз парных отношений / А. Афанасьев. – М., 2000.
2. *Гурскі, А. І.* Тайны народнай песні / А. І. Гурскі. – Мінск, 1994.
3. Песні пра каханне / склад. І. К. Цішчанка. – Мінск, 1978.

***Таццяна Лук'янава***

# ГЕНДАРНАЯ ВЫЗНАЧАНАСЦЬ ФАЛЬКЛОРНАГА АЎТАРА Ў БЕЛАРУСКІХ ЛЕГЕНДАХ

Праблема фальклорнага аўтара з'яўляецца адной з найбольш актуальных у фальклnetwork навуцы і мае два галоўныя аспекты: фальклорны аўтар як стваральнік мастацкага тэксту і прысутнасць фальклорнага аўтара ў тэксце. У межах названых аспектаў мэтазгодна разглядаць і іншыя, больш прыватныя пытанні, у тым ліку і пытанне аб гендарнай вызначанасці фальклорнага аўтара.

«Фальклорны аўтар» як абагуленая і адцягненая катэгорыя не можа быць надзелена той ці іншай палавой прыкметай. З іншага боку, відавочна, што фальклорныя тэксты ствараюцца мужчынамі і жанчынамі, а гэта не можа не адбіцца на фальклорным аўтары.

Прыдатным матэрыялам для разгляду дадзенай праблемы з'яўляюцца беларускія легенды: іх бытаванне не мае полаўзроставых абмежаванняў, яны ў аднолькавай ступені належаць і мужчынам, і жанчынам. Для вызначэння гендарнай стратыфікацыі фальклорнага аўтара ў беларускіх легендах уяўляецца мэтазгодным звярнуцца да аналізу апавядальных структур і вобразнасці мастацкіх твораў, а таксама звярнуць увагу на агульную маральную ацэнку сітуацыі.

Найбольш пашыранымі для фальклорнай прозы формамі прысутнасці фальклорнага аўтара ў тэксце на суб'ектным узроуні з'яўляюцца формы апаведача і апавядальніка. Спецыфіка апавядальніка ў тым, што ён выступае не толькі як суб'ект мыслення, але і як герой-персанаж твора, таму гэта заўсёды ці мужчынскі, ці жаночы персанаж. «*Аднаго разу ў нядзелю я, паабедаўшы, прылёг на прызбе трохі аддыхнуць да і моцна заснуў. Ось сніцца мне, што нейкі старац кажа, штоб я ўзяў штых да йшоў на капец...*» [3, *412*]. Не цяжка вызначыць палавую прыналежнасць апаведача і ў тых выпадках, калі яскрава прасочваецца яго пункт погляду на падзеі і герояў. Зразумела, што, калі гаворка ў легендзе ідзе пра тое, што з-за бабінай дурасці, цікаўнасці ці сквапнасці здарылася штосьці нядобрае, што пацягнула за сабой пакаранне не толькі той бабы, але і яе мужа (брата, сына), то такая легенда не можа быць створана жанчынай. У такіх легендах падкрэсліваецца віна жанчыны за атрыманую сітуацыю, у той час як мужчына выступае ў якасці «без віны вінаватага» ці ўвогуле ахвяры. Напрыклад, у легендзе «Бусел» менавіта з-за бабінай цікаўнасці чалавек не выконвае загад Бога занесці і ўкінуць гаршчочак у мора, ні ў якім разе не заглядаючы ў яго. «*Хочацца бабе паглядзець, што там такое ў гаршчочку. Аж з шкуры пражэцца баба, хоча паглядзець у гаршчочак, але чалавек упёрся і не пазваляе*». Парушаючы загад Бога і забарону мужа, яна адкрывае гаршчок і выпускае ўсялякіх гадаў на зямлю, за што Бог карае абодвух, ператвараючы іх у буслоў і наказваючы збіраць гадаў [3, *60*].

Палавая прыналежнасць апаведача выяўляецца і праз характарыстыкі ім мужчынскіх і жаночых персанажаў. Апаведачу-мужчыне звычайна належаць выказванні тыпу: «*Ведама, баба вельмі цікава*» [3, *60*]; або «*яна вазьмі, дура-баба, да й скажы*» [ 3, *64*] і да т. п. На карысць фальклорнага аўтара-жанчыны сведчаць выказванні тыпу: «*Праўду кажуць, што не так воўк баіцца сабакі, як яго звягу. Гэй й мы. Хоць і не баімося мужчын, але што ж з імі рабіць...*» [3, *175*].

Нельга не адзначыць і тое, што не кожны фальклорны тэкст дазваляе ўбачыць гендарную стратыфікацыю фальклорнага аўтара. Гэта такія тэксты, дзе апавядач не выяўляе сваю палавую прыналежнасць. «*Пчол спачатку бог стварыў адных карысных для чалавека. Чорту гэта стала зайздросна, і пачаў ён прасіць бога даць яму на карыстанне хоць некалькі такіх пчол*» [3, 72].

У тым выпадку, калі вызначыць палавую прыналежнасць фальклорнага аўтара шляхам аналізу апавядальных структур цяжка, мэтазгодна звярнуцца да разгляду персанажаў народных твораў. Палавая вызначанасць фальклорнага аўтара можа праяўляцца ў пункце погляду на гендарныя адносіны, якія ў творах выступаюць у выглядзе пэўных стэрэатыпаў паводзінаў герояў. «Стэрэатып, – піша І. Б. Гасанаў, – увасабляе ў сабе спецыфічнае адлюстраванне каштоўнасцей, аднолькавыя адносіны да аб'екта, яго сярэдняе ўспрыняцце» [2, *7*]. Стэрэатып паводзінаў уяуляе сабой агульнапрынятыя нормы паводзінаў у вызначанай тыповай сітуацыі.

У аспекце гендара паводзіны персанажаў легенд можна разглядаць на двух узроўнях: знешнесацыяльным і ўнутрысямейным. Стэрэатып паводзінаў герояў на першым узроўні абумоўлены перш за ўсе іх сацыяльным статусам і непарыўна звязаны з катэгорыяй «улады». Умоўна герояў можна падзяліць на

тых, хто валодае ўладай (а значыць, можа дыктаваць сваю волю ніжэйшым па становішчу), і тых, хто ўлады не мае (значыць, залежыць ад волі іншага). Да першых адносяцца цары (царыцы), князі, паны (пані), войты і да т. п., да другіх – прыгонныя, гандляры і іншы просты люд. Натуральна, што ўзаемаадносіны паміж гэтымі групамі былі заснаваны на самых разнастайных відах ціску вышэйшых саслоўяў на ніжэйшыя. Так было ў рэальным жыцці, пра тое ж распавядаецца і ў шматлікіх легендах.

Найбольш распаўсюджаным з’яўляецца сюжэт пра дамаганні пана прыгоннай дзяўчыны, яе зганьбаванне і смерць. «*Жыла ў тых мясцінах яшчэ пры паншчыне дзяўчына. Звалі яе Альхімія... Любіла Альхімка аднаго хлопца, марыла выйсці за яго замуж. Але прыглянулася прыгажуня свайму пану. Пан зняславіў дзяўчыну, і яна, бедная, з гора ўтапілася ў балоце...*» [3, *223*]. Грамадства не можа абараніць дзявочую годнасць, самае большае – маральна асудзіць разбэшчанага пана. Калі за дзяўчыну і мусіць уступіцца хлопец (жаніх), то ён звычайна вельмі хутка гіне, а дзяўчына застаецца сам-насам са сваёй бядой. Падпарадкаванне волі пана з’яўляецца нормай не толькі сацыяльных (як прыгонная свайму valадару), але і гендарных (як жанчына мужчыне) паводзінаў дзяўчыны ў дадзенай сітуацыі.

Прыкладам можа выступаць і легенда «Чырвонае возера», дзе бацька прыгожай шынкаркі дакарае дачку за тое, што яна не хоча саступіць князю: «*Сучча дачка, што сабе ў галаву ўзяла? Князь цябе любоўю адорвае, а ты што? І мяне, і сябе пагубіць хочаш? Не ведаеш, што такое князь*?» [3, *384*]. Такім чынам, мужчынская агрэсія ў адносінах да жанчыны выяўляецца ў дзвюх асноўных формах: маральна-псіхалагічнай (дамаганне дзяўчыны) і фізічнай (давядзенне яе да пагібелі ці пакаранне за супраціўленне). У сюжэце з адваротнай растаноўкай персанажаў, калі непрыгожая і злая паненка данімае прыгожага сялянскага хлопца, адзіным сродкам, даступным жанчыне, з’яўляецца маральна-псіхалагічны ўціск [3, *374*].

Нязгода пакрыўджаных з такім становішчам рэчаў выяўляецца ў легендах праз пратэст герояў. Большасць гераінь выбіраюць смерць – пасіўны пратэст – і гінуць ці то да ганьбы, ці то пасля яе. Сустракаюцца выпадкі і актыўнага пратэсту, калі дзяўчына імкнецца адпомсціць за сябе ці за свайго любага і падпальвае маёнтак або замахваецца на жыццё самаго пана. Актыўны пратэст характэрны і для мужчынскіх персанажаў легенд. Але ў абодвух выпадках смерць дзяўчыны ці хлопца з’яўляецца адзіным выйсцем з сітуацыі.

Падобным чынам будуюцца адносіны паміж героямі і на ўнутрысямейным ўзроўні. Звычайна гэта адносіны «муж – жонка», «бацька – дачка». У дадзеным выпадку не мае значэння, да якога сацыяльнага класу належыць жанчына: з’яўляецца яна дачкой карчмара ці жонкай (дачкой) князя. Яна цалкам залежыць ад мужчыны, яна павінна яму падпарадкоўвацца, выконваць яго волю; яна не мае права ні на ўласную думку, ні на ўласнае жыццё. Памірае ад разрыву сэрца пані Мара, не вытрымаўшы здзекаў мужа ў легендзе «Бутрым Няміра» [3, *236*], у манастыры канчае свой век дачка баярына Віта з легенды «Вітаўка» [3, *250*], ад рукі мужа гіне княгіня ў легендзе «Гара Княгінька» [3, *337*], хаваецца па суседзях і сваяках ад мужа-тырана пані Кошчыц у легендзе

«Пра пана Кошчыца» [3, *260*] і інш. Адзіна магчымы пратэст жанчыны на гэтым ўзроўні – пасіўны: толькі ўласная смерць можа прынесці збавенне.

Незаўсёды і аналіз гендарных узаемаадносінаў герояў народных твораў дазваляе з упэўненасцю вызначыць палавую прыналежнасць фальклорнага аўтара. У легендах хутчэй назіраецца сумяшчэнне і чаргаванне «мужчынскага» і «жаночага» пунктаў погляду на сітуацыю. З аднаго боку, праводзіцца думка, што жаночая падначаленасць і пакорнасць мужчыне, яе залежнасць ад апошняга – гэта норма для дадзенага грамадства. А з іншага боку, у легендах прысутнічае падспуднае непрыняцце такога стану рэчаў фальклорным аўтарам, якое выяўляецца ў захапленні жанчынай, здольнай да пратэсту.

Дарэчы, рэакцыя пакрыўджаных у беларускіх легендах абвяргае кічавае ўяўленне аб адсутнасці годнага нацыянальнага характару ў беларусаў, калі пад славутай талерантнасцю маецца на ўвазе схільнасць да калабарацыі і падначаленасці, што ў сваю чаргу абгрунтавана пасіўным, нібыта «жаночым» этнапсіхалагічным тыпам беларуса. Між тым, на думку Л. Д. Сіньковай, «годны нацыянальны характар якраз і сцверджаны найвыразна як у гістарычнай, сацыяльнай практыцы беларусаў, так і ў нашым мастацтве», у тым ліку і фальклоры. А этнапсіхалагічны тып беларуса не толькі не падпадае пад вызначэнне жаночага, але, наадварот, «беларускія жанчыны ўпоравень з мужчынамі спрэс мусяць выяўляць маскуліннасць» [4, *161*].

Гераіні беларускіх легенд хоць і гінуць, але гінуць непакоранымі. Нежаданне пакарыцца навязваемай волі прымушае іх выбіраць хутчэй смерць, чым няволю. Таму пра «схільнасць да падначаленасці» ў дачыненні да герояў беларускіх легенд казаць нельга. Больш таго, беларускія легенды сцвярджаюць здольнасць не толькі мужчын, але і жанчын у небяспечнай сітуацыі пастаяць за сябе, праявіць фізічную агрэсію. Хаця для гэтага сітуацыя павінна быць сапраўды экстрэмальнай. Напрыклад, жанчына, ыратоўваючы сваё жыццё, забівае ворага (татарына ці шведа), выліваючы яму на галаву кацёл кіпеню [3, *232*]. Прыводзяць легенды і прыклады жанчын-ваяроў, хоць звычайна гэта гіпербалізаваныя вобразы жанчыны-багатыркі, жанчыны-волата [3, *335*].

Увогуле, жаночы вобраз, які вынікае паводле беларускіх легенд, вызначаецца супярэчлівасцю і крайняй неаднароднасцю. Гэтая неаднастайнасць дазваляе гаварыць пра падвойнасць жаночага вобразу ці нават два самастойныя вобразы. Першы з іх змяшчае ў сабе самыя розныя адмоўныя характарыстыкі жанчыны: яна надта цікаўная, скупая, неразумная, хцівая, здольная да здрады і да т. п. На ўзроўні ўнутрысямейных адносін праводзіцца думка, што сабака і той лепшы за жонку [3, *58*].

У легендах можна назіраць свайго роду перагортванне маральнай ацэнкі жанчыны і яе паводзін. Напрыклад, тое, што ў яе справы значна больш, чым у мужчыны, што яна працуе не ведаючы перадыху, ставіцца ёй ў віну. Сам Бог пракляў яе, каб яна ніколі не ўправілася [3, *103*]. Тое, што Бог больш спрыяльна ставіцца да мужчыны, чым да жанчыны, акцэнтуецца ў легендах даволі часта. Гэта натуральна, калі ўлічыць, што дадзены матыў знаходзіцца ў рэчышчы хрысціянскай тэалогіі: віна за першародны грэх, якая ляжыць перш за ўсё на жанчыне, пераносіцца тут у сацыяльныя каардынаты. Тая ж прычына ляжыць у

аснове і залежнага становішча жанчыны ад мужчыны. Так заведзена ў пачатку часоў. Разгневаўся Бог на жанчыну, распавядае старазапаветны апокрыф, за тое, што яна паслухала змія, і сказаў ёй: «*Я памножу твой боль і твае пакуты; у пакутах ты будзеш нараджаць дзяцей, і ў свайго мужа будзеш знаходзіць ахову, і ён будзе тваім валадаром*» [1, *25*].

У беларускіх легендах гэты матыў набывае спецыфічнае ўвасабленне. У легендзе «Чаму Бог зрабіў мужыка старшым над жонкаю» распавядаецца: «*Была ў аднаго жонка вельмі ліхая: бала, прыйдзе з карчмы запіўшыся, гракане ў дзверы:* «*Адчыні!*» *Ён, небарака, мусіць уставаць да і бардзей адчыняць. А як часам няхутка прачхнецца, так яна зараз за качаргу і чыста яго заб'е*». Убачылі гэта раз Хрыстос са святым Пятром і вырашылі, што нядобра, каб баба «*была вышэйша*» за мужчыну, але наадварот, «*і гэтак сталася*» [3, *102*].

Відавочна, што такі вобраз складваецца пры патрыярхатным пункце погляду на жанчыну, а легенды, паводле якіх ён вынікае, створаны хутчэй за ўсё фальклорным аўтарам-мужчынай. У той жа час з беларускіх легенд паўстае зусім іншы вобраз жанчыны: разумнай, кемлівай, якая дае мудрыя парады мужчыне або сваім розумам здзяйсняе тое, што не пад сілу нават многім мужчынам [3, *84, 274*]; вобраз жанчыны-праведніцы [3, *398*]; жанчыны, вернай радзіме і каханню, для якой лепш смерць, чым ганьба і палон; жанчыны, якая здольна пастаяць за сябе, нават жанчыны-воіна. Жанчына валодае ўладай і сілай іншага кшталту: яна чараўніца, ведзьма, ёй падпарадкоўваюцца сілы прыроды, яна сама атаясамліваецца з таямнічымі сіламі. Вобразы небяспечных хвароб, прыродных духаў, дзён тыдня і свят, зачараваных скарбаў вельмі часта паўстаюць у беларускіх легендах у жаночым вобліку [3, *326, 134, 414*].

Мужчынскаму вобразу беларускіх легенд не ўласціва неаднароднасць і супярэчлівасць, якая характэрна для жаночага вобразу. У беларускіх легендах цяжка знайсці адмоўную характарыстыку мужчынскіх персанажаў, калі толькі гэта не вораг і не люты пан. Але ў дадзеным выпадку адмоўнымі рысамі героі легенд абавязаны сваёй сацыяльнай прыналежнасці, а не палавой. Паводле беларускіх легенд, мужчыны – мудрыя валадары [3, *233*], абаронцы роднай зямлі [3, *125*], кемлівыя [3, *227*], дужыя, рахманыя і, бясспрэчна, «разумнейшыя» за жанчыну нават тады, калі толькі дзякуючы мудрай парадзе жанчыны (маці, жонкі, каханай) герой становіцца сапраўдным героем, перамагае ворагаў і да т.п.

Такім чынам, спецыфіка фальклорнага аўтара, іманентнага мастацкаму тэксту, заключаецца ў тым, што яго палавая прыналежнасць вар'іруецца ў залежнасці ад кожнага канкрэтнага твора і выяўляецца шляхам комплекснага аналізу апошняга.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Ветхозаветные апокрифы. Книга юбилеев. – СПб., 2000.

2. *Гасанов, И. Б.* Национальные стереотипы и «образ врага» / И. Е. Гасанов. – М., 1994.

3. Легенды і паданні / склад. М. Я. Грынблат, А. І. Гурскі. – Мінск, 1983.

4. *Сінькова, Л. Д.* Да праблемы кічавых уяўленняў пра беларускі нацыянальны характар / Л. Д. Сінькова // Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай. Матэрыялы V Міжнар. навук. канферэнцыі, прысвечанай 80-годдзю БДУ (Мінск, 16-18 кастрычніка 2001 г.). Ч. 1. – Мінск, 2001.

***Рыма Кавалёва***

## ДЫСКУРС БЕЛАРУСКІХ СЯМЕЙНА-БЫТАВЫХ ПЕСЕНЬ У СВЯТЛЕ КРЭАТЫЎНАГА «Я»

Пад уплывам знешніх і ўнутраных акалічнасцей фалькларыстыцы, як і іншым навукам, уласціва перамена доследных прыярытэтаў. Добра, калі пры гэтым ліквідуюцца «белыя плямы», пашыраецца сфера навуковых інтарэсаў, выкарыстоўваюцца новыя падыходы да асэнсавання матэрыялу. Шкада, калі працэс суправаджаецца адмаўленнем ад далейшага вывучэння класічных жанраў і відаў фальклору. Так, па сутнасці, спынілася даследаванне сямейна-бытавых песень. Можна адзначыць змястоўныя працы А. І. Гурскага, а дзе працяг?

Сямейна-бытавыя песні сфарміраваліся ўжо на этнічнай тэрыторыі беларусаў і ў этнічным асяродку. Яны – якасна новая стадыя фальклорнага працэсу. Значную частку сямейна-бытавых песень складаюць творы маналагічнага тыпу, сфакусіраваныя на псіхалагічных праблемах прыватнага жыцця, дзе суб’ектам маўлення з’яўляецца нявестка. Замест абрадавай ідылікі, далёкай ад рэальнага жыцця, вядучымі модусамі мастацкасці становяцца элегізм і драматыка, якія абапіраюцца на светаадчуванне рэальначалавечага «я», асноўным пафасам, гэта значыць ідэйна-эмацыянальнай пазіцыяй «аўтара», – трагічны. Такая якасць твораў дала падставу Н. С. Гілевічу ахарактарызаваць іх наступным чынам: «У сукупнасці сваёй беларускія народныя песні пра жаночую долю – гэта вялікая паэма лёсу жанчыны-працаўніцы, праблема глыбокачалавечага зместу і высокатрагічнага пафасу» [2, *171*].

З’яўленне ў фальклоры якасна новага тыпу ідэйна-мастацкага дыскурса ставіць на парадак дня праблему вызначэння ўмоў, пры якіх ён мог узнікнуць. Мяркуем, што іх павінна быць па меншай меры дзве: 1. Зрух у фальклорнай свядомасці, якая вынайшла новы ракурс тэмы сямейнага жыцця – у каардынатах паўсядзённага побыту, адрознага ад святочна-абрадавага; 2. Пераход фальклорнага аўтара на пазіцыю суб’екта маналагічнага выказвання, гэта значыць на пазіцыю персанажа-пакутніка. Такім чынам, у фальклоры з’яўляецца сінкрэтычнае «я» – адначасова эмпірычнае, прыналежнае рэальнаму свету (жанчына ў статусе нявесткі); пазатэкставы фальклорны аўтар, «эстэтычна дзейсны суб’ект» (М. М. Бахцін), носьбіт жанрава-дыферэнцыраванай свядомасці, стваральнік вобраза нявесткі; тэкставы персанаж – суб’ектнае «я» з прэтэнзіяй на аб’ектыўнае існаванне ў свеце і аўтарства эстэтычна завершанага маналагічнага выказвання, быццам бы прыналежнага рэальнаму персанажу. У

гэтым выпадку існаванне эмпірычнага «я» пацвярджаецца фактам наяўнасці яго маналогу.

Пад дыскурсам мы ў дадзеным выпадку будзем разумець «сістэму абмежаванняў, якія накладаюцца на неабмежаваную колькасць выказванняў з прычыны пэўнай сацыяльнай ці ідэалагічнай пазіцыі» [5, *550*]. Шчаслівая нявестка або жонка – рэдкі вобраз у сямейна-бытавых песнях, яна не цікавая фальклорнаму аўтару за выключэннем асобных выпадкаў. Напрыклад, песня аб добрым мужу – вынік посттраўматычнай сітуацыі сіроцтва, калі гераіня праз замужжа набывае ўласную сям'ю [2, *29*].

Для мастацкага асэнсавання безумоўную значнасць маюць пераважна рэзкія канфлікты, звязаныя з уваходжаннем у сям'ю новага члена – нявесткі. Відавочна, што рэальна ў крызісным становішчы апынаціся два бакі, але горшым яно было для нявесткі, бо ад яе патрабавалася «пераламіць» сябе. Псіхолагі лічаць, што «часта падобны перагляд уяўленняў цягне за сабой змяненні ў структуры асобы, якія могуць насіць як пазітыўны, так і негатыўны характар. Асоба, што знаходзіцца ў крызісным стане, не можа заставацца такой, якой яна была; іншымі словамі, ёй не ўдаецца асэнсаваць свой актуальны псіхатраўміруючы вопыт, аперыруючы знаёмымі, шаблоннымі катэгорыямі ці выкарыстоўваючы прывычныя мадэлі прыстасавання» [3, *9*].

Гераіня сямейна-бытавых песень – жанчына ў стане крызісу былой індывідуальнасці бацькавай дачушкі, балючай перабудовы свядомасці і пошукаў самаідэнтыфікацыі. А ў кантэксце новай сям'і яна ідэнтыфікуе сябе выключна з ахвярай:

*Ці я ў лузе не каліна была?*
*Ці я ў полі не чырвона была?*
*Узялі мяне паламалі*
*Ды ў пучочкі павязалі –*
*Така й доля мая* [2, *177*].

Чароўная, абаяльная, прыгожая, шчырая, даверлівая, чулая, гордая, стойкая, добрая, спагадлівая, надзеленая светлым розумам дзяўчына з песень пра каханне, бо менавіта такімі словамі характарызуюць яе вобраз даследчыкі, заставалася за парогам вясельнага абраду. Замест яе ў сямейных песнях паўстаў вобраз няшчаснай жанчыны-гаротніцы, у якой няма надзеі на паразуменне з мужам і яго сям'ёй, што вынікае з маналогаў лірычнай гераіні.

Адна з ключавых праблем разгляду сямейна-бытавых песень – суадносіны мастацкай і жыццёвай праўды, а ў сувязі з ёю асэнсаванне ў псіхалагічным ключы праблемы аўтар – герой – слухач – даследчык.

Эмацыянальныя траўмы спрыялі з'яўленню неўратычных рыс характару замужніцы, але з другога боку, як гэта ні парадаксальна, штурхалі жанчыну да мастацкай творчасці. Даследчыкі неаднаразова падкрэслівалі крэатыўную ролю жанчыны ў стварэнні сямейнай лірыкі, праўда, без спасылкі на псіхалагічную тыпалогію «аўтара». Між тым псіхолагі (і не толькі яны) заўважалі, што неўротык можа аказацца больш творчай асобай, чым здаровы чалавек [3, *62*]. «Мы не выкажам нечаканай думкі, – заўважае В. П. Руднеў, – сцвярджаючы,

што любы мастак (або нават вучоны) практычна заўсёды неўротык ці радзей псіхотык» [4, *261*].

Пры наіўнай анталагізацыі мастацкага яму надаецца статус безумоўнай жыццёвай праўды, асабліва ў тых выпадках, калі выказванне належыць пацярпеламу боку, ахвяры, пакрыўджанаму і г. д., што, уласна кажучы, з'яўляецца тыповай рысай сямейна-бытавых песень. Але ці карэктна ата-ясамліваць змест маналога маладой нявесткі з рэальным станам рэчаў? Калі так, да якіх межаў?

А. І. Гурскі правільна адзначае кансерватызм гендарных устанаўленняў і поглядаў на месца нявесткі ў сямейнай іерархіі. Разам з тым ён схільны абсалютызаваць уплыў побытавага на мастацкае: «Патрабаванні з боку сям'і мужа да маладой жанчыны заўсёды былі вельмі вялікімі, а жаласлівасць і спагада да яе – вельмі малымі. Часам адносіны да жонкі сына з боку ўсёй сям'і былі прадузята нядобразычлівымі. Таму ў беларускай жаночай песеннай лірыцы большая колькасць песень пра сямейнае жыццё прасякнута вялікай сардэчнай скрухай, душэўным смуткам, а падчас і сапраўдным горам. Кожны такі твор – гэта песня-скарга, песня-плач» [1, *167*].

Нас цікавіць, наколькі праўдзівы ў дадзеным выпадку фальклорны аўтар, наколькі справядлівы ў сваіх суджэннях аб сямейніках суб'ект маўлення – маладая нявестка, праз маналогі якой падаюцца выказванні іншых членаў сям'і і дыялогі жанчыны з імі. Ці дыстынцыяніраваны адзін да аднаго «аўтар» і гераіня твораў? Наколькі дапушчальна меркаваць аб агульным маральным клімаце ў беларускай сялянскай сям'і і тыпалогіі стасункаў на падставе мастацкіх фактаў сямейна-бытавых песень? Усе пытанні так або інакш зводзяцца да аднаго: якая рэальнасць знайшла адлюстраванне ў гэтых творах? З чым мы маем справу ў сямейна-бытавых песнях – з сапраўднымі падзеямі, якія выклікалі адэкватныя іх зместу думкі і паэтычныя выказванні, імагінатыўнымі (уяўнымі) падзеямі думкі «аўтара» або з мастацкім увасабленнем псіхічнай рэальнасці суб'екта маўлення?

На першы погляд, адказ відавочны: несумненна, з мастацкім увасабленнем рэальных стасункаў нявесткі і новай для яе сям'і, а зусім не з фантазіямі аўтара ці персанажа. Калі прыняць да ведама, наколькі аднадушна вучоныя і мастакі аддаюць перавагу прымату ўяўнага, пачуццёвага, псіхічнага ў жыцці чалавека, то ў іншым святле ўбачыцца змест песень – у святле рэпрэзентацыі гераіняй уласных уяўленняў пра сваё становішча.

Для К. Г. Юнга не было нічога больш «базавага», асноўнага, чым само псіхічнае. «Гэта тая ж самая адзіная рэч, – падтрымлівае яго Дж. Хілман, – якую мы перажываем непасрэдна і аб якой мы даведваемся адразу ж» [7, *34*]. Наш славуты зямляк мастак Марк Шагал празарліва заўважыў, што ўнутраны свет чалавека – такая ж самая рэальнасць, як і знешні. І яна для нас нават больш рэальная, чым свет, які мы бачым. Мастакі слова, сярод якіх асабліва адзначым пазіцыю Акутагавы Руноскэ і Х. Л. Борхеса, неаднаразова паказвалі пэўную аўтаномнасць мастацкага свету ў дачыненні да рэальнага жыцця, «праўды» факта. Калі адна і тая ж падзея, учынак, факт, прыкладам, забойства, прадажніцтва, здрада, інтэрпрэтуюцца па-рознаму ў залежнасці ад асобы апаведача ці сведкі, яго псіхалогіі, інтарэсаў, памкненняў, пункта погляду, то

дзе знаходзіцца праўда? «Ці не крык змучанай журбою душы гучыць у сямейна-бытавых песнях?» – задае пытанне іх даследчык А. І. Гурскі. І на яго мусім адказаць станоўча: так, менавіта *душы*.

Вызначальная стылявая рыса сямейна-бытавых песень – панаванне ў іх персанажнага пункта погляду, прычым суб'ект маўлення, як мы памятаем, атаясамлівае сябе з ахвярай сямейнага гвалту.

Для даследчыка існуе рэальная небяспека цалкам або часткова падпасці пад уплыў персанажа, калі не будзе ўлічаны гендарны кампанент твораў. Эмацыянальна спачуваючы пакрыўджанай, даследчык, падобна любому слухачу, не заўважае мастацкага дыктату і міжволі прымае пазіцыю су'екта выказвання, які здаецца двайніком фальклорнага аўтара, носьбітам народнага пункта погляду (што не зусім так): «Слухач павінен вынесці маральнае асуджэнне злоснай, несправядлівай і нядобразычлівай радні мужа за дарэмныя ўшчункі гаротнай жанчыны і пранікнуцца спагадай і шчырым спачуванннем да самой лірычнай гераіні. Менавіта такой мастацкай мэты дабіваецца аўтар-выканаўца» [1, *191*].

У сваю чаргу чытач навуковай працы, прыкладам студэнт, пачынае глядзець на сямейныя праблемы ў песнях праз падвойную маральную прызму – псіхалагічна траўміраванай нявесткі і даследчыка. Вось чаму так важна навучыцца ўсведамляць розніцу пазіцый героя, які знаходзіцца ўнутры мастацкага свету, аўтара, чыя канцэпцыя жыцця можа як супадаць з персанажнай, так і супрацьстаяць ёй, даследчыка, які падобна аўтару знаходзіцца па-за межамі твора, але ў адрозненне ад яго інтэрпрэтуе ўжо створаны мастацкі свет адпаведна параметрам сваёй асобы.

Значэнне катэгорыі «пункт погляду» для больш-менш адэкватнай інтэрпрэтацыі мастацкага зместу добра разумеюць тэарэтыкі літаратуры. Гэты тэрмін ўсё часцей сустракаецца ў літаратуразнаўчых працах і амаль не прымаецца ў разлік у фалькларыстычных. Трэба сказаць, яго ўваходжанне ў фалькларыстычныя даследаванні запавольваецца з-за недастатковай тэарэтычнай распрацоўкі паняцця. Вельмі рэдка можна сустрэць дэфініцыю тэрміна, што адзначыў вядомы тэарэтык літаратуры Н. Д. Тамарчанка. У дапаможніку «Тэорыя літаратуры» (М., 2004) ён прысвяціў расшыфроўцы паняцця асобны параграф [6, *205-222*]. Найбольш прыдатным даследчык палічыў дваістае азначэнне «пункта погляду»: «Пазіцыя, з якой расказваецца гісторыя ці з якой успрымаецца падзея героем аповеду» [6, *217-218*], прычым пад «гісторыяй» разумеецца сукупнасць і паслядоўнасць падзей жыцця персанажа.

Сямейныя песні-маналогі сваёй кампазіцыйнай формай нібы «запраграміраваны» на тое, каб лічыць суб'екта выказвання іх сапраўдным аўтарам, а змест маналога – аб'ектыўнай праўдай, што значна абцяжарвае размежаванне пазіцыі фальклорнага аўтара і пазіцыі гераіні твораў. Нельга лічыць карэктнымі меркаванні даследчыкаў, якія дубліруюць пункт погляду экспліцытнага «аўтара» маналогаў, не дысцыяніруюцца ад дыскурсіўнай карціны свету, што перашкаджае ўсведамляць канцэпцыю жыцця, прыналежную сапраўднаму аўтару – фальклорнаму.

Знакавыя фігуры мастацкай рэальнасці – «*свякроўка журліва*», «*свёкар наравісты*», «*дзеверы ліхія*», «*залвіцы-судзіцы*» [2, *183*], «*няверна дружына*» [2, *178*]. Знакавы псіхалагічны стан суб'екта паэтычнага маўлення – дэпрэсія:

*Ты думаеш, мама,*
*Што я тут паную.*
*Прыдзі падзівіся,*
*Як я тут гарую.*
*Ты думаеш, мама,*
*Што я тут не плачу,*
*А я ж за слязамі*
*Бела свету не бачу* [2, *173*].

Жанчына неўсвядомлена выкарыстоўвае псіхатэрапеўтычны прыём, які спецыялісты называюць «вяртанне да вытокаў». Там родны дом, спачувальная маці, усё блізкае і знаёмае, а тут – гвалт, гора і слёзы. Падобнае падарожжа ў мінулае выклікае да жыцця тое, што К. Г. Юнг пазначыў як «архетып дзіцяці». «Але калі вы глядзіце назад, – падкрэсліў Дж. Хілман, – то, натуральна, не заўважаеце таго, што навокал» [7, *10*]. Напрыклад, супадзення гендарнай ролі свекрыві і роднай маці, сын якой прывядзе нявестку. Пункт погляду – той фактар, які абумоўлівае розную абмалёўку сям'і мужа і сваёй роднай. Ідэалізацыя апошняй – гэта спрадвечная туга чалавека па страчаным раі.

Аб'ектывісцкі падыход да разгляду сямейна-бытавых песень уяўляецца нам не бясспрэчным. Змест гэтых твораў суадносіцца з побытам народа і ўнутрысямейнымі адносінамі зусім не наўпрост: апошнія праламляюцца праз аўтарскую мастацкую фантазію. У маналогах мы заўсёды маем справу з суб'ектыўным успрыманнем жыццёвых сітуацый, з паэтычнай рэпрэзентацыяй, з суб'ектыўнай рэакцыяй асобы на праявы сямейнага ціску. Менавіта таму мы лічым небяспечным рабіць вывады наконт пашыранасці гвалту ў беларускіх песнях на падставе мастацкіх твораў. Тут будзе дарэчы нагадаць трапную народную прыказку «Што каму дапякае, той аб тым і гукае». Яна красамоўна сведчыць аб запраграмаванасці дыскурсіўнай практыкі сямейна-бытавых песень на балючыя для жаночай псіхікі сітуацыі ціску, гвалту, непаразумення, адчужэння і г. д. Можна думаць, што яны – рэальнасць і сённяшняга часу. Невялікая колькасць песень аб шчаслівым замужжы, між іншым, тлумачыцца тым, што здаровы, устойлівы, нетраўміраваны чалавек, які жыве ў суладдзі з сабой і акаляючым светам, менш схільны да паэтычнай рэфлексіі, чым яго неўратычны сабрат.

Аб'ектыўным фактарам у сямейна-бытавых песнях з'яўляецца якраз псіхалагічная суб'ектыўнасць фальклорнага аўтара і «аўтара» маналогаў – рэпрэзентантаў эмацыянальнай рэакцыі гераіні на словы і ўчынкі членаў чужой сям'і, яе хваравітых фантазій і страхаў. Фальклорная трансляцыя негатыўнага сямейнага вопыту жанчыны мела велізарны псіхатэрапеўтычны эфект, інакш гэтыя творы даўно б зніклі. Яны жывуць дзякуючы сваёй катарсічнай прыродзе і той мастацкай тонкасці, з якой уключаюць выканаўцаў і слухачоў у стан глыбокага перажывання ўяўных падзей. Эмацыянальнае дачыненне да лёсу песеннай пакутніцы, паўнакроўнага, энергетычна насычанага свету мастацкай

вобразнасці сямейна-бытавых песень стварала эфект далучэння да рытмікі калектыўнай духоўнасці і духоўнага спачування персанажу – рэальнасці мастацкага свету. Вынік – маральнае ачышчэнне асобы.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Гурскі, А. І.* Чаму вучыць народная песня / А. І. Гурскі..– Мінск, 2007.

2. Лірычныя песні / уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча.– Мінск, 1976.

3. *Пергаменщик, Л. А.* Кризисная психология: учебное пособие / Л. А. Пергаменщик.– Минск, 2004.

4. *Руднев, В. П.* Энциклопедический словарь культуры XX века / В. П. Руднев .– М., 2001.

5. *Серио, П.* Анализ дискурса во французской школе [дискурс и интердискурс] / П. Серио // Семиотика: Антология / сост. Ю. С. Степанов. Изд. 2-е, испр. и доп.– М., Екатеринбург, 2001.

6. Теория литературы: учеб.пособие: в 2 т. / под ред. Н. Д. Тамарченко. – Т.1: Н. Д. Тамарченко, В. И. Тюпа, С. Н. Бройтман. Теория художественного дискурса. Теоретическая поэтика. – М., 2004.

7. *Хиллман, Дж.* Архетипическая психология / Дж. Хиллман. – СПб., 1996

Праграма курса «Актуальныя праблемы фалькларыстыкі», складзеная прафесарам кафедры фалькларыстыкі Інстытута філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі С. К. Расавецкім, гэтаксама звязана з дысцыплінамі спецыяльнасці. У «Анатацыі» да яе аўтар пазіцыяніруе свой курс лекцый як наступны пасля агульнага курса «Тэорыя фальклору», што слухаюць магістранты спецыяльнасці «Фалькларыстыка». Заўважым, што ні кафедры фалькларыстыкі, ні падобнай да яе ў БДУ няма, як няма на філалагічным факультэце асобнай спецыялізацыі «Фалькларыстыка». Нашым магістрантам не прапануецца і адпаведная спецыяльнасць, ва ўсякім разе афіцыйна.

Згодна з праграмай курс лекцый прафесара С. К. Расавецкага складаецца з сямі наступных тэм: «Шляхі нейтралізацыі ідэалагічнай і метадалагічнай спадчыны марксісцка–ленінскай фалькларыстыкі». «Украінская тэарэтычная фалькларыстыка ў сучасным стане «паскоранага развіцця». «Праблема «рэгіяналізму» ва ўкраінскай фалькларыстыцы і своеасаблівасць фалькларыстычнай кампаратывістыкі ва Украіне». «Актуальныя праблемы фалькларыстычнай жанралогіі». «Фалькларыстыка і даследаванне інтэртэкстуальнасці». «Фалькларыстка і герменеўтыка». «Сучасная рыторыка і магчымасць запазычання яе методыкі ў фалькларыстыцы».

І гэтак далей. Якія б праграмы мы ні бралі, да якіх бы праграм ні звярталіся, у тым ліку да праграмы па славянскаму фальклору, створаную ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я. Купалы, вынік быў адзін і той жа: мы ўсё больш пераконваліся, што трэба шукаць свой шлях, і пачалі з выпрацоўкі агульных падыходаў. Было зразумела, што праграма – гэта перш за ўсё інструмент у руках выкладчыка, які павінен дапамагчы яму эфектыўна арганізаваць вучэбны працэс, пісьменна сумясціць практыку вывучэння канкрэтных фальклорных жанраў і відаў з тэарэтычным асэнсаваннем агульных і прыватных праблем фалькларыстыкі. Для нас стала аксіёмай прыярытэтнае вывучэнне студэнтамі таго фальклору, які адпавядае іх спецыяльнасці. Гэта значыць, што змест дысцыпліны «Фалькларыстыка» вар’іруецца ў залежнасці ад аб’екта разгляду: для студэнтаў спецыяльнасці «Беларуская філалогія» чытаецца курс «Беларуская фалькларыстыка», «Руская філалогія» – «Руская фалькларыстыка», «Славянская філалогія» – «Славянская фалькларыстыка» з вылучэннем на першы план фальклору таго ці іншага паўднёваславянскага або заходнеславянскага народа.

Мэтай вывучэння дысцыпліны «Фалькларыстыка» мы палічылі фарміраванне ў студэнтаў навуковага, тэрэтычна абгрунтаванага ўяўлення пра фальклор як зыходную кропку слоўнага мастацтва, адметную культурную з’яву, своеасаблівую эстэтычную сістэму, пра яго універсальныя і нацыянальныя рысы, генетычную і тыпалагічную сувязь класічнага фальклору славянскіх народаў, месца фальклору ў сучаснай культурнай парадыгме.

Дзеля дасягнення пазначанай мэты мы вырашылі падаваць матэрыял буйнымі структурнымі блокамі, якіх атрымалася восем:

1. Фалькларыстыка як навука аб народнай творчасці.
2. Тэорыя фальклору.
3. Гістарычнае развіццё фальклору і прынцыпы яго перыядызацыі.

4. Агульнаславянскае і адметнае ў нацыянальным фальклоры.
5. Гісторыя збірання і вывучэння фальклору.
6. Сфера традыцыйнага фальклору (жанры і віды нацыянальнага фальклору).
7. Сфера посткласічнага фальклору (канец XVIII – пачатак XX стст.).
8. Сфера постфальклору.

Створаная намі праграма, як бачна, мае некаторыя адметныя рысы, што надае ёй пэўную эксклюзіўнасць. Гэта тычыцца не толькі структурнай арганізацыі матэрыялу, але разам з тым і зместу раздзелаў – агульных і канкрэтных. Безумоўна, мы ўлічылі станоўчы вопыт папярэднікаў, але адмовіліся ад эпігонства, палічыўшы за лепшае прытрымлівацца аднаго скразнога прынцыпа – падаваць матэрыял у пазначаных вышэй раздзелах таксама буйнымі блокамі, якія пэўным чынам адпавядаюць рэальнай фальклорнай сферы. Так, у раздзеле, прысвечаным сферы традыцыйнага фальклору, мы ў сваю чаргу вылучылі дзесяць яго сфер. У выніку раздзел склаўся з наступных частак:

1. Рытуальна-магічная сфера.
2. Сфера сямейна-абрадавай паэзіі.
3. Парэмійная сфера.
4. Сфера празаічных эпічных жанраў.
5. Сфера вершаваных эпічных жанраў.
6. Баладныя песні.
7. Духоўныя вершы і псальмы.
8. Сфера пазаабрадавай лірыкі.
9. Сфера народна-драматычнага мастацтва.
10. Сфера дзіцячага фальклору.

Як бачым, акцэнт зроблены на дасягненні цэласнага ўяўлення аб фальклоры ўсіх славянскіх народаў незалежна ад яго этнічнай прыналежнасці, а ўжо ўнутры раздзелаў канкрэтызаваліся ўзроўні разгляду з выкарыстаннем этнічна адзначанай навуковай і народнай тэрміналогіі. Напрыклад, у рытуальна-магічнай сферы вылучаўся раздзел «Каляндарна-абрадавая паэзія», у ім – «Зімовы цыкл», яго частка – «Віды абходных песень», у дужках – іх назвы: *калядкі, коледа, щедрівки, шчодрыкі, меланкавыя песні, коледве, коледарка, божыч, здунай, овсени, виноградья* і інш., а далей – знакавыя абрадавыя фігуры і песенныя вобразы. Падобны падыход забяспечваў пераемнасць паміж узроўнямі разгляду – ад найбольш абстрактнага, агульнага, тыпалагічнага да канкрэтнага, нацыянальнага, лакальна–рэгіянальнага, відавога, дазваляў даваць сістэмную інтэрпрэтацыю фактаў і дыферэнцыраваную ацэнку нацыянальных фальклорна–этнаграфічных комплексаў, іх месца і ролі ў кантэксце традыцыйнай славянскай культуры.

Шчыра кажучы, было даволі цяжка пераадолець супраціўленне канкрэтнага матэрыялу, улічыць не толькі асноўныя фальклорныя віды і жанры, але і нацыянальна адметныя, падаць славянскую народную тэрміналогію сістэмна і дакладна. У гэтым сэнсе праграма атрымалася цалкам арыгінальнай, канцэптуальна самастойнай, але з апорай на традыцыю складання праграм па вуснай

народнай творчасці, якія за часы свайго існавання ў пэўным сэнсе апраўдалі сябе. Менш за ўсё мы прэтэндавалі на вынаходніцтва, добра разумеючы ўсю складанасць праблемы і немагчымасць адразу вырашыць усе пытанні. Некаторыя недахопы і хібы сваёй праграмы мы бачым самі, спадзяемся таксама на заўвагі і добрыя парады ўдзельнікаў семінара, якія дапамогуць нам у яе ўдасканаленні.

Што тычыцца агульных і тэарэтычных пытанняў, то пры іх рэпрэзентацыі ўзнікалі свае цяжкасці. Першае пытанне – з чаго пачынаць Праграму? Традыцыйна яны пачыналіся з «Уводзінаў» або, пазней, з раздзела «Фальклор як прадмет філалагічнага вывучэння», што знайшло адлюстраванне ў падручніках. Мы свядома парушылі традыцыю, зыходзячы з наступнай акалічнасці: паколькі курс «Фальклярыстыка» ўводзіцца ў навучальны працэс упершыню, то і Праграма павінна пачынацца з раздзела аб самой навуцы.

Другое пытанне – дзе месца тэарэтычных праблем? Мы вырашылі адвесці для іх асобны раздзел «Тэорыя фальклору», вылучыўшы ў ім тры асноўныя пытанні: «Фальклор – адметны тып слоўнага мастацтва». «Спецыфіка фальклорнай творчасці». «Фальклор як мастацкая сістэма». Для параўнання. Напрыклад, У. П. Анікін ва «Уводзінах» да свайго падручніка «Русское устное народное творчество» (М., 2001) спыняецца на трох пытаннях – прадмет курса, паходжанне фальклору, стадыі гістарычнага развіцця, а Т. В. Зуева і Б. П. Кірдан падручнік «Русский фольклор» (М., 2003) адразу пачынаюць з тэарэтычнай главы, дзе разглядаюцца чатыры пытанні – фальклор і фальклярыстыка, спецыфіка фальклору, фальклор як мастацкая сістэма, творчы метад фальклору. Тут аўтары далучаюцца да У. П. Анікіна, які прапанаваў у сваёй кнізе «Тэорыя фальклору» (М., 1996) назваць фальклорны метад «сублімiруючым». Нам гэты тэрмін здаецца штучным, таму мы яго і не ўжываем; да таго ж ён выклікае ў гуманітарыя зусім іншыя асацыяцыі, чым тыя, якія мае на ўвазе У. П. Анікін. Акрамя таго, у нас сваё бачанне пытання «Фальклор як мастацкая сістэма».

Надзвычай важным нам падаецца раздзел «Агульнаславянскае і адметнае ў нацыянальным фальклоры», дзе прапануецца разглядаць карэляцыю агульнаславянскага і нацыянальна адметнага на розных узроўнях фальклорнай творчасці.

Трэцяе пытанне – якім чынам прэзентаваць гістарычнае жыццё фальклору, стадыі яго развіцця. Мы палічылі неабходным вылучыць некалькі раздзелаў: агульны – «Гістарычнае развіццё фальклору і прынцыпы яго перыядызацыі», у якім прадставілі рознастадыяльныя тыпы фальклорных традыцый, і асобныя – «Архаічны фальклор», «Раннетрадыцыйны праславянскі фальклор», «Класічны фальклор славянскіх народаў», «Познетрадыцыйны фальклор», «Характар постфальклорных з’яў у XX ст. і на сучасным этапе».

Нагадаем, што У. П. Анікін у сваім падручніку «Русское устное народное творчество» (М., 2001) вылучае наступныя стадыі гістарычнага развіцця фальклору – «Бытавы абрадавы фальклор», «Агульнасветапогладны пазаабрадавы фальклор» і «Мастацкі фальклор», а Т. В. Зуева і Б. П. Кірдан у падручніку «Русский фольклор» (М., 2003) разглядаюць тры асноўныя перыяды бытавання фальклору – раннетрадыцыйны, класічны і познетрадыцыйны. На першы погляд, мы далучаемся да перыядызацыі, прапанаванай маскоўскай школай фаль-

кларыстыкі, аднак у нас сваё бачанне гэтай праблемы. Справа ў тым, што познетрадыцыйны фальклор у адносінах да класічнага мы разглядаем у якасці тыповай постфальклорнай з'явы і вылучаем механізм паступовага далучэння часткі познетрадыцыйнага фальклору да класічнай спадчыны. Гэты падыход вымагае больш дэталёвага разгляду такой недастаткова распрацаванай сёння ў фалькларыстыцы з'явы, як «постфальклор». Таму мы вырашылі дадаткова ўвесці раздзелы «Сфера постакласічнага фальклору» (канец ХУІІІ – пач. ХХ стст.) (ён уключае разам з іншымі падраздзел «Гарадскі фальклор», змест якога арыентаваны на спасціжэнне праблемы фалькларызацыі твораў літаратурнага паходжання, а таксама на асэнсаванне шляхоў пранікнення гарадскога песеннага фальклору і кантаў у сялянскае асяроддзе) і «Сфера постфальклору». Разумеючы постфальклор як найбольш рухомую, няўстойлівую частку сучаснага фальклору, заўсёдную крыніцу новых тэндэнцый, сховішча маргінальных і парафальклорных з'яў, сферу ўзаемадзеяння розных культурных напрамкаў, перакрыжаванне розных ідэйных і мастацкіх патокаў і г. д., мы ўлічылі ўсе гістарычна абумоўленыя моманты фарміравання постфальклору, формы яго бытавання і вылучылі розныя постфальклорныя жанры: аповеды пра празорцаў, варажбітак, экстрасэнсаў, чорных і белых магаў, сучасныя дэманалагічныя аповеды, слоўныя формулы магічнай практыкі, творы прадстаўнікоў розных субкультур і інш. Такім чынам мы прапануем цэласную «карціну» фальклорнага працэса, прынцыпова гетэрагеннага па сацыяльна–прафесійным складнікам, што, безумоўна, дазваляе глыбей зразумець рух мастацкай сістэмы фальклору ў часе і яго месца ў сучаснай культурнай прасторы.

***Тацціяна Марозава***

## ПАДРЫХТОЎКА СТУДЭНТАЎ-ФІЛОЛАГАЎ ДА ВУЧЭБНАЙ ПРАКТЫКІ: ФАЛЬКЛОРНЫ ПРАКТЫКУМ

Фальклорная практыка студэнтаў філалагічнага факультэта з 60-х гадоў ХХ ст. з'яўляецца неад'емнай часткай вучэбнага працэсу пры падрыхтоўцы спецыялістаў-філолагаў па спецыяльнасцях 1-21 05 01 «Беларуская філалогія», 1-21 05 02 «Руская філалогія», а з другой паловы 90-х гадоў – і спецыяльнасці 1-21 05 04 «Славянская філалогія», што занатавана ў Агульнаадукацыйным стандарце і тыпавым вучэбным плане. У Стандарце таксама пазначана, што сярод відаў праходжання фальклорнай практыкі магчыма арганізацыя працы студэнтаў як у архіўных фальклорных фондах пры кафедры, якая ажыццяўляе практыку ў ВНУ, так і па індывідуальных праграмах (што датычыцца замежных студэнтаў).

Фальклорная практыка студэнтаў БДУ з 1994 года адбываецца выключна па месцы жыхарства з прадстаўленнем справаздачы аб выніках збіральніцкай

дзейнасці. Планавыя палявыя экспедыцыі з таго часу здзяйснялі толькі супрацоўнікі навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору філалагічнага факультэта, на базе якой у красавіку 2005 года была створана вучэбна-навуковая лабараторыя. Вопыт працы выкладчыкаў-фалькларыстаў кафедры тэорыі літаратуры БДУ па падрыхтоўцы студэнтаў да самастойнай палявой практыкі на працягу больш 10 гадоў паказаў, што правядзення кансультацый студэнтаў з кіраўнікамі груп не заўсёды дастаткова. Год за годам прыблізна палова студэнтаў ад агульнай колькасці збіраўшых фальклорныя творы самастойна мелі значныя праблемы пры падрыхтоўцы выніковай справаздачы і вымушаны былі ці згаджацца з невысокай адзнакай па практыцы, ці карпатліва перарабляць яе. Спробы выкладчыкаў палепшыць сітуацыю рабіліся неаднаразова: на кафедры пакідалі так званую «ўзорную папку», у якой былі сабраны выдатна аформленыя матэрыялы практыкі; выдавалі кожнаму ў рукі праграму-апытальнік з правіламі афармлення; праводзілі дадатковыя кансультацыі, але сітуацыя выпраўлялася марудна і не заўсёды меўся чакаемы вынік.

Пасля стварэння вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору рашэннем кафедры тэорыі літаратуры на пасяджэнне вучонага савета філалагічнага факультэта была вынесена прапанова аб вылучэнні супрацоўнікам лабараторыі беларускага фальклору дадатковых гадзін на ажыццяўленне падрыхтоўчага этапу практыкі. Тады ж ішла гаворка і аб аплаце супрацоўнікам лабараторыі працы са студэнтамі пад час самой практыкі ў лабараторыі. Рашэнне вучонага савета было прынята на карысць прадстаўленых кафедрай тэорыі літаратуры прапаноў, аднак з наступнымі папраўкамі: па-першае, дадатковых гадзін на падрыхтоўку да правядзення фальклорнай практыкі ў тыпавым вучэбным плане не прадугледжана, але іх можна вылучыць ад агульнай колькасці запланаваных кожнаму кіраўніку практыкі гадзін; па-другое, вылучыць пагадзінную аплату супрацоўнікам лабараторыі, якія будуць ажыццяўляць фальклорную практыку ў лабараторыі па папярэдняй дамоўленасці дэканата з вучэбна-метадычным аддзелам БДУ. Адпаведна супрацоўнікі лабараторыі як кіраўнікі груп па фальклорнай практыцы атрымалі магчымасць па загадзе рэктара ажыццяўляць усе этапы арганізацыі і правядзення практыкі, у тым ліку выстаўляць адзнакі. Ажыццвіць усё гэта раней, калі існавала навукова-даследчая лабараторыя, было немагчыма з прычыны аднесенасці лабараторыі да навукова-даследчай часткі БДУ, а не да вучэбна-метадычнай, як цяпер.

Прайшоў яшчэ год, перш чым былі вырашаны тэхнічна-арганізацыйныя пытанні па ўкараненні рашэння вучонага савета філалагічнага факультэта. У выніку ў 2007 годзе была апрабіравана новая форма падрыхтоўчай работы да праходжання вучэбнай практыкі – фальклорны практыкум, што адразу знайшло сваё адлюстраванне ў новай вучэбнай праграме «Фальклорная практыка», зацверджанай рэктарам БДУ восенню 2008 года.

*Мэта правядзення практыкума* – пазнаёміць кожнага студэнта з афармленнем выніковых справаздач па фальклорнай практыцы, з запісанымі фальклорнымі творамі, з сістэмай захоўвання фальклорных адзінак у архіўных фондах, складаннем рэестравых ведамасцей уліку матэрыялаў, увогуле – з

працай рэгіянальнага, жанравага, аўдыёвідэаархіваў, а таксама архіва іншых народаў свету. Вылучаная колькасць гадзін на арганізацыю і правядзенне фальклорнага практыкума – чатыры.

*База правядзення практыкума* – вучэбна-навуковая лабараторыя беларускага фальклору. Паколькі памяшканні лабараторыі адначасова з’яўляюцца сховішчам архіўных матэрыялаў, у адным пакоі можна прыняць на практыкум максімальна палову групы – 15 чалавек.

*Падрыхтоўка практыкума* мае сваю спецыфіку. Па-першае, правядзенне заняткаў па магчымасці набліжана да сярэдзіны (радзей – канца) семестра, каб у студэнтаў, з аднаго боку, была магчымасць вызначыцца з відам праходжання практыкі, з другога – атрыманыя на практыкуме веды можна было б дадаткова замацаваць, наведаўшы лабараторыю яшчэ раз па жаданні. Па-другое, старасты прадстаўляюць спісы груп і вызначаюць зручны час для праходжання практыкума пасля асноўных заняткаў. Паколькі групы падзяляюцца на падгрупы, то працягласць ажыццяўлення практыкума для супрацоўнікаў лабараторыі расцягваецца на месяц і болей. Па-трэцяе, на аснове згаданай інфармацыі супрацоўнікі лабараторыі складаюць графік наведвання практыкума на кожную падгрупу, які паведамляецца старастам. Старасты адказваюць за з’яўленне падгрупы на правядзенне заняткаў ў вызначаны час.

*Асноўны метадычны прынцып*, на якім заснавана правядзенне фальклорнага практыкума, – нагляднасць.

*Правядзенне практыкума* ажыццяўляецца супрацоўнікамі лабараторыі, якія добра валодаюць інфармацыяй па структуры архіваў і ведаюць спецыфіку працы ў кожным з іх. Аднак задача не зводзіцца толькі да знаёмства з архівамі, хаця гэтаму прысвечана значная частка часу. **Звышзадача** пры правядзенні практыкума – найперш запэўніць студэнтаў прыняць рашэнне на карысць самастойнай палявой практыкі, дапамагчы ім усвядоміць важнасць, неабходнасць і запатрабавальнасць менавіта збіральніцкай дзейнасці. Дзеля гэтага выкарыстоўваюцца наглядныя сродкі – праслухоўванне аўдыёзапісаў з аўтэнтычнымі спевамі беларусаў, прагляд фотаздымкаў і электронных відэазапісаў выканаўцаў, знаёмства з электронным рэестрам вопісу архіваў, у якіх пазначана графа «збіральнік» – гэта значыць, што прозвішча студэнта назаўсёды застанецца ў базе дадзеных збіральнікаў нацыянальнай фальклорнай спадчыны, а з часам, магчыма, трапіць у зборнікі з выдадзенымі матэрыяламі.

**Другая задача**, якую вырашаюць супрацоўнікі лабараторыі пры правядзенні фальклорнага практыкума пасля заахвочвання студэнтаў да збіральніцкай дзейнасці, – патлумачыць неабходнасць афармлення кожнага складніка справаздачы, які пазначаны ў метадычным дапаможніку «Фальклорная практыка: метадычныя рэкамендацыі і праграма-апытальнік» (тытульны ліст, змест па жанрах з указаннем колькасці адзінак кожнага жанру, дзённік назіранняў па днях практыкі з тэкстамі твораў, карткі з запісанымі фальклорнымі адзінкамі (пры адсутнасці электроннага варыянта), картка тапаграфічнага каталога, картка збіральніка і картка інфарманта, аўдыё- ці відэакасета з вопісам твораў і афармленнем вокладкі, дыскета (або дыск) з афармленнем справаздачы на камп’ютары, чарнавыя запісы (пры адсутнасці аўдыё- ці відэакасеты), рэестравая ведамасць уліку запісаных

матэрыялаў). Паколькі ў гэты момант студэнты знаходзяцца ў рэгіянальным архіве, ім дэманструюцца папкі з матэрыяламі, узятымі з шафаў, у тым ліку вопісы да дыскаў, аўдыё - і відэакасет.

Дасягненне **трэцяй задачы** патрабуе знаёмства з жанравым архівам, у якім захоўваюцца выключна карткі з фальклорнымі адзінкамі. З аднаго боку, гэта тэхнічная патрэба (архіў знаходзіцца ў будынку філалагічнага факультэта, тады як астатнія матэрыялы знаходзяцца ў будынку насупраць), з другога – дадатковы аргумент на карысць разумення студэнтамі неабходнасці дэталёвага афармлення справаздачы, таму што яны наглядна бачаць, якім чынам захоўваюцца карткі ў архіве, як яны апрацоўваюцца, чаму важна дакладна вызначыць жанр, афармляць картку па мажлівасці на шчыльнай паперы і інш.

**Чацвёртая задача** практыкума – перасцерагчы студэнтаў ад магчымай спакусы спісання твораў з анталогій і нязграбнага афармлення справаздачы. Дзеля гэтага студэнтам дэманструюцца папкі з матэрыламі, якія былі адхілены кіраўнікамі практыкі па вышэйзгаданых прычынах, увачавідкі пазнаёміцца з магчымымі заўвагамі, а пасля гэтага супаставіць свае назіранні з афармленнем так званай «узорнай папкі».

Нарэшце, **пятая задача** правядзення практыкума накіравана на знаёмства студэнтаў з тымі відамі работы, якія практыкуюцца пад час летняй практыкі ў лабараторыі [* 1]. Супрацоўнікі падкрэсліваюць важнасць усіх відаў дзейнасці, якія будуць прапанаваны студэнтам, дакладна характарызуюць этапнасць выканання работ, неабходнасць падрыхтоўкі дзённіка назіранняў па кожным дні практыкі. У выніку студэнты павінны зразумець, што палёгкі ў працы ў лабараторыі няма, нягледзячы на тое, што пры гэтым не трэба вырашаць праблему з пошукам інфармантаў і ўсталяванні з імі кантакту. Адпаведна пры напісанні заявы на праходжанне практыкі студэнт будзе дасведчаны, якому віду практыкі аддаць перавагу.

Вопыт, хаця і невялікі, правядзення фальклорнага практыкуму паказаў, што гэтая форма падрыхтоўкі да вучэбнай практыкі студэнтаў-філолагаў мае сваю прадуктыўнасць, хаця і не здымае поўнасцю ўсіх складанасцей і пытанняў. Аднак калектыў супрацоўнікаў лабараторыі ўпэўнены: каб пераадолець шлях, па ім трэба ісці. Сумеснае рашэнне складных пытанняў разам з выкладчыкамі фальклору кафедры тэорыі літаратуры і пастаяннае ўдасканаленне метадычных падыходаў да арганізацыі і правядзення фальклорнага практыкуму – аснова эфектыўнасці дадзенай формы падрыхтоўкі да ажыццяўлення гэтага віду вучэбнай практыкі.

## ЗАЎВАГІ

* 1. Аб відах і формах работы пад час фальклорнай практыкі ў лабараторыі беларускага фальклору БДУ падрабязна апісана ў артыкуле, які быў надрукаваны ў мінулагодніх матэрыялах семінара, змешчаных у выпуску 5 зборніка навуковых артыкулаў «Фалькларыстычныя даследаванні: кантэкст, тыпалогія, сувязі» (Мінск, 2008).

*Рыма Кавалёва*

# ВМК ЯК СРОДАК АРГАНІЗАЦЫІ САМАСТОЙНАЙ РАБОТЫ СТУДЭНТАЎ ПРЫ ВЫВУЧЭННІ ФАЛЬКЛОРУ

Вучэбна-метадычны комплекс «Беларуская вусна-паэтычная творчасць» для студэнтаў філалагічнага факультэта спеыяльнасці 1-21 05 01 «Беларуская філалогія» выдадзены ў БДУ у 2005 годзе [гл.: 1]. Яго змест складаецца з наступных частак:

1. Праграма курса «Беларуская вусна-паэтычная творчасць», пры распрацоўцы якой быў улічаны вопыт беларускіх і расійскіх аўтараў, а таксама ўласны.

2. Практыкум з сямі модуляў: «Тэорыя фальклору», «Нацыянальная спецыфіка беларускага фальклору», «Вясельная абраднасць і яе паэзія», «Малыя жанры беларускага фальклору», «Беларуская фальклорная проза», «Пазаабрадавая лірыка беларусаў», «Фальклярыстыка як навука». Модулі ўключаюць featured рознаўзроўневыя мэтанакіраваныя заданні, практыкаванні, тэсты, навуковыя і ілюстрацыйныя матэрыялы, пытанні для самаправеркі, падрабязную метадычную распрацоўку практычных заняткаў з выкарыстыннем актыўных прыёмаў навучання.

3. Дапаможныя практычныя і метадычныя матэрыялы: кантрольныя тэсты, апісанне зместу і арганізацыі самастойнай работы студэнтаў, прынцыпаў бягучай і агульнай атэстацыі, пытанні да заліку, тэматыка курсавых, дыпломных і навукова-даследчых работ у рамках СНДЛ «Фальклярыстыка».

Самастойная работа студэнтаў падзяляецца на тры віды:

1. Не кантралюемая на працягу семестра, форма кантролю – выніковы залік.

2. Часткова кантралюемая, форма кантролю – практычныя заняткі, на якіх магчыма апытаць толькі частку студэнтаў.

3. Татальна кантралюемая з пісьмовай формай выканання.

У сетцы вучэбных гадзін кантралюемая самастойная работа КСР займае прыблізна 20%: 8 гадзін для КСР на фоне 30 лекцыйных і 12 практычных гадзін. Лекцыі ахопліваюць не больш за 30-35% праграмнага матэрыялу, прычым упор вымушана робіцца на пытаннях тэорыі і гісторыі фальклору, якія ў падручніках не закранаюцца наогул, выкладзены павярхоўна або з «учарашніх» навуковых пазіцый, напрыклад, «Фальклор як адметны тып слоўнага мастацтва», «Навуковыя прынцыпы перыядызацыі фальклору як традыцыйнага мастацтва», «Мастацкая сістэма фальклору», «Беларускі нацыянальны характар і фальклор», «Міфасфера і фальклор беларусаў», «Прынцыпы класіфікацыі фальклору» і шэраг іншых.

Тэматыка практычных заняткаў амаль не дубліруе лекцыйную за выключэннем асноватворнага пытання «Спецыфіка фальклору». Яна «закрывае» дзесьці каля 40% праграмнага матэрыялу. Падрыхтоўка да

практычных заняткаў – даўняя і традыцыйная форма самастойнай работы студэнтаў. Яна ўключае засваенне матэрыялу, выкладзенага ў падручніку, вывучэнне першакрыніц (фальклорныя зборнікі) і навуковай літаратуры, выкананне практычных і творчых заданняў, змешчаных у адпаведным модулі. Напрыклад, прапануецца параўнаць і пракаменціраваць тэарэтычныя пытанні, адказаць на пытанні, вызначыць сваю пазіцыю ў дачыненні пэўных сцвярджэнняў. Студэнты вучацца аргументавана даказваць, якія сцвярджэнні з'яўляюцца ісціннымі, а якія памылковымі, практычна вызначаць прыкметы калектыўнасці, яе ўнутраную і знешнюю форму і г. д. У розных метадычных версіях падаюцца пытанні для самаправеркі. Напрыклад, заданне «Праверце сябе, ці добра вы ведаеце найменні вясельных чыноў, іх функцыі, атрыбуты» складаецца з 20 тэзісаў тыпу: «Яго асноўныя атрыбуты – кветка справа на кашулі або на шапцы і прывязаны да рукі вышыты ручнік», «Ён садзіў вясельны каравай у печ» і пад.

Нескладаныя тэмы «Прыпеўкі», «Беларускі народны тэатр» і некаторыя іншыя пакідаюцца на некантралюемую самастойную работу. Гэта не значыць, што яны зусім выпадаюць з поля зроку. Напрыклад, ядро лекцыі «Выхаваўчы патэнцыял беларускага фальклору» складае якраз дзіцячы фальклор, віды беларускага народнага драматычнага мастацтва падрабязна апісваюцца пры выкладанні тэмы «Класіфікацыя беларускага фальклору». Акрамя таго, тэсты, якія студэнты выконваюць у плане падрыхтоўкі да прамежкавага заліку, ахопліваюць максімальна шырокі дыяпазон праблемных пытанняў і практычных заданняў.

А цяпер аб уласна КСР, г. зн. аб цалкам кантралюемай самастойнай рабоце студэнтаў. Галоўная праблема, на наш погляд, палягае ў вызначэнні яе канцэпцыі. Выкладчык, па-першае, павінен мець дакладнае ўяўленне аб аўдыторыі, з якой ён працуе. Па-другое, яму неабходна ўсведамляць мэты КСР. Мы, напрыклад, лічым кагнітыўна-памылковым выносіць на КСР простыя тэмы, што засталіся па-за межамі лекцыйных і практычных заняткаў, а мэты КСР, яе змест і формы вызначаем, зыходзячы з рэальнага ўзроўню падрыхтоўкі студэнтаў, развіцця асобы і звышзадачы – забяспечыць прафесійнае станаўленне філолага з творчым стылем мыслення і высокім узроўнем навуковай кампетэнцыі.

На жаль, даводзіцца канстатаваць, што ўжо цяпер мы пажынаем плады адукацыйнай памылкі, скіраванай у бок цэнтралізаванай тэставай праверкі ведаў выпускнікоў сярэдніх навучальных устаноў, вынікі якой становяцца (або не становяцца) пропускам у ВНУ. Мы зусім не супраць тэстаў як такіх, яны заўсёды так або інакш прысутнічалі ў вучэбным працэсе, былі сродкам праверкі ведаў, уменняў і навыкаў. Заклапочанасць выклікае працэс дэгуманізацыі навучання, разбурэння сістэмы вучань-настаўнік, студэнт-выкладчык. Шматвяковая гісторыя развіцця чалавецтва пацвердзіла яе эфектыўнасць. Разумна было б не парушаць, а ўмацоўваць дадзеную лучнасць, якая пазіцыяніруе індывідуальны падыход да кожнай асобы.

У гэтых умовах выкладчыкі ВНУ, паасобку і разам, шукаюць шляхі нейтралізацыі трывожных наступстваў татальнай (бягучай і выніковай)

камп'ютарызацыі і «тэстызацыі», імкнуцца да такой мадэрнізацыі адукацыйных тэхналогій, якая здольна забяспечыць якаснае засваенне вучэбнага матэрыялу, а потым і якасную праверку ўзроўню засваення, а не колькасць засвоенага. Яшчэ раз адзначу: якімі б добрымі ні былі новыя адукацыйныя тэхналогіі, мэта можа быць дасягнута пры ўмове супрацоўніцтва выкладчыка і студэнта, развіцця творчай ініцыятывы абодвух бакоў.

З улікам усіх пазітыўных і негатыўных акалічнасцей фалькларысты БДУ распрацавалі і ўкаранілі ў вучэбны працэс праграму крэатыўнай самастойнай работы студэнтаў, вызначылі чатыры ўзаемазвязаныя этапы, кожнаму з якіх адпавядае пэўны від самастойнай работы, скіраваны на актывізацыю і ўскладненне кагнітыўнай сферы студэнта, выпрацоўку аптымальнага «спосабу ўпакоўкі» вучэбнага матэрыялу:

1. *Адукацыйны этап*. Ён амаль што традыцыйны – канспектаванне дзвюх тэарытычна значных навуковых прац па прапанове выкладчыка ці па выбары студэнта, але з абавязковым узгадненнем з выкладчыкам. Адна ўмова – працы павінны адпавядаць сучаснаму стану фалькларыстыкі, прэзентаваць эфектыўныя метады і прыёмы даследавання фальклорнай прозы (адзін канспект) і паэзіі (другі канспект), асобных жанраў, відаў, фальклорных тэкстаў наогул.

Чым выклікана вяртанне да даўно знаёмай формы самастойнай работы? Тым, што з яе дапамогай мы спадзяемся паўплываць на здольнасць студэнтаў комплексна ўспрымаць навуковую праблему. Манатоннае, дзесьці нават хаатычнае нарошчванне колькасці фактаў без здольнасці тэарэтычна іх асэнсоўваць нараджае кагнітыўны інфантылізм. Вось з гэтым расхістваннем інтэлектуальнага апарату мы сутыкаемся ўжо на лекцыях. Не ведаем, ці адыгрывае тут сваю ролю гендэрны фактар, але бачна, з якім напружаннем студэнткі філфака ўспрымаюць тэарэтычны матэрыял, з якой цяжкасцю аперыруюць буйнымі інфармацыйнымі блокамі. Вядома, ёсць выключэнні (20-25 %), але мы маем на ўвазе небяспечную тэндэнцыю да спрашчэння кагнітыўнай сферы.

Зноў заўважым, што справа не ў тэстах, а ў іх непісьменным выкарыстанні, калі суб'ектаў навучання штурхаюць да аперыравання разрозненымі фактамі. Бачна таксама, што не заўсёды студэнты здольны прымяніць тэарэтычныя факты, тэрміны і паняцці на практыцы. Так, толькі дзве студэнткі з трох акадэмічных груп распазналі вобразны паралелізм. І ніхто не ведаў, на чым грунтуецца паралелізм псіхалагічны.

На жаль, для студэнта па-ранейшаму «здаць экзамен» раўнасільна «выкінуць з галавы». Калі літаратуразнаўчыя тэрміны і паняцці не трапляюць у доўгатэрміновую памяць, не ўкладаюцца ў сістэму, то адкуль узяцца крыніцы сілы мысліцельнага працэсу на занятках па фальклору? Вось чаму мы патрабуем ад студэнта не проста канспект, а добра структураваную аналітычную працу з каментарыямі, заўвагамі, пытаннямі на палях, якія павінны займаць трэцюю частку старонкі. На занятках студэнт рэкламіруе навуковае даследаванне, абараняе свой канспект як найлепшы, даказвае эфектыўнасць уласнай методыкі канспектавання, прадстаўляючы структурныя

блокі. Напрыканцы заняткаў вызначаецца рэйтынг канспектаў. Аналіз канспектаў з боку выкладчыка абавязковы. Пасля праверкі вынікі агучваюцца на наступнай лекцыі, каб паспець скіраваць студэнтаў на павышэнне якасці другога канспекта.

Параўнанне канспектаў аднаго і таго ж студэнта пакажа станоўчую або адмоўную інтэлектуальную дынаміку. У апошнім выпадку запрашаем студэнта на індывідуальную кансультацыю.

2. *Крэатыўна-індывідуальны этап,* калі студэнт працуе, але ў складзе падгруп, якія рыхтуюць калектыўныя даклады для прэзентацыі на практычных занятках. Прапануюцца дзве тэмы, каб у другі раз студэнты замацавалі навыкі працы ў часовым калектыве і ўлічылі недахопы, што выявіліся пры першай прэзентацыі: першая тэма – «Семантычныя коды вясельнай паэзіі беларусаў і іх вобразнае напаўненне», другая – «Жанравыя карціны свету казак».

Парадак падрыхтоўкі да прэзентацыі падрабязна апісаны ў ВМК з улікам спецыфікі тэмы (с. 67-68, 93-95).

Крэатыўна-індывідуальны этап самастойнай працы студэнта скіраваны на стварэнне сітуацыі, калі той проста вымушаны асэнсаваць вялікую колькасць вясельных песень і казак, аб'яднаць тэорыю з практыкай, стварыць уласны навуковы прадукт.

Дадзены этап мае на мэце разбурыць два міфы, якія яшчэ існуюць у свядомасці часткі студэнтаў. Ні для каго не сакрэт, наколькі папулярны сівы міф пра разбітнога студэнта, які ўвесь семестр гуляе, за адну ноч рыхтуецца да іспытаў, больш-менш паспяхова праходзіць іх за кошт уласнай кемлівасці і знаходлівасці. Другі міф тычыцца ступені валодання фактычным фальклорным матэрыялам: маўляў, усё мы ведаем з дзяцінства і са школы, навошта звяртацца да першакрыніц, тое-сёе і так узгадаем на экзамене, хоць насамрэч у галаве студэнта калі што ёсць, то толькі ўспаміны пра нешта фальклорнае і нейкія несістэматызаваныя ўрыўкі (у лепшым выпадку). Падчас падрыхтоўкі калектыўнага даклада і яго прэзентацыі лёгка ўпэўніцца, наколькі абмежаваныя твае ўласныя веды пра фальклор. Беларускі фальклор багаты і разнастайны, што вымагае ад выкладчыка пошуку новых ракурсаў разгляду, каб студэнт убачыў глыбіню мастацкага зместу і змястоўнасці мастацкіх форм.

3. *Інтэлектуальна-пошукавы этап* рэалізуецца праз складанне «партфоліо». Этапы працы над «партфоліо» дакладна пазначаны ў ВМК (с. 133-135). Мэта задання – дысцыплінаваць мысленне студэнта і, па сутнасці, даць яму магчымасць авалодаць алгарытмам навуковай працы.

Бяда філолагаў, як можна было заўважыць, – адсутнасць логікі ў разважаннях, лагічныя разрывы, схільнасць да неўсвядомленай падмены аднаго пытання іншым, больш блізкім для разумення, адыход ад першапачатковай тэмы. Каб не быць галаслоўнай, спашлюся на вынікі выканання студэнтамі 1 курса філфака простага задання. На лекцыі даю студэнтам 5-6 хвілін, каб яны пісьмова адказалі на пытанне, змешчанае ў рубрыцы «Для роздуму»: «Уявіце сабе, што з жыцця сучаснага грамадства раптоўна знік не толькі фальклор, але і памяць пра яго існаванне (напрыклад, пад уплывам невядомага віруса, касмічнага выпраменьвання і падобнай фантастыкі). Ці заўважыць чалавецтва

«прапажу»? Калі так, то дзякуючы якім рэшткам? Калі не, то аб чым гэта можа сведчыць?» (с. 48).

Палова курса не зразумела штучнасці і інтэлектуальнай падаплёкі пытання. Студэнты з запалам, у публіцыстычна-замілаванай манеры, сталі запэўніваць, што фальклор проста не можа знікнуць. Напрыклад, як толькі жанчына падыйдзе да калыскі, яна, маўляў, адразу ўспомніць калыханку, што спявала ёй маці. Частка студэнтаў кінулася даказваць, што фальклор зноў адродзіцца, хоць ён будзе ўжо іншы. Частка, праўда, скарыстала падказку і выказалася ў тым сэнсе, што нейкія рэшткі фальклорнага застануцца ў матэрыяльнай культуры, спасылаючыся на арнаментыку. І толькі прыблізна дзесяць студэнтаў так-сяк зразумелі, што рэшткі слоўнага фальклору захаваюцца ў літаратуры і сваёй «чужароднасцю», «цытатнасцю» будуць сігналізаваць аб існаванні нейкай старонкі культуры, якая знікла, і тады паўстане пытанне генезісу і інтэрпрэтацыі рэштак. Крыху больш доказнымі былі меркаванні студэнтаў (5-6 чалавек), якія лічылі, што сучаснае чалавецтва не заўважыць «прапажы». Толькі два студэнты дазволілі сабе вольны стыль выказвання, блізкі да эсэістычнага. А задача выкладчыка палягала ў тым, каб праз цалкам умоўную сітуацыю абсалютнага знікнення фальклору паказаць, што ён не абмежаваны сферай натуральнага бытавання, а шырока запатрабаваны культурай, пранізваючы яе матэрыяльную і духоўную часткі, перш за ўсё літаратуру.

Такім чынам, пры складанні студэнтамі «партфоліо» мы свядома абмяжоўваем яго, прымушаем прайсці і апісаць ўвесь шлях да выбару тэмы даследавання. У скарочаным варыянце этапы працы над «партфоліо» выглядаюць наступным чынам (у ВМК яны патлумачаны):

1. Абгрунтуйце выбар шырокай вобласці азнаямлення.

1.1.Складзіце агульную бібліяграфію тэкстаў (фальклорных зборнікаў).

1.2. Зрабіце кароткі аналіз аднаго выдання.

2. Канкрэтызуйце *аб'ект* азнаямлення.

2.1. Адзначце крыніцу(ы) тэкстаў і іх колькасць.

2.2. Дастаткова ці недастаткова фактычнага матэрыялу?

2.3. Як можна знайсці дадатковы?

3. Асвятліце пошук і канкрэтызацыю *тэмы* даследавання.

3.1. Паразважайце ў сувязі з пошукам тэмы.

3.2. Выберыце тэму.

3.3. Сфармулюйце тэму, дакажыце яе актуальнасць.

3.4. Вызначце *прадмет* (пэўную навуковую праблему), *мэту* і *задачы* даследвання.

4. Складзіце навуковую бібліяграфію па канкрэтнай тэме.

4.1. Агульнатэарэтычная і агульнаметадалагічная літаратура (2-3 крыніцы).

4.2. Навуковыя даследаванні па тэме (3-4 крыніцы).

4.3. Кароткі аналіз адной кнігі і аднаго навуковага артыкула (або 3-4 артыкулаў, калі няма асобнай кнігі).

4.4. Выпіскі і цытаты.

4.5. Цікавыя цытаты з іншых крыніц.

4.6. Дадатковы матэрыял.

5. Прапановы.

5.1. Прапануйце 2-3 тэмы эсэ ў сувязі з вашай навуковай тэмай.

5.2. Прапануйце 2-3 тэмы курсавых работ. Фармулёўка павінна быць праблемнай, уключаць навуковыя тэрміны і паняцці.

Абарона «партфоліо» адбываецца на занятках. Выкладчык абавязкова правярае выкананне працы і на наступных занятках падагульняе вынікі.

Фармальны і змястоўны статус «партфоліо», як паказала практыка, – важнейшы паказчык узроўню інтэлектуальнай актыўнасці студэнта і хібаў у лагічным мысленні. Нават пры прапануемай пакрокавай раскладцы задання шэраг студэнтаў ухітраецца ўсё пераблытаць. Заўважана таксама безумоўная карэляцыя паміж адзнакай за «партфоліо» і выніковай. Наогул праз «партфоліо» студэнт бачны як на далоні. Нейкую карэкцыю яго лагічнага апарату мы праводзім у індывідуальным парадку на кансультацыях.

4. *Творчы этап самастойнай работы студэнта*. На наш погляд, фарміраванне паўнацэннага спецыяліста-філолага магчыма толькі шляхам спалучэння дзвюх узаемадапаўняльных стратэгій, скіраваных на абуджэнне інтэлектуальнага пошуку і на абуджэнне духу. Творчы этап якраз і ўключае механізм актывізацыі духу, забяспечвае пераход ад мадэлі інтэлектуальнага пошуку да мадэлі комплекснага асэнсавання праблемы.

Мы аддалі перавагу такому віду творчай работы, як навуковае эсэ на адну з прапанаваных тэм, згрупаваных у восем блокаў і забяспечаных спісам літаратуры (с. 135-139). Тэмы носяць пошукавы характар і сфармуляваны такім чынам, каб разбурыць стэрэатыпнае ўспрыманне фальклору, звярнуць увагу студэнтаў на спецыфічныя з’явы культуры і навукі, у сферы якой выпрацаваліся новыя паняцці і канцэпцыі. Напрыклад: «Рэальнае і віртуальнае жыццё фальклору», «Фальклорная, літаратурная і візуальная міфалагізацыя беларускай гісторыі», «Мастацкія эксперыменты з прасторай і часам у фальклоры», «Семантыка магчымых светаў і фальклор», «Чалавек паміж дабром і злом у фальклоры» і да т. п.

Аб’ём эсэ 5-10 старонак, форма – адвольная, кампазіцыя – свабодная, стыль – навукова-публіцыстычны з паэтычна-вобразнай афарбоўкай думак (стылістычна нейтральныя працы не залічваюцца). Аўтар павінен выпрацаваць уласную базісную ідэю, пажадана альтэрнатыўную, смелую, нават вар’яцкую. Напрыклад, адзін студэнт паспрабаваў абгрунтаваць (і даволі ўдала) сваё меркаванне, што апавядальныя міфалагічныя структуры маглі аформіцца толькі маючы прыклад у выглядзе фальклорных узораў, а не наадварот. Яшчэ дзве абавязковыя ўмовы: у сваіх разважаннях абапірацца на канкрэтныя фальклорныя прыклады і прадэманстраваць палемічны патэнцыял у дыялогу з 3-5 асобамі, сярод якіх могуць быць фалькларысты, філосафы, літаратуразнаўцы, культуролагі, нават сусед па інтэрнату, рэспандэнт па інтэрнэту, выдуманы персанаж, фальклорны герой і г. д.

Каб студэнты ўніклі ў асаблівасці стылю эсэ, прапануем звярнуцца да эсэ беларускіх аўтараў. Іх аналіз – дадатак да ўласнай працы.

Творчы этап уключае таксама ўдзел студэнтаў у такіх формах арганізацыі практычных заняткаў, як дыскусія па тыпу «за» і «супраць» – тэмы «Спецыфіка фальклору», «свабодны семінар» – тэма «Нацыянальная адметнасць беларускага фальклору». Сэнсава-вобразныя мажлівасці прыказак студэнт можа прадэманстраваць на прыкладзе ўласнай творчай работы (прыблізныя тэмы прапануюцца). Абавязковая ўмова – выбар студэнтам вобраза-«маскі», ад імя якой будзе весціся маналог. Ролевыя этыка-псіхалагічныя «эцюды» дазваляюць усебакова асэнсаваць тыповыя жыццёвыя сітуацыі ў любоўных і сямейна-бытавых песнях.

Такім чынам, вучэбна-метадычны комплекс арыентаваны на прафесійныя, узроставыя, гендэрныя і ментальна-псіхалагічныя асаблівасці студэнцкай аўдыторыі. Сукупнасць яго матэрыялаў забяспечвае функцыяніраванне цэласнай мадэлі КСР, якая грунтуецца на творчым супрацоўніцтве абодвух бакоў – выкладчыка і студэнтаў. Праграма самастойнай работы абапіраецца на канцэпцыю развіцця крэатыўных магчымасцей асобы, ускладнення яе кагнітыўнай сферы. Вынікам самастойнай работы студэнтаў у такім выпадку з'яўляюцца «прадукты» ўласнай творчасці – ад аналітычнага канспекта да эмацыянальна-комплекснага асэнсавання прблемы ў выглядзе навукова-публіцыстычнага эсэ.

Змест КСР не мае жорсткаай рэгламентацыі, ён можа вар'іравацца (і вар'іруецца), карэкціравацца (і карэкціруецца) у адпаведнасці з прафесійнымі і асабістымі інтарэсамі студэнтаў, непарушным застаецца адно – стымуляцыя інтэлектуальна-творчай ініцыятывы тандэма выкладчык-студэнт.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Кавалёва, Р. М.* Беларуская вусна-паэтычная творчасць: вучэб.-метад. комплекс для студэнтаў філал. фак. спец. 1-21 05 01 «Беларуская філалогія» / Р. М. Кавалёва. – Мінск, 2005.

***Ольга Приемко***

# СВАДЕБНЫЙ ФОЛЬКЛОР : СТРАТЕГИЯ ПРЕПОДАВАНИЯ

Тема «Свадебная поэзия» является неотъемлемой составляющей лекционного курса «Русский фольклор», который читается во втором семестре первокурсникам филологического факультета БГУ специальности «Русская филология». Практика показала, что в стратегии преподавания этого важного раздела нельзя опираться на методические разработки российских фольклористов. Согласно их подходу, при изучении свадебной традиции основное внимание уделяется этнографической составляющей обрядового комплекса. Например, в учебнике «Русское устное народное творчество» В. П. Аникина (М., 2001) в главе «Свадебный фольклор» представлены не свадебные песни, а основные

обрядовые церемонии: «Предсвадебный сговор», «Канун свадьбы», «Венчание», «Свадебный пир». Разумеется, автор обращается и к текстам свадебного фольклора, но выступают они исключительно в качестве поэтапной иллюстрации обряда. Аналогичное наблюдаем в учебниках «Русское устное народное творчество» Н. И. Кравцова и С. Г. Лазутина (М., 1983) и «Русский фольклор» Т. В. Зуевой и Б. П. Кирдана (М., 2000). К анализу свадебной поэзии исследователи применяют известный в фольклористике этнографический подход. Но, к сожалению, из поля зрения авторов выпадает образный компонент, связанный с осмыслением фольклора как искусства слова, вследствие чего поэзия свадебного обряда рассматривается без надлежащего эстетического анализа, а это дезориентирует филологическую аудиторию.

Многолетние наблюдения убедили нас в необходимости пересмотра некоторых аспектов стратегии преподнесения темы «Свадебный фольклор». В первую очередь мы обращаем внимание студентов на то, что свадебные песни – одна из наиболее объемных областей обрядового творчества, включающая различные по структуре, функции, семантике и поэтике тексты. Начиная их изучение, мы предлагаем взять за основу жанровое деление, опирающееся на такие основные характеристики жанра, как общность содержания, функции и композиционной формы. Анализируя репертуарный состав русской свадьбы, включающий ритуальные, заклинательные, величальные, корильные и лирические обрядовые песни, приходим к выводу, что в «чистом» виде песни названных жанров выделить не всегда возможно. В большинстве случаев их границы определяются лишь относительно, поскольку каждое произведение взаимодействует в контексте обряда с другими. Очевидно, что в свадебном фольклоре постоянно происходят процессы, способствующие зарождению, развитию и затуханию тех или иных поэтических явлений, что приводит к размыванию жанровых границ. Углубляя теоретический аспект, мы помогаем студенческой аудитории прийти к мысли о необходимости исследовать синтагматические отношения поэтических произведений с учетом трех основных характеристик жанра. Дальнейший анализ показывает, что в комплексе русской свадьбы складываются объективные условия перехода произведений из одной жанровой группы в другую, происходит контаминация близких по функции и поэтической образности текстов, которая осуществляется на уровне композиции и содержательных блоков песен.

Особое внимание уделяется вычленению художественной составляющей функционального плана свадебных текстов. На конкретных примерах показывается, что кроме основной функции каждый жанр выполняет в обряде ряд дополнительных. Например, ритуальные песни при сохранении доминирующей функции – формировать обрядовое действие, фиксировать его совершение, выполняли дополнительно ряд нагрузок, характерных для песен других жанров: в них содержались величания, заклинания, передавались обрядовые чувства, нередким было стремление повеселить собравшихся. Лирические песни, в свою очередь, могли наподобие ритуальных песен направлять обрядовое действие, наподобие величальных – идеализировать, даже заклинать и т. д. Свадебный контекст определял аналогичную полифункциональную направленность и дру-

гих жанров свадебных песен, хотя стержневая функция сохранялась, выступая в качестве критерия определения жанровой принадлежности.

Композиция поэтических произведений – один из основных вопросов на практических занятиях. Мы подводим студентов к выводу, что она также представляет доказательства взаимосвязи и взаимообусловленности свадебных жанров.

Студенты учатся находить убедительные доказательства того, что поэтическое содержание текстов во многом зависит от функции жанра, однако постоянное взаимодействие свадебных песен накладывает отпечаток на их форму. Например, темой ритуальных песен стал не только обряд, но и психологические переживания свадебных персонажей. Далее следует вполне обоснованный вывод: какова бы ни была жанровая принадлежность песен, их содержание и тематика всецело зависят от движения обряда, а также от апелляции к его ритуальному содержанию. Таким образом, синтагматические отношения содержательного уровня обеспечивают связь и взаимодействие жанров в контексте свадебной обрядности.

Практика показывает, что после первичного знакомства с жанровым компонентом фольклорного слова студентам легче переходить к следующему этапу. В частности, наиболее пытливые студенты обращают внимание на то, что к факторам развития жанра ритуальных песен относятся не только интраобрядовые условия, но и эмоционально-психологические, при наличии которых расширяются функционально-поэтические границы песен, появляются элементы идеализации, и порой ритуальные песни по своей форме приближаются к величальным. При рассмотрении генетических, функциональных и образно-поэтических отношений величальных песен с заклинательными, ритуальными и свадебными лирическими выясняется доминирование специфических форм, подчиненных функции ритуальной идеализации жениха, невесты, их родных и других чинов русской свадьбы. Сравнивая корильные и величальные песни, студенты выделяют общую структуру повествовательных элементов и отмечают разную функцию оценочных деталей в них. Отмечаем, что использование обряда как объекта поэтического описания стало одним из направлений расширения тематики и художественной образности большой группы лирических песен, содержащих эмоциональное переживание действий, передающих мысли и чувства участников, комментирующих обрядовые события. Не вызывает сомнений вывод, что на формирование структуры лирических песен оказали воздействие художественные традиции более ранних по времени возникновения произведений. Новые образные потенции жанра ярко проявились при организации инициированных обрядом чувств и переживаний и их художественном воплощении.

***Римма Ковалева***

# СТРАННОСТИ СОВРЕМЕННЫХ СПРАВОЧНЫХ ИЗДАНИЙ В СВЕТЕ ЗАДАЧИ ИНФОРМАЦИОННОГО ОБЕСПЕЧЕНИЯ КУРСА «ФОЛЬКЛОРИСТИКА» И НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОЙ РАБОТЫ СТУДЕНТОВ

Роль энциклопедических изданий в информационном обеспечении учебной и научно-исследовательской работы хорошо известна. Сейчас, когда дисциплины гуманитарного цикла переживают время методических поисков и перемен, их значение особенно возрастает, ибо где еще, как не в тематических словарях, справочниках и энциклопедиях, студент сразу и в полном объеме найдет ответы на круг интересующих вопросов. Именно поэтому критерием ценности данного рода книг является их системность, свобода от старых и, что особенно важно, новых догм, корректная интерпретация материала, сознательный отказ от случайного и фрагментарного его прочтения и т. д. Естественно, трудно требовать от авторов статей полного единства взглядов и подходов, но опрометчиво давать им полную свободу изложения, не потрудившись согласовать позиции и понятийно-терминологический аппарат. Так, к примеру, нисколько не умаляет достоинств этнолингвистического словаря «Славянские древности» единообразие подачи материала и выдержанность терминологии в одном ключе. Скорее наоборот – именно это является сильной стороной издания, делающей его идеальным для студентов, занимающихся научно-исследовательской работой. Если же редакционная коллегия устраняется от глубокой разработки тезауруса и научного редактирования статей, в энциклопедии, как правило, появляются странности, которые выплывают наружу при гипертекстовом использовании издания.

Жанр данного вступления не рецензия последних справочных изданий, прямо или опосредованно связанных с фольклористикой, а всего лишь поверхностные наблюдения, касающиеся в основном двух книг, очень нужных студенту-филологу: это «Беларуская міфалогія: энцыклапедычны слоўнік» (Мінск, 2008. Далее в тексте – БМ) и «Беларускі фальклор: энцыклапедыя: у 2 т.» (Мінск, 2005-2006. Далее в тексте – БФ). В силу этого в нем не будет традиционных частей относительно достоинств и недостатков данных изданий. Вместе с тем считаю своим долгом подчеркнуть, что в высшей степени ценю труд коллег, впервые в белорусской науке подготовивших столь фундаментальные справочники. Посторонний человек даже не предполагает, сколько интеллектуальных усилий и времени требует от автора даже небольшая энциклопедическая статья. И не всякий ученый способен в небольшом объеме концептуально скомпоновать материал. Я, например, не могу. И если в данном случае позволяю себе сделать определенные замечания относительно некоторых, с моей точки зрения, странностей данных книг, то исключительно в силу профессиональной необходимости. Мы, преподаватели вузов, «играем» на

у Пушкіна ён вызначаецца пераважна статычнасцю. Змены настрою Маўкі сюжэтна матываваныя. У праўнанні з Русалкай Пушкіна гераіня Лесі Украінкі добрая, чулая, спагадлівая, яна ахвяруе сабою, сваім жыццём дзеля каханага. Калі ў драме Пушкіна Русалка авалодвае чалавекам, ставіць сабе за мэту заманіць каханага ў свой свет, то Маўка Лесі Украінкі, наадварот, гатовая да розных змен у сваім жыцці, каб зрабіць каханага шчаслівым. Яна цэласная натура:

*Свою люблю я муку*
*І їй даю життя.*
*Ніяка сила в цілім світі*
*Не дасть мені бажання забуття.*

Маўка, выпісаная пяром Лесі Украінкі, жанчыны высакароднай і моцнай духам, таксама ўвасабленне высакароднасці. Яна шкадуе, што чалавек не можа «сам да себе дорівнятися», і не прыніжае сябе дрэннымі ўчынкамі: не помсціць, не крыўдзіць ні маці Лукаша, ні яго самога, ні нават Кіліну. Увасабленне шчырасці, вялікага сапраўднага кахання, Маўка – сімвал самаахвярнасці і бессмяротнасці.

Такім чынам, праз выкарыстаны ў мастацкіх творах А. Пушкіна і Лесі Украінкі фальклорны вобраз русалкі выразна акрэсліваецца мастацкая адметнасць неарамантызму пачатку ХХ стагоддзя і рамантызму першай паловы ХІХ стагоддзя.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Квітка, К.* Народні мелодії. З голосу Лесі Українки. Ч. І. / К. Квітка. – Київ, 1917.
2. *Одарченко, П.* Леся Українка. / П. Одарченко. – Київ, 1994.
3. *Поліщук, Я.* Міфологічний горизонт українського модернізму / Я. Поліщук.– Івано-Франківськ, 2002.
4. *Пушкин, А. С.* Полное собрание сочинений. / А. С. Пушкин.– М., 1937–1959. Т. І– XVII.
5. *Українка, Леся.* Зібрання творів: У 12 томах. Т. 8 / Леся Українка. – Київ, 1977.

***Віктар Каратай***

## КАЗУС СІНКРЭТЫЗМУ ЭМАЦЫЯНАЛЬНА-ІНТУІТЫЎНАГА І ДЫСКУРСІЎНАГА ПРЫ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ

У назве гэтых нататак можна было б, натуральна, ужыць тэрмін «феномен», што гучала б больш звыкла, традыцыйна, аднак адразу зазначым, што мяне цікавяць менавіта адзінкавыя, парадаксальныя і часам сапраўды унікальныя *выпадкі*, тады як феномен азначае *з'яву*, а не яе канкрэтнае (тут і зараз) увасабленне. Сапраўды, як падаюць слоўнікі, «казус (лац. casus) – выпадак, звычайна складаны, заблытаны ці нязвыклы, смешны» [3, *206*].

Патрабуе пэўнага тлумачэння і выкарыстанне тэрміна «дыскурсіўны» замест больш прадуктыўнага, пашыранага ў навуковай практыцы «дыскурса».

Варта падкрэсліць, што яны не супадаюць па сваім аб’ёме, розняцца пэўнымі семантычнымі нюансамі. Бо «дыскурсіўны (лац. разважанне) – разумовы, абгрунтаваны папярэднімі меркаваннямі (супрацьлеглае інтуітыўны)» [3, *168*]. У сваю чаргу, агульнапрызнаны і ўжо даўно банальны тэзіс аб сінтэзе і супрацьстаянні ў мастацкім вобразе рацыянальнага, лагічнага і эмацыянальнага пачаткаў («думка, прасветленая пачуццём» [1, *193*]) можна звесці да антытэзы: аб’ектыўнае – суб’ектыўнае, што будзе не цалкам карэктным, як і ў выпадку антаніміі – сінаніміі: феномен – казус.

Істотна праакцэнтаваць таксама той момант, што гаворка вядзецца не пра ўнутраны дуалізм мастацкага вобраза, а пра своеасаблівую дваістасць яго ўспрыняцця, інтэрпрэтацыі, якая, бясспрэчна, дэтэрмінаваная самім прадметам, мастацкай рэальнасцю, г. зн. пра артэфакт. Натуральна, наіўна было б спадзявацца на татальную гармонію суіснавання двух пазначаных палярных пачаткаў, баланс іх хісткі, няпэўны. Так, рацыяналізм пераважае пры аналізе літаратурных інтэлектуальна-філасофскіх жанраў (творы І. В. Гётэ, Т. Мана, Ф. Дзюрэнмата, А. Камю, Г. Гесэ, Р. Мерля, сярод беларускіх – А. Куляшова, А. Вярцінскага, А. Разанава), тады як зварот да вершаў П. Броўкі, Н. Гілевіча, Я. Янішчыц, перлаў айчыннага фальклору вымагае ад крытыка-сутворцы перадусім высокай эмацыянальнай настраёвасці, чуйнасці, мастацкай інтуіцыі. Яшчэ раз агаворымся, што гэты падзел вельмі схематычны, так бы мовіць, «рабочы», бо кожны канкрэтны казус інтэрпрэтацыі дэманструе сваю унікальнасць.

Узгадаем сёння ўжо досыць забыты раман літоўскага пісьменніка І. Мераса «Вечны шах», дзе ў смяротнай шахматнай партыі сышліся камендант гета фашыст Шогер і яўрэйскі хлопчык Ісаак Ліпман. Цана страшэнная: перамога падлетка – яго смерць, пройгрыш – смерць іншых дзяцей. Адзінае выратаванне – нічыя, якую дасягнуць цяжэй, чым перамагчы. Коштам велізарнага напружання хлопчыку ўдаецца стварыць на дошцы казус трохразовага паўтору пазіцыі (вечны шах), што ў шахматах азначае нічыйны вынік. І вось тады, калі ўсе ўздыхнулі з палёгкай, ён нечакана ставіць Шогеру мат. У гета выбухае паўстанне, на гэтым раман раптоўна абрываецца. Як гэта ні жудасна-парадаксальна гучыць, але не важна, што будзе далей, бо ўжо ўсё сказана: немагчымае паўтарэнне гістарычнай і маральна-філасофскай пазіцый, немагчымыя вечны шах, нічыя з фашызмам, нялюдскасцю і гвалтам над чалавекам. Толькі мат.

Як бачна, сітуацыя, зададзеная празаікам, выразна сканструяваная (пры ўсёй этычнай рызыкоўнасці такога азначэння), вырашэнне яе патрабуе ад чытача-крытыка ледзь не шахматнага мыслення, але з выразным падключэннем сэрца. Таксама ў нечым эксперыментальным, нават некалькі штучным, але і гэтаксама эфектным падаецца і наступны прыклад, заснаваны на разглядзе хрэстаматыйнага твора-легенды пра Данка са «Старой Ізергіль» М. Горкага. Таленавіты настаўнік-русіст А. Ільін будуе школьны ўрок усяго толькі на адной дробнай дэталі, дакладней, на адсутнасці ў пэўным месцы тэксту аднаго гука-літары. Педагог нагадвае вучням кульмінацыйны пункт і развязку твора – момант, калі герой, што вядзе знявераных людзей праз гушчар да святла, вырывае з грудзей сваё сэрца,

якое запалала паходняй. Цытуе аўтара: «І тады лес расступіўся перад ім». Пытае, чаму перад *ім*, а не перад *імі* – Данка ішоў не адзін. І праз гэтую філалагічную драбностку выводзіць выхаванцаў на гаворку пра маральны подзвіг лідэра, «першага», пра складаную дыялектыку ўзаемадачыненняў героя і натоўпу, пастыра і няўдзячнай паствы, пра тое, што пры ўсёй фатальнасці абставін М. Горкі пакідае нам (і сваім персанажам) надзею: калі сёння лес цемры, бязвер'я, духоўнай слепаты расступіўся перад Ім, то заўтра, магчыма, гэта станецца і з імі. Што гэта – кідкі тэхнічны прыём, узор вербальнай казуістыкі, жангліраванне кампанентамі фармальнай паэтыкі ці выпадак тагасамага праслаўлёнага сінкрэтызму? Думаецца, мы маем справу з бліскуча рэалізаванай спробай педагога-інтэрпрэтатара не толькі трывіяльна «ажывіць» урок, зацікавіць вучняў аналізам вядомага літаратурнага матэрыялу (што ўжо вельмі істотна), але і прывесці да значных тэарэтычных высноў, пабудаваць своеасаблівы метадалагічны ланцуг: сутнасць вобразаў генія і натоўпу – асаблівасці ранняй прозы М. Горкага – ідэйна-эстэтычныя прынцыпы рамантызму.

Маюць дачыненне да прадмета нашых нататак і нюансы адной навуковай дыскусіі. У сваёй манаграфіі «Мастацтва і навука» даследчык М. Пенкін адкрыта палемізуе з эстэтыкам А. Арганавым наконт крытэрыяў ісціны ў навуцы і літаратуры і магчымасці адэкватнай рэцэпцыі аб'ектыўнай рэальнасці мастацтвам, а яго, у сваю чаргу, «другаснымі» інтэрпрэтатарамі – крытыкамі, літаратуразнаўцамі і чытачамі. Пры гэтым ён цытуе цікавы, хоць і небясспрэчны тэзіс з працы апанента: «...Калі ў навукоўца правільнае рашэнне адной і той жа задачы ў рэшце рэшт прыводзіць да адзінага выніку, то ў мастацтве кожны асобны выпадак можа мець незлічонае мноства мастацкіх праўд у залежнасці ад таго, колькі разоў ён робіцца прадметам творчасці» [2, *91*]. У адказ М. Пенкін па сутнасці пазбаўляе мастацтва права на стварэнне варыятыўных мадэляў свету і чалавека ў ім, бо праўда-ісціна можа быць толькі адна. Хочацца міжволі запытаць: як тады быць з праслаўлёнай карэляцыяй: праўда Раскольнікава – праўда Сонечкі Мармеладавай? Не ўступаючы ў дыскусію з памянёнымі навукоўцамі, нагадаю толькі пастулат аб шматмернасці, нелінейнасці мастацкага вобраза, які пацвярджаецца і лепшымі ўзорамі беларускай народнай лірыкі. Здавалася б, што можа быць стэрэаскапічнага, амбівалентнага ў радзіннай песні, аднак і тут ёсць свая антынамія.

*Кацярынушка гарох сеяла,*
*А пасеяўшы, у грыбы пайшла.*
*З грыбоў прыйшоўшы да забалела.*
*– Мамачка мая, галоўка баліць.*
*– Дачушка мая, завяжы платок.*
*– Мамачка мая, платок караток.*
*– Дачушка мая, улезь на печку.*
*– Мамачка мая, там дзіця мала.*
*– Дачушка мая, да дзе ж ты брала?*
*– Мамачка мая, у грыбах найшла.*
*– Дачушка мая, нашто ж ты брала?*
*– Мамачка мая, а мне жаль стала* [* 1].

Сапраўды, твор можна інтэрпрэтаваць як гулліва-жартоўны («у грыбах знайшла») або ўбачыць за знешне камічнай інтанацыяй дыялогу дзвюх жанчын прадчуванне мажлівых няшчасцяў у старэйшай, у якой забалела сэрца за дачушку, «новую» жанчынку, за яе ўжо недалёкія слёзы. У гэтым выпадку міжволі ўзнікае паралель з класічным узорам «смеху праз слёзы» – песняй «Чаму ж мне не пець». На маю думку, выбар варыянта прачытання твора можа і павінен быць сітуацыйна дэтэрмінаваным, абумоўленым характарам, манерай і інтанацыяй выканання, г. зн. ужо паравербальнымі сродкамі, мастацкай інтуіцыяй інтэрпрэтатара.

На заканчэнне нагадаю словы паэта, якога ніяк нельга западозрыць у ігнараванні законаў тэорыі літаратуры і эстэтыкі ўвогуле. У 1916 г. у артыкуле «Чорны бакал» Б. Пастэрнак эпатажна-дзёрзка і па-маладому палемічна напісаў: «У мастацтве бачым мы своеасаблівае extemporale [класную пісьмовую перакладчыцкую работу. – **В. К.**], задача якога заключаецца ў тым адзіна, каб яно было выканана бліскуча».

Спрачацца з Нобелеўскім лаўрэатам і класікам, натуральна, не магу. І не хачу.

## ЗАЎВАГІ

* 1. Запісана у в. Каханавічы Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці ў 1985 г. ад Е. І. Мацкевіч, 1899 г. н. // Рэгіянальны архіў вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору БДУ. Фонд 2, вопіс 4, справа 9.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Борев, Ю.* Эстетика / Ю. Борев. – М., 1969.

2. *Пенкин, М.* Искусство и наука: Проблемы, парадоксы, поиски / М. Пенкин. – М., 1982.

3. Словарь иностранных слов / под. ред. А. Г. Спиркина и др. – 13 изд., стерео-тип. – М., 1986.

***Вольга Палукошка***

# МАДЫФІКАЦЫІ ЖАНРАЎ ФАЛЬКЛОРНАЙ НЯКАЗКАВАЙ ПРОЗЫ Ў АПОВЕСЦЯХ ЛІДЗІІ ВАКУЛОЎСКАЙ

Асаблівасцю літаратурнага працэсу ХХ стагоддзя стаў інтэнсіўны сінтэз разнастайных жанравых структур. У выніку мадыфікацый з'явіліся такія жанравыя формы, як раман-міф, раман-эсэ, раман-казка, раман-балада, баладная аповесць, аповесць-легенда, апавяданне-прытча і інш. Аўтары ўсё часцей звяртаюцца да фальклору як крыніцы наватарства. Для літаратуры 1970–90-х гадоў нарастанне ўмоўна-метафарычнай вобразнасці становіцца асабліва актуальным. Пісьменнікі звяртаюцца да казачнай умоўнасці («До третьих петухов» В. Шукшына, «Про Федота-стрельца, удалого молодца» Л. Філатава, «Белка» А. Кіма і інш.),

фальклорнай няказкавай прозы («Живи и помни», «Прощание с Матёрой» В. Распуціна, «Дамавікамерон» А. Глобуса). Вельмі цікавым прыкладам арганічнага выкарыстання не толькі фальклорнай вобразнасці, але і фальклорных жанраў мы можам назіраць у аповесцях рускамоўнай пісьменніцы Лідзіі Вакулоўскай з цыкла «Черниговские сказания» (1970-я гг.).

«Черниговские сказания» – гэта дзве сатырычныя аповесці («Наваждение перед грозой» і «Белый бычок»), аб'яднаныя не толькі агульнасцю тэматыкі і праблематыкі, але і стылем. Назва цыкла заключае ў сабе і вызначэнне жанру. У фалькларыстыцы сказанне выступае «абагульняючай назвай апавядальных фальклорных твораў гістарычнага і легендарнага характару» [2, *310*], г. зн. абагульняючай назвай твораў фальклорнай няказкавай прозы. Л. Вакулоўская ж звярнулася да такіх жанраў, як народная былічка і небыліца.

Як вядома, былічка – гэта аповед пра сустрэчу чалавека са звышнатуральнымі істотамі і з'явамі. Мастацкае выкарыстанне структуры і вобразаў былічкі не новае для літаратуры. У свой час да гэтага жанру звярталіся Я. Баршчэўскі і М. Гогаль. У першай палове XX стагоддзя традыцыю прадоўжыў М. Булгакаў («Мастер и Маргарита», «Дьяволиада»).

Дзеянне аповесці «Наваждение перед грозой» пабудавана вакол з'яўлення ў правінцыйным гарадку таямнічай асобы ў чорным з белымі пальчаткамі (для літаратурнай традыцыі – тыповы выгляд чорта). Пра гэтую дэманічную істоту нагадвае і кампазіцыйны падзел аповесці на трынаццаць частак. Незвычайны дзядок з'яўляецца і ў аповесці «Белый бычок», дзеянне якой адбываецца ў пятніцу, «*которую в народе отчего-то считают невезучим днём*» [1, *98*]. Калі завязка дзеяння ў аповесцях носіць былічную форму, то сам аповед пабудаваны па мадэлі небыліцы, асноўнай прыкметай якой з'яўляецца «свядомая ўстаноўка на наўмысную неверагоднасць, абсурднасць» [4, *114*]. Асабліва ярка гэта выяўляецца ў першай аповесці, дзе пасля з'яўлення ў правінцыйным гарадку невядомага чалавека ў чорным з белымі пальчаткамі адбываюцца незвычайныя рэчы.

Першай яго пабачыла старая Насценька: «*…над речкой, немного в стороне от солнца, появился какой-то блестящий круг, похожий на большой медный таз, и стал снижаться. Настеньке даже показалось, что в тазу стоит человек во всём чёрном*» [1, *6–7*]. Яна спрабавала расказаць пра незвычайную сустрэчу, аднак яе ніхто не слухаў. А пасля пачало адбывацца нешта загадкавае: у дэпо без загаду разбурылі старую трубу, якая «*давно надоела своей копотью горожанам*» [1, *14*] і распачалі рэканструкцыю кацельнай, у паліклініцы самі дактары пачалі развешваць плакаты з лозунгам «Да отсохнет рука берущего!», камунгас, нарэшце, узяўся за падключэнне прыватных гаспадарак да гарадской воднай магістралі, перакрыўшы гэтым самым крыніцу даходаў мясцовага несумленнага прадпрымальніка Нестара Варэніка, у пракуратуру пачалі штодзённа прыходзіць лісты і людзі з прызнаннямі ў злачынствах, сур'ёзных і не вельмі. Аднак пасля навальніцы ўсё раптоўна заканчваецца: аказваецца, неверагодныя падзеі адбываліся толькі з невялікай часткай гараджан, а астатнія нават і не заўважалі ніякіх змен, старая Насценька зноў убачыла незнаёмца ў чорным, аднак гэта аказаўся Сярожа Малачанаў з Рачной вуліцы і не ў чорным, а сінім касцюме. Але «*было и ещё нечто такое,*

*правда, недоказуемое, однако же такое, что каким-то непостижимым образом всё же связывалось с наваждением, посетившим некоторых граждан в канун грозы и слабого землетрясения, когда воображение их потревожил незнакомец в чёрном костюме и в белых перчатках*» [1, *94*]: у хірурга Аглоблі раптоўна пачала высыхаць рука, гэтаксама раптоўна пачала худзець Анжаліка Цітаўна Шчаглоўская, Прохара Вяроўку знялі з пасады за нейкія махінацыі, у касіршы зберкасы, якая прызнавалася ў падмане пенсіянеркі, выпала адразу пяць пярэдніх зубоў і стала яна падобная да Бабы Ягі – Касцяной Нагі, ад загадкавай хваробы памёр Нестар Варэнік – усе ж астатнія ўспаміналі падзеі перад навальніцай як незвычайны сон.

Такім чынам, пісьменніца ўцягвае чытачоў у своеасаблівую гульню «было – не было» – усё нібыта адбывалася, а нібыта і не. Разабрацца ў гэтым пытанні нам дапамагае не толькі назва аповесці («**Наваждение** перед грозой»), але і разуменне жанравай спецыфікі небылічнага аповеду.

Як заўважыла А. Левіна, для небыліцы характэрна «свая логіка – логіка «адваротнасці» (транверсіі), якая ўспрымаецца як камічная гульня толькі у супастаўленні з сапраўдным, «правільным» светам» [3, *7*]. Усё дзеянне аповесці пабудавана згодна з прынцыпам «наўмыснага алагізму» [3, *6*], які выкарыстоўваецца з мэтай мэтанакіраванага высмейвання асобных жыццёвых рэалій. Паказальным прыкладам такой «адваротнасці» ў аповесці з’яўляецца сцэна з «таптунамі»: «*Дело в том, что топтуны, годами топтавшиеся возле обшарпанного вино-водочного павильона, покинули свой плацдарм и заняли подступы у нового книжного магазина <...>. Дружинник исправно протоптался у книжного несколько часов, увидел, что топтуны пьют из бутылок лимонад (его тоже угостили), и услышал их странные речи.*

*– Слышь, Чмых! Давай на двоих Бальзака возьмём, – предлагал один.*

*– Не-е, не осилю. Мы уже на троих по Пушкину вдарили, – отвечал другой.*

*– Ребята, кто со мной на Майн Рида скинется? – предлагал третий. – Я в детстве к нему причащался – это ж вещь!*

*– Кум, а кум, сообразим на пару Блока? – уговаривал четвёртый.*

*– Хоть сейчас бы, да макулатурки маловато. Давай в другой раз, я поднакоплю, – обещал пятый*» [1, *83–84*].

Камічны эфект, такім чынам, дасягаецца дзякуючы менавіта аўтарскай гульні з тагачаснымі рэаліямі, якія пастаянна перастаўляюцца і пераварочваюцца. Гэта тычыцца не толькі прыведзенага ўрыўка, але і ўсяго аповеду. «У параўнанні з упарадкаваным рэальным светам свет небыліц можна назваць «бязладным», аднак у дадзеным выпадку беспарадак не азначае адмаўленне, знішчэнне парадку, – заўважае беларуская даследчыца народнай няказкавай прозы Т. Лук’янава. – Гэта хутчэй гульня ў беспарадак, мэта якой яшчэ больш падкрэсліць парадак» [4, *115*]. Менавіта гэтая функцыя выступае асноватворнай у аповесці. Шляхам «пераварочвання» з’яў сацыяльнай рэчаіснасці аўтар не толькі дасягае камічнага эфекту, але і крытыкуе абставіны, якія склаліся.

У аповесці «Белый бычок» аповед грунтуецца на іншым прынцыпе. Тут назіраецца своеасаблівая арыентацыя на верагоднасць і тыповасць, дзякуючы

чаму, тым не менш, таксама дасягаецца камічны эфект. Так, у пачатку аповесці Л. Вакулоўская малюе партрэт шафёра Юры: гэта «*был молодой парень, похожий на тысячу других парней, отслуживших армию и научившихся в армии сносно водить машину. Отличительным качеством его было то, что он покамест совершенно не употреблял спиртного, и уже одно это приближает его образ к индивидуальности, хотя и удаляет от типичности, что, конечно, не делает чести автору*» [1, *99*]. Заўзятага прыхільніка і «эксперта» тыповасці мы сустракаем і сярод персанажаў твора: «*Увидев как-то, что Хиония доит Дженни, сидя на низкой скамеечке, Плиссе-Булавкина и с нею вошла в разговор.*

*– Почему вы доите корову, сидя на скамейке? – спросила она.*

*– Так удобнее, – кротко ответила Хиония.*

*– Но это не типично, – сказала ей Плиссе-Булавкина. – Обычно доярки сидят на корточках. Когда начнём съёмки, вы будете доить на корточках*» [1, *181*].

На першы погляд, дзеянне аповесці ніякім чынам не суадносіцца з паняццямі незвычайнасці, непраўдападобнасці: Сямён Сямёнавіч Прыткі, кіраўнік раёна, знаходзіць у пасёлку белага пародзістага бычка і карову, за кошт якіх раён становіцца перадавым, а пітомцы Цэкусы Платвічкі атрымоўваюць усесаюзную вядомасць. Неверагоднымі тут з'яўляюцца характарыстыкі жывёл: у пяць тыдняў бычок выглядае як гадавалы і пры гэтым амаль не есць: «*Летом он съедал в день початок кукурузы, десяток яблочек и выпивал ведро воды. А теперь мы даём ему вместо яблок берёзовые веточки и посыпаем горстью манной крупы*» [1, *116*]. Аднак з часам усё мяняецца: белы бычок атрымоўвае першаякасны корм і догляд, што хутка яму надакучвае, і ён збягае ад сваіх гаспадароў. У пошуках белага бычка прымае ўдзел не толькі раённае кіраўніцтва, але і армія, была задзейнічана тэхніка. Калі ж пад час выратавальнай экспедыцыі з верталёта выкідвае кіношніцу Плісэ-Булаўкіну, пошукі яе спыняюцца праз дваццаць хвілін, таму што «*было решено, что Плиссе-Булавкина не представляет большой ценности и не стоит тратить на неё горючее*» [1, *209*]. Трэба адзначыць, што тут, у адрозненне ад першай аповесці, аўтар не прытрымліваецца прынцыпу праўдзівай неверагоднасці: у апошняй, чатырнаццатай, часцы высвятляецца, што ўсе апісаныя вышэй падзеі – толькі сон Сямёна Сямёнавіча Прыткага.

Як трапна заўважыла Т. Лук'янава, «логіка небыліц цесна звязана з катэгорыямі магчымае / немагчымае. Як правіла, тое, што немагчыма ў рэальным свеце, можа адбывацца ў свеце небыліц» [4, *116*]. Л. Вакулоўская «гуляе» не толькі з гэтымі катэгорыямі, але і з паняццямі «тое, як бывае» / «тое, як павінна быць». У пісьменніцы «немагчымымі» становяцца такія, здавалася б, звычайныя рэчы, як сумленнае выкананне сваіх службовых абавязкаў, каштоўнасць чалавечага жыцця і г. д., дзякуючы чаму і дасягаецца камічны эфект.

Як бачым, фальклорны матэрыял творча перапрацоўваецца майстрамі слова. На прыкладзе аповесцей Л. Вакулоўскай мы паспрабавалі паказаць, як сюжэты і структура фальклорных твораў, актыўна пранікаючы ў мастацкую прозу, утвараюць пры гэтым новыя жанравыя формы.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Вакуловская, Л.* Сколько бы ни пришлось, буду ждать…: Повести, рассказы / Л. Вакуловская. – Минск, 1990.

2. Восточнославянский фольклор. Словарь научной и народной терминологии / редкол.: К. П. Кабашников (отв. ред.) и др. – Минск, 1993.

3. *Левина, Е. М.* Русская фольклорная небылица: Автореф. дис. … канд. филол. Наук / Е. М. Левина. – Минск, 1983.

4. *Лук'янава, Т.* Небыліцы: фенаменалогія жанру / Т. Лук'янава // Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі: зб. навук. арт. Вып. 2 / пад нав. рэд. Р. М. Кавалёвай, В. В. Прыемка. – Мінск, 2005.

# АЎТАРЫ

**Атрошчанка Юлія** – выпускнік філалагічнага факультэта БДУ, член СНДЛ «Фальклярыстыка», аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі.

**Баярскіх Настасся** – студэнтка 5 курса філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, член СНДЛ «Фальклярыстыка».

**Дзянісенка Вера** – лабарант 1 кваліфікацыйнай катэгорыі вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі.

**Кавалёва Рыма** – дацэнт кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

**Каратай Віктар** – метадыст вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Крылова Святлана** – старшы выкладчык кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Латышкевіч Маргарыта** – студэнтка 5 курса філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, член СНДЛ «Фальклярыстыка».

**Лук'янава Таццяна** – навуковы супрацоўнік вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук.

**Лынша Вольга** – супрацоўнік кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Марозава Таццяна** – загадчык вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

**Палукошка Вольга** – малодшы навуковы супрацоўнік вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Прыемка Вольга** – дацэнт кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

## ЗМЕСТ

Навуковае выданне

# ВУЛЕЙ И ПЧОЛЫ

## ВЕКТАРЫ СУЧАСНАЙ ФАЛЬКЛАРЫСТЫЧНАЙ ШКОЛЫ БДУ

## Зборнік навуковых артыкулаў

Навуковы рэдактар *Р.М. Кавалёва*

Укладальнік *В.В. Прыемка*

Рэдактар *В.Р. Гаўрыленка*

Падпісана да друку 30.06.2011 Фармат 60х84 $_{1/16}$ Папера афсетная Гарнітура Roman
Друк лічбавы Ум.-др.арк. 18,2 Ул.-выд.арк. 18,3. Наклад 100 экз. Заказ № 1272
ВТАА «Права і эканоміка» Ліцэнзія ЛІ № 02330/0494335 ад 16.03.2009
220072 Мінск Сурганава 1, корп. 2 Тел. 284 18 66, 8 029 684 18 66
Надрукавана на выдавецкай сістэме KONICA MINOLTA
у ВТАА «Права і эканоміка»